

# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**12** (998)

*СНЕЖАНЬ*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2012**

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Мікола ГАЛАВАЧ



* * *

Халоднай розуму сталлю
Правяду па сэрцы крывую,
Каб мяжа легла няўзнак
Паміж добрым і дрэнным,
Паміж светлым і цёмным,
І, каб гэту мяжу ніколі не перайсці,
Апалю яе гневу агнём,
Каб залілося чырванню цёмнай,
І згарэла, і ссохла
Усё тое, што так ненавіджу.

### ПОПЕЛ

Чорным попелам усыпана сцяжына.
Гэта знак, магчыма, на бяду.
І жыццё мяне заваражыла,
Каб ісці наперад. Я — іду.
Я іду нясмелым крокам, ды наперад,
З радасцю і сумам папалам.
Хачу бегчы — не магу. Затое веру:
Попел знікне — попел не смала.

Белым попелам усыпана сцяжына,
І няспынна я па ёй бягу.
Я хачу, каб ты, сцяжына, не кружыла,
Толькі бег спыніць я не магу.
І не бачу ўсіх пакут, не бачу бедаў.
Ды раскрышыцца няўдач скала…

---

***Галавач Мікалай Аляксандравіч*** *нарадзіўся 5 студзеня 1992 года ў гарадскім пасёлку Зэльва. Студэнт факультэта прадпрымальніцтва і кіравання Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта.*

*Друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Звязда», у часопісе «Маладосць».*

Цяжка бегчы, ды прыемна сэрцу ўведаць:
Попел знікне — попел не смала.

Паднявольны жартаўнік шалёны вецер
Унясе уклад свой у мой лёс,
Разнясе за мною попел па сусвеце…
Як жыццё за попелам панёс.

* * *

Наўзбоч прыдарожнага жвіру
Няма ні вянкоў, ні слупоў,
Нібыта ніхто тут не згінуў,
Ніхто не пакінуў слядоў.

Дарога, як плачка-бярозка,
Сваёю была для чужых,
Ляжала між вёскай і вёскай.
Цяпер між нічым не ляжыць.

На ёй тры, бы ў казцы той, ямы,
І я не герой — не прайшоў,
Пакінуў, як іншы, таксама
Радзіме былую любоў.

Ля першай патраціў надзеі,
Пайшоў да другой, каб навек
У бездань пакласці ўсе дзеі,
Што кажуць: і я — чалавек.

Ля трэцяй згубіў я каханне
Да той, што за ўсіх прыгажэй.
Чакаць не прыйшлося спаткання,
Няма больш спагадлівых фей.

І толькі зыбучаму жвіру
Аддаў, каб не бачыць слядоў,
Усё, чым жыў светла і шчыра, —
І радасць сваю, і любоў.

* * *

Не ўбачыш нас, дзе чакаюць, —
Мы там, дзе непатрэбныя.
Імкнёмся ў свет, дзе прымаюць
Не залатым, а срэбраным,

У свет, дзе талент шануюць
Усмешкай не праўдзіваю,
Дзе час каштоўны марнуюць,
Сутнасцю цешаць хціваю.

У марнасці ленай аблозе
Душой ці ўваскрэснем убогай?
Не нам ісці па дарозе —
Хавацца ўсяго за дарогай.

## АСЕННІ ДОЖДЖ

Апусцелы аўтобус вязе ў нікуды
Каляінамі, поўнымі гразкай вады.
І гляджу праз акно на драўляны натоўп —
На дамы старой вёскі.
Навокал патоп,
Які бурна, як памяць былых жыхароў,
Наваліўся з нябёс пад напорам вятроў,
Не пускае ў падворак палацаў сваіх
Ні тубыльцаў празяблых, ні нават чужых.

Ён, апошні аўтобус, вязе ў нікуды
Каляінамі, поўнымі гразкай вады.
Я гляджу праз акно на радзіму дзядоў,
На хаціны пустыя. Шукаю слядоў
Той, жывое, былой паўнагучнай пары.
Цішыня… Ды гарчысты палын у двары…

Пад асеннім дажджом скаламучаны роў
Паміж мною і памяццю тых жыхароў…

* * *

Дзесьці там, за падманамі,
Краіна неабдымных палёў,
Там праўда бурліць акіянамі,
Там праўда — спеў салаўёў.

Дзесьці там, за падманамі,
Краіна невычэрпных крыніц,
Каханне прыходзіць там з марамі
Да хлопцаў і маладзіц.

Дзесьці там, за падманамі,
Краіна зялёных лясоў,
Там хлусня наша
Чорнымі хмарамі
Ахутана з даўніх часоў.

Дзесьці там, за падманамі,
Краіна скрыжаваных дарог,
Там сцелецца радасць туманамі,
Там шчасце Ўсявышні збярог.



Міхась ЮЖЫК

# КАЛЫХАНКА

*Аповесць*

## 1

Напярэдадні навагодніх святаў у офісе фірмы «С…жань» было ажыўлена. Але гэтае ажыўленне паходзіла не так ад напружанай працы, як ад прадчування святочнага застолля, якое меліся наладзіць супрацоўнікі. Яны ўзрушана бегалі з кабінета ў кабінет, жартавалі, твары іх свяціліся. На ганку нехта несу-пынна курыў — па двое і па трое, з выкрыкамі, з бестурботным рогатам.

Дырэктар фірмы Глеб Сіўцоў, мужчына гадоў трыццаці пяці, ужо не раз рабіў заўвагі сваім падначаленым, нагадваў пра тое, што працоўны дзень яшчэ не скончаны і што трэба выконваць свае службовыя абавязкі. Тым больш дзелавыя партнёры, якіх у фірмы было нямала, пастаянна трывожылі яго тэлефоннымі званкамі, факсамі і напорыстымі пасланцамі, патрабавалі тэрмінова штосьці падпісаць, удакладніць і зацвердзіць. Некалькі разоў на дзядзінцы перад канторай спыняліся аўто з важнымі дзядзькамі — кіраўнікамі профільных фірм.

Адным словам, Глеб Сіўцоў быў у прыпары і, мабыць, адзін ён не радаваўся чатыром святочна-выхадным дням, што чакаліся наперадзе. Не цікавіла яго і маючая адбыцца пагулянка, бо ён ніколі не ўдзельнічаў у такіх мерапрыемствах, не рэкамендаваў іх і сваім супрацоўнікам, хоць і не забараняў афіцыйна. Калі заканчваліся пагулянкі, у офісе заўсёды было брудна і неахайна. Пасля святаў, калі Сіўцоў прыходзіў на работу, яму было брыдка глядзець на непрыбраныя шкляныя і пластмасавыя бутэлькі, на попел на крэслах і диванах, на крошкі і вінныя плямы, якія былі паўсюль. А галоўнае, што выклікала ў яго агіду, — гэта надзвычай устойлівы застольны дух, гэткая сумесь тытуню, алкаголю, падгнілай ежы і поту. Вось і даводзілася ўвесь працоўны дзень праветрываць памяшканне, выганяць пахі скразнякамі. Аднойчы скразнякі няслаба працялі дырэктара, і ён злёг з ангінай і радыкулітам.

У прынцыпе, трэба было б забараніць перадсвяточныя бяседы, але Глеб гэтага не рабіў. Не рабіў таму, што ведаў псіхалогію шараговага служачага,

---

***Міхась Южык (Сотнікаў Міхаіл Юр'евіч)** нарадзіўся ў Мінску ў 1969 годзе. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут (1992), працаваў на ВА «Гарызонт». З 1997 года — супрацоўнік літаратурна-публіцыстычнага часопіса «Акно».*

*Аўтар кніг прозы «Мёртвае дрэва» (2001), «Перакулены час» (2002), «Марыянеткі і лялькаводы» (2008), кнігі паэзіі «АнтыРЫФМАР» (2009).*

які, можа, і працуе адзінаццаць месяцаў у год, толькі каб «адарвацца па поўнай праграме» на святы. А іначай паніжаецца яго працаздольнасць, узнікае апатыя, дэпрэсія, ён хварэе.

## 2

— Ну як, Наталка, шуганём? — паказваючы сляпуча-белыя зубы, падсела да сваёй прыяцелькі Марынка Джыгуда, дзяўчына дваццаці чатырох гадоў, прыгажуня.

— А то як жа! — кіўнула ёй Наташка Сарокіна, не адрываючы вачэй ад экрана камп'ютара.

Дзяўчаты знаходзіліся ў кабінеце адны, два іншых працоўных месцы пуставалі: Мішка Маркелаў і Верка, яго жонка, паехалі купляць закусь-выпіўку.

У памяшканні было душна ад батарэй ацяплення, вельмі гарачых.

— Што ты робіш? — спыталася Марына. Яна адкінулася на спінку крэсла, паклала нагу на нагу, дастала з сумачкі манікюрны набор.

— А, Сівы прычапіўся з калькуляцыяй па «Кванце», — наморшчыла свой чырвоны ад духаты твар Наташа. — Знайшоў час…

— Ды кінь ты, у аўторак прыйдзеш — даробіш. — Марынка прывычнымі рухамі падмазвала вейкі, крытычна ацэньвала сябе ў люстэрка.

— Я б дарабіла ў аўторак, ды яму зараз падай! Сказаў праз гадзіну раздрукоўку прынесці… — Наташка нервова біла па клавішах, шчоўкала «мышшу».

— Што піць будзем? — дзелавіта спыталася Марына; яна скончыла фарбаваць твар і занялася пазногцямі.

— Я — гарэлку, — рашуча, нават з нейкім выклікам сказала Наташа. — «Маскоўскую», «Стольную». Ад яе галава не баліць.

— Ну, гэта колькі выпіць…

— А колькі ні выпі. Гэта ж не нейкая бурда, яна добра ачышчаная. Я нядаўна піла.

— Не, лепш за ўсё — «Абсалют!» — уздыхнула Марына, шчыруючы пілкай над пазногцем указальнага пальца. — Во дзе штука харошая…

— Але дарагая… — таксама ўздыхнула Наташка.

— Так, дарагая, — згадзілася яе пекная прыяцелька.

Наташка была старэйшая за Марынку на тры гады і акрамя ўзросту прайгравала ёй і ў прыгажосці, і ў росце. Да таго ж яна нядаўна развялася і адна гадавала малога сына.

Марынка ж была дзяўчына шчадралюбная, бестурботная і мяняла залётнікаў без шкадавання і часта. Дарэчы, усе ведалі, што яна тры гады таму «пад'язджала» да Глеба, дырэктара, але беспаспяхова. І тым больш гэта было крыўдна Марыне, што Глеб у той час быў на мяжы разрыву з жонкай. Яго жонка, Тамара, працавала (і па сённяшні дзень працуе) у фірме менеджарам. Тады, тры гады таму, яна, не тоячыся, круціла раман з намдырэктара канкурэнтнай фірмы, і Марына небеспадстаўна разлічвала, што неўзабаве можа заняць «вакантнае» месца, якое наблізіць яе да Глеба…

— Не, ну я так не магу! — Наташа капрызна ляпнула маленькай далонькай па клавіятуры і адхілілася на спінку крэсла. — Звар'яцець можна з гэтымі лічбамі. Хадзем перакурым, га?

— Давай, — ахвотна згадзілася Марына. Яна яшчэ раз крытычна агледзела пазногці, любоўна правяла рукой па сваім абцягнутым плаццем пышным сцягне і спрытна паднялася з месца. Пакуль яна рушыла да дзвярэй, Наташа міжволі кінула позірк на яе стройныя доўгія ногі, шырокія плечы і бёдры, надзіва тонкую талію. Уся яе фігура гаварыла адно: я створана для кахання, а таму трапячыце перада мной, мужчыны, а жанчыны памірайце ад зайздрасці.

Не паспелі прыяцелькі дайсці да дзвярэй, як яны адчыніліся і ў кабінет уваліліся Маркелавы з мноствам поліэтыленавых пакетаў у руках. Мішка да таго ж трымаў вялізны букет белых руж.

## 3

— Ого! — усклікнула Марынка. — Для каго ж такі гонар, Мішаня?

— Не бойся, не для цябе! — усміхнуўся ў светлыя вусы каржакаваты Мішка Маркелаў; ён паклаў пакеты на стол, побач акуратна паклаў і букет ружаў.

— Вярусь, каму гэта твой чалавек такую раскошу купіў? — Марынка з зайздрослівай цікаўнасцю разглядала букет.

— Ды Тамары Уладзіміраўне сваёй бясцэннай! — з іроніяй адказала Вера; яна схілілася над сталом і пачала даставаць з пакетаў ежу і бутэлькі з напоямі.

— Вось яно што… — прысвіснула Марынка і скрывіла саркастычную міну. — Падлашчваемся, значыць, да вышэйпастаўленых…

— І зусім не падлашчваюся, а проста мужчынская частка калектыву рашыла павіншаваць прыгожую жанчыну са святам, — сказаў Мішка, разбіраючыся са шматлікімі бляшанкамі, слоікамі, палкамі каўбас і іншай закуссю.

— Ага, значыць, астатнія жанчыны непрыгожыя і ім нічога не выпадае, — прытворна пакрыўдзілася Марынка. — Вярусь, як табе гэта падабаецца?

— Выходзіць, так… — таксама прытворна развяла рукамі Верка Маркелава. — Такая ўжо наша доля…

— Ды кіньце вы прыдурвацца! — прабурчаў у вусы Мішка. — Вам вунь колькі дабра накупілі — і лікёры, і віны заморскія, і нават марожанае… А Тамара Уладзіміраўна ўсяго гэтага не пакаштуе.

— Чаму? — спыталася Наташка, якая маўчала дагэтуль.

— Яна мне не дакладвала, чаму. Занятая, значыць… А, дачку са школы забіраць паедзе, — успомніў Мішка. — Ладна, дзяўчаткі, я пабег. — Ён асцярожна ўзяў у рукі букет, паправіў серабрыстую цэлафанавую абгортку і рушыў да дзвярэй; на парозе абярнуўся і кінуў: — Паклічце Ваську з Пятровічам, хай паглядзяць: можа, чаго не стае. То хай дакупяць…

— Ідзі-ідзі, ліслівая душа, — махнула яму рукой Марынка. — Разбяромся.

Маладзіцы згрупаваліся каля стала з пакупкамі і пачалі іх абмацваць ды ацэньваць.

— Так-так, «Стольная» з мёдам і перцам, дванаццаць бутэлек, — заўважыла Наташка. — З перцам не вельмі люблю…

— А навошта ж так шмат? — скрывіла вусны Марынка.

— Дык па бутэльцы на брата. Без Глеба і Тамары нас дванаццаць будзе, — сказала Вера Маркелава.

— А жанчын усяго шэсць! Я дык, напрыклад, толькі «сухач» і лікёр піць буду. — Марына ўзяла ў рукі дыхтоўную пляшку «Амарэта».

— Не перажывай — мужыкі ад тваёй долі не адмовяцца, — запэўніла яе Верка.

— Так, а што ў нас пажаваць?.. — Марынка ўзяла ў рукі колькі ўпаковак селядцоў і ацэньвала: — «Маціяс» востры, «Маціяс» у гурковым расоле… Фу! «Маціяс» з часнаком. Якая брыдота! І «Марачок»… Ну ты, Вярунчык, зусім…

— Нічога, пасля трэцяй чаркі ўсё будзе аднолькава — з часнаком ці без, — паабяцала ёй Верка.

— Ну, не ведаю… — Марынка з паказной грэблівасцю паклала селядцы на стол.

У гэткім пустым накірунку і доўжылася гамонка паміж трыма жанчынамі яшчэ добрых паўгадзіны, пакуль не ўключыўся перагаворнік і патрабавальны дырэктараў голас не паклікаў Наташу. Глеб Іванавіч пытаўся, ці гатовая калькуляцыя па «Кванце». Наташка, якая амаль забылася пра гэта, схамянулася і зманіла, што ўвесь час ёю займаецца і што вось-вось даробіць. Сама ж стрымгалоў кінулася да камп'ютара.

— Праз паўгадзіны я цябе чакаю, — строга сказаў Глеб. — Не забывайся, што сёння толькі да дзвюх працуем. — І выключыў перагаворнік.

## 4

Роўна праз паўгадзіны Наташка Сарокіна збянтэжана ўвайшла ў кабінет начальніка. У руках яна трымала рабочую папку з праслаўтай калькуляцыяй.

Глеб сустрэў яе, седзячы за сталом над паперамі. Ён размашыста правіў нейкі дакумент.

— Сядай, — буркнуў ён, не паднімаючы вачэй ад стала.

Але, калі Наташка накіравалася да шэрагу крэслаў уздоўж сцяны, кінуў сярдзіта:

— Ды не туды, Наташ, не туды. Вось на гэтае сядай, — і ўказаў рукою на крэсла, што стаяла насупраць яго, цераз стол.

Калі Наташка з ненатуральна прамой спінай і закамянелым выразам твару прысела на месца, якое ёй указаў Глеб Іванавіч, той нарэшце паклаў аўтаручку на паперу, выпраставў спіну і паглядзеў на падначаленую.

— Ну, як настрой? — спытаўся ён неспадзявана лагодным голасам.

— Ды вось, як вы сказалі, — Наташа нейк нязграбна выняла з папкі і працягнула яму аркушы.

Але Глеб не стаў іх разглядаць, а ўзяў і нядбайна адклаў убок.

«Навошта ж ён мяне гнаў?» — падумала Сарокіна.

— Паслухай… — з ледзь улоўнай няёмкасцю ў голасе пачаў Глеб і замоўк.

На некалькі секунд позіркі іх сустрэліся, і Наташу здзівіў рэзкі румянец на худых шчаках начальніка — такія бываюць у хворых ці закаханых — і ліхаманкавы бляск у вачах. На імгненне ашаламляльная здагадка варухнулася ў Наташынай галаве…

— Паслухай, — нарэшце перарваў задоўжанае маўчанне Глеб. — Ты, канешне, ведаеш, што апошнія месяцы мы выбіваемся з графіка…

— Ну… так…

— Ведаеш таксама, што акурат з гэтай прычыны я не выплаціў перадсвяточных прэміяльных. Але… менавіта тваёй працай я задаволены. І таму… —

ён апусціў левую руку пад стол, пакорпаўся там і дастаў блакітны фірмовы канверт, — таму вазьмі вось гэта…

— А… я… — залепятала была Наташка.

— Вазьмі-вазьмі, — паспешліва сунуў ёй у рукі канверт Глеб Іванавіч. — Грошы. Ты заслужыла. Аб адным я цябе папрашу: каб не выклікаць благіх пагалосак, нікому ні слова… Ну, ты разумееш.

— Я разумею, — расчырванелася Наташка Сарокіна, хаця не зусім разумела, за што ёй такі гонар.

— Я ведаю, табе зараз цяжка… — Глеб, відаць, меў на ўвазе Наташын нядаўні развод. — І яшчэ вось аб чым я цябе папрашу… — Ён счапіў кісці рук, аблакаціўся на стол і, панізіўшы голас, сказаў: — Тут у вас сабантуй намячаецца. Дык ты, Наташа, пасачы за парадкам. Ну… у тым сэнсе, каб шыбы не біліся, каб курылі на вуліцы, каб не ванітавалі на канапы і дываны… Словам, ты мяне разумееш.

— Так-так, канешне, — усё чырванела і чырванела Наташа.

— Ну, а калі там што благое і выйдзе, то прыбярыце з Марынай… хаця б з большага.

— Добра-добра, я прасачу…

— Ну дык са святам тады, — кіўнуў ёй начальнік. — Хораша адпачыць…

— Дзякуй, Глеб Іванавіч… І вам таксама… адпачыць… ну і… — Наташа не знайшлася, што сказаць следам за «ну і», і паспешліва выслізнула з кабінета.

Аднак, пераступіўшы парог, стрэльнула вачыма па баках і спрытна сунула канверт у рабочую папку.

## 5

Неўзабаве ў дырэктарскі кабінет заскочыў Васіль Грыміч, мардаты хлапчына гадоў дваццаці пяці, асабісты вадзіцель Глеба.

— Ну дык што, Глеб Іванавіч? — спытаўся ён тонам блізкага чалавека, падыходзячы да начальніцкага стала.

— А нічога, — усміхнуўся яму Глеб. — Стаў машыну ў гараж і адпачывай. — Пад словам «адпачывай» дырэктар меў на ўвазе сённяшняе застолле.

— Не, ну… — сумеўся Васіль. — А як жа вы?..

— Не турбуйся, Вась, я сам.

— Як, пехатою?.. — вадзіцелеў твар расцягнуўся ў дурнаватай ухмылцы.

— Так, пехатою. А што? — хітра зірнуў на яго начальнік.

— Не, ну воля ваша, канешне… А ўсё ж… — Васька усё яшчэ адчуваў сябе няёмка.

— Ніякіх «а ўсё ж», — адрэзаў Глеб Іванавіч. — Стаў машыну ў гараж — і свабодны. Зразумеў?

— Угу…

— Дзейнічай. — І, ужо калі Васька адчыніў дзверы кабінета, дырэктар дадаў: — Але, ледзь не забыўся: са святам цябе, Васіль.

— Дзякуй… — вадзіцель рэзка павярнуўся ў дзвярах. — Дзякуй, Глеб Іванавіч… І вас з гэтым… як яго… са святам! — апошняе слова ён амаль выкрыкнуў — яго чамусьці вельмі ўсхвалявала віншаванне начальніка.

Васіль спыніўся ў калідоры. Ён хацеў падумаць, зразумець. Глеб адпусціў яго па душэўнай дабраце ці, можа, не давярае. Тым часам на яго наляцеў

Сяргей Шустоў, камерцыйны дырэктар. Дарэчы, для іх маленькай фірмы такая пасада, як «камерцыйны дырэктар», гучала празмерна значна і мела чыста намінальнае значэнне. Бо Шустоў займаўся ўсім, куды ні кіне яго Глеб Іванавіч, у тым ліку — і камерцыяй, зразумела.

— Свабодны? — шэптам спытаў Сяргей, схапіўшы Васіля за рукаў світара.

— У сэнсе?

— Ды тут злётаць трэба… у адно месцейка…

— Не, ну ты знайшоў час.

— Выручай, Вась… дазарэзу патрэбна… Ды ўсяго на паўгадзіны справы той. — Тут Шустоў схіліў свой жулікаваты твар да Васіля і нешта забубніў на самае вуха.

— Не, ну гэта ж халтура… — паспрабаваў абурыцца Васіль, але Шустоў прытуліўся да яго яшчэ бліжэй і зашаптаў з яшчэ большай страсцю.

Праз хвіліну яны ўдарылі па руках і, зладзеявата азіраючыся, пашыбавалі на двор, да службовага «BMW».

На ганку яны напаткалі Марынку Джыгуду, якая ў адным плацці, пацепваючыся ад холаду, пыхкала цыгарэтай.

— Куды так шустра? — пацікавілася яна ў хлопцаў, якія відавочна спяшаліся яе прамінуць.

— Хутка будзем, — на хаду аглянуўся на яе расхрыстаны Шустоў; Васіль жа шпарка ішоў да машыны і пабразгваў звязкай ключоў.

— Далёка? — не сунімалася ўедлівая Марынка.

— У гараж, — знайшоўся Шустоў, чалавек бывалы. — А я з ім за кампанію.

— А Глеб Іванавіч што, з намі гуляе? — здзівілася Марына.

— Не, — супакоіў яе Сяргей і, ледзь стрымліваючы раздражненне, сказаў: — Ну, ладна, Марын… А то няма часу. — І подбегам кінуўся да машыны, якую ўжо завёў вадзіцель.

— Купіце мне «Бонду»! — крыкнула ім услед Джыгуда. — З белым фільтрам!

«Во дакука!» — вылаяўся пра сябе Шустоў, сядаючы ў машыну і зачыняючы дзверы.

«BMW» рэзка, як і належыць аўто з магутным маторам, ірвануў з месца, спрытна выруліў у дзядзінцы паміж прыпаркаванымі машынамі і знік за варотамі.

Марына, дапальваючы цыгарэту, усмешліва глядзела яму ўслед. Усміхалася яна не ад таго, што западозрыла нешта нячыстае ў паводзінах Шустова, а таму, што ўвогуле была чалавекам вясёлым і лёгкім. Джыгуда свята верыла, што жыццё створана для радасці і асалоды, а радасць і асалоду прыносяць мужчыны і грошы. Грошай у яе было малавата, і таму ўсю жыццёвую энергію Марына скіравала на пошукі грашавітых мужчын. Вось і зараз ёй радасна ўзгадалася, што назаўтра прызначана спатканне з такім мужчынам. Цешыла Марыну і пікантнасць сітуацыі: стары прыяцель яе бацькі, чыноўнік з адной важнай установы, чалавек жанаты, дзед чатырох унукаў, клікаў яе на сваю дачу на цэлыя суткі. Такіх вострых пачуццяў Марына не перажывала даўно… Усяго толькі пакакетнічала яна з Платонам Сямёнавічам у рэстаране на бацькавым юбілеі, патанцавала ды нібы незнарок прыціснулася да яго сваімі пышнымі формамі… А які вынік!

Але ўсё гэта будзе заўтра, заўтра вечарам: службовая машына Платона Сямёнавіча будзе чакаць яе на ўмоўленым месцы. Ну а пакуль… Пакуль ёй — весяліцца тут, зараз, у офісе з саслужыўцамі.

## 6

Недзе а другой гадзіне дня Глеб Сіўцоў адключыў мабільнік, з дыпламатам у руцэ выйшаў са свайго кабінета, замкнуў яго і таропка рушыў па калідоры да выхаду. Паабапал, з-за дзвярэй кабінетаў, даносіліся ўзрушаныя галасы падначаленых.

Дырэктара ніхто са сваіх не заўважыў, ён павольна сышоў з ганка, збочыў направа, прайшоў уздоўж сцяны будынка і завярнуў за яго рог. Затым па засыпанай лісцем сцяжынцы дайшоў да невысокай жалезнай агароджы і, азірнуўшыся, спрытна яе пераскочыў.

За агароджай пачынаўся густы, хоць і голы, хмызняк, за хмызняком — двары старых пяціпавярховак, за дварамі — пустэльны ўчастак парку Чалюскінцаў. У гэтай частцы парку і летам народу небагата бывае. Зараз жа зусім не было, нават тых, што выгульваюць сабак, не было відаць. Старыя клёны і таполі цягнулі ў шэрань нізкага неба свае нязграбныя рукі-галіны. Пад нагамі шамацела даўно апалае, мёртвае лісце. І толькі паветра было маладым і здаровым. Глебу здавалася, што ён адчувае, як яно, пранікаючы ў лёгкія, расцякаецца па артэрыях і капілярах, насычае яго цела сілай і прасвятляе думкі.

Праз хвілін дзесяць жвавай хады Глеб выйшаў на няшумную вуліцу, нырнуў у двары і неўзабаве быў каля невялікай платнай аўтастаянкі, на якой знаходзіўся яго старэнькі чорны «Volkswagen». Сіўцоў сеў у яго, хвілін пяць праграваў рухавік, а затым няспешна крануўся з месца. Гэтак жа няспешна, саступаючы ўсім ліхачам і пешаходам, ён выехаў на праспект Скарыны. Неўзабаве збочыў не направа, каб ехаць дамоў, дзе яго ўжо, мусіць, гадзіну чакала жонка Тамара з дачкою Ніначкай, а налева. Глеб узяў кірунак на далёкую вуліцу Пятра Глебкі, дзе пазаўчора зняў аднапакаёўку.

Вось і праспект Пушкіна, і вуліца Прытыцкага, вось і жаданая Пятра Глебкі. Тут Сіўцову давялося добра пакруціць-параліць па вузкіх праездах, каб дапяць патрэбнай пяціпавярхоўкі, што стаяла ў глыбіні вялізнага квартала. Цесны дворык, спраектаваны яшчэ за брэжнеўскім часам, быў яўна непрыстасаваны для паркавак машын трэцяга тысячагоддзя. Глеб праявіў усё сваё вадзіцельскае майстэрства, пакуль уладкаваў шырокае аўто паміж іржавым «Запарожцам» і сметніцай.

Неўзабаве ён паднімаўся па сцёртай, але досыць чыстай лесвіцы пад'езда № 2 на чацвёрты паверх. Дзень быў пахмурны, у пад'ездзе панаваў змрок, і Глеб доўга поркаўся з чужымі ключамі-замкамі, перш чым зайшоў у кватэру.

Гэты катух ён зняў па звычайнай аб'яве ў газеце. Гаспадар, да якога Глеб прыязджаў два дні таму, аказаўся лядашчым нізкарослым дзядулем, у якога быў скрыпучы высокі голас. Яго кватэра знаходзілася ў цэнтры горада, у груваcткай старой камяніцы. З-за спіны дзядка, які прапусціў госця ў вітальню, тут жа выскачыў мурзаты падшыванец гадоў пяці і пачаў тузаць бліштасты замок Глебавага дыпламата. Але дзед даў яму поўху, малы, зарумзаўшы, хутка знік за аднымі з дзвярэй калідора. Адтуль данёсся бойкі жаночы голас: «Тата, хто там?!» — і адразу ж высунулася ўскудлачаная галава смуглявай кабеты. «Гэта па аб'яве, — раздражнёна махнуў рукой на дачку гаспадар і ветліва ўсміхнуўся самавіта апранутаму госцю: — Прашу вас у мой кабінет».

Кабінетам аказаўся пакой з неахайна прыбраным ложкам, начным гаршком у куце, фікусам, кошкай і вялікай кніжнай секцыяй. Рабочага стала ў тым «кабінеце» не было, а стаяла тумбачка, на ёй шклянка недапітага чаю, ляжала каробка нейкіх таблетак.

Размова была грунтоўнай. Дзядуля здаваў сваю другую кватэру на кароткі тэрмін — для інтыму і зухаватых папоек. Ён сказаў, колькі гэта будзе каштаваць, затым узяў план аднапакаёўкі, намаляваны на аркушы паперы, і паказаў, дзе ляжаць просціны, дзе стаіць посуд. Затым папярэдзіў, што тэлефонам можна карыстацца толькі ў пільных выпадках, што просціны трэба класці ў таз і засоўваць яго пад ванну. Таксама сказаў, што прыбірае кватэру ён сам, і гэта ўваходзіць у кошт яе здачы. І яшчэ папярэдзіў, што трэба ўважліва сачыць за вадой і газам, бо былі выпадкі, калі затаплялі суседзяў. Пасля яго, дзядулю, потым доўга тузаў участковы. А газ жа — не дай бог!..

Усё было быццам бы і нічога, але атрымалася замінка з пашпартам, паколькі дзядуля меў звычку запісваць пашпартныя дадзеныя кліентаў: павінны ж яны, калі раптам што сапсуюць, каго з суседзяў зальюць або яшчэ што, несці адказнасць. Сіўцоў даваць пашпарт катэгарычна не згаджаўся, спасылаўся на тое, што ён чалавек вядомы і не хоча рызыкаваць сваім імем. Гаспадар таксама саступаць не хацеў. Аднак, калі госць прапанаваў двайную плату і, дастаўшы пухлы партманэт, зашамацеў доларамі, дзядуля не тое што падабрэў, а, здалося, нават памаладзеў ад радасці. Да таго ж Глеб здымаў кватэру на цэлы тыдзень. Словам, яны разышліся задаволеныя адзін адным.

## 7

Сіўцоў зайшоў у кватэру, прамінуў цесную і зусім пустую пярэднюю, спыніўся ў адзіным пакоі. Там стаялі два аляпаватыя крэслы, купленыя, відаць па ўсім, гадоў трыццаць таму, нізкі журнальны столік перад імі, вузкая шафа пад самую столь і шырокая двухспальная тахта. На тахце ляжала спартыўная сумка.

Глеб паклаў дыпламат на тахту, а сумку ўзяў у рукі, шмаргануў маланку і пачаў даставаць нейкія апранахі. Гэта была яго ўласная сумка, абачліва завезеная сюды пазаўчора, калі Глеб аглядаў кватэру.

Сіўцоў зняў скураную куртку, пінжак, штаны і павесіў усё гэта ў шафу, на плечукі. Туды ж паставіў і туфлі. Потым пачаў апранацца ў тую адзежу, якую прынёс з сабой у сумцы. Праз пяць хвілін ён нагадваў чалавека вельмі сярэдняга дастатку. На ім былі пацёртыя джынсы, вынашаны світар-самавяз пад горла, туфлі з аблупленай скурай, састарэлага фасону кароткая рудая куртка і блінападобная шэрая кепка. Гэтыя рэчы Глеб прывёз са сваёй дачы. Там ён іх часам апранаў, калі выходзіў у краму дачнага пасёлка, таму яны былі хоць і паношаныя, але чыстыя і без дзірак.

У пакоі не было люстэрка, і Глеб, каб ацаніць сваю знешнасць, палез у дыпламат і дастаў сваё, з брытвеннага набору. Мяркуючы па тым, што яму ўдалося пабачыць у тое маленькае люстра, ён нагадваў або перарослага аспіранта, або даўно звольненага з працы інжынера. Нармалёва. Гэта яму і патрэбна.

Затым Глеб Іванавіч прайшоў на кухню, праверыў тэлефон, які чамусьці быў выведзены туды, наведаў санвузел і вярнуўся ў пакой. Ён павярнуў да акна адно з крэслаў і сеў у яго. Праз шырокае без фіранак акно адкрываўся неблагі краявід: пагорак з дзіцячым садком, двор якога зарос кустоўем і дрэвамі, за садком, на тым жа пагорку, узвышаліся пяціпавярхоўкі. Ні аўтамабільных дарог, ні ажыўленых сцяжынак з крэсла не праглядалася. А паколькі ў святочныя дні дзіцячы садок не працуе, то пад акном не будзе шуму і тлуму. Гэта здорава. Гэта было прыемным сюрпрызам для Глеба, бо ў мінулы прыход

ён не паспеў усяго ацаніць — адзначыў толькі, што кухня глядзіць на двор, а пакой — на супрацьлеглы бок дома.

Глеб глядзеў паўзверх пяціпавярховак на шэрае нізкае неба і ўсміхаўся, згадваючы пацешнага дзядулю, які так падрабязна тлумачыў яму пра просціны, газ, ваду і тэлефон. Недарэка, ён і не здагадваўся, што пастаяльцу нічога гэтага не спатрэбіцца: Сіўцоў нічога не будзе разаграваць на пліце, не будзе мыць посуд і мыцца ў ваннай, не будзе нават класціся спаць, а тэлефон яму калі і спатрэбіцца, то толькі аднойчы. Глеб Іванавіч збіраўся сысці ў загадзя спланаваны, самы змрочны і беспрасветны запой…

Так, пара. Твар Сіўцова рэзка ажывіўся, ён устаў з крэсла, шпарка падышоў да шафы, адчыніў яе левую створку, сагнуўся і выцягнуў адтуль скрыню гарэлкі. Прысеў перад ёй на кукішкі, асцярожна ўзяў у рукі адну бутэльку. Гэта была бутэлька гарэлкі, якую выпрабляў адзін мясцовы спіртзавод, гарэлка дрэннай ачысткі, ад якой назаўтра пакутліва баліць галава. Але Глебу і патрэбны быў гэты боль, гэтыя цялесныя мукі. А яшчэ — чорны, самага грубага памолу хлеб, кансервы, нешта накшталт кілек у таматным соусе, салянка, а яшчэ — часнок і цыбуля. Карацей, усё тое, што будзе драць яго спешчанае далікатэсамі нутро, выклікаць пякотку і колікі і гэтым самым лячыць душу…

Закусь, аднак, трэба было яшчэ купіць. Сапраўды, не мог жа Сіўцоў купляць усё гэта ў сваёй самавітай вопратцы, адпаведнай бізнесоўцу сярэдняй рукі. Не, мог бы, канешне, але што тады пра яго людзі падумалі б…

## 8

Глеб са спартыўнай сумкай у руцэ выйшаў на двор. Сеў у свой «Volkswagen» і пагнаў яго на бліжэйшую платную стаянку. Уладкаваўшы машыну, ужо пехатою пакіраваў да плошчы Пушкіна, абышоўшы яе, павярнуў да ўніверсама, да якога было метраў дзвесце. Аднак унутр заходзіць не стаў, а прайшоўся ўздоўж вітрын, завярнуў за рог будынка. Неўзабаве ён апынуўся каля адкрытай піўнушкі, што тулілася да правага тарца ўніверсама. Як і меркаваў Сіўцоў, тут, незважаючы на пранізлівы холад, было багата мужчын, і самых розных. Тут былі і яўныя бамжы-забулдыгі, і бандзюгаватыя дзецюкі ў скураных куртках, і нават некалькі заможных, салідных. Але большасць наведвальнікаў піўной складалі людзі, да якіх добра дапасоўваўся сам Глеб Іванавіч са сваёй новай знешнасцю: небагатыя, неамбітныя і нязлосныя, а таму ахвочыя пагаварыць пра пустое.

Глеб узяў адзін куфель светлага і, як аказалася, разбаўленага піва і заняў непрыкметнае месца: за стойкай, што знаходзілася як бы на водшыбе. Адсюль было добра назіраць за наведвальнікамі піўной, чуць іх немудрагелістую вясёлую гаману. Тут яму ніхто не перашкаджаў расслабляцца. Глеб ведаў, што праз якіх пару гадзін ён ужо не будзе чуць людскія галасы.

Дзіўна, але гэтая бязглуздая п'янаватыя гамана суседзяў па піўнушцы была яму прыемная. Гэта былі не тыя ліслівыя ці патрабавальныя словы, што чуў ён амаль кожны дзень у сваім кабінеце, не тыя з'едлівыя ці фальшывакакетлівыя словы жонкі Тамары, ад якіх яму не было паратунку ні на рабоце, ні дома…

Жонка… Менавіта з-за яе ён, Глеб Сіўцоў, дырэктар сур'ёзнай фірмы, паспяховы і паважаны чалавек, знаходзіцца цяпер не на рабоце, з саслужыўцамі за бяседным сталом, не дома з дачкою Ніначкай, а вось тут — у брудный

піўнушцы на другім канцы горада. Бо тут яму лепей, лепей, чым дзе… Што ж, хай і яна пацерпіць, папакутуе з-за яго, як пакутаваў з-за яе ён.

…Асабліва прыемнымі падаліся першыя пяць глыткоў. Не бяды, што піва разбаўленае. Яно пранікла ў пусты Глебаў страўнік, пайшло ў кроў, сагрэла цела, лёгенька адурманіла галаву. Не, не адурманіла нават, а нібы супакоіла, быццам палячыла. О, як востра адчувае гэта чалавек, які не браў у рот алкагольных напояў цэлых два гады і якому гэта катэгарычна забаронена. Ва ўсведамленні таго, што ты самахоць робіш крок у прорву, была нейкая дзіўная, своеасаблівая слодыч. Па вастрыні гэтае адчуванне здавалася амаль роўным таму, якое Глеб зведаў дзесяць гадоў назад, авалодаўшы Тамарай (цэлы год неадступна дамагаўся яе і нарэшце…). Ён таксама ведаў тады сваю пагібель, бачыў прорву і… свядома ступіў у яе.

## 9

Ён стаў яе рабом з першай жа сустрэчы, з першага позірку на яе гнуткае, худое і, тым не менш, багатае жаночымі выпукласцямі цела. У Тамары быў хітры тварык з цёмнымі, як бездань, вачыма. Ён і цяпер, праз шмат гадоў, не адкрыў таямніцы гэтае бездані. Яна толькі вабіць, вабіць яго неадольна. А рыжыя валасы да плеч! А поўныя пачуццёвыя вусны! А скура, непадуладная сонцу, нязменна белая пяшчотная скура!..

Яна заўсёды ведала сабе цану, яна і яму прадала сябе, доўга і грунтоўна патаргаваўшыся. Прадала толькі тады, калі зразумела: ён таленавіты, учэпісты бізнесмен, за ім будучыня, ён заробіць грошы, ён пракорміць і выгадуе яе дзяцей, ён горы для іх пераверне…

О, яна выбірала яго, як рэч. Не! Як машыну з выгодным салонам і, галоўнае, безадказным маторам, які будзе тарахцець для яе ўсё жыццё. А іначай — на які ляд ён ёй спатрэбіўся!

Глеб з першых жа дзён знаёмства ведаў, што ён не на яе густ. Мяркуючы па тым, з кім Тамара была раней (а ён гэта выведаў!), яна любіла мужыкоў грубых, дужых, гэткіх асілкаў са зверскім апетытам, плячыстых, чырванамордых. Карацей, бездакорных самцоў. Што тут Глеб са сваім туберкулёзам, які ён перанёс у пятнаццаць год і які старанна цяпер скрывае! Што ён са сваімі нешырокімі плячыма і бледным тварам нервовага, хваравітага чалавека! Толькі рост у яго прыстойны — метр восемдзесят шэсць. Але не ростам ён яе пакарыў, ох, не ростам. Адваяваў ён Тамару ў апошняга яе залётніка, хакеіста, толькі таму, што хацеў яе непараўнальна больш за яго, а для таго гарбаціўся па чатырнаццаць гадзін у суткі, зарабляючы зялёныя купюры. Да таго ж той хакеіст атрымаў траўму і выпаў, бядак, з каманды…

Але праўду мовяць: лепш хлеб з вадой, чым пірог з бядой. З жаніцьбай пачаліся для Глеба несусветныя пакуты. Пастаянная, несціханая рэўнасць не давала яму спакою ні днём, ні ноччу, замінала працаваць, а працаваць ён павінен быў. Працаваць да болю ў нагах і спіне, да мушак у вачах і хранічнага бяссоння. Каб мець як мага больш грошай, каб утрымаць каля сябе Тамару. А ёй усё было мала, ненасытнай. Усё пілавала, падсцёбвала, здзекліва ставіла ў прыклад паспяховых мужоў сваіх прыяцелек. І ён вымушаны быў гэта цярпець, бо кахаў, кахаў, незважаючы на тое, што не бачыў, не адчуваў узаемнасці. А, наадварот, лавіў, бывала, на сабе яе грэбліва-ўсмешлівыя позіркі. Глеб ведаў, што ён фізічна ёй непрыемны — са сваёй худзізной, са сваім бледным тварам. Ведаў, пакутаваў, ненавідзеў яе за гэта і ад таго кахаў яшчэ больш.

Пасля нараджэння дачкі, калі Глеб, а не яна, начамі завіхаўся вакол калыскі, ён жахнуўся: Тамара нікога не любіць, апроч сябе. Жахнуўся таму, з якой жанчынай жыве, дзеліць і стол і ложак… Амаль з немаўлячага ўзросту за Ніначкай даглядала няня. Няня і Глеб. А дачка любіла толькі маці! Гэта было так відавочна, так невыносна крыўдна.

Ніначцы не споўнілася і паўтара года, як Тамара пайшла працаваць у Глебаву фірму. І адразу ж заваявала сэрцы літаральна ўсіх супрацоўнікаў. Яна адразу ж перамясціла цэнтр цяжару з дырэктара на сябе. Гэта быў, канешне, больш псіхалагічны цэнтр, бо ўвесь воз па-ранейшаму цягнуў на сабе Глеб, яна ж, як фурман, яго паганяла.

Тамара ўсё часцей пачала на яго фыркаць на рабоце, прычым прылюдна, няславячы перад супрацоўнікамі. І ён цярпеў. Дома ўсчынала сваркі з-за любой пусцяковіны. Яна была сексуальна не задаволена — Глеб гэта ведаў, — а таму правакавала яго на гвалт. Яна хацела, бессаромніца, каб ён даў ёй поўху, адлупцаваў, павалок у ложак. Але не мог Глеб падняць на яе руку, бо кахаў, з-за ўсіх яе вычварэнняў кахаў яшчэ болей…

Ён прадчуваў здраду, разрыў, ён ведаў, што яна толькі шукае для гэтага зручнага выпадку. У пакутлівым чаканні бяды, у выбухованебяспечным непаразуменні мінуліся два гады. І хоць перарывалася гэтае напружанне рэдкімі днямі сямейнай злагады, усё ж невыносна было жыць з чалавекам, які затачыў на цябе нож і трымае яго за спінай. Невыносна жыць, а яшчэ больш жахліва — расстацца.

І вось тры гады таму гэта здарылася! Адзін Бог ведае, што тады Глеб перажыў…

## 10

Не, годзе! Сіўцоў нібы страсянуў з сябе гэтыя балючыя ўспаміны, зірнуў на донца пустога куфля, агледзеўся па баках. Ужо прыкметна звечарэла, а людзей у піўной, здаецца, стала больш.

Усё, пара ісці. Не трэба больш пра Тамару, дакладней — яшчэ не час. Ён успомніць, ён прыпомніць ёй усё да драбніц *там*, у кватэры, удалечыні ад людзей, — тады, калі будуць пад рукой патрэбныя *«лекі»*. Бо півам не заглушыш той боль, не загоніш яго ў самыя нетры душы, не пагасіш агонь нянавісці…

Глеб пайшоў уздоўж стойкі да выхаду. Прамінаючы нейкіх валацуг, якія спрачаліся, каму дапіваць рэшткі піва з куфля, ён рашыў, што трэба б даць ім грошай. Але калі каўзануў у кішэнь джынсаў руку і намацаў там складзеныя ў дзве столкі беларускія купюры, перадумаў. Нязручна будзе на людзях даставаць іх і аддзяляць патрэбную — і доўга, і няёмка, і ўвагу да сябе прыцягнеш… Глеб выняў з кішэні пустую руку і паскорыў крок.

Ва ўніверсаме ён здаў сваю спартыўную сумку, атрымаў нумарок, узяў драцяны кошык і прайшоў у залу. Нечакана для сябе доўга шукаў танныя кансервы і грубы хлеб. Калькі не знайшоў, і давялося ўзяць сем бляшанак стаўрыды ў таматным соусе. Адшукаў слоік марынаванага часнаку, кінуў у кошык два боханы «Барадзінскага» хлеба і пакецік з цыбуляй. Усё, гэтага досыць.

На касе какетлівая маладзенькая прадаўшчыца непрыветна агледзела Глеба, з непрыхаванай пагардай перасунула прадукты ў кошыку і адстукала на клавішах рахунак. Сіўцоў знарок доўга перабіраў у руках зацухмоленыя купюры, адлічваючы патрэбную суму. Ён наўмысна пакінуў у аднапакаёўцы

свой пульхны кашалёк з доларамі — каб вальней сябе адчуваць і найлепш адпавядаць ролі беднага аспіранта, якую ўзяў на сябе, ідучы сюды. Яму падабалася гэтая гульня, падабаліся неадабральныя позіркі прадаўшчыцы. Так, ён надзейна схаваў ад усіх абрыдлага самому сабе Глеба Іванавіча, а неўзабаве і зусім яго пахавае. Толькі б хутчэй у кватэру!

Няўхільна вечарэла, і да запаветнай аднапакаёўкі Глеб дабіраўся ў паўзмроку, ішоў праз калдобістыя дворыкі недарэчна спланаванага квартала. Ці то ад цемры, што навальвалася з усіх бакоў, ці то ад гнятлівых успамінаў, што апанавалі яго ў піўной, Глебавы нервы напружваліся з кожным крокам. Асабліва пакутліва даліся апошнія метраў сто: Сіўцову здавалася, што нехта чорны яго даганяе. У пад'ездзе, на чацвёрты паверх, ён проста ляцеў па прыступках. Замкі, якія ён адкрываў дрыготкімі пальцамі, паддаліся не адразу, і тут адбылося самае страшнае. Тая чорная сіла, што нібыта праследавала яго па пятах, як бы падвоілася, і Глеб адчуў, што яна стаіць за дзвярыма. Такога жаху ён яшчэ ніколі не адчуваў. Здавалася б, трэба хутчэй адчыняць, бо яго даганяюць ззаду, і адначасова ні ў якім разе гэтага нельга было рабіць, бо наперадзе яго чакае нешта жудаснае. Гэтыя сілы гатовыя былі сплюснуць Сіўцова з двух бакоў, выціснуць з яго душу… Але тым часам замок адшчоўкнуўся, і Глеб уціснуўся ў кватэру, ліхаманкава намацаў выключальнік. Яркае святло заліло прыхожую. З гэтым святлом знік і няўцямны страх. Ужо не спяшаючыся Сіўцоў зачыніў і замкнуў уваходныя дзверы. Затым замёр і прыслухаўся да цішыні, да сваіх адчуванняў. Страху не было. Толькі сэрца ўсё яшчэ гулка тахкала ў грудзях, калацілася. Нарэшце яно супакоілася.

«Нічога, усё добра», — услых сказаў Сіўцоў і прайшоў у пакой.

Там ён уключыў святло, паставіў сумку на тахту, дастаў з яе ежу і паклаў на журнальны столік. Затым схадзіў у ванную, вымыў рукі, спаласнуў халоднай вадой твар. Зірнуў у прыклееены да сцяны аскепак люстэрка і спужаўся бледнасці свайго твару, калючага бляску ў вачах, а затым румянцу, што раптам як ніколі рэзка выступіў на яго ўпалых шчаках.

«Навошта, навошта я глядзеў у люстэрка! — упікаў сябе Глеб, накіроўваючыся з ваннай на кухню. — О, як я ненавіджу гэты твар!»

На кухні ён узяў лыжку, відэлец, шклянку… Зрэшты, шклянка яму не спатрэбіцца. Ён будзе піць са сваёй, што прынёс, — гранёнай «стопкі» з блакітнага шкла. Глеб яшчэ месяц таму нагледзеў у адной краме гэтую «стопку», купіў і ўвесь час насіў у дыпламаце. У блакітным колеры яе шкла было нешта прывідна-таямнічае, зваблівае…

Так, усё. На кухні яму больш нічога не трэба.

У пакоі Сіўцоў прысунуў і столік і крэсла, у якім ён мерыўся сядзець, бліжэй да акна — каб лепей праглядаліся скупа асветлены дзетсад і пяціпавярхоўкі за ім. Святло люстры здалося Глебу заяркім, і ён рашыў яго выключыць. Так, калідорнага святла, што пранікае ў пакой праз шырокія дзверы, будзе досыць.

Ну што ж, цяпер усё на мазі. Але не! Пра самае галоўнае забыў: гарэлка. Глеб выцягнуў скрыню з шафы і ўладкаваў у левы ад акна кут. На стол жа паставіў толькі адну бутэльку.

Выдатна.

Цяпер можна і паўспамінаць, павярэдзіць сваю душу. Цяпер не страшна.

Толькі спярша паўнютка наліць «стопку».

Глеб адкаркаваў бутэльку і, не праліўшы ні кроплі, напоўніў стограмовую шклянку.

А, яшчэ хлеб.

Ён выняў з кішэні сцізорык, адрэзаў паўакраец «Барадзінскага» і накрыў ім «стопку».

Усё.

## 11

Так, ніхто не ведае, што перажыў Глеб тры гады таму, калі даведаўся, што Тамара закруціла раман з Віцькам Пацкевічам, намдырэктара канкурэнтнай фірмы. Закруціла, можна сказаць, дэманстратыўна, зусім не таячыся саслужыўцаў, падначаленых Сіўцова. Яна, нахабніца, даходзіла да таго, што звaніла ў офіс з Віцькавага мабільніка, і яго нумар вызначаўся на мабільніках супрацоўнікаў. Або падкочвала да сваёй фірмы на Пацкевічавым аўто… Як Глеб мог гэта цярпець?! Не кажучы ўжо пра тое, што яна спіхнула чатырохгадовую дачку сваім бацькам, прычым без яго, Глебавага, дазволу. Проста завезла, і ўсё. Дома ж Тамара не начавала.

А страты, што панёс «С…жань» з-за таго, што яго менеджар Тамара Сіўцова не толькі не працавала, а фактычна перакінулася да канкурэнтаў! Адным словам, Глебава фірма апынулася на грані краху. Тым больш што сам Сіўцоў упаў у цяжкую дэпрэсію і не мог як след супрацьстаяць фінансавай катастрофе, што няўмольна дзень за днём па віне яго жонкі насоўвалася на фірму.

Гэта быў сапраўды юдаў учынак. На працягу двух тыдняў пасля таго, як Тамара завяла раман з Пацкевічам, Глеб Іванавіч амаль нічога не еў, унурыўся ў сябе і зранку да позняга вечара, нібы ачмурэлы, сядзеў у кабінеце. Ён рабіў выгляд, што працуе, хоць і прымаў саслужыўцаў, і аддаваў машынальныя загады, і нешта падпісваў, але толькі адна думка панавала ў яго галаве: як жа яна магла, як пасмела так паступіць! Плач, галасі, а рады ўсё адно не дасі. Глеб нічога не заўважаў вакол сябе, нават Марынку Джыгуду, што пастаянна аціралася побач, імкнучыся хоць як суцешыць яго. (Гэта потым яму намякнулі, што яна да яго заляцалася.)

Два тыдні ён ціха з'язджаў з глузду, а затым пачаў піць і зайшоў у першы ў сваім жыцці запой. Тады, канешне, усё было спантанна, не так, як зараз. Але тады таксама была такая ж аднапакаёўка і шмат гарэлкі. Піў тады Глеб бязбожна, падспудна спадзяючыся, што неўзабаве алкаголем заб'е сябе, у яго ж слабое здароўе. Аднак арганізм вытрываў, а на душы, здалося, нават палягчэла. Праз дзесяць дзён, худы як шкілет і бледна-сіні з твару, Сіўцоў прыйшоў на работу і неспадзявана для ўсіх з імпэтам стаў ратаваць фірму. А яшчэ праз дзесяць дзён да яго вярнулася Тамара. Вярнулася, нібы нічога і не было, без усякага ценю няёмкасці: быццам прыехала з санаторыя і адразу ўключылася ў работу.

Зажылі яны як раней. Нічога вонкава не змянілася ў іхніх адносінах. Але, як неўзабаве аказалася, унутры мала што памянялася. Глеб усё гэтак жа кахаўненавідзеў жонку, а яна ўсё гэтак жа, як і раней, верхаводзіла ў сямейных справах і на працы была кумірам для саслужыўцаў. Мала гэтага, Глеб Іванавіч прыкмеціў, што пасля таго яе юдавага ўчынку ў калектыве Тамару, насуперак усім канонам маралі, запаважалі яшчэ больш. А яго, наадварот, — сталі паважаць меней, палічыўшы, відаць, слабаком. Слабых не любяць.

Так, Тамара ўмела сябе паставіць, паказаць. Глеб ведаў, што ў «С…жані» яе па-сапраўднаму, а не з карыслівых меркаванняў, любілі. Мужыкі дык наогул вар'яцелі ад яе.

Вось і сёння, у перадсвяточны дзень, каго віншавалі, каму падарылі шыкоўны букет? Тамары. Не, ён, канешне, не прэтэндуе на букеты кветак, але хаця б мізэрнай увагі ён заслугоўвае? Хіба не ён заснавальнік і рухавік фірмы? Хіба не дзякуючы яму ўсе пятнаццаць чалавек маюць неблагі дастатак, утрымліваюць сем'і, ездзяць адпачываць на курорты? Хіба не ён купіў кватэру ў семдзесят квадратных метраў у цэнтры горада, якой з ахвотай карыстаецца ўсё тая ж Тамара? Хіба не ён пабудаваў дачу-асабняк у дзесяці кіламетрах ад горада? Што, ніякай яго заслугі ва ўсім гэтым няма?

А яны, бяздарныя людцы, гэтыя нікчэмнасці, што сядзяць на яго шыі, не толькі не лічаць яго сваім дабрадзеем, а, наадварот, лічаць ворагам, які штодзень тузае іх загадамі, выклікае ў кабінет, азадачвае. Яны і глядзяць на яго як на дакуку, высмейваюць, надзяляюць абразлівымі мянушкамі накшталт «Сівога». За што, за што ж яны яго ненавідзяць?!

А дома, у сям'і! Гэта ж каму расказаць — не паверацъ. Законная жонка кладзецца з ім у ложак з такім выглядам, быццам робіць вялікую ўступку, паблажку. Ладна, маўляў, карыстайся сягоння, а заўтра я пагляджу на твае паводзіны.

Дачка ў свае сем гадоў таксама добра расшалопала, хто ў доме сапраўдны гаспадар, хто кіруе ўсім, і таму горнецца да маці, пагарджаючы ім, бацькам. Хіба ён не любіць яе больш за жыццё, не песціць рознымі падарункамі?

Ды так жыць невыносна!..

Роўна праз год пасля першага запою, таксама позняй восенню, здарыўся другі. Тады, праўда, Глеб паслаў дамоў тэлеграму, што з'язджае ў тэрміновую камандзіроўку на тыдзень. Прыехаў ён з тае «камандзіроўкі» такі ж сіня-зялёны, як і ў мінулы раз. І што самае крыўднае, Тамара не распытвала яго ні аб чым, а працягвала жыць, як жыла. Што такое рэўнасць, нармальныя чалавечыя пачуцці, каханне, мабыць, яна не ведала. Канешне ж, ён быў для яе проста рухавіком, машынай па выпрацоўцы долараў!

Праз год надарыўся новы прыступ гэтай страшэннай хваробы. Так, хваробы. Сіўцоў лічыў, што гэта не алкагалізм, а глыбіннае душэўнае захворванне, якое ў перыяд абвастрэння можа прывесці да самага жудаснага выніку. А гарэлка тут — проста лякарства ад душэўнай нематы. Аднак год таму запою не было. З чыста выпадковай прычыны: тады ўжо сапраўды давялося тэрмінова ляцець у Брусэль, вырашаць жыццёва важнае для фірмы пытанне. Добра, што за мяжу. Каб па Беларусі ці ў Расію — ён бы і ў камандзіроўцы сарваўся.

Калі Глеб вярнуўся з Бельгіі дамоў, то зазначыў, што прыступ мінуўся і псіхалагічны стан выправіўся. Значыць, можна абыходзіцца без гарэлкі і адольваць дэпрэсію іншымі спосабамі, напрыклад той жа працаю. Тады ён вельмі ўзрадаваўся гэтаму свайму адкрыццю.

Але падступіла новая восень, і прыкладна з сярэдзіны верасня Сіўцоў стаў адчуваць знаёмыя прыкметы хваробы: празмерную раздражняльнасць і ўсё часцейшыя прыступы беспрычыннага раптоўнага страху. Становішча ўскладнялася тым, што яго душэўнае разладдзе скрывалася за вонкавым спакоем і добразычлівасцю. Глеб ніколі не павышаў голасу на падначаленых, тым болей — не гарлаў і не мацюкаўся. Дома быў узорным бацькам, мужам і палюбоўнікам. Хоць насамрэч яму проста карцела распякаць, чыхвосціць, лаяцца і нават біць.

Вось нядаўна, напрыклад, яго моцна раззлаваў Васька Грыміч, асабісты вадзіцель. Ён курыў у машыне, не апусціўшы шкло. Просьбу ж Глеба праветрыць Васька ці то праігнараваў, ці то не пачуў. Словам, вадзіцель, не зва-

жаючы на яго, працягваў курыць, а гэта значыць, атручваць аслабленыя туберкулёзам Глебавы лёгкія. І тады ў яго проста засвярбелі рукі пляснуць Ваську па твары — ды так, каб праклятая цыгарэта ў рот правалілася. Ледзь стрымаўся тады Сіўцоў.

А тыдзень таму, за сняданкам, зарупела кінуцца на Тамару за тое, што яна гучна сёрбала каву, — кінуцца, збіць кухталём на падлогу і цягаць за валасы.

І нават дачушку Ніначку, якую ён бязмерна любіў, нярэдка хацелася адлупцаваць па мяккім месцы за непаслухмянасць, за тое, што пагарджае яго заўвагамі і ледзь што — бяжыць пад матуліна крылца, ведаючы, што тая заўсёды заступіцца за яе.

Словам, калі тры дні назад дачка не захацела паказаць хатняе заданне і Глеба проста затрэсла ад жадання схапіць яе за руку і павалачы да партфеля, тады ён зразумеў, што ўнутры яго выспеў нейкі монстр, якога трэба задушыць алкаголем. А інакш будзе трагедыя. Мабыць, у такім стане людзі бяруцца за зброю, урываюцца ў дзіцячыя садкі, школы і нападаюць на бязвінных. Глеб не хацеў гэтага.

З прычыны таго, што ў Сіўцова быў замкнёна-меланхалічны характар, ён не меў блізкіх сяброў — тых, з кім можна адвесці душу. Маральныя ўстоі не дазвалялі яму завесці палюбоўніцу. У яго жыцці сталася так, што ён быў адзін ва ўсім свеце. І гэты свет кожны дзень кідаў Сіўцову выклік: змагайся са мной, а то раздушу, як казюлю. Змагацца ж часам не было ні сіл, ні жадання.

## 12

Глеб узяў у правую руку поўную шклянку гарэлкі. Акраец «Барадзінскага» пакуль што паклаў на стол. Празрыстая цёплая вадкасць патыхнула ў нос непрыемным пахам. «Горкае лякарства», — усміхнуўся Сіўцоў і ўявіў, як зальюцца гэтыя сто грамаў вадкасці ў нутро, дзе тоіцца яго закляты вораг — хвароба, монстр, што безупынку атручвае жыццё, змушае баяцца і ненавідзець людзей. Уявіў, як здрыганецца гэтая пачвара, калі першыя кроплі ўпадуць на яе макаўку, як насцярожана і баязліва зморшчыцца. А затым… затым усё новыя і новыя порцыі гэтай атруты будуць ліцца на яе, затапляць. Пачварына стане супраціўляцца, соўгацца і бушаваць у Глебавым нутры, будзе прычыняць яму цялесныя пакуты. Аднак пасля доўгай агоніі сканае, і Глеб паправіцца.

Пара. Сіўцоў кульнуў «стопку», адным махам пракаўтнуў млосную вадкасць, занюхаў хлебам. Затым адкінуўся на спінку нізкага і невыгоднага крэсла, стаў прыслухоўвацца да сябе.

Працэс пайшоў. Вось апякло страўнік, і цеплыня пакрысе стала разыходзіцца па ўсім целе. Стала спадаць напруга апошніх дзён, да душы нібы падступала лагода… Але што гэта? Пасля непрацяглага расслаблення трывожны стан пачаў вяртацца назад, пагражаў перайсці ў агідназнаёмы страх… Ах, ну, канешне. Пачварына проста так не здаецца. Цяпер трэба не марудзячы прыняць і другую і трэцюю порцыі «лекаў».

Глеб схапіў бутэльку, паспешліва напоўніў блакітную шклянку, паднёс да рота. Ізноў той жа брыдкі пах ударыў у ноздры. Глеб міжволі адсунуў шклянку ад твару. «Ды што ж гэта я! Не, брат, трэба адужаць агіду і праглынуць», — і ён рашуча гэта зрабіў. Але, не паспела гарэлка прайсці ў страўнік, як пакутлівая спазма сціснула яму глотку. Аднак Глеб тут жа сунуў у рот акраец хлеба, стаў жаваць, і млосць паступова зменшылася.

«Нешта я спяшаюся, — сказаў ён сабе з дакорам, — гэтак можна нашкодзіць…» Ён узяў сцізорык і ўжо няпэўнай рукой успароў бляшанку стаўрыды ў таматным соусе. Апетыту не было, але Глеб прымусіў сябе з'есці палову. Затым адкінуўся ў крэсле і зноўку стаў прыслухоўвацца да сваіх адчуванняў. Праз хвілін пяць ён адзначыў, што млосць, прайшла, а значыць, страўнік запрацаваў як след і ўжо не ўзбунтуецца. А як страх? Не, страху таксама не было. І ў целе, і ў галаве з кожнай хвілінай станавілася весялей, Глебам авалодвала бестурботная млявасць.

Вечаровы краявід за акном нібыта папрыгажэў. Дзяжурныя агні, што асвятлялі дзетсад, здаваліся маленькімі зіхатлівымі зорачкамі, а навіслыя над дзетсадам пяціпавярхоўкі як бы высунуліся на пярэдні план, сталі бліжэй да Глеба. Іх жаўтлявыя вокны нагадвалі ёлачныя шары, іх можна было пакратаць рукамі…

Пасля эннай «стопкі» Сіўцоў плаўна перавандраваў у краіну мрояў, дзе стаўся не здыхлем-меланхолікам, а волатам, героем, пераможцам. Вось ён прыходзіць у фірму і выструньвае перад сабой падначаленых, падзывае кожнага да сябе, распякае, гоніць выконваць яго загады. Ён хвошча па шчаках Ваську, вадзіцеля, а той пакорліва стаіць перад ім на каленях. Вось ён заяўляецца ў офіс да заклятага Пацкевіча, хапае яго за шкірку, вывалаквае ў калідор, валіць і засоўвае галавой у сметніцу — наўздзіў Пацкевічавым саслужыўцам, якія ў здранцвенні і жаху назіраюць за тым, што робіць Сіўцоў. А вось ён калашмаціць Тамару, выганяе з дому, а яна цэлую ноч стаіць пад вокнамі ды ўмольна просіць, каб пусціў; раніцой Глеб велікадушна даруе жонцы і, дарэшты прыніжаную, пускае яе дамоў. Але цяпер яна будзе выконваць ролю прыслугі, гувернанткі ягонай дачкі і бяспраўнай наложніцы. Ён так вырашыў.

Затым Сіўцоў уявіў сябе Напалеонам, чалавекам з жалезнай воляй і прагаю славы. Ён пакараў цэлыя народы, прымушаў трапятаць перад сабой вяльможаў, браў непрыступныя цытадэлі. Перад ім мільгалі спякотныя краявіды Егіпта, высіліся аснежаныя вяршыні Альпаў, распасціраліся абшары Расіі. Усё было падуладна Глебу. Ён то імчаўся на хуткім кані, то стаяў на ўзвышэнні, прымаючы парад бравага войска, то задуменна глядзеў удалеч, намячаючы маршруты для сваіх новых паходаў…

## 13

Раніцой было ўжо не так памысна і весела. Калі Глеб ачуўся, то сядзеў усё ў тым жа крэсле перад сталом. За акном займаўся панылы шэранькі золак. На стале валялася адна пустая бутэлька гарэлкі. Другая, таксама спустошаная, тырчала заціснутая паміж яго левым сцягном і падлакотнікам крэсла. Яшчэ на стале знаходзіліся пустая бляшанка з-пад кансерваў, ледзь пачаты «Барадзінскі», шклянка і ножык.

Ныла ў правым баку, ламала паясніцу, галава была як чыгун цяжкая, і вяртанне да рэчаіснасці суправаджалася няўцямнай трывогаю.

Глеб падняў зацёклую руку, каб зірнуць на гадзіннік. Было без пяці сем. «Няўжо я так і праседзеў усю ноч?» — падумаў ён. Што было з ім ноччу, Сіўцоў не памятаў. Ён не памятаў, як здымаў світар, кашулю, бо зараз сядзеў у адной майцы. Кашуля ж і світар валяліся на падлозе, леваруч ад яго.

Глеб з цяжкасцю, па-старэчы падняўся з крэсла. Кружылася галава, ногі не слухаліся, у суставах нібы не хапала змазкі. Ён дачыкільгаў да акна, упёрся рукамі ў падаконнік і тупа прастаяў так хвілін пяць. Унізе не было ні душы.

Мозг не жадаў працаваць, ніводная акрэсленая думка не з'яўлялася ў галаве. Толькі незразумелая трывога, якую Сіўцоў адчуў адразу пасля абуджэння, усё нарастала. Яна патрабавала нейкага дзеяння, руху, яна ўжо не давала проста так стаяць ля акна. Глеб сарваўся з месца і пратупаў да супрацьлеглай сцяны, вярнуўся назад, паўтарыў гэта яшчэ і яшчэ. А затым, як апантаны, стаў кідацца па пакоі з кута ў кут.

Праз колькі хвілін такой вар'яцкай беганіны яго нібы азарыла. Ага, яго гняце тое, што ён не патэлефанаваў дамоў, што дачка з жонкай хвалююцца! «Чакай, — сказаў ён сабе, — я ж і хацеў, каб яны хваляваліся, каб не знаходзілі сабе месца, каб хоць цяпер успомнілі пра мяне…» І тым не менш, Глеб адчуваў, што не можа не пазваніць. Проста не можа.

Ён увішна нацягнуў на сябе світар, забег у ванную, спаласнуў твар, мокрай далонню прыгладзіў ускалмачаныя за ноч валасы. Прыгладзіў навобмацак, бо не наважыўся паглядзець на сваю фізіяномію, якая, мабыць, была страхалюднай.

У калідоры апрануў куртку, насунуў на галаву кепку, затым выйшаў з кватэры і замкнуў яе. «Не, я яшчэ не зусім адпіў мазгі, каб званіць з кватэры», — пахваліў сябе Глеб.

…Ён доўга споўдаўся па пустэльных дварах, пакуль адшукаў тэлефон-аўтамат. Гэта былі дзве напаўадкрытыя кабінкі, прывешаныя да жалезнага слупа. У адной не было трубкі, яе, пэўна, выдралі хуліганы. У другой кабінцы трубка была і нават выдала хрыплы гудок, калі Глеб прыціснуў яе да самага вуха. Ён набраў свой дамашні нумар. На тым канцы дроту адгукнуліся пасля першага ж гудка.

— Слухаю, — пачуўся рэзкі і, як здалося Сіўцову, халодны голас Тамары.

І тут Глеб раптам адчуў, што яму няма чаго сказаць гэтаму халоднаму, адчужанаму голасу. Вось калі б трубку зняла дачка…

— Слухаю вас, ало! — цвяліў Глебава вуха гэты агідны, амаль віскілвы голас.

У ім не адчулася болю, спагады, трывогі за мужа, які раптоўна прапаў, а — раздражненне, нават злосць на тое, што ён сваім знікненнем парушыў яе спакой, распарадак. Так, прынамсі, здалося Сіўцову. «Ненавіджу яе, хай памучыцца!» — у роспачы падумаў ён і павесіў трубку на крук. І тут жа хваравіта ўявіў, як, напрыклад, памрэ ён, Глеб, як дзелавіта панясуць яго на могілкі і ўпраўна пахаваюць і як ад гэтага нічога не зменіцца ў свеце. Гэтак жа будзе гучаць Тамарын то мякка-какетлівы, то віскліва-адчужаны голас, гэтак жа будзе завіхацца яна на працы, гэтак жа будуць бегаць перад ёю работнікі фірмы. Так, жыццё не спыніцца з яго смерцю. Гэта як лёду. «Нават радыя будуць яны. Поскудзі! — вылаяўся Глеб. — Ну і няхай». — І, хістаючыся на кволых нагах, пашыбаваў прэч ад тэлефонаў.

Усё, цяпер у яго не было тармазоў, цяпер толькі наперад. І пляваць на ўсё і на ўсіх. Ух, з якой прагай спяшаўся ён да свайго катуха, да запаветнай скрыні…

Перад ганкам яго пад'езда стаялі і гаманілі два пажылыя дзядзькі. Яны з падазрэннем агледзелі нягеглую Глебаву постаць, калі ён, апусціўшы твар долу, ішоў каля іх. «Пляваць і на іх. Ненавіджу!» — сказаў сабе Сіўцоў, заходзячы ў пад'езд. Яго біла нервовая дрыготка, калола ў правым баку, і кожны крок узмацняў гэты боль.

У кватэры Глеб ужо без усякіх цырымоній вышмаргнуў са скрыні бутэльку, скруціў корак і напоўніў блакітную «стопку». Зларадная ўхмылка крывіла ягоны твар…

## 14

Па меры таго як доўжыўся запой, з Глебам адбывалася невядома што.

Прасветліны ў свядомасці надараліся радзей і радзей.

…Аднойчы ў пакой заляцеў стары груган. Ён прарэзліва каркаў і доўга кружляў перад Сіўцовым. Груган хутка стаў раздражняць. Глеб схапіў бутэльку і запусціў у яго, але прамахнуўся. Тады крылаты прыхадзень усчаў каркаць так, што Глебу падалося, ён насміхаецца з яго. Карканне было падобна на жудасны, пякельны рогат. Сіўцоў хацеў узняцца з крэсла і пагнацца за груганом, аднак ногі знямелі, ён іх не адчуваў. Глеб стаў ліхаманкава мацаць і расціраць сцёгны, калені і лыткі, шчыпаць іх, але марна: ён аказаўся зняволеным у нізкім крэсле. Не паспеў Глеб усвядоміць увесь жах такога свайго становішча, як крэсла тарганулася пад ім і… адарвалася ад падлогі. Што гэта?! Па баках, з падлакотнікаў, высунуліся вялізныя чорныя крылы, яны ўзмахнулі раз, другі, трэці, і крэсла разам з Глебам паляцела па пакоі. Яно ганялася за груганом, які спрытна выкручваўся ад яго і безупынку каркаў. Каркаў усё гучней і гучней. Глебу здавалася, што вушныя перапонкі не вытрымаюць гэтых д’ябальскіх гукаў, таму ён шалёна лятаў за груганом і цягнуў да таго рукі, спадзеючыся схапіць за крыло. Адзін раз Сіўцоў нават набраў добрую хуткасць і ўжо, здаецца, наганяў ліхадзея, ужо кранаўся пальцамі яго чорнага апярэння… як той нырнуў у адчыненую фортку і знік. Сіўцоў жа, разам з крэслам, на той жа хуткасці, з якой ляцеў, стукнуўся аб раму і абрынуўся на падлогу…

Глеб стаў на калені і агледзеўся па баках. У святле шэрага дня ён убачыў, што знаходзіцца пад акном, ля батарэі ацяплення. Крэсла, на якім ён лятаў, стаіць на сваім месцы перад сталом. На стале і пад ім валяюцца пустыя гарэлачныя бутэлькі. Ён налічыў іх штосьці каля васьмі. «Якое сёння чысло? — падумаў Глеб. — А, зрэшты, якая розніца», — і папоўз на карачках да скрыні з бутэлькамі, што стаяла ад яго ў двух метрах…

Потым Сіўцоў хадзіў па нейкім лесе, збіраў грыбы з сінімі капялюшыкамі, смакаваў іх сырымі. Грыбы былі горкімі, і ён іх выкідаў. Пасля забрыў у нейкае балота, груз у багне па пояс, аднак выйшаў да ручая з сухімі пясчанымі берагамі. Сеў на пясок, апусціў ногі ў ваду, наталяўся яе прахалодай. Раптам з вады высунулася галава пекнай дзяўчыны, а затым — і гнуткае маладое цела. Дзяўчына падышла да Глеба, села побач і абняла яго за плечы. Але замест асалоды ад гэтых абдымкаў ён адчуў толькі холад, што ішоў ад яе скуры. Сіўцоў з агідай адхіснуўся ад незнаёмкі, але тая кінулася на яго, ахапіла цэпкімі рукамі, прынікла халоднымі вуснамі да яго шыі, паваліла на пясок. Вусны і рукі нахабніцы казыталі яго цела. Ад гэтага козыту ён самлеў, страціў апошнія сілы і не мог супраціўляцца. Дзяўчына пачала сцягваць з яго майку і штаны. І тут у яе твары, што з юрлівай усмешкай навіс над Сіўцовым, ён пазнаў знаёмыя рысы… Гэта была яго жонка Тамара! Ён хацеў адчайна закрычаць, але язык прысох да нёба. Ані гуку не вылецела з Глебавых вуснаў. А Тамара працягвала нясцерпна казытаць і сцягваць з яго вопратку…

Тут Сіўцоў ненадоўга ачуўся. Ён сядзеў на краі ванны, з крана тонкім струменьчыкам цурчала вада. Глеб хацеў апаласнуць твар, але так і не змог, не было сілы. Ён не памятаў, ці закрыў кран, мабыць, закрыў, бо вада не цурчала. Ачуўся ўжо за сталом, у звыклым крэсле: адкаркоўваў чарговую бутэльку…

Праз нейкі момант стала вакол зусім цёмна, а з усіх кутоў пакоя чуліся енкі, стогны, жахлівыя выкрыкі. Нехта клікаў Сіўцова па імені. Нехта выў

журботную песню хрыпатым голасам. Нехта біў у бубен… Напалоханы гэтымі гукамі, Глеб скурчыўся і нерухома сядзеў у крэсле. Ён спадзяваўся, што неўзабаве гукі аціхнуць. Але яны не толькі не аціхалі, а з кожнай хвілінай узмацняліся, іх станавілася ўсё больш. Не маючы сілы далей трываць гэтую д’ябальскую какафонію, Сіўцоў сарваўся з месца і няўцямна забегаў па цёмным пакоі. Ён натыкаўся на сцены і малаціў па іх кулакамі, збіваў рукі ў кроў. Раптам сцены зрабіліся падатлівымі, нават ліпучымі, і ўдары пачалі ў іх вязнуць. Небарака з цяжкасцю адрываў рукі ад нейкага цеста, якое ўсё расло, наступала з усіх бакоў, сціскала пакой у памерах і намервалася задушыць Сіўцова ў сваіх абдоймах. З шэрай масы цеста пачалі выступаць нейкія морды. Яны ўхмыліста крывілі свае шчарбатыя раты, свідравалі лупатымі вачыма няшчаснага Глеба. Ён калашмаціў іх кулакамі і вяз. Выдзіраўся, накідваўся на іх і вяз зноўку. Вольнай прасторы станавілася менш. Дыхаць было цяжэй. Тым больш што ад цеста ішоў кіслы задушлівы пах. З-пад адной морды праступіў абрыс тулава, з тулава выраслі рукі з доўгімі пальцамі. Гэтыя гнуткія, як вяроўкі, рукі аблыталі Глеба і павалаклі да страшэннай пашчы, мабыць, наважваючыся праглынуць. Пашча разявілася так шырока, што туды б змясціўся не адзін, а тры Сіўцовых…

«А-а-а-а!» — раздаўся жудасны енк. Гэта закрычаў ён сам, ды так моцна, што ўсё цеста апала і пакой пашырыўся, набыў ранейшыя межы. Шэранькае святло залівала сцены, падлогу і столь. Але дзе ж тахта і шафа, дзе крэслы і стол? Дзе, нарэшце, запаветная скрыня з «вогненнай»?

— Стой і не варушыся, — пачуў ён упэўнены нізкі голас — голас з на рэдкасць прыемным, супакойлівым тэмбрам.

— Хто вы? — спытаўся Глеб, знерухомеўшы ад нечаканасці; ён паглядзеў па баках, але нікога не ўбачыў.

— Я твой сябар, — адказаў голас, — я табе памагу. Але ты павінен даверыцца мне.

— Што я павінен рабіць? — Глеб адчуў, што пытанні ён задае як бы не па сваёй волі.

— Слухацца мяне. Я пакажу табе райскую краіну, а затым ты пойдзеш са мной. — Пасля гэтых слоў шэрыя сцены пакоя ўспыхнулі яркімі фарбамі.

Зачараваны, Глеб азіраўся вакол. Ён бачыў вялізныя пурпуровыя кветкі, бачыў усыпаныя дзівоснымі пладамі дрэвы, бачыў нязнаных звяроў і птушак, якія ўражвалі яго сваёй афарбоўкай і галасамі. Па ружовым небе, што заняло месца столі, плылі жоўтыя аблачынкі. У паветры валадарылі незнаёмыя водары. Пад нагамі расла мяккая трава, Глеб адчуваў гэтую мяккасць голымі ступнямі. Недзе мілагучна цурчала вада… Усё было дабрадатным у гэтай краіне, усё яму падабалася.

— Ну як табе? — спытаўся зычлівы голас. — Пойдзеш са мной?

— Пайду, — без ваганняў адказаў Глеб.

— І правільна. Хопіць пакутаваць на гэтай зямлі, — працягваў голас. — На зямлі, дзе ніхто цябе не любіў.

— Не любіў, — паўтарыў Глеб і тут жа ўбачыў, як наперадзе, за гаем бухматых дрэў, загарэлася дзівоснае святло.

Вось гай расступіўся, і святло палілося Сіўцову ў вочы, але не сляпіла, як сонца, а лашчыла сваімі промнямі, лагодзіла…

— Хадзем, — ласкава сказаў голас; ён прагучаў цяпер з самага цэнтра наваяўленага святла.

— Ты ёсць святло? — міжволі спытаўся Глеб.

— Хадзем, — яшчэ ласкавей вабіў голас.

І тут пранізлівы, умольны крык страсянуў Сіўцову душу:

— Не хадзі! Не хадзі за ім, Глебачка!

Голас здаўся надзвычай знаёмым. Няўжо…

— Павярніся да мяне, сынок! — прагучала ўвушшу.

Божа, гэта была яго маці.

— Мама? — пралепятаў Глеб і тут жа ўсумніўся: — Не можа быць. Ты ж пазалетась памерла. Я ж ездзіў дамоў, сам цябе пахаваў…

— Хіба маці паміраюць, сынок?

— Не слухай яе, — пачуўся зноў добразычлівы голас. — Цябе хочуць у каторы раз падмануць. Хадзем са мной… — І нязнанае святло заструменіла на Глеба з новай сілай.

— Сынок! Глебчык мой! Не ступай туды ані кроку! — адчайна плакаў з-за спіны голас маці. — Абярніся да мяне і пазнай…

— Не, я не веру табе, — адчужана прамовіў Сіўцоў, — ты памерла і павінна быць там, дзе святло… Ты не можаш быць ззаду.

— Наперадзе нічога няма, гэта зман, — маліў яго матулін голас. — Павярніся назад, сыночак…

— Не слухай яе, — ліслівa заклікаў спераду нізкі голас. — Хіба мала табе там дасталося, каб вяртацца назад? Мала з цябе здзекаваліся, мала табе здраджвалі? Хочаш яшчэ?

— Не хачу.

— Дык руш!

— Сынок! Ты толькі павярніся, родны, і ўсё зразумееш. Толькі абярніся! — дрыжаў у вушах голас, надзвычай падобны на матулін.

— Мне дрэнна на зямлі, мама, — рашуча сказаў Глеб. — Мяне ніхто не любіць пасля тваёй смерці. Не хачу абарочвацца. Я пайду на святло.

Ён ужо ступіў крок, як адчуў да болю знаёмую ціхую песню:

Час вячэрні, спі, малеча,
ахінай прыгоды ў сны.
Гэтым часам сціхла рэчка
у зялёным гушчары.

Гэта была калыханка — тая, што чулася яму з самага дзяцінства, тая, якую пяюць толькі ў іхніх мясцінах, тая, што перадалася яго маці ад бабулі, а бабулі ад продкаў. Напеўная, натуральная матчына мова, тыя словы, што можна пачуць толькі на правым беразе ракі, на якім стаяла і цяпер яшчэ стаіць вёска, у якой ён нарадзіўся. Яе ўпэўнена выводзіў матулін голас:

Засынае ўсё наўкола –
горад, вёскі і палі.
Птушак сцішылася мова,
ноч пануе на зямлі.

Глеб паверыў у гэтую песню і стаў паволі абарочвацца…

Госпадзі, ды што ж гэта?! Нязнанае святло, што так вабіла яго ўвесь час, вокамгненна пагасла. Цяпер пад Глебам зеўрала прорва ў чатыры паверхі: ён стаяў у праёме адчыненага акна, трымаўся левай рукой за край муру, а правая нага вісела ў паветры. Наўкол панавала ноч. Гарэла толькі дзяжурнае асвятленне дзетсада, яно выяўляла крывыя сукі дрэў, што пад домам, — тыя сукі, на якія б так хораша напароўся Глеб, каб рушыў наперад…

Асцярожна, каб не страціць раўнавагі, Сіўцоў павярнуўся на падаконніку і саскочыў на падлогу.

Пакой, як і раней, асвятляўся толькі косым святлом з калідора. На стале віднеліся бутэлькі, бляшанкі кансерваў, хлеб… Сіўцоў спалохана падышоў да скрыні: там заставалася пяць непачатых бутэлек. Ён узяў іх у дзве рукі — за рыльцы, а адну нязграбна локцем прыціснуў да жывата — і панёс у ванную. Там адкаркаваў і выліў у ракавіну. Затым прашоргаў на кволых нагах назад у пакой, паспешліва зачыніў акно. Сеў на тахту. І тут зноў, але ўжо зусім слаба, загучала ў яго вушах матуліна калыханка…

Мама побач, спі, малеча,
заўтра дзень асвеціць нас,
будуць новыя сустрэчы,
пабяжыць цікава час.

Будзе сонца ліцца ярка –
сонца мілае прысні
і ручай, што бегам шпаркім
паліруе камяні.

Здрыгануўшыся ўсім тулавам, Глеб паваліўся на правы бок і зарыдаў. Сутаргі білі яго змардаванае алкаголем цела. Ён упаў з тахты і рыдаў, калачоючыся па падлозе. Гэта быў працяглы і пакутлівы прыступ. Так курчацца ў сутаргах апантаныя дэманам у царкве пры адчытцы…

Ненавісная пачварына пакідала яго душу.

Прайшло, мусіць, з паўгадзіны, пакуль Глеб супакоіўся. Ён адчуў холад, ускараскаўся на тахту, захутаўся з галавой у пакрывала і, засынаючы, зноў пачуў далёкі напаўзабыты голас маці:

...Час вячэрні, спі, малеча,
пад матулін галасок.
Спяць сялібы і мястэчкі,
і гадзіннік сцішыў крок.

Сні прыгожыя дубровы,
вёскі ў сонцы і лугі.
Птушкі скончылі размовы,
спі, мой самы дарагі.



## Рагнед МАЛАХОЎСКІ

### ПАВЕРЫЦЬ У ВОСЕНЬ

Хочацца верыць,
Што гэта лістота ўваскрэсне.
Ціхі агонь заірдзеў
Між задумлівых дрэў.
Шызых нябёсаў
Ліецца панылая песня.
Як зразумець
Гэты слёзна-трывожны напеў?

Хочацца верыць,
Што вернуцца птушкі дадому.
Іншага дому
У іх і ў мяне не было.
Сэнс гэтай восені
Я да канца не ўсвядоміў.
Толькі б вярнуліся птушкі
І ўсё ажыло.

Хочацца верыць,
Што восень палюбіць паэтаў.
Кожны згарэлы лісток —
Ненапісаны верш.
Кроплі дажджу неўгамоннага —
Безліч сусветаў.
Чулую восень
Палюбяць паэты найперш.

---

*__Малахоўскі Рагнед Юр'евіч__ нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (2009).*

*Працаваў у часопісах «Полымя», «Бярозка». Цяпер — у часопісе «Маладосць».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Беражніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012).*

Хочацца верыць у восень,
Якая не плача.
Полымя не пагасае ў пагоднай душы.
Стану між клёнаў крамяных
І, можа, на ўдачу
Кіну лісток у калюгу
На слізкай шашы.

## ВАЛУН

Пад наглядам нялічаных лёсаў
Ва ўладаннях зямных Перуна
Разбіваліся слёзы нябёсаў
Аб маршчыністы лоб валуна.

Ён стаяў ля народнай святыні,
Ён святыню ад зла вартаваў,
У жыццёвай бязлітаснай плыні
Сваю мудрасць быцця гартаваў.

Так сплывалі сівыя стагоддзі
За крывавы ліхі небакрай.
І адвечна казалі ў народзе:
«Той валун
Беражэ ўвесь наш край».

І шалелі вятры над Айчынай,
І не раз бушавала вайна.
І глыбелі крывыя маршчыны,
Што палеглі на твар валуна.

Сваёй верай ён можа сагрэцца,
Сваёй праўдай — дабро бараніць.
І пульсуе каменнае сэрца,
Покуль свет непахісна стаіць.

* * *

Неба — поле шахматнае:
Пешкі, каралевы...
Толькі б дачакацца
Спрэчных вынікаў гульні.
Волкі далягляд
Фарбуюць колеры залевы,
Гаснуць
Акрываўленага сонца прамяні.

Стане чалавецтва сузіраць
Зыход той бітвы,
І пачуцці свету
Перамогуць інтэлект.

Недзе ў мітусні
Гучаць адчайныя малітвы,
А гульня акрэсліць
Свету новага праект.

Ноч міне,
І партыя чарговая пачнецца…
Шахматы —
Гульня непрадказальная заўжды.
Шах —
І неба звонкай навальніцай праліецца.
Мат —
І чалавецтва ці пазбегне злой бяды?

## МЕРА СВАБОДЫ

Чарговы дзень мінуў у барацьбе
За шчасце, што знікае, як хімера...
Свабоды ўсмешка мроіцца табе.
А я ў яе карысць няпэўна веру.

На аркуш поля боязна ступлю
У гуле завірухаў адзічэлых.
Свабода разнявольвае зямлю.
Зноў стану
Круг жыцця чарціць няўмела.

Хоць пра свабоду столькі гучных слоў,
Ды мераю якой свабоду мерація?
Бяжыць мая свабодна ў жылах кроў.
У кроне вольна гушкаецца месяц.

А ў думках ці змяшчаецца сусвет?
А ў дзеяннях быць можа толькі воля?

У гордым вершы вольны быў паэт
На аркушы заснежанага поля.

* * *

***Максіму Танку***

Калі хмурнее волкі надвячорак,
Ці памятае сонца свой усход?
Над родным краем —
Неспакойны морак,
Бы ў іншы свет
Для грэшных пераход.

Я з гэтым неспакоем заручоны
І прагну кожны раз сюды вярнуцца,

Дзе час стварае ўласныя законы,
Дзе хвалі
Рытмам верша
Ў бераг б'юцца.

## ВЯСЛЯР

*Алесю Бараноўскаму*

Белым лебедзем месяц плыве...
Я вяслую ў жаданыя далі.
У касмічнай чужой сіняве —
Сонных воблакаў мутныя хвалі.

Праз спакусы жыцця —
Напралом —
Я вяслую бадзёра, адчайна.
І рыпіць у напрузе вясло —
Будзіць возера даўнюю тайну.

Столькі думак аб вечным і кроз...
Набрыняла спакоем свядомасць.
Толькі лебедзь плыве,
Як мой лёс,
З невядомасці
У невядомасць.



Алег ЛОЙКА

# АДЗІН НА ЎСІХ СУСВЕТ

## КРЫНІЦА БАГАЦЦЯ

Я помню — калісьці празрыстае ранне.
Калі яшчэ стылі халодныя росы,
Паклікалі вабна мяне на спатканне
Чароўныя светлым блакітам нябёсы.

Свой гуд мне данеслі зялёныя травы,
Што ладным абрусам зямлю агарнулі.
Пазвалі праменьчыкі сонейка жвава,
Якія наўколле лагодна кранулі.

І выбег тады я з вясковае хаты,
Каб шчасна дзівосам прыроды дзівіцца,
Галотны грашыма — душою багаты,
Бо веліч прыроды — багацця крыніца.

## НЕМІНУЧАСЦЬ

Як вясною зелень-траўка
Буйнай квеценню сваёй
Неадкладна стройна, шпарка
Атуляе свет красой,

Так і маладосці сіла,
Цвёрды, ярасны граніт,
Распраўляе горда крылы —
Нестрыманы бурны спрыт.

---

*__Лойка Алег Паўлавіч__ нарадзіўся 6 лістапада 1987 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2010), магістратуру (2011). Цяпер — аспірант кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу гістарычнага факультэта БДУ.*

*Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы.*

З маладосцю гуд надзеі
І крышталь нязгасных мар.
З ёй бясконца лашчыць-грэе
Светласць жыццятворных чар.

...Толькі як усё ж імкліва
Свой губляе зелень цвет.
Мо таксама мітусліва
Млее маладосці след...

## ПРЫГЛЯДАЮЧЫСЯ ДА ЗОР

Немінуча над горадам кроч,
Таямнічая, ціхая ноч.
Ды чаруючым россыпам зор
Запляці свой сярэбраны ўзор.

Цішынёю, спакоем крані
Кожны дом ды куточак зямны.
Хай загаснуць умомант агні —
Нагарэліся досыць яны.

Як дасціпны жыцця рэвізор,
Я пачну прыглядацца да зор.
Можа быць, што і з зоркі начной
Хтосьці сочыць таксама за мной.

* * *

Сумна,
Адзінокі,
Свеціць
Ночкай цёмнай,
Ночкай доўгай,
Той жа самы
Дзядзька-Месяц,
Што свяціў яшчэ
Міндоўгу.

## «ЖОЎТЫ» РАЗЛАД

Схавалася ясная вольная просінь,
Ды хмарнае неба глядзіць з вышыні, —
Прыйшла жаўтакрылая сумная восень...
Самотна на сэрцы — няма цеплыні.

Зусім анямела, ляжыць сабе долу
Пажоўклае лісце касой залатой,
Ціхмяныя дрэвы схіляе міжволі
Гарэзлівы вецер — свавольнік шчэ той!

І неяк больш шэра — загаслі праменні.
Дажджы шапаткія турбуюць часцей.
Гасцінец маўклівы глядзіць задуменна,
З журбой сустракае ён рэдкіх гасцей.

Куды ты схавалася, вольная просінь?
Куды збег твой ясны блакітны пагляд?
За вокнамі — сумная жоўтая восень,
Яна нарадзіла на сэрцы разлад.

## ПОДЫХ ВОСЕНІ

Настрой мой пануры і воўчы.
Душэўныя згаслі агні, —
Бясконцыя цёмныя ночы,
Кароткія шэрыя дні.

## ЗІМОВЫ ШПАЦЫР

Зіма набірае разбег —
Пануе марозная сцюжа:
Густы узмяцелены снег
Над горадам казачна кружыць.

Сцюдзёны зімовы віхор
Бяжыць у нястрыманым руху;
Нябеснага срэбра узор
Зіхціць на завеяным бруку.

Завея пусцілася ў лёт —
На вуліцах сцюжна гуляе:
Сняжынак сівых карагод
Пейзаж гарадскі атуляе.

## «МІФАЛАГІЧНАЯ» АМБІВАЛЕНТНАСЦЬ

Як старажытнагрэчаскі герой,
У непакорнага, здаецца, лёсу
Хацеў бы выйграць кожны новы бой,
Які падораць грозныя Нябёсы.

Хацеў бы, каб лясісты Гелікон
Сваёю вабіў, чараваў красою
І каб кіфары пекны перазвон
Захоўваў на душы вясну настрою.

Марской стыхіі бачыць ціхі дых
У пераліве светлазорай пены,
Нясцерпна прагну, каб уласны слых
Пачуў здаля гуд водаў Гіпакрэны.

Забыўся б на бясконцы лік турбот,
З багамі бесклапотна жыў бы ў згодзе,
І з німфамі б адправіўся ў палёт,
І цешыўся б у музаў карагодзе.

Нічога з гэтага! Адно наўкол
Прывычна-родны мой пакойчык шэры:
І крэслаў пара, і вялікі стол,
І блёкла-састарэлыя шпалеры.

## У ЦЯГНІКУ

Па-хатняму утульна і трошкі душнавата
Ад вабнай прастаты кранальна-цёплых чар.
І стыне на стале надпітая гарбата,
І пераносіць сон у свет ласкавых мар.

А за акном — жыццё… Мільёны лёсаў
Схаваны ў шэрасці сівых драўляных хат.
А пада мною хор грыміць цяжкіх калёсаў,
Нястомна-галасіста, на свой лад.

Душы спакойна. І няма ніякай справы
Да безлічы турбот-праблем, што за акном.
Цягнік ляціць-імкне да люднае Варшавы,
Штодзённа-немінучай мітусні на злом.

## АДЗІН НА ЎСІХ СУСВЕТ

Дзе б ты ні пражываў —
Ў Амерыцы Паўднёвай,
Ці ў Азіі, ці мо ў Еўропе, ўжо старой,
Паўсюль адзін на ўсіх глядзіць маладзіковы
Блішчасты месяц з далечы нябёс сівой.

І гэтаксама сонейка ласкава грэе —
Адно на ўсіх —
І лашчыць ветла кожны край.
Таксама ўсход паўсюдна кметна ружавее,
Змяняючы начы няветлівы адчай.

Сусвет абсяжны, і няма ніякіх межаў!
Нябёс вышыні
І сузор'яў вабны цвет —
Аднолькава нам гэта ўсё, сябры, належыць,
Бо гэта наш адзін,
Адзін на ўсіх Сусвет.



**Яўген ШЫШКІН**

# ЦІ ВІНАВАТАЯ Я?

*П'еса ў дзвюх дзеях*

***Вядомы рускі часопіс «Наш современник» пастаянна друкуе творы беларускіх пісьменнікаў. Толькі ў апошнія гады тут пабачыла свет проза, паэзія, крытыка і публіцыстыка многіх нашых літаратараў. Сярод іх — Алесь Карлюкевіч, Алесь Бадак, Наталля Касцючэнка, Віктар Гардзей, Анатоль Крэйдзіч, Міхась Пазнякоў і іншыя.***

***Прапануем чытачам п'есу даўняга сябра Беларусі, вядомага рускага празаіка і драматурга, загадчыка аддзела прозы часопіса «Наш современник» Яўгена Шышкіна «Ці вінаватая я?». Спадзяёмся, што твор выкліча цікаўнасць і ў тэатральнай грамадскасці.***

**Дзейныя асобы:**

**Спірын Сяргей Аляксандравіч,** адвакат.
**Тамара,** жонка Спірына.
**Алег,** сябра Тамары.
**Бабка Люша,** знахарка, вядзьмарка.
**Дзед Сямён**, муж бабкі Люшы.
**Курдзюмаў Генадзь Барысавіч,** прадпрымальнік, конезаводчык.
**Святлана,** жонка Курдзюмава.
**Соф'я,** сакратар суда, сяброўка Тамары.
**Антаніна Іванаўна,** прыбіральшчыца ў судзе.
**Косараў Леў Мікалаевіч,** кіраўнік Шахматнага клуба.
**Марына,** бармэнша Шахматнага клуба.

## Дзея першая

ДОМ БАБКІ ЛЮШЫ.

### *З'ява 1*

*Бабка Люша дастае з камода старыя караллі, шкляныя ўпрыгажэнні. Прымярае, глядзіцца ў люстэрка. З другога пакоя за ёю назірае ў прыадчыненыя дзверы дзед Сямён. З'едліва ўсміхаецца. Раздаецца стук ва ўваходныя дзверы. Дзед Сямён хаваецца.*

**Бабка Люша.** За вокнамі ж цемра. Нікога не чакаю. *(Здымае ўпрыгажэнні, ідзе адчыняць дзверы.)* Хто? Хто там?

**Тамара.** Баб Люш, гэта я, Тамара. Ты ўжо даруй, што гэтак позна. Не напалохала?

**Бабка Люша.** Абы старога не пабудзіць. А мяне ўжо не спалохаеш. І красці няма чаго — старасць ды хваробы. Ну, прывітанне! Даўно ж ты, дзяўчыначка, не заходзіла… Во, якая вясёлая ды прыбраная! І расказаць, пэўна, ёсць што?

**Тамара.** Ёсць, баб Люш. Ёсць! А гэта пачастуначкі табе. *(Кладзе на стол пакет з цукеркамі.)* Я ж замуж выйшла! Бачыш, і пярсцёнак заручальны.

**Бабка Люша.** Ну, тады садзіся, чайку пап'ем… А ці даўно ты з пярсцёнкам, дзяўчыначка?

**Тамара.** Чатыры месяцы і два дні.

**Бабка Люша.** Бач ты! Вылічыла! Бачна, моцна ён цябе прычараваў, калі замужжа днямі вымяраеш.

**Тамара.** Дарагога яно мне каштуе — вось і вымяраю. Сама ведаеш, усе сваімі парадамі ды шкадаваннем ужо замучылі: засядзішся ў дзеўках. А я свайго часу чакала.

**Бабка Люша.** А ён — ці не той хлопец з барадой, з якім цябе неяк бачыла?

**Тамара.** З барадой — Алег. Сябра. Я, напэўна, падабалася яму, але… Любові да яго не здарылася… Было, пасяджу, паплачу ў адзіноце, ды й суцешу сябе: будзе і на тваёй вуліцы гарэць вогнішча.

**Бабка Люша.** Ну і як? Загарэлася вогнішча? Ці той агонь шугае? Ці не паспяшалася?

**Тамара.** Той агонь, баб Люш! Абпальвае ўсю… Мне часам нават няёмка ад шчасця майго. Пагляджу на мужоў маіх знаёмых — сум бярэ: адзін п'е, другі — ні тое ні сёе, трэці — скупянда…

**Бабка Люша.** А ў цябе, трэба думаць, анёл!

**Тамара.** Не проста анёл. Ён сапраўдны мужчына! У ім моц, баб Люш. Я веру яму.

**Бабка Люша.** Давярай ды правярай. Але і анёл не папугай, у клетку не пасадзіш. Гэта папугая ў клетку зачыні ды й любуйся. А анёл, ды калі ж яшчэ мужык, выпырхне — толькі ўспамін пра сябе пакіне.

**Тамара.** Ды не мужык ён, мужчына!

**Бабка Люша.** Усё роўна: усе яны сукіны дзеці… Ну ды годзе, дзяўчыначка, бачна, не проста прыйшла ты ў такі час?

**Тамара.** Сон мне прысніўся, баб Люш… Не так каб жахлівы там ці благі, але нязвычны. Трэці дзень ён мне душу муціць…

**Бабка Люша.** І што за сон такі?

**Тамара.** Прыснілася мне, нібыта я на сцэне, а ў зале людзі сядзяць. Я ўся ў белым і спяваю. Я ж у жыцці ні на якую сцэну не выходзіла, і слыху ў мяне няма. А тут, баб Люш, стаю перад паўнюткай залай ды спяваю. І песня гэтая да мяне так прывязалася, што і цяпер у вушах звініць: «Виновата ли я?» называецца.

**Бабка Люша.** Можа і чула. Цяпер шмат хто толькі рот разяўляе.

**Тамара.** *(Спрабуе спяваць.)* «Виновата ли я? Виновата ли я? Виновата ли я, что люблю?..» І ўсё падаецца, што людзі на мяне глядзяць, нібыта чымсьці я памечаная… Можа, баб Люш, нагавор які на мне? Ці то сурок? Ты ж здымаць умееш. Можа, дапаможаш?

**Бабка Люша.** Ды ўжо які з мяне цяпер лекар… *(Падумаўшы.)* Ты распраніся. Кофтачку скінь. Я пагладжу цябе. Вадзічкай пырсну. Нічога, можа ўсё адыдзе.

*Бабка Люша сыходзіць. Тамара адна, распранаецца.*

### З’ява 2

*У дзвярах з’яўляецца дзед Сямён. Назірае за тым, як распранаецца Тамара. Тамара, заўважыўшы яго, ускрыквае, прыкрываецца кофтай.*

**Дзед Сямён.** Во, які стрыптыз наладзіла! Хэ-хэ!

**Тамара.** Як жа напалохалі вы мяне, дзед Сямён. Падглядаць нядобра!

**Дзед Сямён.** Ды ну! На прыгожую дзеўку і паглядзець хораша! Чую, са старой маёй варкуеце. Пярсцёнкам бліщчыш… Замуж выйшла. За багатага? Цяпер дзеўцы толькі за багатага трэба.

**Тамара.** Чаму?

**Дзед Сямён.** Таму што ў дзеўках дзеўка яшчэ можа памыляцца. А як бабай стане, дык грошы для яе — самае патрэбнае. Усё каханне ў іх.

**Тамара.** Каханне вышэй за грошы.

**Дзед Сямён.** Гэта калі ўсе беднымі былі, бабы імкнуліся каханне прыдбаць. А цяпер без грошай і каханне не каханне. Як шар надзьмуты. Ткні яго — і лопнуў. Хэ-хэ!

**Тамара.** Няпраўда! Вы, дзед Сямён, цынік, агрубляеце ўсё… Сапраўднае каханне зверху даецца.

**Дзед Сямён.** А я думаю, што знізу. Калі ў мужыка знізу ціснe, ён зусім без мазгоў робіцца. Тады ўжо, баба, бяры яго гарачанькага. Вось і выходзіць: для бабы каханне прыходзіць зверху — з бязмозглай мужыковай галавы, а ў мужыка каханне падпірае знізу. Хэ-хэ!.. І хто ён у цябе?

**Тамара.** Адвакат.

**Дзед Сямён.** О, у наш час работа добрая! Злодзеі, хабарнікі — усім выкруціцца трэба. І дзе ж ты такога цапнула?

**Тамара.** У судзе. У мяне там сяброўка Соня сакратаром працуе. Я да яе ў суд зайшла, а ён там — Сяргей Аляксандравіч Спірын!

**Дзед Сямён.** О! Ты і ў ложку яго гэтак афіцыйна клічаш?

**Тамара.** Ды ну вас!

### З’ява 3

*Уваходзіць бабка Люша са шклянкай вады, запаленай свечкай і чырвонай вяровачкай.*

**Бабка Люша.** У-у, стары чорт, заўжды ты не ў час. Ідзі адсюль!

**Дзед Сямён.** Усё вядзьмарыш?

**Бабка Люша** *(выпіхвае дзеда Сямёна, бурчыць).* Вось жа бяда, гэткага чорта ў мужы ўзяць… *(Да Тамары.)* Стань жа сюды, дзяўчыначка… *(Робіць чарадзейныя маніпуляцыі са свечкай, вяровачкай, пырскае на Тамару вадой.)* Нагавору на цябе ці то суроку не бачу. Сны гэткія ад уражання, пэўна, ад твайго моцнага. Кахаеш ты яго надта, пакутуеш. Гэта спачатку так бывае. Кахай меней — дык і хваляванні меншыя будуць, і сон мацнейшым, без дурноты.

**Тамара.** Як жа так можна, баб Люш, кахаць меней? Ды гэта і немагчыма зусім! І не трэба! Сябе абкрадаць…

**Бабка Люша.** Як хочаш. Кожны бярэ сабе столькі, колькі панесці зможа. Горш няма, калі многа возьмеш ды не панясеш.

**Тамара.** Панясу, баб Люш. Панясу!

*Тамара абдымае Бабку Люшу і сыходзіць.*

### *З'ява 4*

*З'яўляецца дзед Сямён.*

**Бабка Люша.** Якая шчаслівая паляцела. Дачакалася, кажа, шчасця свайго.

**Дзед Сямён.** Адхапіла, злавіла ў сетку. Адвакат!

**Бабка Люша.** Цябе, стары ёлуп, паслухаць, дык усе бабы шэльмы.

**Дзед Сямён.** Сапраўды так! Таму што ў мужыка рука вось раскрываецца *(расціскае кулак)*, а ў бабы яна толькі так працуе *(сціскае кулак, дэманструючы хапальныя рухі).* Таму мужыкі і жывуць менш.

**Бабка Люша.** Затое п'юць і гуляюць шмат. Цьфу на цябе! *(Раптам каралі ў руках бабкі Люшы рвуцца.)* Вох, што ж гэта так! Як жа я! Нядобрая прыкмета. *(Глядзіць у той бок, куды пайшла Тамара.)* Ужо надта кахання ў ёй шмат. На такую чысцюткую душу ды адразу столькі шчасця. Ці вытрымае? Вох! *(Падбірае пацеркі.)* А вось жа каб выпаў такі жаніх ды на брудную душу, дык, пэўна, і шчасця ніякага не было б?

**Дзед Сямён.** Сапраўднае шчасце чысціню любіць, гэта так… Манюк ды брыдоты не прызнае… Што, старая, зноў сагнула цябе за вядзьмарства тваё? Хэ-хэ!

КВАТЭРА СПІРЫНЫХ. СПАЛЬНЯ. ГАСЦЁЎНЯ.

### *З'ява 5*

*Тамара і Спірын. Тамара прыносіць паднос са сняданкам.*

**Спірын.** Ты ў мяне цуд, Лапа! Цудоўная кава, выдатныя грэнкі! *(П'е каву з грэнкамі.)*

**Тамара.** Я рада, што табе спадабалася.

**Спірын.** Ты ж не супроць, што я называю цябе Лапай?

**Тамара.** Не, зусім не… Калі табе гэтак падабаецца…

**Спірын.** А хочаш ведаць, што сапраўды падабаецца мужчынам?

**Тамара.** Я хачу ведаць, што падабаецца табе.

**Спірын.** Ну і выдатна! Зараз я адкрыю табе сакрэт сямейнага шчасця. Ці давяраеш ты мне, Лапа?

**Тамара.** Як самаму лепшаму доктару на свеце. А не толькі давяраю, я цябе нават пабойваюся. Ты разумны. Ты старэйшы. Ты вопытны. Ты вядомы адвакат. «Адвакат» — гэта так жа пагрозліва, як «прафесар». *(Абдымае Спірына.)* Я веру кожнаму твайму слову, кожнаму позірку…

**Спірын.** І вось, калі жанчына хоча быць шчаслівай ў сямейным жыцці, яна мусіць засвоіць першае, святое правіла. Ці чуеш, Лапа, першае, святое правіла! Ніколі не задаваць пытанняў мужу. Зразумела?

**Тамара** *(здзіўлена).* Не зусім. Што, наогул ніколі?

**Спірын.** Толькі так! І прыняць гэта трэба адразу і назаўжды. Нішто не раздражняе мужчыну болей, чым пытанні жонкі. Калі муж палічыць неабходным штосьці паведаміць, ён гэта зробіць без усялякіх пытанняў. Без націску мужчына больш шчыры…

**Тамара.** Якое ж другое правіла?

**Спірын.** Ніколі не навязваць сябе мужчыне… Вось ідзе чалавек па лесе. Свеціць сонца, птушкі спяваюць. А на шыпшынавай кветцы сядзіць паласатая пчолка і збірае нектар… Якая карціна! Але раптам пчала кідае сваю кветку і пачынае кружыцца над чалавекам. І яму ўжо не трэба ні прыгажосці гэтай пчалы, ні красы кветак, ні лесу. Яму хочацца як мага хутчэй збегчы,

схавацца… Дык вось *(павучальна ўздымае палец уверх)*, той, хто кахае жанчыну, не забывае пра яе ні на хвіліну. Шчасце навязлівым не бывае. Ці зразумела?

**Тамара** *(разгублена)*. Зразумела… А ёсць трэцяе правіла?

**Спірын.** Не рабіць замаху на суверэнітэт асобы. Нішто не губіць сямейнае жыццё больш, чым адсутнасць свабоды, — свабоды ў прыхільнасцях, свабоды ў пакупках, свабоды ў маленькіх сакрэтах.

**Тамара.** У якіх жа гэта сакрэтах?

**Спірын.** У нас у адвакацкай канторы працуе Пётр Ільіч. Абаяльны чалавек, інтэлігент. Але ёсць у яго адна страсць — скачкі. Два разы на месяц ён прападае на іпадроме — іграе на таталізатары. Больш правільна сказаць — прайграе. Заўжды прайграе, амаль без выключэнняў… А аднойчы ён прайграў надта многа. Дык вось яго жонка, ад якой ён старанна хаваў свае пройгрышы, прыціснула яго да сценкі і прымусіла прызнацца, куды падзеліся грошы. Пэўна, ён мог бы выкруціцца, пазычыць патрэбную суму. Але яна разбіла яго суверэнітэт, забралася ў святая святых, схапіла яго за горла… Ён зламаўся. Расказаў, што спустошвае кішэні на іпадроме.

**Тамара** *(нецярпліва)*. І чым ўсё скончылася?

**Спірын.** Разышліся. Яна ўвесь час адкладвала грошы на дачу, а тут такое матаўство… Яна не перанесла ўдару.

**Тамара.** Але гэта ж смешна.

**Спірын.** А вось ім было не смешна. Яна выбіла прызнанне, а потым не здолела даравацць яму…

**Тамара.** А ёсць яшчэ правілы?

**Спірын.** Ёсць. Не скандаль, не злоўжывай, не слухайся сяброўак…

**Тамара.** А каханне?

**Спірын.** Каханне, Лапа, гэта не якая-небудзь балонка ці пудзель, з якім гуляюць штодзень. Каханне — гэта цэрбер, і падыходзіць да гэтага цэрбера належыць толькі ў выключных выпадках. Каханне, Лапа, у сямейным жыцці павінна спаць… Не трэба яго раздражняць, інакш яно можа балюча ўкусіць. Але калі сямейнаму жыццю пагражае сур'ёзная небяспека — заўважу, сур'ёзная, а не нейкая там дурніца-суседка па лесвічнай клетцы ці то сакратарка, — дык вось тады цэрбера трэба пабудзіць. Тады каханне і зробіць цуд. Ці чуеш, Лапа?

**Тамара.** Чую. Я усё-ўсё чую, мой мілы.

ЗАЛА СУДОВЫХ ПАСЕДЖАННЯЎ.

### *З'ява 6*

*Соф'я, Спірын, Святлана.*

**Соф'я** *(карцінна стукае малаточкам па судзейскай кафедры)*. Судовае паседжанне абвяшчаецца закрытым! Усе свабодныя, спадарства! *(Збірае дакументы на стале. Звяртаецца да Спірына.)* Да пабачэння, Сяргей Аляксандравіч! Кланяйцеся ад мяне Тамары. *(Выходзіць з залы.)*

**Спірын.** Да пабачэння, Сонечка. *(Ён нікуды не спяшаецца.)*

**Святлана** *(дачакаўшыся, калі пойдзе Соф'я, кідаецца да Спірына)*. Нарэшце, Сяргей! Я дачакацца не магла, калі ж скончыцца гэты працэс. Я толькі што прыехала і адразу сюды.

**Спірын** *(абдымаючы Святлану)*. Дай на цябе пагляджу, Свецік… Вось што значыць быць жонкай чыноўніка. Красы і бляску яшчэ больш.

**Святлана.** Ён жа не чыноўнік. Ён прадпрымальнік. Конезаводчык.

**Спірын.** Няхай будзе конезаводчык. Важна іншае. Пры ім ты стала яшчэ больш каларытнай. І прычоска іншая, і адзенне. І сумачка…

**Святлана.** Ты памятаеш нават маю сумачку? Ты ўсё такі ж уважлівы. Нават жаніцьба цябе не сапсавала… Ну, расказвай: хто тая шчасліўца, якую ты за жонку ўзяў?

**Спірын.** Кідай, Свецік, раўнівы тон. Я не такі стары і безнадзейны, каб адмовіць сабе ў спадчынніках.

**Святлана.** Ты мне пра яе раней не расказваў. Каму я цяпер буду зайздросціць?

**Спірын.** Зайздросціць будзеш мне. Жонка ў мяне цудоўная! У ёй ёсць прага жыцця… Людзі заклапочаныя фінансавым дабрабытам, развучыліся радавацца… Хаця, Свецік, я б не хацеў абмяркоўваць яе. Скажу толькі адно: у мае гады трэба жаніцца сур'ёзна. І з разлікам — надоўга!

**Святлана** *(какетліва).* Значыць, усім нашым сустрэчам — канец? Мне забаронена і пагаварыць з табою, і пасядзець дзесьці? *(Забіраецца на месца суддзі.)*

**Спірын.** Я ніколі не сюсюкаў з жанчынамі і цяпер не збіраюся. Каб перада мною стаяў выбар: жонка ці ты, Свецік, — я б абняў цябе, пацалаваў у носік і сказаў: на жаль, дарагая, сям'я ёсць сям'я. Тое, што паміж намі было, няхай застаецца паміж намі, — без крыўды і шкадавання… Гэтак бы я адказаў, каб перада мною стаяў выбар.

**Святлана** *(з хітрынкай).* Але ж такі выбар цяпер не стаіць.

**Спірын.** І я пра тое ж кажу!

**Святлана.** Ах, Сяргей! Мы з табою не бачыліся цэлых паўгода. З таго дня, як ты бліскуча выйграў маю справу.

*Яны абдымаюцца, цалуюцца проста на судзейскай кафедры.*

КАЛІДОР ПЕРАД ЗАЛАЙ СУДА.

### *З'ява* 7

*Антаніна Іванаўна з вядром і швабрай. Убягае Тамара.*

**Тамара** *(да Антаніны Іванаўны).* А судовае паседжанне ўжо скончылася?

**Антаніна Іванаўна.** Ужо скончылася.

**Тамара.** А ці не ведаеце, адвакат Спірын пайшоў ужо?

**Антаніна Іванаўна.** Скуль жа я ведаю, хто пайшоў, а хто не. Яны тут цэлымі табунамі ходзяць. Вунь як натапталі…

**Тамара** *(падыходзіць да дзвярэй сакратара суда).* А Соня? Не ведаеце, сакратар суда пайшла ўжо?

**Антаніна Іванаўна.** А вось яна дакладна сышла. Я ўжо з яе кабінета і попельніцу вывернула, і сметніцу выграбла.

**Тамара.** Не паспела. І Спірын сышоў, і Соня. *(Прыслухоўваецца.)* А ў зале галасы. Хтосьці смяецца.

**Антаніна Іванаўна** *(таксама прыслухоўваецца).* Сапраўды, хіхікае нібыта хтосьці.

*Тамара ідзе да залы суда, адчыняе дзверы і бачыць Спірына са Святланай. Тамара тут жа адсоўваецца ад дзвярэй, нічога не разумеючы. Потым хаваецца за дзвярыма. У залу заглядае і Антаніна Іванаўна.*

**Антаніна Іванаўна** *(да Спірына і Святланы).* Гэй, галубкі! Адно з адным мілавацца — вам давядзецца іншае месца пашукаць. Мне падлогу мыць трэба.

**Святлана.** Мы ўжо сыходзім.

**Спірын** *(смеючыся).* Ніякага крыміналу, проста сустрэча сяброў.

*Спірын і Святлана, смеючыся, сыходзяць з судовай залы. А Тамара, якая хавалася за дзвярыма, наадварот, разгубленая заходзіць ў залу разам з Антанінай Іванаўнай.*

**Тамара.** Няўжо гэта быў ён? Хіба я гэта не прысніла? *(Да Антаніны Іванаўны.)* Вы жывая? Сапраўдная? Як ваша імя?

**Антаніна Іванаўна.** Маё? Аляўціна Іванаўна… Не, не, Антаніна Іванаўна. Аляўцінай сястру маю клічуць… Напалохала мяне! Што здарылася?

**Тамара.** Я не сплю? Гэта праўда, што я не сплю? Ушчыкніце мяне!

**Антаніна Іванаўна.** Ды што вы, грамадзяначка! Пра што вы кажаце?

**Тамара.** Так, гэта быў ён. А яна сядзела вось тут… І калі ўсё гэта праўда, ён нават не нягоднік. Ён горш… *(Выбягае з залы.)*

**Антаніна Іванаўна** *(адна).* Вар'ятка! Напалохала. Я ажно імя сваё пераблытала. *(Шчыпае сябе, вішчыць.)* Усе бабы вар'яткі… Вох! А чаму? З-за мужыкоў… Хай знікнуць яны зусім… *(Сядае ў крэсла суддзі і невядома чаму пачынае плакаць.)* Усё мужыкі клятыя.

ШАХМАТНЫ КЛУБ. З АДНАГО БОКУ — СТОЙКА БАРА,
З ДРУГОГА — ШАХМАТНАЯ ДОШКА НА СЦЯНЕ
І ЎВАХОД У ІГРАВОЕ ПАМЯШКАННЕ.

### *З'ява 8*

*Косараў ходзіць каля дошкі, пра штосьці сам з сабой разважае. Марына за стойкай бара. Уваходзяць Спірын і Святлана.*

**Марына.** Ах, Сяргей Аляксандравіч. Будзьце ласкавы!

**Спірын.** Спадар Косараў тут?

**Косараў.** Ва! Хто прыйшоў! Усцешаны, усцешаны… *(Цісне руку.)*

**Спірын.** На вуліцы вецер, холад. Вось і завярнулі да вас.

**Косараў.** І добра зрабілі! *(Да Марыны.)* Марыначка! Прынясіце нам кавы і чаго-небудзь мацнейшага! У нас слаўныя госці…

**Марына.** Нясу, Леў Мікалаевіч!

**Косараў.** Даўно не былі ў нас. Усё ў справах… Чуў, што вы ажаніліся. Дык знаёмьце ж нас хутчэй з прыгажуняй жонкай.

**Святлана.** Я рада з вамі пазнаёміцца. Сяргей Аляксандравіч шмат расказваў пра ваш Шахматны клуб, пра вашу адданасць гэтай старажытнай гульні.

**Спірын.** Я задаволены, што знаёмства вашае атрымалася такім узаемна ветлівым. Хаця, між іншым, гэта не мая жонка. Гэта мая… Дакладней, гэта мая кліентка… Лепей сказаць, мая сястра.

**Косараў** *(толькі Спірыну, пакуль Святлана прыхарошваецца ля люстра).* Ах, вось як гэта цяпер называецца.

**Спірын.** Ды хіба ж можна, Леў Мікалаевіч, глядзець на гэтую жанчыну абыякава!

**Косараў.** А як жа маладая жонка?

**Спірын.** Жонка? Жонка ў мяне цудоўная. Такія, як Святлана… У іх пыхі зашмат, з імі клопату маеш. А мая Тамара — нешта іншае. Яна зразумелая, адкрытая. Мне з ёю лёгка. Такія сваіх мужоў любяць заўжды!

**Марына** *(падыходзячы з падносам да століка, дзе сядзяць Косараў і Спірын).* Даруйце, што ўмешваюся, але, думаю, вы вельмі самаўпэўненыя, мабыць, вы дрэнна ведаеце жанчын, калі гэтак кажаце.

**Косараў.** Усё ж мне крыху крыўдна за вашу жонку. І боязна за вас.

**Святлана** *(падыходзячы да століка).* Чаму ж вам боязна за Сяргея Аляксандравіча?

**Спірын.** Леў Мікалаевіч непакоіцца за маё сямейнае жыццё.

**Косараў.** Так, сапраўды, я занепакоены…

**Святлана.** Але ж я не збіраюся адбіраць Сяргея Аляксандравіча ў яго маладой жонкі. Наадварот, хачу, каб яна мацней любіла і больш берагла свайго мужа… У мяне таксама ёсць муж, які цалкам мяне задавальняе.

**Косараў.** Даруйце, пэўна я зусім дурны. Але мне хацелася сказаць, што я…

**Святлана.** Я ведаю, што вы хацелі сказаць. Ну што ж, шчырасць за шчырасць. Мая бабуля, як памірала, прызналася мне. Усё жыццё яна вернай жонкай пражыла са сваім дзедам. Хаця ёй у прыхільнікі набіваўся адзін вабны дыпламат. І нават прапаноўваў ёй паехаць з ім у Парыж. Дык вось, паміраючы, яна пашкадавала, што не паехала. Сказала, што дарэмна пражыла на зямлі свае гады, не маючы ніводнага таемнага захаплення. Але ж кожная жанчына мае права на патаемныя пачуцці…

**Косараў.** Лоўка ў вас атрымліваецца! І муж, і таямніца. Што ж, не кепска ўладкаваліся. А я вось, спадарыня, адзінокі. І кожнай кропляй чалавечай увагі даражу. Вельмі даражу. Вы, як я лічу, прагная — з усіх калодзежаў чэрпаеце…

**Святлана.** Вы блытаеце два паняцці: сквапнасць і паўнавартаснасць. Жыццё адно… Я не хачу апынуцца ў ролі сваёй бабулі.

**Марына.** Каханне ў жыцці жанчыны, хай яно нават на імгненне захопіць, вышэй за ўсё на свеце.

**Косараў.** Здаюся! Здаюся! Здаюся! Я нічога не разумею ў вашых каханнях. Але яшчэ неяк разбіраюся ў шахматах. Хачу вам, Сяргей Аляксандравіч, паказаць адзін надта цікавы эцюд. Хадзем да дошкі, у ігравую залу. *(Да Святланы.)* Ды і вам, спадарыня, будзе цікава.

*Косараў, Спірын, Святлана сыходзяць.*

### *З'ява 9*

*У Шахматны клуб уваходзіць Тамара, спалохана азіраецца, падыходзіць да стойкі бара.*

**Марына.** Што жадаеце?

**Тамара.** Наліце мне шклянку соку… Не, лепей… чаю. Ці кавы…

**Марына.** Дык усё ж такі соку, чаю ці кавы?

**Тамара.** Усё роўна… Наліце чаго-небудзь. Шклянку вады.

**Марына.** Я выберу для вас усё ж такі чай. Ён сагрэе. Чай у нас цудоўны, зялёны. Вы п'яце зялёны?

**Тамара.** Які зялёны?

**Марына.** Кітайскі зялёны чай.

**Тамара** *(нервова аглядаецца па баках).* Ах, вось вы пра што… Ну, наліце ж якога-небудзь.

**Марына.** Калі ласка. *(Ставіць перад Тамарай кубак.)*

*Марына ідзе да століка, збірае на паднос посуд. У гэты час чуюцца галасы.*

**Голас Косарава.** Вось бачыце, гэты эцюд і вам аказаўся не па зубах.

**Голас Спірына.** Расклад і на самой справе цікавы. Адна фігура, безумоўна, залішняя.

*Тамара ў гэты час кладзе грошы за чай на стойку бара і хутка хаваецца за дзвярыма, на якіх шыльдачка «Службовае памяшканне».*

**Марына** *(вяртаючыся да стойкі).* А дзе ж яна? Чай некрануты. Грошы пакінула… Дзіўная жанчына… Яна нібыта п'яная…

### З'ява 10

*Вяртаюцца Косараў, Спірын, Святлана.*

**Косараў.** Вось вам і сітуацыя. Так пойдзеш і так пойдзеш, усё роўна натыкаешся на пат. Безвыходнае становішча.

**Спірын.** Іншы раз і ў жыцці такое здараецца. Інтарэсы ўсіх фігур улічыць немагчыма.

**Святлана.** Нам, пэўна, пара. *(Да Спірына.)* Ты правядзеш мяне да гатэля?

**Спірын.** Я праводжу цябе нават да нумара…

**Косараў.** А я паразважаю яшчэ над гэтым эцюдам…

**Спірын.** Ад усёй душы жадаю вам поспехаў, паважаны Леў Мікалаевіч. Да пабачэння!

**Марына.** Заходзьце яшчэ!

*Спірын і Святлана сыходзяць.*

### З'ява 11

*Там жа. Косараў, Марына, Тамара.*

**Марына.** Элегантны, разумны, з гумарам. У такога толькі закахацца… Ці даўно вы ведаеце яго?

**Косараў.** З дзяцінства. Ён яшчэ школьнікам прыходзіў да мяне ў шахматную студыю… Прырода дае такім людзям прывабную знешнасць, лёс дае ўпэўненасць. Такія людзі ў жыцці ідуць як па бульвары… У школе такіх гладзяць па галоўцы настаўнікі і называюць разумнікамі. Ва ўніверсітэце такія становяцца цэнтрам увагі. Пры гэтым пра іх кажуць «наш хлопец». У іх улюбляюцца дзяўчаты, яны робяць кар'еру. У іх мілыя жонкі, дзеці вучацца ў спецшколах. А для разнастайнасці — прывабная сяброўка для нячастых сустрэч.

**Марына.** Вы проста зайздросціце яму.

**Косараў.** Не! Я спачатку зайздросціў такім людзям, але пасля задушыў у сабе гэтую зайздрасць. Мне здаецца, што за ўдачу ім даводзіцца плаціць чымсьці надта ўжо дарагім, што нічым не заменіш…

*Раздаецца грукат у службовым памяшканні. Адтуль з пустой каробкай выбіраецца Тамара. Косараў і Марына перапалоханы.*

**Косараў.** Хто вы такая? Як вы тут апынуліся?

**Тамара.** Я? Я выпадкова. Я заблудзілася. Мне стала дрэнна…

**Марына.** Ды яна п'яная! Трэба выклікаць міліцыю!

**Тамара.** Я п'яная?! Мне не патрэбна міліцыя… Вось мае кішэні. *(Вываровчвае кішэні.)* Я нічога не ўзяла ў вашай кладоўцы.

**Косараў.** Супакойцеся, спадарыня, выпейце вады… І ўсё ж, што вы тут рабілі? Згадзіцеся, гэта ненармальна: маладая жанчына зашылася ў кладоўку.

**Тамара.** Ненармальна? Па-вашаму, я ненармальная? Вось, значыць, як… Так, сапраўды, пэўна, ненармальная… І то праўда, каго я шукаю… І навошта? Галоўнае, навошта? Выбачайце… *(Хоча ісці.)*

**Марына.** Выхад там, дзяўчына.

**Косараў.** Вам дрэнна. Можа, урача?

**Тамара.** Я ненармальная. Мне ўрача? Ды што вы гаворыце? Гэта ж яны ненармальныя! Гэта не мяне, гэта іх лячыць трэба!

*Тамара выбягае. Косараў і Марына разгублена глядзяць ёй ўслед.*

КВАТЭРА СПІРЫНЫХ.

### *З'ява 12*

*Тамара, пазней Спірын.*

**Тамара** *(адна)*. Што гэта было? Бязглуздзіца нейкая. *(Хапаецца за галаву.)* Якая ж я дурніца! У мяне не хапала розуму нават уявіць такое… А ў іх усё проста. Натуральна, лёгка. Быццам мяне для яго зусім няма. Быццам наогул няма! Я не існую… За што? У чым я перад ім правінілася?.. Што мне цяпер рабіць?.. *(Кідаецца па пакоі.)* Мне трэба бегчы адсюль. Ад гэтага жахлівага чалавека. Ён… Ён пачвара… Я заб'ю яго! Я яго заб'ю… *(Бегае, хапаючы то адну рэч, то другую. Урэшце рэшт дастае з шафы скрыню з інструментамі і адтуль — малаток.)* Я заб'ю яго гэтым малатком. Я разаб'ю яму галаву.

*Уваходзіць Спірын.*

**Спірын.** Лапа! Эй, Лапа! Я прыйшоў. Ты дзе?.. А-а, вось ты дзе… Якая ж ты неспакойная, Лапа. Я ж табе сказаў, што прымацую гэтую няшчасную паліцу. Навошта ты будзеш прыбіваць цвікі, калі ў цябе ёсць я? Давай малаток… Я прыб'ю гэтую паліцу заўтра. Зараз ужо позна стукаць малатком. Абяцаю табе — заўтра. *(Забірае з рук Тамары малаток.)* А што ты такая? Нехта пакрыўдзіў? *(Спрабуе абняць Тамару. Яна адхіляецца.)*

**Тамара.** Не, не. Ніхто мяне не пакрыўдзіў… У мяне ўсё добра. Ты вячэрай і кладзіся спаць… Мне яшчэ трэба мыць бялізну… Не чакай мяне… Я пазней лягу. *(Рэзка сыходзіць.)*

*Спірын бярэ са стала плюшку, кусае яе, кладзе назад і ідзе ў спальню, распранаецца, падае ў ложак. Салодка пазяхае.*

*Тамара прабіраецца ў спальню. Спірын спіць. Тамара сядзіць на крэсле, падцягнуўшы ногі.*

**Тамара** *(сама сабе)*. Сорамна! Вельмі сорамна! Не за сябе — за яго. У мяне ўсё ўнутры дрыжыць. Думала, пасаромеецца вочы на мяне ўзняць… А ў яго ні кроплі раскаяння… І ў голасе — ні ноткі раскаяння… Канешне, ён думае, што я нічога не ведаю. Але ж сам жа ён ведае! А я баязліўка… Малаток… *(Шукае малаток.)* Як лёгка ён расправіўся са мною… Чаму? Таму што я яго кахаю… Так, я ўсё роўна яго кахаю… *(Кідаецца да пінжака Спірына, лезе ў кішэні, абнюхвае пінжак, потым кідаецца да ложка, абнюхвае Спірына.)* А можа, я проста не разумею яго становішча? Соня казала неяк, што многія з кліентак гатовыя разлічыцца не толькі грашыма… Яна, тая бландзінка… Ды яна проста прастытутка… Спірын, бедны мой Спірын, ды як жа ты ўляпаўся ў такую брыдоту?.. *(Кідаецца на ложак да Спірына, але не рашаецца яго

*будзіць.)* Можа, пабудзіць яго, расказаць?.. Ах, не! Я ж на свае вочы бачыла, як ён яе цалаваў, папраўляў ёй валасы… Фу, гад! Мярзотны здраднік… Вось атрымлівай, заслужыла. «Калі жонка хоча сямейнага шчасця, яна не павінна задаваць ніякіх пытанняў мужу…» *(Плача.)* Спірын… Ну ты ж такі разумны… Ну як жа ты мог? За што?.. Я столькі чакала цябе, чакала сваё шчасце. Сваё. Не чужое забірала. Сваё чакала. Сваё…

КАБІНЕТ СОФ'І.

### *З'ява 13*

*Соф'я і Тамара.*

**Соф'я** *(адна, запальвае цыгарэту).* Ведаю, што яд. А адмовіцца не магу. *(Кашляе.)* Раніцою храпу, як мужык. Скура псуецца, адзенне тытунём смярдзіць. А я кінуць не магу. Не ма-гу! Вось і каля кандытарскай не магу прайсці спакойна. Іду пасля працы, кажу сабе: нізавошта! Ні за што не зайду. Аднак зайду абавязкова, і куплю які-небудзь маленькі мярзотны торцік… А як тут пахудзець, калі кожны дзень — торцік?

*Уваходзіць Тамара.*

**Тамара.** Соня, я не перашкаджаю табе?

**Соф'я.** Ты заўжды ў час, Томачка! Я вось разважаю, што стала ахвярай дробных чалавечых жарсцей. Няўжо медыцына нічога не вынайшла супраць гэтага? Нейкія дурнотныя антынікатынавыя жуйкі, пасля якіх курыць хочаш яшчэ больш. *(Кідае ў стол пачак з жуйкамі.)* Ці вось яшчэ пачварныя дыеты, пасля якіх есці хочацца ў тры разы больш…

**Тамара.** Паспрабуй звярнуцца да экстрасэнса.

**Соф'я.** Што ты! Я вельмі баюся гэтых экстрасэнсаў. Розным бабкам-гадалкам я не веру. Ім бы толькі грошы злупіць. А мужчыны-экстрасэнсы, мне падаецца, думаюць толькі пра адно: як бы заманіць пацыентак для сваіх плоцкіх уцех… Пацыентка становіцца непадуладная сабе, а ён, гэты гад, экстрасэнс, можа рабіць з ёю што захоча…

**Тамара.** Тады сама праяві сілу волі.

**Соф'я.** Пра гэта я ведаю. Нават прачытала ў адной кніжцы тэорыю «некалькі рашучых мінут».

**Тамара.** Рашучых мінут?

**Соф'я.** Так. Там, у кніжцы гэтай, была дзяўчына Грэта, беспасажніца. Яна сустракалася са сваім каханым, спадзявалася замуж за яго выйсці. А ён усё марудзіў, марудзіў… Яна бегала да яго на спатканні, дагаджала яму ва ўсім. Але аднойчы сказала сабе: «Стоп, дзетачка!» Стрымала сябе і не пайшла на спатканне.

**Тамара.** І што атрымалася?

**Соф'я.** Перажыўшы некалькі рашучых мінут, яна адкрыла ў сабе незвычайную сілу. А потым — пляснула яму, свайму жаніху, па шчацэ, калі ён стаў выпендрывацца перад ёю…

**Тамара.** Хіба за некалькі мінут можна змяніць сябе?

**Соф'я.** Можна! У гэтым якраз і сутнасць тэорыі. У гэтыя рашучыя мінуты трэба зрабіць ход насуперак сваім паводзінам. Як быццам бы не з той оперы. І карціна жыцця будзе зусім іншая. Яна зразумела, што абыдзецца без свайго крыўдзіцеля. У яе перад вачыма развіднелася… *(Рашуча тушыць цыгарэту ў попельніцы.)* Калі-небудзь і я скарыстаю гэтую тэорыю.

**Тамара** *(усміхаецца).* Буду рада за цябе. Але цяпер падкажы мне, ці не вядомая табе кліентка Спірына Святлана… Прозвішча я не ведаю.

**Соф'я.** Курдзюмава! Бландзінка такая эфектная! Безумоўна, вядомая. Паўгода назад Спірын праз суд дапамог ёй аднавіцца ва ўніверсітэт на вучобу. Яе даўно адтуль выгналі за прагулы і дрэнную вучобу… А ён дабіўся, каб яе аднавілі. Навошта табе гэтая Курдзюмава? Я нядаўна яе бачыла. Яна завочніца, на сесію прыехала. Вучыцца на юрыдычным. Іншы раз прыходзіць у суд, як быццам на стажыроўку.

**Тамара.** Адкуль яна прыехала?

**Соф'я.** З Яснагорска. Я нават адрас яе запомніла. Лёгкі: вуліца Дружбы, дом 1, кватэра 2. Я на тым працэсе Курдзюмавай сакратаром была… Муж у яе нейкі бізнесмен. Коней разводзіць.

**Тамара.** Коней?.. Значыць, яна замужам?

**Соф'я.** А навошта табе гэта? Няўжо ты Спірына раўнуеш? Лепей адразу павесіцца, чым рэўнаваць.

**Тамара.** Чаму?

**Соф'я.** Таму што яму даводзіцца сустракацца з дзясяткамі розных жанчын. Ён публічны чалавек, Томачка.

**Тамара.** Так, ты маеш рацыю, Соня… Як, ты кажаш, было напісана ў той кніжцы? Яна абышлася ўсяго адзін дзень без жаніха і раптам зразумела, што і ўсё жыццё без яго абыдзецца?

**Соф'я.** Ты пра каго?

**Тамара.** Пра Грэту. Пра гераіню з кніжкі.

**Соф'я.** Ну так. Там было тое напісана… Яны там панапішуць! Жыць бы яшчэ навучыцца па пісанаму… А цяпер, Томачка, я пакажу табе бранзалет ад павышанага ціску. *(Паказвае бранзалет на руцэ.)*

**Тамара.** Ды ў цябе ж нармальны ціск.

**Соф'я.** Ну і што. Трэба апярэдзіць хваробу. Уяўляеш, калі ў мяне яшчэ і ціск будзе павышаны? Як я тады наогул жыць буду?

**Тамара.** Табе, Соня, трэба закахацца ў мужчыну, які не пераносіць тытунёвага дыму, прызнае толькі вегетарыянскую ежу і раніцою бегае са сваёй каханай па парку.

**Соф'я.** Ну ты і звер, Томачка. Ох і звер! А яшчэ сяброўка!

ВУЛІЦА. ПЕРАД ДОМАМ СПІРЫНЫХ.

### *З'ява 14*

*Тамара і Алег.*

**Тамара** *(адна).* Яна замужам… Можа быць, гэта да лепшага? Ды чаму, чаму да лепшага? *(Нечакана бачыць Алега.)* Алег? Ты што тут робіш?

**Алег.** Чакаю цябе.

**Тамара.** Навошта?

**Алег.** Я вярнуўся з Індыі. Хачу запрасіць цябе ў госці. На экзатычнае чаяпіцце. Я прывёз эліксір ад лекараў Усходу.

**Тамара** *(разгублена).* Дзякуй. Што ж ты не зойдзеш дамоў, а стаіш ля пад'езда?

**Алег.** Не хачу сустракацца з тваім мужам. Ды тут мне і больш прыемна. Калісьці на вуліцы я чакаў цябе на першыя нашы спатканні…

**Тамара.** Так, калісьці… *(Без энтузіязму.)* Ну і як, цікава там, у лекараў Усходу?

**Алег.** Там людзі маюць за мэту пражыць доўгае здаровае жыццё. Пра гэта я збіраюся здымаць фільм.

**Тамара.** Каб усе хацелі пражыць доўгае шчаслівае жыццё, на зямлі было б менш хлусні. Праўда?

**Алег.** Што гэта з табой? Не заўважаў раней тваіх схільнасцей да філасофіі. Ці ўжо не замужняе жыццё да гэтага падштурхнула? Штосьці ты хмурая сёння, як філосаф…

**Тамара.** Галава баліць.

**Алег.** Таму і баліць, што хмурышся. Твар мусіць быць адкрыты і расслаблены. Усходняя медыцына сцвярджае, што ў тых, хто хмурыцца і трымае мышцы твару ў напружанні, часта баліць галава.

**Тамара.** Мая галава да ўсходняй медыцыны дачынення не мае. А, дарэчы, што трэба зрабіць, каб галава не балела ніколі? Ніколі-ніколі!

**Алег.** Чалавек павінен сам сябе пабудаваць. Загартаваць.

**Тамара.** Але акрамя мышцаў ёсць яшчэ і пачуцці.

**Алег.** Трэба выхаваць цела, каб цела выхавала душу. Моцныя біцэпсы, чыстыя лёгкія, моцнае сэрца, мозг, калі адпачне, здольныя пагасіць любое пачуцце: і гнеў, і крыўду, і нянавісць.

**Тамара.** І нават каханне?

**Алег.** І нават каханне.

**Тамара.** Як усё проста. Стаяць на галаве, есці моркву, і сэрца будзе свабодным ад кахання і рэўнасці. А мне здавалася, што калісьці ты быў крыху закаханы ў мяне.

**Алег.** Я і цяпер закаханы. І ў мяне няма патрэбы змагацца з гэтым пачуццем… Дык ты прыйдзеш на чай?

**Тамара.** Так. Я, мабыць, прыйду.

**Алег.** Спадзяюся, муж цябе адпусціць? Ён у цябе не Атэла?

**Тамара.** Не Атэла. І наогул, я не абавязана ва ўсім перад ім адчытвацца!

**Алег.** Тым лепш.

*Алег сыходзіць.*

**Тамара** *(адна, помслівa).* Калі Спірын будзе блытацца з тою, я стану сяброўкай Алега. Так… Я змагу адпомсціць… *(Мяняе тон.)* Адпомсціць? Каму, каму ж помсціць? Спірыну? Сабе? *(З азарэннем.)* А можа, патрапіўшы ў абдымкі Алега, я зразумею, што не маю патрэбы ў Спірыне? Можа, на мне спрацуе тэорыя рашучых мінут? *(Злосна.)* А Спірын, пэўна, зноў вечарам сустракаецца з ёю? Пракляты!

ДОМ БАБКІ ЛЮШЫ.

### *З'ява 15*

*Тамара і бабка Люша.*

**Тамара** *(падае на калені, хапае старую за спадніцу).* Дапамажы мне, баб Люш. Малю! Ён для мяне — усё… Улезла гэтая бессаромная ў наша жыццё, запаскудзіць яго… У яе свой муж ёсць. Яна проста так, для забавы. Дапамажы, баб Люш!

**Бабка Люша.** Чаму ж ты яму, распусніку, лазню не наладзіш? Такі скандал закаці, каб усё дагары нагамі паставіць. Толькі памятай, буру такую ўсяго адзін раз стварыць можна. А потым ужо не прыгадвай і не сварыся на яго. А то сэнсу ніякага. Сродак правераны.

**Тамара** *(недаверліва хмыкае).* Можа, для кагосьці і праверaны, а для Спірына не падыдзе. Ён чалавек публічны, увесь час на людзях. І не такі ён, баб Люш, каб яго сварка збянтэжыла. Яго адной сваркай не зменіш, толькі сабе горш зробіш.

**Бабка Люша.** Не спрабавала, а кажаш.

**Тамара.** Ды і я не такая. Горш не было б… Калі ён зразумее, што сачыла за ім, раззлуецца. Раптам усё адразу і парушыцца? *(Выцірае слёзы.)*

**Бабка Люша.** Не спяшайся румзаць. Кіне, пэўна, яе. Што з мужыка возьмеш? Да таго ж, прыкметны ён, кажаш, у людзей на віду… Яму, каб перашалець, час трэба. З халасцяцкай вольніцы ды пад жончын абцас…

**Тамара.** Ды які ўжо ў мяне абцас, баб Люш! Я насуперак яму і слова не кажу.

**Бабка Люша.** А вось гэта дарэмна. Да вольнасцей не прывучай мужыка! Але і сама проста так не куражся. Узважыць усё трэба. Можа, і напрыдумвала ты залішняга. Сама кажаш, мужык твой ад цябе не адварочваецца. Значыць, любая ты яму. А тая, атрымліваецца, — проста так.

**Тамара.** Хаця б і проста так, але не магу я, баб Люш. Мне нібыта сэрца нажом рэжуць, калі разам іх бачу. Спакутавалася, моцы няма. І самой брыдка, што сачу за ім, бегаю, ягоныя тэлефонныя размовы стараюся падслухваць… А ўчора ў яго партфель залезла, там памада, дык я ледзь не звар'яцела. А памада, між іншым, мая аказалася…. Вялікае каханне нават маленькай трэшчынкі баіцца. Нават ад раўнадушнага погляду пакутуе… *(Таямніча.)* Дапамажы. Прыбяры яе ад яго, баб Люш. Ціхенька так. Адгавары. Ты ж можаш. Я ж ведаю, што можаш.

**Бабка Люша.** Вельмі ж шмат ты ведаеш! У людзей язык без касцей, кажуць абы што… Я вось таксама пагналася за шчасцем на злом галавы. Галаву і зламала... Прываражыла да сябе дурня… *(З апаскай глядзіць на дзверы, каб дзед Сямён не пачуў.)* Ён мне ўсю душу і выняў… А ж, вочы вырачыўшы, за ім бегала. Ад жонкі яго звяла… Ды і атрымала. Ласкавага слова ад яго за ўсё жыццё не дачакалася. Хацела назад у сям'ю вярнуць, ды позна. Там ён ужо не патрэбны. Гэтак і цягну на сваім гарбе і грэх свой, і старога дурня.

**Тамара** *(зачаравана паўтарае).* Дапамажы, баб Люш. Мне больш дапамогі няма ў каго прасіць. Дапамажы. Малю.

**Бабка Люша.** Добра, паспрабую. Тады я сям'ю разбіла, а цяпер мне сям'ю ўратаваць трэба… Толькі ты язык свой прыкусі. *(Дастае з камоды газетны кулёчак.)* Соль тут нагавораная. Спачатку мужыку свайму тры дні ў ежу падсыпай. А пасля гэтай соллю ручку дзвярную натры. Яе дзвярэй, дзе яго палюбоўніца жыве. Гэтую ручку і яна, і муж яе кранаць будуць. А яшчэ на ганак іхні насып. Каб яны на гэтую соль наступілі і каб нагамі ў дом занеслі. Ці зразумела?

**Тамара** *(аддана).* Усё зразумела!

**Бабка Люша.** Ды так, каб пра гэта ніхто не ведаў. Соль усяго сем дзён дзейнічае. Не марудзь.

**Тамара.** Зразумела, баб Люш… Усё запомніла, усё так і зраблю. Абавязаная я табе, баб Люш.

**Бабка Люша.** Дый годзе! Не патрэбныя мне твае ўдзячнасці, і даўгоў тваіх не трэба. Ты лепей пра сябе паклапаціся. Соль яна добра, а з мужыком паздагадлівей трэба быць. Ты чаму замуж выходзіла? Кветачкі рваць? Дзе ласкай, дзе ліслівасцю, дзе папрокам, дзе сілаю — гэтак і авалодаеш ім. І памятай: хата мятлой мяцецца, мужык бабаю вядзецца.

**Тамара.** Дзякую табе, баб Люш. Дзякую. *(Беражліва трымаючы соль, сыходзіць.)*

**Бабка Люша** *(адна).* Эх, панеслася, пакацілася ў дзеўкі! Усю душу цяпер парве з-за анёла ж свайго. Навошта такі патрэбны? *(Ківае галавой.)* Эх! Ды хіба ж можам мы ў маладосці  выбіраць правільна?! Розум пасля ідзе.

### *З'ява 16*

*Уваходзіць дзед Сямён.*

**Дзед Сямён.** Што, старая ведзьма, да Тамаркі мужыка прыляпіць хочаш?

**Бабка Люша.** А ты падслухваеш ды падглядаеш, стары дэман?

**Дзед Сямён.** А ў мяне ў тым і інтарэс застаўся, каб паглядзець, як бабы вакол мужыкоў круцяцца. Хэ-хэ! А наконт Тамаркі скажу. Як бы яна не прыбегла ды не папрасіла зваротны ход даць — мужыка ад сябе адвадзіць. Хэ-хэ! Бабы ж па маладосці гарачыя. Ужо калі каханне з кручка сарвецца — нянавісць абавязкова клюне.

**Бабка Люша** *(раптам згінаецца ў паясніцы).* Эх! зноў боль. У паясніцу стрэліла. Вось і зноў у д'ябальскую справу ўблыталася. Таму, бачна, мяне і ломіць.

**Дзед Сямён.** Таму. Таму цябе і ломіць. Дажываць у хваробах — пакаранне табе.

**Бабка Люша.** А ты не злараднічай.

**Дзед Сямён.** А мне злараднічаць і няма чаго. Мае словы што ў клоўна… Дом у нас вялікі. Куды ж я без жаночага клопату пра мяне, без гаспадыні? *(Падхоплівае бабку Люшу і нясе ў ложак.)* Пачакай, спіну цяпер змяіным ядам натру. Змяя змяю лекуе. Хэ-хэ!

КВАТЭРА СПІРЫНЫХ.

### *З'ява 17*

*Спірын і Тамара. Спірын за сталом, працуе, вывучае нейкія паперчыны, робіць паметкі. Уваходзіць Тамара з кубачкам чаю на падносе, глядзіць на Спірына, не выдае сябе.*

**Спірын** *(заўважыўшы яе).* Лапа, ты што, падглядваеш за мною?

**Тамара** *(сама сабе).* Так. Ужо з'явілася звычка… *(Да Спірына.)* Я прынесла табе чаю.

**Спірын.** Ад чаю не адмоўлюся. Не крыўдуй, Лапа, вячэра ў нас была, здаецца, крыху саленаватая.

**Тамара.** Саленаватая?

**Спірын.** Так, Лапа, з соллю ты, па-мойму перастаралася.

**Тамара.** Прабач, у рэцэпце бабкі Люшы пра дазіроўку солі нічога не сказана. І я ўжо вырашыла… Каб замала не падалося.

**Спірын.** Не падалося… Чаму ты смяешся, Лапа? Хаця вось ты смяешся, а вочы ў цябе чамусьці невясёлыя. *(Садзіць Тамару сабе на калені.)* Чалавек усё ж такі няўстойлівая сістэма. Устане, да прыкладу, не з той нагі, і любая дробязь робіцца прычынай для суму. Ты сёння, Лапа, не з той нагі ўстала? *(Цалуе яе ў нос, валасы.)* Так? Цікава атрымліваецца: Лапа ўстала не з той лапы. Ну вось, і вочы ў цябе адталі. Цяпер ты зноў Лапа, якая мне заўжды падабаецца.

**Тамара.** І ты сёння іншы. Хатні, родны… Ты сёння мой… *(Нерашуча.)* Усё збіралася з табой пагаварыць. Дакладней, спытацца…

**Спірын** *(нядбайна перакладаючы паперы).* Пра што спытацца?

**Тамара.** Скажы мне, Спірын, ты часта мне хлусіш?

**Спірын.** Пра што ты, Лапа? Я зусім табе не хлушу! Што за чорныя думкі ў тваёй светлай галаве?

**Тамара.** Значыць, ты заўжды кажаш мне праўду?

**Спірын.** Пра якую праўду ты пытаешся? Ты хто, следчы, пракурор? А я — падследны, які мусіць «раскалоцца»? Я заўжды кажу табе праўду! Хіба што кропельку нейкую, крышачку вось такую, пакідаю сабе. Для мужчыны таксама ёсць кодэкс шчаслівага сямейнага жыцця.

**Тамара.** І які ж ён?

**Спірын.** Жанчынам пра тое ведаць не рэкамендавана.

**Тамара.** Ну назаві, Спірын, хаця б адзін артыкул з гэтага кодэкса. Ну назаві.

**Спірын.** Век з жонкай жыві, век жонку любі, але ўсёй праўды не кажы… У гэтай рускай прымаўцы самая соль… Цьфу ты! Паўсюль соль. Мне падаецца, што і чай у мяне з соллю…

**Тамара** *(лашчыцца да Спірына).* Не, у чай я паклала ўсяго дзве-тры пясчынкі… А хочаш, я прыгатую табе іншы чай, салодкі-салодкі?.. *(Хоча ісці, спыняецца.)* Скажы мне, Спірын, ты яшчэ кахаеш мяне? Толькі чэсна, ад сэрца.

**Спірын.** Што такое «яшчэ»? Безумоўна, так! Без усякіх сумненняў. *(Падхоплівае яе на рукі.)* Я цябе вельмі кахаю. Ты для мяне ціхая сямейная гавань. Мая мара, якая збылася.

**Тамара.** І ўсё ж я прынясу табе чай. У спальню. Спадзяюся, ты не заснеш?

**Спірын** *(ідучы ў спальню).* Яшчэ як не засну…

**Тамара** *(адна, шчаслівая).* Я не аддам Спірына. Не аддам гэтай гадзіне! Ні за што не аддам! Ні кропелькі ёй не аддам. Ні погляда, ні слова, ні ўсмешкі… *(Паказвае кукіш.)* Вось табе! *(Каштуе чай з кубка Спірына, моршчыцца, а потым цалуе гэты кубак. Ідзе да тэлефона, набірае нумар.)* Алё! Гэта аўтавакзал? Скажыце, калі адыходзіць першы аўтобус на Яснагорск? Так рана? А колькі туды ехаць? Каля пяці гадзін? Так доўга?

**Спірын** *(са спальні).* Ты дзе, Лапа? З кім ты там размаўляеш?

**Тамара.** Іду, любы. Іду. *(Сама сабе.)* Ну што ж, мы паедзем у Яснагорск!

ЯСНАГОРСК. ВУЛІЦА ДРУЖБЫ. ДОМ КУРДЗЮМАВЫХ.
КВАТЭРА КУРДЗЮМАВЫХ.

### *З’ява 18*

*Тамара і Курдзюмаў.*

**Тамара** *(сустрэўшы на вуліцы Курдзюмава).* Выбачайце, вы не падкажаце, гэта вуліца Дружбы?

**Курдзюмаў.** Так, гэта вуліца Дружбы.

**Тамара.** А дом адзін? Гэта, пэўна, крайні?

**Курдзюмаў.** Так і ёсць. Гэта крайні дом. Калі вы мне яшчэ назавеце нумар кватэры, то я падкажу, як у яе прайсці…

**Тамара.** Ды не, дзякуй. Кватэру я знайду сама.

*Тамара і Курдзюмаў разыходзяцца. Але Курдзюмаў, нешта западозрыўшы, некалькі разоў аглядаецца на Тамару.*

**Тамара** *(адна, падыходзіць да дзвярэй з нумарам 2, хоча націснуць на званок, але раздумвае).* Не, лепш не званіць… Раптам хтосьці ёсць? *(Асцярожна націрае дзвярную ручку.)* За што я мушу пакутаваць? У яе свой муж ёсць,

няхай яго і кахае. *(Азіраецца з апаскай.)* Вось ужо не думала, чым давядзецца займацца. Нібыта злодзейка якая… Ды ж не я краду, гэта мяне абакралі! Я проста сваё назад хачу вярнуць. Няхай ведае, як чужых мужоў…

*З'яўляецца Курдзюмаў, назірае за Тамарай.*

**Курдзюмаў.** Што вы тут робіце?

**Тамара** *(спрабуе схаваць мяшэчак з соллю, але соль рассыпаецца).* Я? Я нічога не раблю.

**Курдзюмаў.** Хто вы такая? Я адразу заўважыў, што вы — падазроная асоба. У нашым доме ўсяго чатыры кватэры, усіх жыхароў я добра ведаю, а вось вас ніколі не бачыў… Хто вам тут трэба?

**Тамара.** Мне ніхто не трэба… Я пазваніла, але ніхто не адказаў… Я хацела запіску тут у дзвярах пакінуць…

**Курдзюмаў.** Не строй з сябе дурніцу! Я гаспадар гэтай кватэры. Курдзюмаў Генадзь Барысавіч! І што вы там сыпалі? Спадзяюся, не цыяністы калій?

**Тамара** *(яшчэ больш збянтэжаная).* Значыць, вы і ёсць Курдзюмаў? *(Сама сабе.)* Але жыццё разумнейшае і злейшае, чым пра яго людзі думаюць! Соллю хацела вытравіць здраду, і вось ён — сродак больш надзейны, — яе муж падвярнуўся!

**Курдзюмаў.** Я чакаю тлумачэнняў!

**Тамара** *(рашуча).* Калі вы Курдзюмаў, дык я прыехала да вас!

**Курдзюмаў** *(адчыняе дзверы кватэры).* Заходзьце! Я не маю звычкі прымаць наведвальнікаў на лесвічнай пляцоўцы.

*Уваходзяць у кватэру.*

**Курдзюмаў.** Ну што вы стаіце? Сядайце! Што за парашок вы тут сыпалі?

**Тамара.** Не хвалюйцеся. Гэта ўсяго толькі соль.

**Курдзюмаў.** Спадзяюся, вы не станеце сметнічаць у гасцях? *(Бярэ тэлефон, размаўляе па тэлефоне.)* Міхайлаў, я затрымаюся. Пачынайце нараду без мяне… А начальніку будаўніцтва скажы, калі ён яшчэ дапусціць аварыю, я звольню яго да д'ябла! І не пагляджу, што тата ў яго дэпутат.

**Тамара** *(аглядаючыся, сама сабе).* Гэтак нават лепш. Ім гуляць, смяяцца, а мне слёзы ліць… Усё раскажу! Мацней за чарадзейства будзе…

**Курдзюмаў** *(па тэлефоне).* Часу даю да канца дня… А мне пляваць на іх транспартныя праблемы… У такім выпадку няхай уладкоўваецца да нас на стайню вахцёрам. Праз паўгадзіны патэлефануй, даложыш! *(Кладзе трубку, падазрона глядзіць на Тамару.)* Калі вы жонка звольненага шафёра Свірыдава і збіраліся мне неяк адпомсціць, то мне надта вас шкада. Па-першае, таму што я нічым не магу дапамагчы вам, а па-другое, ваш муж — лайдак і нягоднік. Магу толькі параіць: не займайцеся абы-чым каля маёй кватэры і знайдзіце сабе іншага мужа.

**Тамара.** Не. Я не жонка звольненага шафёра. І шукаць сабе іншага мужа пакуль не хачу.

**Курдзюмаў.** Тады што вам трэба?

**Тамара.** Я прыехала да вас з-за вашай жонкі…

**Курдзюмаў.** Што з ёй? Яна цяпер на вучобе ў абласным цэнтры…

**Тамара.** Я ведаю. Я ўсё пра яе ведаю. І дзе яна вучыцца, і ў якой гасцініцы спынілася.

**Курдзюмаў.** Што з ёю здарылася?

**Тамара.** З ёю нічога не здарылася. У яе ўсё добра. Не добра ў нас… Ваша жонка, Генадзь Барысавіч, і мой муж сустракаюцца.

**Курдзюмаў.** Што за лухта? Яна з вашым мужам? Гэтага не можа быць! Гэтага проста не можа быць!

**Тамара.** Так, так, так, яны сустракаюцца. Ужо даўно і даволі часта. Я не ведаю, што ў іх: раман, страсць, дружба. Я ведаю адно — яны сустракаюцца. Зразумейце вы мяне. Я не апраўдваю свайго мужа, ён робіць подла. Але ж і яна… У вас свая сям'я…

*Курдзюмаў збянтэжана апускаецца ў крэсла. Настае цішыня.*

**Тамара.** Прабачце. Прабачце, Генадзь Барысавіч. Мне, пэўна, не трэба было казаць. Але ж я жывая… У мяне ў жыцці, акрамя мужа, нікога няма… І яшчэ, я вас вельмі прашу: не кажыце сваёй жонцы пра мой прыезд. І ўжо тым больш пра тое, што я загаворанай соллю хацела яе адвадзіць… Калі яна і мой муж даведаюцца, я думаю, нам будзе яшчэ горш… Ці чуеце вы мяне?

**Курдзюмаў.** Так.

**Тамара.** Прабачце. *(Выходзіць з кватэры. Адна.)* Якім ён гогалем быў… Ну і няхай! Няхай сочыць за сваёй жонкай… калі такі хваткі… *(Хутка сыходзіць.)*

*Курдзюмаў сядзіць нерухома. Звоніць тэлефон. Званок становіцца ўсё гучнейшым і ўсё больш невыносным.*

## Дзея другая

ШАХМАТНЫ КЛУБ.

### *З'ява 1*

*Маленькая гулянка. Спірын, Святлана, Касараў, Марына.*

**Спірын.** Справа выйграна. За поспех!

**Святлана.** Слава юстыцыі! І нашаму Сяргею Аляксандравічу! Я сядзела ў судзе як на канцэрце. Ён віртуозна выйграў працэс!

**Спірын.** Каб не такая глядачка ў зале, я б не адолеў довады абвінавачвання.

**Касараў.** Гэта цудоўна, калі ў чалавека ёсць магчымасць перамагаць. Я імкнуўся да шахмат усё жыццё, каб пакаштаваць шчасця пераможцы!

**Марына** *(да Спірына)*. Віншую вас! Жадаю вам новых перамог. І не толькі на палях юстыцыі.

*Выпіваюць шампанскае.*

**Касараў** *(да Спірына, указваючы на шахматную дошку)*. Ваш ход, дарагі Сяргей Аляксандравіч.

**Спірын.** Дзякую, Леў Мікалаевіч.

*Спірын і Касараў адходзяць да насценнай шахматнай дошкі.*

**Марына** *(да Святланы.)* Не магу ўявіць, як пасля ўсяго гэтага *(ківае ў бок Спірына)* вы жывяце з мужам?

**Святлана.** Я стараюся гладзіць мужа па шэрсці… Мужчыны ж любяць, калі іх гладзяць па шэрсці, а не супраць… Як жывёлы. Дарэчы, ён займаецца конегадоўляй.

**Марына.** Ён разводзіць коней? Як гэта цікава!

**Святлана.** Мне — зусім не цікава. Можа, таму што не хачу працаваць у яго фірме.

**Марына.** Ён раўнівы? Мяне заўжды здзіўлялі такія мужчыны. Выбіраюць у жонкі прыгожых жанчын, а пасля зводзяць іх рэўнасцю і самі пакутуюць. Ім трэба браць у нявесты старэнькіх бабулек.

**Святлана.** Мой муж не так раўнівы, як самалюбівы. Ён нават і не думае пра падман. А таму лепш трымацца ад яго падалей.

**Марына.** А я амаль дваццаць гадоў працавала ў падначаленні мужа. Ён быў шэф-поварам і пастаянна бурчэў на мяне. Але як нечакана памёр, стала гэтак балюча і самотна… Хацелася павесіцца…

**Святлана.** Павесіцца? З-за мужчыны?

**Марына.** Так! З-за буркуна, скупенды, які ніколі не казаў мне пра каханне, ніводнага разу не падараваў кветак, а па начах хроп гэтак, што лыжка бразгатала ў чайным кубачку. *(Паказвае, як бразгатала, у шклянцы.)*

**Святлана.** Кахання без слёз не бывае.

*Падыходзяць Косараў са Спірыным.*

**Спірын.** А вы ўсё зноў пра каханне?

**Косараў.** У каго што баліць.

**Святлана.** А хіба ў вас не баліць, Леў Мікалаевіч? Ці ніколі не балела?

**Косараў.** Чаму ж. У мяне таксама галава была поўная ружовага туману.

**Спірын.** У вас?

**Марына.** Як гэта цікава!

**Косараў.** Яшчэ ў студэнцкія гады я выйграў буйны турнір па шахматах. Мае партрэты з’явіліся ў газетах, я раздаваў інтэрв’ю радыёстанцыям. Папулярнасць падабалася не толькі мне, але і маёй будучай, а цяпер ужо былой жонцы… Ёй было прыемна грэцца ў праменях маёй славы. Але вялікім шахматыстам у далейшым мне так і не ўдалося стаць. І любімая жонка пачала лічыць мяне ілгуном і няўдачнікам. А шахматы гэтак узненавідзела, што ўсё клятчастае павыкідала з гардэроба… Без кар’еры я стаў для яе проста… А быў час, мне здавалася, яна пойдзе за мной нават у Сібір, як дзекабрыстка.

**Святлана.** Як гэта сумна. Няўжо трэба састарыцца, каб не падмануцца са спадарожнікам жыцця?

**Косараў.** Такая чалавечая прырода. Ён асуджаны рабіць памылкі, здзяйсняць глупствы, ўпівацца ілюзіямі.

**Спірын.** Тады вып’ем за разумныя глупствы!

**Святлана.** За беспамылковыя памылкі!

**Марына.** За рэальныя ілюзіі!

**Косараў.** І за наша здароўе!

*Гучыць музыка. Яны пачынаюць танцаваць.*
*Косараў і Марына. Спірын і Святлана.*

**Святлана** *(Спірыну).* Тут вельмі міла. Гэтая абстаноўка, твае сябры. І я крыху п’яная…

**Спірын.** Кубак віна не псуе людзей, а робіць іх прыгажэйшымі і больш шчырымі.

**Святлана.** Мне вельмі добра з табой, Сяргей… Як жа шкада, што сесія мая скончылася. Заўтра я выязджаю ў Яснагорск. І буду зноў сумаваць па табе.

**Спірын.** Разлука — лепшы сродак ад перасычанасці. Я сам днямі паеду ў Піцер. На семінар. Але пакуль я тут.

*Спірын і Святлана абдымаюцца, цалуюцца. Чуецца шум.*

**Марына.** Але ўжо позна. Ахоўнік закрывае аканіцы і параднае.
**Спірын.** Нам таксама пара.
**Косараў.** Не будзем трывожыць ахову. Я праводжу вас праз чорны ход.
**Святлана.** Дзякуй за вечар.
**Марына.** Чакаем вас яшчэ.

*Косараў, Спірын і Святлана сыходзяць.*

### *З'ява 2*

*Раздаецца стук у дзверы.*

**Голас Курдзюмава.** Ды адчыніце ж вы, урэшце рэшт! Я не рабаўнік! Я толькі на хвіліну!

*Уваходзіць Курдзюмаў.*

**Курдзюмаў.** Гэта што за чартаўшчына! Яны ж былі тут. Я бачыў, як яны сюды ўваходзілі. Куды яны падзеліся?
**Марына.** Каго вы шукаеце?
**Курдзюмаў.** Да вас зайшла пара. Мне патрэбны гэты піжон, які быў з ёю… З бландзінкай… Куды яны зніклі?
**Марына.** Які піжон? Вы пра каго?
**Курдзюмаў.** Я заплачу вам… Толькі раскажыце мне, што гэта за тып і як часта ён бываў тут з гэтай жанчынай?
**Марына.** Мне не патрэбныя вашы грошы! *(Бяжыць за Косаравым.)* Леў Мікалаевіч, тут чалавек… Ён… Леў Мікалаевіч!

*Курдзюмаў у гэты час скрываецца.*
*Забягаюць Косараў і Марына.*

**Марына.** А дзе ж ён? Ён толькі што быў тут і пытаўся… Мне падалося, што ён хацеў бачыць Сяргея Аляксандравіча.
**Косараў.** Як толькі Сяргей Аляксандравіч наведвае нас са сваёй сяброўкай, у нас пачынаюцца прыгоды. Дзіўныя візіцёры. Ці не ў кладоўцы ён? Памятаеце тую дзяўчыну?
**Марына.** Я баюся. Трэба паклікаць ахову.
**Косараў** *(адчыняючы кладоўку).* А ў маім узросце ўжо можна рызыкнуць. *(Рэзка расчыняе дзверы кладоўкі, адтуль выбягае мыш.)*
**Марына** *(істэрычна).* А-а, мыш!

*Косараў таксама хапаецца за сэрца.*

ВУЛІЦА.

### *З'ява 3*

*Тамара і Курдзюмаў. Курдзюмаў ідзе, падняўшы каўнер, і злосна бурчыць. З-за вугла з'яўляецца Тамара.*

**Тамара.** Ах, гэта вы? Як жа вы мяне напалохалі! І што вы тут робіце? Вы ж у Яснагорску!.. Ах, цяпер прыехалі і таксама сочыце за імі?
**Курдзюмаў.** Я з ім паквітаюся! Ад яго мокрага месца не застанецца.

**Тамара.** Ад каго? Ад Спірына?

**Курдзюмаў.** Так, так. Ад вашага Спірына. Я заб’ю яго як шалёнага сабаку, якога нельга вылечыць.

**Тамара.** Тады лепш мяне забіце. Гэта ж я разбурыла вашае жыццё. Я прымусіла вас пакутаваць… Не, вы не маеце права кранаць Спірына. Мяне забіце як шалёнага сабаку, якога нельга вылечыць.

**Курдзюмаў.** Вас забіваць няма за што. Вы — чэсная жанчына. А тое, што робіце глупствы, дык гэта ад кахання да яго. Я б хацеў мець такую верную жонку, як вы… Але… Але нічога, я і з ёю, з гэтай шалавай палічуся.

**Тамара.** Вы абражаеце яе. Гэта жорстка.

**Курдзюмаў.** Для яе гэта цяпер тое, што трэба.

**Тамара.** А як жа нашая ўмова?

**Курдзюмаў.** Не. Нікольки. Не бойцеся. Вас я не выдам. Хто заўгодна мог расказаць мне, як мая жонка забаўляецца ў барах.

**Тамара.** Генадзь Барысавіч, я прашу вас, не трэба… Можа, усё гэта зацьменне, можа, усё яшчэ само ўладзіцца?

**Курдзюмаў.** Не ўсталюецца! Я буду жыць рагатым дурнем і нават не атрымаю за тое ніякай кампенсацыі?

**Тамара.** Генадзь Барысавіч, я ва ўсім вінаватая. Што магу я для вас зрабіць, каб не выносіць смецце з хаты?

**Курдзюмаў.** У мяне свая хата, у вас — свая. Пэўна, вы надта моцная жанчына, калі можаце гэтак цярпець. Я не такі моцны, каб даравць здраду… Да пабачэння. Магчыма, яшчэ сустрэнемся.

**Тамара.** Да пабачэння.

*Курдзюмаў сыходзіць.*

**Тамара** *(адна).* Якая ж я моцная, калі ў мяне смута на сэрцы? І сама я стала нейкай не такой. Не разумею, дзе прыстанак, дзе шчасце? *(Аглядаецца.)* А куды ж гэта я іду? Ах, успомніла. Я іду да Алега. Навошта я іду да яго? А чаму б і не? Сябра запрасіў мяне на экзатычны чай…

КВАТЭРА АЛЕГА.

### *З’ява 4*

*Алег накрывае на стол, запальвае свечкі. Алег і Тамара.*

**Алег.** У чалавеку закладзены прыродай велізарныя сілы. Але ён часта не ведае шляхоў да гэтых сіл. З-за хворага цела хворая і душа. *(Налівае ў кубак Тамары напітак.)* Гэты эліксір п’юць тыбецкія мудрацы. Ён усяляе ў чалавека спакой і ўпэўненасць.

**Тамара.** Каб жа чалавек належаў толькі сабе. Але ён належыць і таму, каго кахае.

**Алег.** Маральная бязвольнасць — таксама прыкмета разбэшчанага арганізма.

**Тамара** *(смеючыся).* Адкуль вы, мужчыны, словы такія бярэце? Усё так прыгожа і важна, а на самай справе — хлусня і пустата.

**Алег.** Цябе хтосьці пакрыўдзіў. Ты напружаная. Адпусці сябе. Няхай твае мышцы адчуюць спакой і вызваленне. Тады і душа адчуе пакой і вызваленне. Гэты эліксір напоўніць кожную клетачку лёгкасцю… Адпусці сябе.

**Тамара.** Як ты сказаў: адпусці сябе?

**Алег.** У прыродзе гэта робяць усе стварэнні. Натуральны рух, пакорлівасць абставінам і палёт. Як дзьмухавец. Вецер уздымае яго, нясе, а ён ляціць сабе спакойна, ведаючы, што ўсё роўна вернецца на зямлю.

**Тамара.** А калі гэты дзьмухавец апусціцца некуды не туды?

**Алег.** Такога не бывае. Прырода ўсё разнясе па сваіх месцах. А калі гэты дзьмухавец недзе загіне, значыць так трэба. Значыць, ён слабы і непрыгодны. І няма чаго аб ім шкадаваць. Трэба давярацца прыродзе.

**Тамара.** Чаму ты на мяне гэтак глядзіш? Неяк занадта…

**Алег.** Мне хочацца цябе абняць.

**Тамара.** Ці не запозна? Я ж цяпер чужая жонка.

**Алег.** Ну і што? Для мяне ты ўсё роўна самая мілая Тамара на свеце… Я чалавек прыроды і не прызнаю свецкіх умоўнасцей. Ты мне яшчэ ніколі гэтак не падабалася, як цяпер. *(Цалуе ёй рукі.)*

**Тамара** *(спрабуючы адцягнуць увагу Алега).* Чай астыў. Трэба падагрэць твой эліксір.

**Алег.** Так, так. Зараз. *(Сыходзіць.)*

**Тамара** *(адна).* Хлусіць ён ці шчыры? Пэўна, ён і сам не разумее, калі кажа праўду, калі хоча падмануць мяне… і сябе. Нойдзе нешта на чалавека, і ён, як маленькі парашуцік з дзьмухаўца, паляціць, паляціць, не ведаючы, куды прынясе яго вецер. А ляцець па ветры прыемна… *(З некаторым адчаем скідаючы з сябе кофтачку.)* А чаму б і не? Што павінна мяне стрымліваць? Каханне? Каханне да Спірына? Ці то каханне Спірына да мяне? А ёсць яшчэ каханне Спірына да Святланы!.. Ха-ха-ха! *(Істэрычна смяецца і ў нейкім запале чакае Алега. Алег вяртаецца.)*

**Алег.** Ты што? Навошта ты?

**Тамара.** Чаму ты спалохаўся? Ты ж чалавек прыроды і не прызнаеш свецкіх умоўнасцей.

**Алег.** Так, але пытанне ў тым, як ты ставішся да гэтых умоўнасцей?

**Тамара.** А хіба не зразумела?

**Алег** *(разгублена).* Зразумела.

**Тамара.** Значыць, ты адмаўляешся ад мяне?

**Алег.** Не. Канешне ж, не. Проста мне страшна за цябе…

**Тамара.** Ты будзеш разважаць ці ўрэшце абдымеш мяне?

*Ён кідаецца да Тамары, страсна цалуе яе. Гасне святло, чутны шум любоўнай валтузні.*

### З'ява 5

*Сон Тамары. Тамара адна. Прачынаецца. Выходзіць на сярэдзіну, нібыта на сцэну. Без акампанементу спявае песню.*

**Тамара.** Виновата ли я,
Виновата ли я?
Виновата ли я,
Что люблю?..

*Зноў кладзецца ў ложак.*

### З'ява 6

*З'яўляецца Алег.*

**Алег** *(будзіць Тамару).* Томачка, прачніся. Томачка…

**Тамара.** Што, я заснула?

**Алег.** Так… Нічога страшнага… Адзінае, Томачка, ты дамоў не спознішся? Раптам цябе муж спахопіцца.

**Тамара.** Што? Які муж?

**Алег.** Я кажу, раптам цябе муж шукаць будзе? Позна ўжо. Вельмі позна…

**Тамара.** Так, так, муж… Раптам шукаць будзе… А ты?

**Алег.** Я цябе правяду, збірайся. Не трэба, каб з-за мяне ў цябе былі непрыемнасці. Я надта добра стаўлюся да цябе.

**Тамара.** А што, хіба бывае надта добра? *(Хутка збіраецца, хапае адзенне, выбягае.)* Не трэба мяне праводзіць! Я дарогу знайду… Ты не хвалюйся, Алег. Я ўсё роўна знайду дарогу…

КВАТЭРА СПІРЫНЫХ.

### *З’ява 7*

*Тамара і Спірын.*

**Тамара.** Гэта я! Дзьмухавец прызямліўся.

**Спірын.** Цікава было б даведацца, адкуль гэты дзьмухавец прыляцеў?

**Тамара.** Адтуль, дзе шмат экзотыкі, шмат жывільных эліксіраў, дзе ёсць магчымасць адпусціць сябе.

**Спірын.** Куды адпусціць?

**Тамара.** На волю, Спірын. На волю, даражэнькі Сяргей Аляксандравіч!

**Спірын.** Ды ты, здаецца, з’ехала з глузду. Дзе ж ты была?

**Тамара.** Дзе была, там мяне ўжо няма.

**Спірын.** Лагічна… Але… урэшце рэшт, я твой муж і мушу ведаць, дзе і з кім ты бавіш час.

**Тамара.** Спірын, што за тон? Я ж не задаю табе дурных пытанняў, дзе і з кім ты бавіш час?

**Спірын.** Так, але… Ёсць некаторыя моманты, якія могуць выйсці за межы…

**Тамара.** Ці не раўнуеш ты мяне? Гэта табе не пасуе. Хто мне пра суверэнітэт асобы ўсё распавядае? Пра тое, што рэўнасць — гэта найвялікшая няволя чалавека. Аковы! Раўнівы чалавек пілуе сук, на якім сядзіць. Гэтак, па-твойму?

**Спірын.** Так — калі рэўнасць — нестрыманая страсць… Але іншым разам рэўнасць можа засцерагчы партнёра ад неабдуманых учынкаў.

**Тамара.** Значыць, цяпер ты хочаш засцерагчы партнёра?

**Спірын.** Так! Гэта ўласціва кожнаму нармальнаму чалавеку.

**Тамара.** Кожнаму нармальнаму… А калі я ненармальная? А калі я не кожная? Чаму ты ўсё вырашыў за мяне? Вылучыў усе мае правы і абавязкі.

**Спірын.** Гэта падобна да першай сямейнай сваркі?

**Тамара.** Ты здзіўлены? Бунт на караблі? Жонка падала голас? Вось жа цудоўна было: «У цябе ўсё добра, Лапа? Усё выдатна, Лапа? Лапа ўстала не з той лапкі?» Я зусім нядаўна зразумела, што я… што я проста для цябе зручная… як ты сказаў, партнёрша.

**Спірын.** Што ты хочаш сказаць?

**Тамара.** Ах, ты нават не здагадваешся… Якія ж мы някемлівыя. Як мы не разумеем, што жонка… *(Спыняецца рэзка, кідаецца да Спірына.)* Не, не, Сярожа! Усё гэта не тое! Лухта! Глупства! Зацьменне. Не слухай мяне! Ніводнага майго слова не слухай… Я не такая… Я зусім не такая… Я больш ніколі

слова не павышу… *(Падае на калені, плача.)* Даруй мне. Даруй… Я ж кахаю цябе… Я цябе надта кахаю, Сярожа… Усё з-за гэтага… Даруй. Я — вар'ятка. Сама не ведаю, што раблю.

**Спірын.** Супакойся. Што ты? Ты нічога не сказала крыўднага. Супакойся. Я прынясу табе вады. *(Сыходзіць.)*

**Тамара** *(адна.)* Божа, як жа я цябе кахала, Спірын! З-за гэтага кахання я сябе страціла… Я ж табе здрадзіла… Я адпомсціла табе! Як гэта лёгка і… пошла… Я ж так марыла, што ў нас з табой чыста будзе, незабруджана… Навошта, навошта я расказала Курдзюмаву пра здраду яго жонкі? Атрымліваецца, я выдала яе? Я ж сама такая… *(Матляе галавой.)*

*Уваходзіць Спірын.*

**Спірын** *(падае ваду).* Ты стамілася… Адпачні… Давай пасядзім у цішыні.

**Тамара.** Давай.

**Спірын.** Памятаеш, як было ў наш першы сямейны вечар? Было столькі ўражанняў на вяселлі, а мы доўга сядзелі і маўчалі.

**Тамара.** Так, я памятаю той цудоўны вечар. Здаецца, ён быў у нейкім іншым, не ў маім жыцці. Вельмі-вельмі даўно.

*Спірын і Тамара сядзяць моўчкі.*

**Спірын.** Праз пару дзён я павінен паехаць у Санкт-Пецярбург. На семінар.

**Тамара.** Надоўга?

**Спірын.** Надоўга. Амаль што на месяц.

*Тамара вінавата ківае галавой.*

ДОМ КУРДЗЮМАВЫХ.

### *З'ява 8*

*Курдзюмаў і Святлана.*

**Курдзюмаў** *(трымаючы ў руках плётку).* Я даў табе дзень на роздум. Час скончыўся. Цяпер ты ўсё раскажаш, і я тады падумаю, што мне рабіць. Гэта будзе мірны шлях нашых адносін. Калі ты мне нічога не раскажаш, тады я выберу іншы варыянт… Я чакаю!

**Святлана.** Мне няма пра што табе расказваць! Калі хтосьці мне падабаецца, гэта яшчэ нічога…

**Курдзюмаў.** Ах, табе толькі падабаецца! Табе гэта толькі падабаецца… Усяго толькі… *(Б'е плёткай па падлозе.)* Падабаецца рабіць з мяне ідыёта, які даў табе ўсё: адукацыю, грошы, становішча, магчымасць браць усё, што хочаш?

**Святлана.** Хопіць! Што за глупства?

**Курдзюмаў.** Грошы, становішча ў грамадстве — якое ж гэта глупства? Пра такое глупства марыць кожная жанчына. *(Б'е плёткай, закранаючы Святлану.)*

**Святлана.** Ты што, з глузду з'ехаў? Мне ж балюча!

**Курдзюмаў.** А мне не балюча? Мне не балюча ведаць, што мая законная жонка, замест таго каб займацца спасціжэннем навук, цягаецца з вяртлявым адвакатам?

**Святлана.** Не ведаю, што за сволач данесла на мяне, але ты не павінны… Ты не маеш права… Мяне агаварылі…

**Курдзюмаў.** Брэшаш! Хочаш выкруціцца? У мяне гэта не пройдзе. Я дабяруся да праўды!

**Святлана.** Ну і падавіся сваёй праўдай!

**Курдзюмаў.** Ах ты, шлюха! *(Б'е плёткай.)*

**Святлана.** Не смей мяне абражаць!

**Курдзюмаў.** А хто ты? Ты і ёсць шлюха! *(Б'е плёткай.)* Каб ты была сумленнай жанчынай, ты б не стала сцяліцца пад гэтага верціхвоста, а падумала б пра сям'ю… *(Б'е плёткай.)*

**Святлана.** Змоўкні!

**Курдзюмаў.** Гэта ты змоўкні! А цяпер распранайся! Дагала!

**Святлана.** Ты здурнеў!

**Курдзюмаў.** І ты ў мяне зараз здурнееш. *(Б'е плёткай.)*

**Святлана** *(спрабуе ўхіляцца, але некалькі ўдараў дастаюць яе).* Адстань! Спыніся! Мне балюча!

**Курдзюмаў.** Здымай усё! *(Больш жорстка б'е плёткай.)*

**Святлана** *(адчайна распранаючыся, скідае з сябе рэчы, кідае ўпрыгажэнні).* На! На! Падавіся!

**Курдзюмаў** *(злосна смяецца, б'е плёткай).* Усё здымай, курва! Да апошняй ніткі.

**Святлана** *(застаецца ў адной бялізне).* На! Мне нічога твайго не трэба, толькі адчапіся! Адчапіся!

**Курдзюмаў.** А цяпер пайшла прэч! *(Б'е плёткай Святлану.)*

*Святлана з крыкам і слязьмі бяжыць з дому.*

**Курдзюмаў** *(адзін).* Я з вамі разлічуся… І гэты адвакацік у мяне яшчэ паскача. *(Злосна б'е плёткай налева-направа.)*

ЗАЛА СУДА.

### *З'ява 9*

*Тамара і Антаніна Іванаўна.*

**Тамара.** Вось я з вамі шчыра і пагаварыла, Антаніна Іванаўна. З сяброўкай Соняй не змагла, а з вамі… Усю сваю гісторыю расказала.

**Антаніна Іванаўна.** Ну ты ж і нарабіла спраў! Соль загавораная… Ніколі сабаку не прабярэ ніякая замова. Я памятаю, таксама хадзіла да чарадзейкі адной. Яна па фотаздымку мужыкоў ад п'янак загаворвала. Прынесла ёй фотаздымак свайго Фядзяні, ну і што?

**Тамара.** Ну і што?

**Антаніна Іванаўна.** Фотаздымак ад замовы пажаўцеў на другі дзень, а ён піць яшчэ больш стаў… Не, прыроду, даражэнькая, не правядзеш… Увесь мужыцкі род — сабака. Сярод мужыкоў толькі п'яніцы бываюць вернымі. Іншыя ўсе гуляюць. Мужыка ад гулянкі лячыць, што гарбатага правіць. Прасцей палюбоўніцу яго адвадзіць.

**Тамара.** Ды як жа яе адвадзіш?

**Антаніна Іванаўна.** Морду ёй трэба падрапаць пры людзях. Больш яна з ім ніколі не знюхаецца…

**Тамара** *(з усмешкай).* Абавязкова пры людзях?

**Антаніна Іванаўна.** Гэта самае галоўнае… У мяне да Фядзяні раман быў з адным педагогам. Я ў школе тады заўгасам працавала. А ў педагога жонка, завуч. Звяруга, вырві вока! Дык яна гэтую справу пранюхала, выклікала мяне ў настаўніцкую і пры ўсіх вось такімі пазногцямі ўчапілася ў маю… дакладней, у твар… І што ты думаеш?

**Тамара.** І што я думаю?

**Антаніна Іванаўна.** Усё каханне да гэтага педагога ў мяне як хваляй змыла. Нават глядзець на яго не магла. Ды і як на яго паглядзіш ў гэткай… з гэткім…

**Тамара** *(адмахваючыся).* Марна ўсё гэта. Адваджу ад Спірына адну кліентку, а ў яго іншая з'явіцца. Што мне за імі ўсё жыццё бегаць? Ды і якое гэта каханне, калі няма ў ім вернасці? Значыць, не святое яно, падманнае.

**Антаніна Іванаўна.** Мне ж таксама бывае крыўдна. За ўсіх чэсных баб крыўда… Адна жыве па праўдзе, а ўсё ёй шчасця няма. А другая, глядзіш, што хоча выробляе… І ўсё рот да вушэй… *(Працягвае Тамары бутэльку віна.)* Выпіць хочаш?

**Тамара.** Крыху можна. *(Разглядае бутэльку.)* Віно… Салодкае… Мы салодкае віно неяк са Спірыным пілі…

**Антаніна Іванаўна.** У мяне віно горкае.

**Тамара.** Ну і няхай будзе горкае. Мне цяпер усё роўна. *(Прыкладаецца да бутэлькі.)*

ВУЛІЦА.

### *З'ява 10*

*Тамара і Антаніна Іванаўна. Ідуць п'яныя.*

**Тамара і Антаніна Іванаўна** *(спяваюць).*

Виновата ли я,
Что мой голос дрожал,
Когда пела я песню ему…

**Антаніна Іванаўна.** Ну, бывай, Тамарачка. Тут мне паварочваць. Вунь жа і дом мой бачны. Там Фядзяня. Мне яшчэ з ім скандаліць давядзецца.

**Тамара.** А мне няма з кім скандаліць. Спірын на семінар паехаў. І спяшацца няма да каго. Адна… Бывайце, Антаніна Іванаўна.

*Тамара ідзе, панура апусціўшы галаву, мурлыкае сама сабе песню.*

ЛЯ ДОМА СПІРЫНЫХ.

### *З'ява 11*

*Тамара і Курдзюмаў.*

**Тамара.** Вы? Што вы тут робіце?

**Курдзюмаў.** Чакаю вас.

**Тамара.** Навошта? Хачаце яшчэ штосьці даведацца пра вашу жонку?

**Курдзюмаў.** Цяпер у мяне няма жонкі. Я выгнаў яе… Адхвастаў плёткай, як кабылу, і выгнаў… Вось і прыехаў да вас — абмыць гэтую падзею. Вы ж маеце да гэтага дачыненне…

**Тамара.** Я маю дачыненне да таго, што вы выгналі сваю жонку? *(П'яная смяецца.)*

**Курдзюмаў.** Што ж вы не запрашаеце мяне ў госці? Вашага мужа дома няма.

**Тамара.** Адкуль вы ведаеце?

**Курдзюмаў.** Я таксама сабраў пэўныя звесткі пра яго.

**Тамара.** Ну што ж, калі ласка. Запрашаю!

*Уваходзяць у кватэру. Курдзюмаў дастае з сумкі віно, фрукты, кладзе на стол. Тамара прыносіць кубкі. Курдзюмаў разлівае віно.*

**Курдзюмаў** *(з іроніяй).* За маю свабоду! Якую часткова падаравалі мне вы.

**Тамара.** Калі вы гэтак лічыце, то няхай будзе гэтак. За вашу свабоду!

*П'юць віно.*

**Тамара.** Я слабая дурная жанчына, але ж вы мацёры мужчына… Няўжо нейкая жончына інтрыжка вас выбіла з сядла?

**Курдзюмаў.** Ці ведаеце вы, слабая дурная жанчына, што такое для мужчыны боль здрады? Не дай вам бог гуляць з мужчынскім каханнем і рэўнасцю. Пустэчу, якую стварае здрада, тут жа запаўняе ярасць. Цераз край. І тады ўжо чалавек за сябе не адказвае… Але цяпер я вам нават удзячны… Лепш раней, чым… Пражыць з чалавекам доўгія гады, а пасля даведацца, што ўвесь гэты час табе дурылі галаву…

**Тамара.** Ды вы ж самі ва ўсім вінаваты. Вы яе проста не кахалі па-сапраўднаму…

**Курдзюмаў.** Як жа мне трэба было яе кахаць?

**Тамара.** Не так, як любімую хатнюю жывёлінку. Жанчына — не хатняя жывёла нават пры самым цудоўным доглядзе. Яна асоба! Ну што ж, налівайце віна… Мы ўсё роўна будзем піць за жанчын!

**Курдзюмаў.** Колькі заўгодна! Але ж і вы хацелі мець свайго мужа нібыта паслухмянага сабачку… Бегалі за ім, сачылі. Значыць, і вашае каханне да яго было без павагі да асобы. Проста дзікае нестрыманае пачуцце кахання, кахання захопніцкага.

**Тамара.** Хіба я падобная да захопніцы?

**Курдзюмаў.** Спачатку вы мне падаліся звычайнай сцервай, якая вырашыла пакуражыцца нада мною. Але цяпер я разумею, што вам было цяжка. Ваш муж і мая жонка — гэтыя два прахвосты…

**Тамара.** Не кажыце гэтак! Я не лічу сябе хоць на кропельку лепшай за вашу жонку. Яна абаяльная, калі здолела прыручыць Спірына.

**Курдзюмаў.** Ваш Спірын проста звычайны бабнік. А мая жонка звычайная кошка.

**Тамара.** Усе жанчыны трохі кошкі.

**Курдзюмаў.** За ваша няверпае племя!

*Зноў п'юць віно. Тамара моцна хмялее, хіліць галаву да стала. Курдзюмаў бярэ яе на рукі. Яна бязвольна абдымае яго за шыю. Курдзюмаў нясе яе ў ложак.*

СПАЛЬНЯ СПІРЫНЫХ. РАНІЦА.

### *З'ява 12*

*Тамара і Курдзюмаў.*

**Тамара** *(прачнуўшыся, трасе галавой, потым рэзка ўскоквае з ложка).* Хто тут?

**Курдзюмаў.** Гэта ўсяго толькі я.

**Тамара.** Вы?

**Курдзюмаў.** Так. Што вас здзіўляе? Мы з вамі ўжо даўно знаёмыя.

**Тамара** *(трасе галавой).* Божа, што гэта было? Вы напаілі мяне?.. А потым…

**Курдзюмаў.** Пэўна, гэта было наканавана лёсам, каб мы з вамі апынуліся разам.

**Тамара.** Ах, навошта я піла гэтае брыдкае віно! А вы зрабілі подла. Вы ж абышліся са мною як гвалтаўнік…

**Курдзюмаў.** Ні ў якім разе. Вы самі пацягнуліся да мяне. Магу вас у тым запэўніць.

**Тамара.** Але ж я была п’яная!

**Курдзюмаў.** У п’яным чалавеку больш праўды. Ён разняволены. Мне падалося, што вам у мінулы вечар надта хацелася прытуліцца да моцнага мужчынскага пляча.

**Тамара.** Што ж мы нарабілі?! Што ж вы нарабілі? Навошта вы прыехалі да мяне?

**Курдзюмаў.** У такім разе і я магу спытацца: навошта вы прыязджалі да мяне? Вы што, пернікаў салодкіх везлі мне? Нейкую дурацкую соль, а галоўнае — інфармацыю.

**Тамара.** Я стрымацца не магла.

**Курдзюмаў.** Вось і я не стрымаўся. Адзін учынак цягне за сабой іншыя.

**Тамара.** Не, гэта не проста нейкі там учынак… Гэта злачынства! *(Выбягае.)*

**Курдзюмаў** *(адзін).* Ну, вось і ўсё. Выкінуў жонку і наставіў рогі адвакаціку. Толькі на душы чамусьці агідна. Воля заўжды набываецца праз боль. *(Кідаецца за Тамарай.)* Тамара, Тамара, выслухайце мяне!..

КАБІНЕТ СОФ’І.

### *З’ява 13*

*Соф’я, Тамара, потым Святлана і, урэшце, Антаніна Іванаўна.*

**Тамара** *(уваходзячы ў кабінет).* Зайшла да цябе, Соня. Няма моцы дома адной сядзець. Месца сабе не знаходжу.

**Соф’я.** Выглядаеш і сапраўды не фантан.

**Тамара.** Сплю дрэнна. Дакладней — зусім не сплю.

**Соф’я.** Ну, з гэтым я табе дапамагу. У мяне ёсць цудоўныя таблеткі ад бяссоніцы. *(Корпаецца ў стале.)* Вось яны!

**Тамара.** Дапамогуць?

**Соф’я.** Яшчэ як! Я, Томачка, ужо гэтак пакутавала! Днём усё пазяхала, а ноччу — нібыта сава вачыма лыпала. І тут мне адзін доктар па знаёмстве прапісаў… Я дзве таблеткі прымала — нібыта ў рай трапляла. У вачах мутнее, думкі блытаюцца, і адплываеш кудысьці ў нябёсы. Уся такая лёгкая… Нібыта з аблокаў… Аўра...

**Тамара.** Як прыгожа…

**Соф’я.** Прыгожа. Але той жа самы доктар іх мне катэгарычна забараніў.

**Тамара.** Чаму?

**Соф’я.** Каб не стала наркаманкай. Снатворнае — рэч каварная. Так што ты, Томачка, не злоўжывай. Пачні з дзвюх таблетак, а пасля па адной. Праз

тыдзень усё наладзіцца. Да гэтага часу і твой Спірын вернецца, і табе не будзе калі хандрыць.

**Тамара.** Хто ведае… А за таблеткі — дзякуй…

*Раздаецца стук у дзверы. Уваходзіць Святлана.*

**Святлана.** Скажыце, калі ласка, Спірын Сяргей Аляксандравіч яшчэ не вярнуўся з камандзіроўкі? Калі ён тут будзе? На якім-небудзь працэсе?

**Соф'я** *(спалохана глядзіць на Тамару).* Ён павінен прыехаць… праз тыдзень. Але калі тут будзе — не ведаю.

**Тамара** *(здзекліва).* А што ж Сяргей Аляксандравіч такі няветлівы? Не дзеліцца з каханкамі сваімі планамі?

**Святлана.** Што за глупства? Хто вы такая?

**Тамара.** Пакуль што яго жонка.

**Святлана.** Ах… Вось вы хто! І хто ж сказаў вам, што я — каханка вашага Сяргея Аляксандравіча?

**Тамара.** Сама пра ўсё даведалася. Навошта прыкідвацца? Мне ўсё вядома. І пра Шахматны клуб, і пра гасцёўню…

**Святлана** *(груба).* Дык ты сачыла за намі? *(Здагадваючыся.)* Дык гэта ты настукала майму мужу?

**Тамара.** Так! *(З выклікам.)* Дык я адкрыла яму вочы на цябе! Каб ён не надта памыляўся ў тваіх вартасцях…

**Святлана.** Дрэнь!

**Тамара.** Мне нават вядома, што ён адхвастаў цябе, як паршывую кабылу, і выгнаў з дому! *(Зларадна смяецца.)*

**Святлана.** Якая ж ты дрэнь…

**Тамара.** А хочаш ведаць больш? Дык вось, твой муж не проста выгнаў цябе, ён потым прыйшоў да мяне за суцяшэннем.

**Святлана.** І ты, канешне, яго суцешыла?

**Тамара.** Суцешыла.

**Святлана.** Гадаўка!

**Соф'я** *(здзіўленая, перапалоханая).* Э-э, вы давайце цішэй… грамадзянкі…

**Святлана.** Што сталася з тваім Спірыным? З ім нічога не сталася! А ты мне сям'ю разбіла…

**Тамара.** Я? Табе? Перахрысціся! Хіба я спакушалася на чужога мужа?

**Святлана.** Ды лепей бы спакушалася, чым нагаворвала! Безгаловая дурніца! *(Хапае Тамару за валасы.)*

*Пачалася бойка, валтузня, крыкі. Соф'я спрабуе разняць Тамару і Святлану.*

**Соф'я.** Перастаньце! Ды перастаньце ж, урэшце рэшт!

**Святлана.** Я табе ўсе валасы павыдзіраю!

**Тамара.** Не чапай мяне! Адпусці ! Я сама табе валасы павыдзіраю!

**Соф'я.** Антаніна Іванаўна! Ратуйце! У мяне тут бойка!..

*Забягае Антаніна Іванаўна, разнімае Тамару і Святлану.*

**Антаніна Іванаўна.** Тамарачка, ты яе за морду за морду! Ох, я б табе дапамагла, ды пазногцяў няма! *(Да Святланы.)* Пайшла прэч! Я Тамару крыўдзіць не дам! *(Пагражае Святлане швабрай.)* Будзеш ведаць, як чужых мужыкоў прыважваць!..

**Святлана.** Дурніцы! Усе дурніцы! *(Выбягае.)*

**Соф'я.** І сапраўды… Усе з глузду з'ехалі.

**Тамара** *(са слязьмі).* Сонечка, Антаніна Іванаўна, даруйце мне, даруйце! *(Выбягае.)*

**Антаніна Іванаўна.** Давялі Тамару. Дзеўка ж светлая, нязлосная… А як жа давялі! Усё мужыкі, гады!..

**Соф'я.** Але-е… А я ўсё думала: замуж мне пара, замуж пара… Ды ўратуй жа Бог! Будуць валасы рваць, буду слязьмі захлынацца. Лепей торцік вечарам з'есці, цыгарэтку выкурыць, ля тэлевізара паваляцца… А Тамара, бачна, адважылася на рашучую хвіліну. Усё для яе і адкрылася.

**Антаніна Іванаўна.** А ці на дабро адкрылася? Менш ведаеш, цалейшая морда.

КВАТЭРА АЛЕГА.

### *З'ява 14*

*Тамара і Алег.*

**Тамара.** Ты казаў, зноў у Індыю збіраешся, здымаць фільм. Вазьмі мяне з сабой. Я гатовая паехаць хаця б і на край зямлі. А працаваць я кім заўгодна змагу. Асвятляльнікам ці то сумку насіць…

**Алег.** Ты сур'ёзна?

**Тамара.** Цалкам.

**Алег.** Ты ўпэўнена, што табе патрэбны я, а не хтосьці іншы?

**Тамара.** Мне здаецца, з табой было б прасцей за ўсё.

**Алег.** А раптам табе гэта толькі падаецца?

**Тамара.** Няхай… *(Кідаецца да Алега.)* Уратуй мяне, Алег! Пазбаў мяне ад усяго гэтага жыцця… Ад гэтага кахання… Ад гэтых людзей… Ад пакут маіх! Уратуй мяне ад Курдзюмавых, ад Спірына, ад самой сябе ўратуй! Хаця б на час. Я ж была тваёй. Звязі мяне куды-небудзь далей. У пустыню, у горы. Усё роўна!

**Алег.** Ты, пэўна, пасварылася з мужам. І хочаш на нейкі час схавацца ад яго… Ты і ў мінулы раз хацела яму зрабіць непрыемнае. Я зразумеў гэта.

**Тамара.** Ты эгаіст. Хіба цяжка дапамагчы жанчыне, якая заблыталася?

**Алег.** Я гатовы дапамагчы, але не хачу быць пешкай у тваёй гульні. Ты, Томачка, спярша сама ў сабе разбярыся. Не здарылася б гэтак, што потым і ад мяне табе захочацца да некага ўцячы… А што датычыць эгаізму… Эгаізм — моцная якасць. Толькі эгаісты ўмеюць па-сапраўднаму паважаць людзей. Ты спачатку сябе палюбі. Так палюбі, каб ні перад кім не прыніжацца, нічога ў іншых не выпрошваць!

*Тамара адступае ад Алега і, урэшце, выбягае.*

КВАТЭРА СПІРЫНЫХ. СПАЛЬНЯ.

### *З'ява 15*

*Тамара.*

**Тамара** *(адна).* Што цяпер? Раніца ці па-ранейшаму ноч?... Хутка прыедзе Спірын і пра ўсё даведаецца. І пра Курдзюмава, і пра Святлану, і пра мяне… ды і я пра Алега ўтойваць не буду… Што ж за любоў ува мне такая, калі яна ўсім лёс ламае? Хіба аб гэтым я марыла, калі замуж пайшла?.. А чаму Спірыну скандал не ўчыніць? Пабаялася, што пасля скандалу між намі нешта парвецца. Адна хацела з усім справіцца, адна ўсё адолець. Каб усё па-ранейшаму пакінуць. Так ужо мне не хацелася яго пэцкаць папрокамі.

Яго берагла, а сябе ламала… *(Матляе галавой.)* Я ўжо некалькі начэй не сплю. Галава трашчыць. Ах! Ды што ж гэта я! Зусім забыла. Мне ж Соня таблетак дала. Усыпляльных! *(Кідаецца да сумачкі, знаходзіць таблеткі.)* Вось яны! Зараз засну. Соня сказала: дзве таблеткі. Дзве таблеткі мала. *(Набірае цэлую жменю.)* Як Соня гаварыла: аўра. Я раствараюся ў гэтай аўры. І мне будзе лёгка і спакойна. І ніхто не асудзіць і не пакрыўдзіць мяне. А прачнуся я ўжо зусім іншай. І ў іншым жыцці. Вось цяпер я ўсё зразумела… Можа, і не любоў гэта ўва мне была, а жаданне яе. Сапраўднай, бясконцай, прыгожай любві. Якой на свеце і няма, напэўна. Але ў іншым жыцці яна ёсць. Яна павінна быць!.. Прабачце мне ўсе. Я проста шчаслівай хацела быць. Самай шчаслівай. Прабачце. Вы ж павінны мяне зразумець, усе пра гэта марыць. І Спірын, і Святлана, і Курдзюмаў, і Алег — яны таксама павінны мяне зразумець і дараваць. *(Збіраецца выпіць таблеткі.)* Колькі тут іх? *(Марудзіць.)* І ўсё ж што зараз — ноч або раніца? *(Ідзе да акна, расхінае фіранку, чуюцца дзіцячыя галасы за акном.)* Раніца! Ужо раніца… А чысло? Якое сёння чысло? Прайшло ўжо некалькі дзён… Ах! Мне да ўрача трэба… *(Хутка збіраецца і выбягае з дома.)*

ДОМ БАБКІ ЛЮШЫ.

### *З'ява 16*

*Бабка Люша, Тамара, дзед Сямён.*

**Бабка Люша** *(гуляючы ўпрыгажэннямі)*. Старасць ніякім золатам не прыкрыеш. А ў маладосці і золата ніякага не трэба…

*Раздаецца стук у дзверы. Бабка Люша ідзе адчыняць.*

**Тамара** *(уваходзіць з чамаданам)*. Вось, баб Люш, сабралася я з'язджаць. Развітацца зайшла.

**Бабка Люша.** Куды ж ты?

**Тамара.** Куды-небудзь падалей. У родны пасёлак вяртацца не хачу. У вёску паеду, да родзічаў. Да цёткі стрыечнай. Ты ж ведаеш, баб Люш, я сірата ўжо.

**Бабка Люша.** А каханне тваё вялікае? Што ж, кідаеш свайго анёла?

**Тамара.** Анёл застаецца анёлам, вось толькі я яму не падыходжу. Ды і цяжарная я, баб Люш. Баюся, што не ад анёла…

*Дзед Сямён тым часам падслухвае за дзвярыма і пацірае ад задавальнення рукі.*

**Бабка Люша.** Вось дзівосы! Ты ж дзеўка нібыта не разбэшчаная.

**Тамара.** У тым жа і ўся бяда. Усё па-чэснаму хацелася, а атрымалася адна ганьба… Але ад дзіцятка адмаўляцца не буду.

**Бабка Люша.** Ну што ж, жанчына на тое і маці. Павінна ўмець выбіраць паміж дзіцёнкам і мужыком.

*Уваходзіць дзед Сямён.*

**Дзед Сямён.** І каму ты патрэбна будзеш пузатая? Якім родзічам? У нас заставайся. Вунь якая даміна. Месца хапае.

**Тамара.** А вы, дзед Сямён, ізноў падслухвалі?

**Дзед Сямён.** Я падслухваю не для таго, каб пляткарыць, а каб справе дапамагчы.

**Тамара.** Баюся я ў адным горадзе са Спірыным заставацца. Раптам даведаецца, дзе хаваюся. Мне цяпер яму ў вочы глянуць страшна.

**Дзед Сямён.** Калі ён цябе захоча знайсці, знойдзе і ў Кітаі.

**Бабка Люша.** Стары правільна кажа. Ён хаця і ёлуп, але сэрца ў яго мяккае. Заставайся! І нам весялей, і ты пад дахам. І мальца твайго прымем.

**Тамара.** А можа, і сапраўды ў вас застацца? Я Спірыну такую запіску пакінула… Пасля такой запіскі яму, можа, мяне і ў суседнім пакоі шукаць не захочацца.

**Дзед Сямён.** Ну, вось жа! *(Да бабкі Люшы.)* Ну што, старая, усё марылі мы з табой пра ўнучку. Але вось не было. Можа, і ўнучка, і праўнучка будзе ў нас. *(Да Тамары.)* Пойдзем, я табе пакой твой пакажу. Ты са мной прасцей. Адразу зразумей: хто-хто, а я цябе ні ў чым вінаваціць не збіраюся. Толькі біты бітага зразумее.

*Дзед Сямён і Тамара сыходзяць.*

**Бабка Люша** *(адна).* Заблыталася дзеўка. Узняла каханне вышэй за нябёсы. З гэткай вышыні і ўпала…

**Дзед Сямён** *(вяртаючыся).* Ну і добра. Падзівачыла трохі — і нараджаць. Што з бабы возьмеш? Нарадзіла, значыць, і адбылася як жанчына. А мужыкі, каханне — усё нажыўное. Хопіць яшчэ на яе век самцоў… Хэ-хэ!

КАБІНЕТ СОФ'І.

### *З'ява 17*

*Соф'я, Алег, затым Спірын і потым Курдзюмаў.*

**Алег.** Чаму ж яна збегла ад мужа?

**Соф'я.** А чаму ад мужа збягаюць? Здагадайся з трох разоў. Першая спроба.

**Алег.** Напэўна, яго не кахаюць.

**Соф'я.** Ну, калі ўсе, хто не кахае мужоў, пачнуць ад іх збягаць… Тады наогул мужчыны застануцца ні з чым… Другая спроба.

**Алег.** Напэўна, любяць іншага.

**Соф'я.** Ну, навошта ж збягаць ад мужа, калі любіш яшчэ і іншага? Трэцяя спроба.

**Алег.** Я не ведаю.

**Соф'я** *(шэптам).* Толькі табе, Алег, па сакрэце. Як вернаму сябру Тамары. Яна цяжарная не ад мужа…

**Алег.** Што, Тамара цяжарная? Не ад мужа? Дзе яна цяпер?

**Соф'я.** Я і сама не ведаю. Яна зайшла развітацца, але не сказала, куды з'язджае. Не хацела, каб яе даймалі… А ты тут пры чым?

**Алег.** Пры тым…

*Соф'я пачынае штосьці разумець.*
*Уваходзіць Спірын.*

**Спірын.** Соня, ты добра ведаеш Тамару. Растлумач мне, што за чартаўшчына? Яе бязглузды ад'езд, гэтая запіска дурнотная… *(Выцягвае з кішэні запіску, чытае.)* «Я надта хацела цябе любіць. Але ў мяне не хапіла сіл. Я з'язджаю. Я цяжарная ад іншага чалавека. Жадаю шчасця са Святланай. Не шукай мяне. Не трэба, каб мне было яшчэ больш балюча».

**Соф'я.** Значыць, і не трэба шукаць. І не трэба, каб ёй было яшчэ больш балюча.

**Спірын.** Хто ёй напляткарыў пра Святлану? Які такі іншы чалавек? Ад каго яна можа быць цяжарнай? У яе не было нікога…

**Соф'я** *(касавурачыся на Алега, які ўладкаваўся ў куточку).* Так ужо і не было? Вы не надта назіральны, Сяргей Аляксандравіч. *(Сціхае, разумеючы, што прагаварылася.)*

*Спірын з падазрэннем глядзіць на Алега.*
*Уваходзіць Курдзюмаў.*

**Курдзюмаў.** Вы сяброўка Тамары. Мне трэба ведаць, дзе яна знаходзіцца?

**Соф'я.** А вы, дазвольце спытацца, хто?

**Курдзюмаў.** Курдзюмаў Генадзь Барысавіч.

**Соф'я** *(спалохана пaглядаючы на Спірына).* Навошта яна вам? Сямейству Курдзюмавых лепей пакінуць у спакоі няшчасную цяжарную жанчыну.

**Курдзюмаў.** Цяжарную? І даўно яна?

**Спірын** *(умешваючыся ў размову).* А вам што за справа?

**Курдзюмаў** *(пасля некаторага замяшання).* А-а, вы тут, пан адвакат. А раптам гэта маё дзіця? А на вас і на маю жонку, з якой у вас шашні, мне напляваць.

**Алег.** Як? Дзіця можа быць і вашым таксама?

**Спірын.** Дык вы што? Яе каханак?

**Соф'я** *(бачачы напружаную сцэну).* Антаніна Іванаўна! Антаніна Іванаўна! Ратуйце! Цяпер тут такое пачнецца… *(Выбягае.)*

ШАХМАТНЫ КЛУБ.

### *З'ява 18*

*Марына, Косараў, Святлана, затым Спірын.*

**Марына.** Не магу паверыць… Сяргей Аляксандравіч працуе з людзьмі, ведае псіхалогію, і гэтак праглядзець жонку… Выключны выпадак.

**Косараў.** Заўжды мы спрабуем тлумачыць сфінксы, а тое, што працей паранай рэпы, зразумець не можам. Ніякі гэта не выключны выпадак! Успомніце, не так даўно Спірын весяліўся тут са сваёй сяброўкай.

*Звініць дзвярны званочак, уваходзіць Святлана з сумкай на плячы.*

**Святлана.** А Сяргея Аляксандравіча тут не было?

**Марына.** Не, не было.

**Святлана.** Што вы на мяне гэтак глядзіце? Вам ужо усё вядома? Вы чакаеце ад мяне тлумачэння?

**Косараў.** Безумоўна.

**Святлана.** Тлумачэнне надта простае.

**Марына.** Якое?

**Святлана.** Прагнасць. І я, і Тамара надта прагныя да шчасця.

**Марына.** Як? Што вы такое кажаце?

**Косараў.** Прагнасць?

**Святлана.** Вы самі, Леў Мікалаевіч, неяк папракнулі мяне за калодзеж. Вось і Тамару не прамінула гэтая страсць.

**Косараў.** Але ж дазвольце, Тамара са сваёй законнай крыніцы чэрпала.

**Святлана.** Ну і няхай. Можна і ля сваёй крыніцы праявіць прагнасць. Ужо калі я ў чымсьці не зусім шчаслівая, не прымірuся! Ваяваць буду, нараблю глупстваў, сябе страчу, іншых звяду, але не змірuся!.. А Сяргей Аляксандравіч, падобна, і не прыйдзе. Ну і правільна. Я сама тое заслужыла. Еду я адсюль. Развітацца зайшла.

**Косараў.** Куды вы цяпер?

**Святлана.** Пакуль да маці, на Урал. А там будзе бачна. Бывайце. У мяне хутка поезд… *(Да Марыны.)* Абдыміце за мяне Сяргея.

*Святлана сыходзіць.*

**Марына.** Вось жа лёс! Такая прыгожая жанчына — і выкінутая на ўзбочыну.

**Косараў.** Ніколі не трэба скардзіцца на лёс. Можа, сёння ён уратаваў гэтую пані ад больш горкай долі.

**Марына.** На прыгажосць заўжды ёсць попыт. Яе яшчэ пакахаюць.

**Косараў.** А яна?

*Уваходзіць Спірын.*

**Спірын.** А ці не заходзіла?..

**Марына.** Заходзіла.

**Косараў.** Але не дачакалася. У яе хутка поезд адыходзіць.

**Марына.** Прасіла вам кланяцца.

**Спірын** *(задуменна).* Гэтак, можа, і лепш. Доўгія провады — залішнія нюні… З грэшным каханнем трэба развітвацца лёгка, не шкадуючы.

**Марына.** А калі іншага няма, тады як быць?

**Спірын.** Тады лепш — ніякага кахання! Каханне захапляе, яно ненасытнае. Там, дзе моцная страсць, там і моцны боль. І наогул жыццё чалавека пачынае скарачацца з першага любоўнага пацалунка.

**Косараў.** Тады, можа, партыю ў шахматы?

**Спірын.** А што? Давайце!

*Косараў і Спірын ідуць у ігравы пакой.*

**Марына** *(адна).* Гэтае мужчынскае племя ніхто ніколі і нічым не прабярэ. Яны любое каханне прамяняюць на шахматы, на вайну, на бутэльку піва… А што возьмеш з іх? Мужыкі…

ЗАЛА СУДА.

### *З’ява 19*

*Спірын, Алег, Курдзюмаў (апранутыя ў судзейскія мантыі), Антаніна Іванаўна, Соф’я, бабка Люша, Косараў, дзед Сямён, Марына. Потым Тамара.*

**Спірын.** Спадарства! Як бы там ні было, мы цывілізаваныя людзі і давайце разбяромся ва ўсіх абставінах. Цвяроза і чэсна разбяромся. Мы ўсе тут… пацярпеўшыя…

**Алег** *(займаючы адно з судзейскіх крэслаў).* Усё бязглузда склалася. Мы з ёю сябравалі. І яна скарысталася мной, маёй дружбай, каб адпомсціць мужу. Я стаў падручным яе помсты, яе інструментам…

**Курдзюмаў** *(займаючы яшчэ адно судзейскае месца).* Мне яна прынесла боль і адзіноту. Яна фактычна разбіла сям'ю. З помсты яна ўдарыла мне нажом у сэрца. Бязлітасна…

**Спірын** *(займаючы цэнтральнае судзейскае месца).* Яна кінула мяне. Падманула. Яна здрадзіла мне. Я не зрабіў ёй нічога дрэннага. Ніколі не абразіў і нічым яе не прынізіў. Але яна раскалола наш сусвет…

**Антаніна Іванаўна.** А па мне — гнаць вас трэба адсюль паганай мятлой! Знайшліся судзільшчыкі! *(Б'е швабрай па судзейскай кафедры.)*

*З'яўляецца Тамара. На ёй белае адзенне. Бачна, што яна цяжарная.*

**Тамара** *(спявае).*

Виновата ли я?
Виновата ли я?
Виновата ли я,
Что люблю?

*Спірын, Курдзюмаў і Алег пакідаюць свае судзейскія месцы, скідаюць мантыі. Усе прысутныя абкружаюць Тамару.*

**Антаніна Іванаўна** *(пагражаючы швабрай).* Ну, хто яшчэ хоча пасядзець у крэсле суддзі?

***Заслона.***

***Пераклад з рускай Ірыны МАСЛЯНІЦЫНАЙ.***



## Алесь БАРАНОЎСКІ

* * *

«Дадому!» — кажу я перону.
Дадому лячу на пастой.
Я з гэтай зямлёю да скону
Сваёй паяднаны душой —

Дзе жораў над студняй цыбаты,
Дзе рунь маладая ў палях,
Дзе звілісты й дужа стракаты
Пачаўся жыццёвы мой шлях.

І ўлетку лячу я, і ўзімку.
Знаёмая сцежка міне…
Радзімы святыя абдымкі,
О, як не хапала вас мне.

### МАТУЛІ

Ты нічым Божы свет не пакрыўдзіла,
Ды не ведала лёсу шчадрот.
Праляцелі, як птушкі над выспамі,
І хвіліна, і месяц, і год.

І трывога, бы ягада, выспела
На душы і на сэрцы якраз,
Бо журбу, што слязінаю выстыла,
У жыцці ты сустрэла не раз.

---

***Бараноўскі Аляксандр Аляксандравіч*** *нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў вёсцы Церуха Гомельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (2011). Магістр мастацтвазнаўства (2012). Аспірант Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы.*

*Аўтар паэтычных кніг «Чуйнае акно» (2008), «Вясляр» (2010).*

Варухніся, палотнішча зорнае,
Хай малітва мая даляціць.
І пакута матулі бяссонная
Хай расстайнаю зоркай зіхціць, —

Каб скарылася доля нялёгкая,
Прадчуваючы зменлівы час.
Чуеш, мамачка, рэха галёкае?
То спяшаецца радасць да нас.

* * *

У родны бор, як калісь, завітаў.
Ён быў чамусь маўклівы і пануры.
Хоць, як і я, у ліўні і ў віхуры
Гібеў, але й дагэтуль не сканаў.

А там — наўпрост за горкаю — клады,
Дзе сцежкі і цяпер туманы золяць.
Яны маю журбу ў душы аголяць,
Бы кволы шчэ падлесак малады.

Ты ачуняла, матчына зямля.
Красе жыцця як тут не надзівіцца?!.
Як паядналы гэты дол з грыбніцай,
Так паяднаны з гэтым борам я.

* * *

Я табой аслеплены… Яблык з горкім прысмакам.
Змоклым садам, выстылым, сцежка ў нас адна.
Ажыві на прысаку успамінам-выстралам,
Не замоўкні зморана, чуеш, давідна.

Заблукай пракосамі ды вярніся, росная…
Аднаўлення поўная, чыстая бруя.
Не скарайся, грозная, не скарайся, слёзная…
Песня недапетая, ластаўка мая.

* * *

Шчыміць сумленне — прагну чысціні.
Агонь і вільгаць — марнае змаганне…
Мяне ты вершам добрым памяні,
Калі згару ў паэзіі дазвання.

Заголеных кінжалаў не бяры,
Старызнай не заві святыя словы.
Я дагару і ў водбліску зары,
Як Фенікс, адраджуся адмыслова.

Шчыміць сумленне — прагну чысціні,
Бо несумленна жыць я не жадаю.
Збіраю на дарозе камяні
І ў крэпасць непарушную складаю.

* * *

Прабіраюць ад холаду дрыжыкі.
Непрытульны на вуліцы гвалт.
Асыпаюцца рыжыя-рыжыя
Трапяткія лісты на асфальт.

Языкі нескаронага полымя
Ці іскрынкі нязбыўных надзей?..
Аблятаюць, кляновыя, кволыя,
На вачах раўнадушных людзей.

Лісце з ветрам віхураю носіцца,
Прыпадзе медзякамі да шкла…
І душа, як лістота, папросіцца
Да вясны, да цяпла, да святла.

* * *

Як цноты дар, як падарунак Божы
Бялюткі снег упаў сярод двара.
«Зіма прыйшла, марозная пара», —
Сказаў сабе усцешаны прахожы.

Гарыць прастор, што не відаць мяжы:
Схавалася за небнай павалокай.
І толькі цёмна-шэрыя аблокі
Над намі будуць з раніцы кружыць.

* * *

Я не забыў, як бег на спад
Дзень мітуслівы, дзень марозны,
Як зіхатлівы далягляд
Саткаў радно на вечных кроснах,
Як паглынала далячынь
Вакзалаў стынь і гул паўстанкаў.
…Як чорнай сажаю Хатынь
Схавала сонца на світанку.

* * *

Аканіцы раз’ём, а у кронах — раз’ятраны вецер.
Акалічнасцей здзек, што заведзены некім на свеце.

Акальцуе смуга паразмецены прысак былога.
А каму вырашаць, дзе замала жуды, дзе замнога?

Акрывавіцца дзень, загарыцца спалошана ў жыце.
Акрыяе душа, што вартуе паднебныя жыцці.

Акрыляй, пачуццё, да апошняга гуку і ўздыху,
Аклікай з небыцця не забытую сэрцам адлігу.

Аканічны раз'ём ці разбудзіць раз'ятраны вецер?
Акаваны прасцяг ды віхурай зламанае вецце…

* * *

Паглядзі на мяне скрозь пярыну нязбітую хмар,
Намалюй прамянём хоць пункцірную лінію шчасця.
Як засмучаны грэшнік у час міласэрны прычасця,
Я прыйшоў да Цябе. Сустракай маладых, Уладар!

Я паэт. Назаўжды. А паэтам скараецца й час,
Што адлічвае дні, па радках вымяраючы страты.
Я спазнаў гэты свет, мо таму і хаваю упарта
Той праменьчык жывы, што пакуль даастатку не згас.

Дык трымці, цеціва залачоная сэрцабіцця!
Хай пашчасціць усім, хто праходзіць праз лёс мой ці міма.
І ніколі сляза не астыне ў вачах Херувіма,
І ніколі, Ты чуеш, не стане залішне жыцця…



## Надзея ФІЛОН

* * *

Вабіць неба начнога прастор
Цішынёй далячынь неабсяжных.
Я душою імкнуся да зор,
Незалежных, амаль незаўважных.

Зоркі — сведкі жыццёвых шляхоў
І маўклівага смутку аб вечным.
З захапленнем гляджу зноў і зноў
На дарогу нябёсаў — Шлях Млечны.

І маланкамі думкі ляцяць,
Абрываюць аблокаў тканіну.
Я люблю на зямлі разважаць...
Сэрца ж рвецца ў нябёсаў краіну.

* * *

Не паміраюць людзі — пераходзяць
У таямніцу вечнага жыцця.
Душа прытулак новы там знаходзіць,
Ірвуцца ніці шляхам забыцця.

Перад душою адчыняе дзверы
Ўладар Сусвету — вызначае лёс.
Дзе будзеш ты? Куды імкнуўся? Верыў
У Царства Бога ці ў краіну слёз?

---

***Філон Надзея Міхайлаўна*** *нарадзілася 14 жніўня 1988 года ў Гомелі. Скончыла Гомельскі дзяржаўны педагагічны каледж імя Л. С. Выгоцкага (2008). Цяпер — студэнтка філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Кроплі святла» (2012).*

Пакуль жывы — пытанне застаецца.
І таямніца — колькасць тваіх год.
Знайдзі адказ, пакуль шчэ сэрца б'ецца.
Няхай свядомым будзе пераход.

* * *

Успаміны дзяцінства, як сонечны дзень…
Колькі год з тых часоў праляцела?
І дрыготкі застаўся ад іх толькі цень —
Я з юнацтвам з'ядналася смела.

А ў дзяцінстве ўсё ясна і проста было:
Ні праблем, ні турбот я не мела,
Адчувала жыццёвую шчырасць, цяпло,
Для сябе незаўважна сталела.

Хоць змяніліся думкі і мары мае,
Я дзяцінства ў душы захавала.
У нябёсы гляджу — Бог імкненні дае,
Каб пражыць на зямлі дасканала.

## ЗВЫЧАЙНАЯ ЗМЕНА

Люблю пад вечар слухаць цішыню,
Ёй прыхавана веліч і магутнасць...
Як слова ёсць падобнае агню,
Так у цішы спакою ёсць прысутнасць.

Люблю я ўдзень за рухам назіраць,
Пчалой руплівай, працай чалавека.
Адны працуюць, як на іх глядзяць,
Адданы справам іншыя спрадвеку.

На змену ночы зноў прыходзіць дзень,
За рухам след у след ідзе статычнасць.
Люблю на змену гэтую глядзець
І сэрцам адчуваць жыцця лагічнасць.

* * *

Белая сняжынка на далоні
Хутка стала кропелькай вады
І, сагрэтая сардэчным промнем,
Знікла з царства снегу назаўжды.

Дык няхай жа пры сустрэчы з вамі
З чалавечых душ знікае лёд,

Каб нікому не нанесці раны
Сярод крыўд жыццёвых і нягод.

* * *

Зімовы лес. Прыроды таямніца,
Сукупнасць прыгажосці і натхнення.
Тут хочацца душою з вечным зліцца
І не хапае слоў ад захаплення.

Блішчаць на сонцы мёрзлыя галінкі,
Ахутаныя снегам, нібы срэбрам.
А белыя ласкавыя сняжынкі
Пяшчотна абдымаюцца з паветрам.

## НА АБСЯГАХ ВЕЧНАСЦІ

На абсягах вечнасці стаю...
Што мяне наперадзе чакае?
Захаваць загадкавасць сваю,
Чысціню і веру я жадаю

І пранесці, нібы запавет,
Праз імклівы бег жыццёвых сцежак…
З захапленнем я гляджу на свет,
На абсягі вечнасці бязмежнай.

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

# ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ ДРАМАТУРГІЯ Ў ТЭАТРЫ

У тэатральным працэсе постсавецкай прасторы адбываецца актыўнае развіццё ў кірунку дакументальнага тэатра. Дакументальны тэатр — гэта тэатр, які выкарыстоўвае ў якасці тэксту толькі дакументы, першакрыніцы, адабраныя і «пастаўленыя» ў адпаведнасці з сацыяльна-палітычнай праграмай драматурга [1, с. 351]. Ён узнік на пачатку XX стагоддзя адначасова ў СССР і Германіі як рэакцыя на змены грамадска-палітычнага ладу і Першую сусветную вайну. У Германіі першы дакументальны спектакль «Нягледзячы ні на што» пра рэвалюцыі ў сусветнай гісторыі паставіў у 1925 годзе Эрвін Піскатар. У СССР прафесійным заснавальнікам гэтага кірунку стаў славуты калектыў «Сіняя блуза», які ўзнік на базе тэатра-газеты, дзе зазвычай практыкавалася чытанне навін па ролях, пры Маскоўскім інстытуце журналістыкі [2]. Рэпертуар складалі літаратурна-мастацкія мантажы, агляды, сцэнкі, што адлюстроўвалі грамадска-палітычнае жыццё ці былі прысвечаны вытворчым тэмам. Галоўны крытэрый тэматыкі — злабадзённасць. Эстэтыка «Сіняй блузы» супрацьлеглая эстэтыцы тэатра рэалістычнай школы Станіслаўскага [3]. Аднак, у адрозненне ад Германіі і Англіі (дзе пазней гэты кірунак стаў вельмі папулярным), у СССР традыцыя дакументальнага тэатра фактычна перарвалася. З 1930-х і да канца 1990-х гадоў XX стагоддзя ў розных тэатрах краін, якія ўваходзілі ў СССР, існавалі адзінкавыя і, як правіла, «ідэалагічна вытрыманыя» пастаноўкі. Напрыклад, «Дзесяць дзён, якія ўразілі свет» па Дж. Рыду ў Тэатры на Таганцы ў Маскве (рэжысёр Юрый Любімаў; 1965); «Праўду! Нічога, акрамя праўды!!!» па Д. Алю (рэжысёр Валерый Раеўскі; 1970) у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Стала гэты від тэатральнага мастацтва вярнуўся на постсавецкую прастору толькі ў 1999 годзе, калі ў Маскве і Новасібірску прайшлі семінары лонданскага тэатра «Ройял Корт», шырокавядомага сваёй актыўнай працай у гэтым кірунку. Падчас семінараў драматургі пазнаёміліся з новымі тэхнікамі работы, пра якія будзе сказана ніжэй.

У Расіі творцы, якія эксперыментуюць з дакументальным тэатрам, сканцэнтраваны вакол Тэатра.DOC, што прагрэсіўная творчая інтэлігенцыя заснавала ў Маскве ў 2002 годзе. Тэатр.DOC — незалежны, недзяржаўны, некамерцыйны калектыўны праект, які паспяхова дзейнічае і сёння. Большую частку рэпертуару складаюць спектаклі, заснаваныя «на подлинных текстах, интервью и судьбах реальных людей» [4], а сам тэатр «является особым жанром, существующим на стыке искусства и злободневного социального анализа. Творческие группы театра создают спектакли на основе встреч с реальными людьми, на самые актуальные и своевременные темы окружающей действительности» [4].

У Беларусі спецыяльнага тэатра, які працаваў бы выключна з дакументальным матэрыялам, няма. Маладыя драматургі (на жаль, больш вядомыя за межамі краіны, чым на радзіме), што працуюць у гэтым напрамку, гуртуюцца вакол

Цэнтра беларускай драматургіі (Цэнтр працуе на малой сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі). Да таго ж адзінкавыя дакументальныя спектаклі сустракаюцца ў рэпертуарах асобных тэатраў: «Чарнобыльская малітва» (дакументальныя ўспаміны ахвяр трагедыі) па аднайменнай кнізе Святланы Алексіевіч у пастаноўцы французскага рэжысёра Бруна Бусаголя і Валерыя Анісенкі ідзе ў рэпертуары Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі; «Апошнія сведкі» па аднайменнай дакументальнай кнізе Святланы Алексіевіч, дзе сабраны ўспаміны тых, чыё дзяцінства прыпала на час Вялікай Айчыннай вайны, паставіў на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа рэжысёр Уладзімір Савіцкі. Існуюць такія спектаклі і як асобныя праекты, часцей міжнародныя. Напрыклад, беларуска-шведскі праект Кацярыны Аверкавай і Нільса Торпуса, дзе акцёры дзяліліся з гледачамі гісторыямі свайго першага кахання.

Такім чынам, апошняе дзесяцігоддзе для развіцця дакументальнага тэатра на постсавецкай прасторы стала досыць плённым.

Дакументальны тэатр цесна звязаны з такой галіной літаратуры і журналістыкі, як публіцыстыка. У прынцыпе, пэўная публіцыстычнасць уласціва амаль для любога тэксту, напісанага для тэатра. Кірунак дакументальнага тэатра цікавы яшчэ і таму, што яго ствральнікі выкарыстоўваюць метады і жанры публіцыстыкі з ідэнтычнай мэтай: паспрабаваць максімальна дакладна зафіксаваць і асэнсаваць падзеі, што адбываюцца ў рэальнасці (зазвычай маштабныя сацыяльныя катаклізмы). Асноўнымі метадамі для тэатральных дакументалістаў з’яўляюцца інтэрв’ю і назіранне. Асноўныя тэхніка, з дапамогай якой ствараюцца дакументальныя тэксты для тэатра, — вербацім.

Тэрмін «вербацім» (ад лат. «даслоўна») раней абазначаў выключна тэхніку, якая заснавана на тым, што «пьеса делается из интервью актеров с реальными людьми, дословно расшифрованных драматургом и точно воспроизведенных на сцене» [5]. З часам слова «вербацім» стала шматзначным: «1) технологически продвинутое произведение зрелищного искусства, связанное с новой драматургией, содержащее шокирующие элементы, касающееся социально окрашенной реальности, отражающее нестандартный синтаксис разговорной речи (...); 2) яркий бытовой случай или необычная жизненная история; 3) разговор или ситуация, в которых прослеживается интересный опыт; 4) оригинальное выражение, услышанное в обыденной речи; 5) что-то настоящее, реальное, то, что нарочно не придумаешь» [5].

Дарэчы, метадалогія, якую распрацоўваюць і выкарыстоўваюць тэатральныя дзеячы, якія займаюцца дакументальным тэатрам, можа быць карыснай і для журналістаў, і для публіцыстаў, і для пісьменнікаў. Бо для таго каб выявіць новыя магчымасці, што адкрывае метад інтэрв’ю для атрымання інфармацыі і стварэння тэкстаў, у людзей некаторых творчых прафесій (асабліва журналістаў) можа банальна не хапаць часу. Напрыклад, вядомы расійскі драматург Міхаіл Дурнянкоў не так даўно прыязджаў у Беларусь весці семінар, прысвечаны ў тым ліку і дакументальнаму тэатру. На адной з сустрэч ён агучыў тэзіс пра ўплыў працягласці інтэрв’ю на яго факталагічную аснову і ступень шчырасці субяседніка. Аказваецца, каб пачуць нешта асабістае, тое, пра што суразмоўца гаварыць не рыхтаваўся і не думаў, трэба бесперапынна размаўляць з чалавекам на працягу не менш як сарака хвілін. Наўрад ці ў сучасных журналістаў і публіцыстаў, захопленых вірам інфармацыйнай плыні, знойдзецца дастаткова часу, каб самастойна вынайсці гэта вопытным шляхам. Але пры нагодзе (напрыклад, пры падрыхтоўцы вялікіх па аб’ёме інтэрв’ю, размовах са сведкамі знакавых падзей, людзьмі з няпростым лёсам) гэтая інфармацыя можа быць карыснай для аўтараў.

Тыя, хто працуе над стварэннем дакументальных тэкстаў для тэатра, лічаць, што, «начиная от подготовки вопросов и до итоговой передачи интервью актерами, главная задача — сдержать собственные силы к пониманию того, что говорят, и отнестись к интервью как ученый к заповеднику» [6]. Пра розніцу паміж журналісцкім інтэрв'ю і інтэрв'ю, зробленым у тэхніцы вербацім, дакладна выказаўся расійскі драматург і тэатральны дзеяч Міхаіл Угараў: «…журналистское интервью достает информацию из человека, а интервью в вербатиме достает из человека все: его психическое состояние, настроение» [7].

На Беларусі дакументальны тэатр распаўсюджаны пакуль што не вельмі шырока. Адзінае месца, дзе ў нашай краіне вядуцца паўнавартасныя эксперыменты з сучасным тэатральнымі тэкстамі ўсіх кірункаў, — Цэнтр беларускай драматургіі. У той ці іншай ступені да дакументальнага тэатра і тэхнікі вербацім звяртаюцца бадай што ўсе маладыя беларускія драматургі: Павел Пражко, Дзмітрый Багаслаўскі, Сяргей Анцэлевіч, Віктар Красоўскі, Павел Рассолька і іншыя.

У прынцыпе, тэхніка вербацім уключае ў сябе два метады сбору матэрыялу: інтэрв'ю (калі драматург адкрыта задае пытанні суразмоўцу і фіксуе яго адказы) і назіранне (калі драматург літаральна падслухоўвае, не даводзячы да ведама герояў сваіх намераў). Павел Пражко карыстаецца абодвума. Прычым разабрацца ў творчых метадах гэтага аўтара і выніках працы з імі — даволі цяжка. Высветліць, ці з'яўляецца выкарыстаны вербацім мастацкай рэканструкцыяй альбо гэта дакладная фіксацыя дыялогаў, якія напраўду гучалі, немагчыма. Аднак незалежна ад адносін з рэчаіснасцю тэксты Пражко адметныя дакладнай фіксацыяй сучаснага простага маўлення. У якасці прыкладу прывядзём цытату з аднаго з апошніх тэкстаў «Злая девушка»:

«**Дима:** Скажи мне ещё раз, кто там был?

**Алена:** Люба с Сергеем. Машки не было, потому что она стесняется ходить, потому что она выпьет, будет курить, и все будут смотреть на неё, все будут ей делать замечания.

**Дима:** А что она не курит?

**Алена:** Что?

**Дима:** А что она не курит?

**Алена:** Кто она?

**Дима:** Ой, то есть они все не курят?

**Алена:** Да. Ну и вообще у Маши была такая не очень хорошая, она влезла в драку…

<…>

**Дима:** А что тебе запомнилось больше всего?

**Алена:** Что мне запомнилось? (*шмыгает носом*)

**Дима:** Да.

**Алена:** Такого нет что запомнилось, просто я очень хорошо провела время» [8].

Тэкст п'есы фіксуе ўсе праявы простага маўлення сучаснага чалавека ў бытавой сітуацыі: просты сінтаксіс, нешматслоўныя сказы, часам наўмыснае пазбяганне аўтарам знакаў прыпынку, выкарыстанне моўных памылак. Дыялог максімальна набліжаны да рэчаіснасці, але вызначыць, гэта дакладны вербацім ці мастацкая рэканструкцыя не падаецца магчымым. Сам аўтар пра тое, што адбываецца ў яго творчай майстэрні, не распавядае.

Драматургі карыстаюцца гэтай «даслоўнай» тэхнікай для напісання не толькі дыялогаў, але і маналогаў. У якасці прыклада прывядзём цытату з аўтарскага вербаціма Паўла Пражко — з адзінага аўтабіяграфічнага твора драматурга «Хозяин кофейни» (спектакль па гэтай п'есе быў пастаўлены ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры, рэжысёр Кацярына Аверкава): «Меня зовут павел пряжко.

Я лежал и думал. Во первых я сразу подумал вот я хочу чем-то поделится и уже вот сейчас получается написал а надеюсь актёр произнесёт этот текст написал: вот я хочу чем-то поделится» [цытата з аўтарскага рукапісу].

Драматург ужывае простыя сінтаксічныя канструкцыі, размоўныя выразы, фіксуючы тэкст, наўмысна робіць арфаграфічныя і пунктуацыйныя памылкі, ператвараючы іх у сродкі мастацкай выразнасці (напрыклад, асабістае імя «павел пряжко», напісанае з малых літар, выяўляе іранічнае стаўленне аўтара да ўласнай асобы, пэўную раз'яднанасць з ёю), а сам тэкст — у своеасаблівую плынь свядомасці.

У прынцыпе, вербацім прадугледжвае фіксацыю больш жорсткіх сацыяльных праяў з дапамогай нестандартнага размоўнага сінтаксісу і ненарматыўнай лексікі і слэнгу. Ён у большай ступені характэрны для тэкстаў, дзе фіксуецца побыт маргінальных слаёў насельніцтва: прастытутак, наркаманаў, алкаголікаў, людзей з бедным духоўным светам. У якасці прыклада можна прывесці тэксты Паўла Пражко «Жизнь удалась» і «Три дня в аду».

Трэба зазначыць, што акрамя пэўных тэхнік сучаснаму (а значыць, і дакументальнаму) тэатру ўласцівы і новыя, звязаныя з найноўшымі тэхналогіямі, спосабы напісання драматычных твораў. Напрыклад, on-line лабараторыі, дзе тэксты ствараюцца і абмеркаванні праводзяцца ў рэжыме on-line з дапамогай электроннага рэсурсу Livejournal. Але правядзенне першай беларускай on-line лабараторыі, дзе за шэсць тыдняў трэба было напісаць эскіз п'есы, у межах гэтага даследавання цікавіць нас хутчэй не з-за працэсу, а з-за выніку. Для стварэння тэкстаў маладымі драматургамі была выкарыстана тэхніка рэканструкцыі з дапамогай дакументальных сведчанняў. Так, Аляксеем Стрэльнікавым напісаны эскіз п'есы, дзе ён ператварыў дакументальны матэрыял кнігі ўспамінаў актрысы Ганны Абуховіч у сцэнічнае дзеянне, у дыялог актрысы і крытыка. А ў межах іншай, традыцыйнай лабараторыі-майстэрні, якую на працягу тыдня ў маі 2012 года праводзілі для маладых творцаў драматург Міхаіл Дурнянкоў і рэжысёр Аляксандр Марчанка, Дзмітрыем Багаслаўскім быў напісаны тэкст «Внешние побочные», які змяшчае ў сабе фрагменты рэальных судовых выракаў і фрагменты маналогаў наркаманаў (выкарыстаныя тэхнікі: рэканструкцыя, вербацім).

Такім чынам, дакументальны тэатр сёння адзін з прыярытэтных кірункаў развіцця сучаснай беларускай драматургіі. Адраджэнне гэтага напрамку ў сучасным беларускім тэатральным працэсе пакуль што знаходзіцца ў пачатковай стадыі, але драматургі ўсё больш актыўна асвойваюць тэхнікі дакументальнага тэатра і карыстаюцца імі, перадусім звяртаючы ўвагу на такія характарыстыкі сучаснага тэатральнага тэксту, як актуальнасць, злабадзённасць, дакладная фіксацыя рэчаіснасці.

## Спіс літаратуры

1. Пави, П. Словарь театра / П. Пави. — М., 1991.

2. Мамадназарбекова, К. История факта: истоки и вехи документального театра [Электронный ресурс] / К. Мамадназарбекова. — Режим доступа: http://www.oteatre.info/beyondthe-stage / 15507 /. — Дата доступа: 23.08.2012.

3. Ардов, Е. Разговорные жанры на эстраде / Е. Ардов. — М., 1968. — С. 75—79.

4. ТЕАТР.DOC [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.teatrdoc.ru/stat.php?page=about. — Дата доступа 25.08.2012.

5. Родионов, А. «Вербатим» — реальный диалог на подмостках [Электронный ресурс] / А. Родионов. — Режим доступа: http://www.strana-oz.ru/2002/4/verbatim — realnyy-dialog-na-podmostkah. — Дата доступа: 25.08.2012.

6. Что такое «Verbatim»? [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.teatrdoc.ru/stat.php?page=verbatim. — Дата доступа: 25.08.2012.

7. Угаров, М. Что такое verbatim [Электронный ресурс] / М. Угаров. — Режим доступа: http://os.colta.ru/theatre/events/details/33925/?expand=yes#expand/. — Дата доступа: 30.08.2012.

8. Пряжко, П. Злая девушка [Электронный ресурс] / П. Пряжко. — Режим доступа: http://www.goldenmask.ru/spect.php?id=869. — Дата доступа: 30.08.2012.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 18 чэрвеня 2012 года.

## Алена Мальчэўская

## Дакументальная драматургія ў тэатры

## Рэзюмэ

У артыкуле разглядаецца гісторыя дакументальнага тэатра, яго сувязь з публіцыстыкай, стан дакументальнага тэатра ў сучаснай Беларусі. Аналізуюцца тэксты і метады працы некаторых аўтараў. Даследуецца тэхніка напісання сучасных п’ес «вербацім».

## Malcheuskaya Alena

## The Documentary Drama in the Theatre

## Summary

The article is dedicated to the history of the documentary theatre, its relationship with journalism, the current state of the documentary theatre in Belarus. The texts and methods of some authors, as well as the «verbatim» technique of modern playwriting are analysed in the article.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# АДЗІНАЯ СПРАВА ЖЫЦЦЯ

***О Беларусь, мая шыпшына,***
***зялёны ліст, чырвоны цвет!***
***У ветры дзікім не загінеш,***
***чарнобылем не зарасцеш.***

У. Дубоўка

«Уладзімір Дубоўка. Магутны і прыгожы чалавек. Нікому, здаецца, так не падыходзіла б вялікая сівая барада, пры светлых, чыстых вачах, харошай прыязнай усмешцы, нетаропкай, разумнай гутарцы пра адзінаю справу жыцця», — пісаў Янка Брыль.

Адзіная справа жыцця… Ёю была літаратура, якой У. Дубоўка самааддана служыў у 20-я гады. Мог быць сталяром, мулярам, землярабам, геолагам, буравіком, лесапраходчыкам, таёжнікам, майстрам-чырванадрэўшчыкам. Ён быў Майстар. Майстар паэзіі. «Найкрашчы бузацёр», — называлі У. Дубоўку на Украіне. Не быў асцярожным і абачлівым ні ў пошуках новых літаратурных форм, ні ў абнаўленні зместу сваёй паэзіі, ні ў літаратурных спрэчках. Гэта — паэт-бунтар у жыцці і літаратуры. Ён быў сімвалістам, акмеістам, імажыністам, пралеткультаўскім паэтам, усе плыні ў ягонай творчасці судакраналіся, перапляталіся, усё сыходзілася на розных палюсах ягонай наэлектрызаванай і аголенай, як жывыя нервы, эмацыянальнай і глыбокафіласофскай паэзіі. Паэт з'яўляўся нястомным арганізатарам літаратурнага жыцця, часта ездзіў па Беларусі, выпускаў зборнікі і альманахі. Будучы добрым прамоўцам, умеў чытаць свае вершы, умеў слухаць і гутарыць, меў высокую эрудыцыю, глыбокую агульную і паэтычную культуру. «Прышліце Дубоўку і Пушчу», — патрабавала моладзь з Полацка. «Філія… з нецярплівасцю чакае прыезду Дубоўкі і Вольнага. Добра было б, каб паведамілі аб дні прыезду», — ляцелі лісты-запрашэнні. У лісце-ўспаміне да аўтара гэтых радкоў У. Дубоўка прыгадваў, як, будучы ў Оршы, яны арганізавалі філію «Маладняка» і выпусцілі альманах. «Я даў і верш і апавяданне “Верацёны”, падпісанае псеўданімам У. Гайдукевіч. У апошні момант агледзіліся, што ў нумары амаль не прадстаўлены жанчыны. Прыйшлося адзін твор падпісаць жаночым прозвішчам Ганна Аршыца».

Арыгінальны паэт, тонкі літаратурны крытык, удумлівы публіцыст, яго навуковыя інтарэсы звязаны з мовазнаўствам, фалькларыстыкай, музыказнаўствам, філасофіяй, міфалогіяй, гісторыяй, беларусазнаўствам.

Мастак слова ішоў у паэзію, глыбока засвоіўшы сусветныя паэтычныя традыцыі, шмат узяўшы ад мэтра французскіх рамантыкаў В. Гюго, ад нямецкай рамантычнай хвалі — Ф. Шылера, Гётэ. Гэта быў паэт брусаўскай школы. Вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Брусава, працаваў сакратарам «кабінета паэтыкі» ў В. Брусава, працаваў у пастаянным прадстаўніцтве Беларусі ў Маскве, лектарам універсітэта народаў Захаду, рэдактарам беларускага тэксту Збораў законаў, расшыфроўваў чарнавікі М. Багдановіча, кіраваў філіяй «Маладняка» ў Маскве, супрацоўнічаў з Інбелкультам.

Нарадзіўся У. Дубоўка ў азёрным краі на Вілейшчыне 16 ліпеня 1900 года ў в. Агароднікі цяперашняга Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці, жыў у Маскве, куды пераехала сям'я ў 1915 годзе, сагнаная з месца вайной, і дзе знайшла прытулак.

Паэзія У. Дубоўкі развівалася па спіралі, па своеасаблівых гадавых колцах, то вяртаючыся назад — у гісторыю, то забягаючы наперад — абганяючы час, — будучы ўся ў абнаўленні формы і зместу. Яго папракалі ў метафарычнасці, нагрувашчанасці паэтычных вобразаў і фарбаў, невыразнасці думак, у зашыфраванасці зместу, у цьмянасці і невыразнасці настрояў, у супярэчлівасці выказванняў. Гэта быў паэт філасофскага складу.

Паэт-наватар, аналітык. Віртуоз вершаванай фразы, выдатны меладыст. Паэт асацыятыўны. Глыбокаіндывідуальны, самабытны талент. Ён надаваў вялікую ўвагу гукапісу, рытміцы. «Пяро! Ты для мяне як ангела крыло!» — казаў Норвід пра гусінае пяро, а В. Гюго зазначаў «лёгкасць у ім ветру і сілу маланкі». Анатоль Франс пісаў гусіным пяром. Для нас сёння шарыкавая ручка і сталёвае пяро даўно сталі сімваламі прагрэсу. У. Дубоўка пісаў гусіным пяром. Як Пушкін, як Лермантаў, як Ламаносаў. Але калі нават пісаў і сталёвым, дык гэта было — залатое пяро — бы маршальскае жазло — не толькі сродак і зброя вытворчасці, але і вялікая адзнака прызнання вечным усяго таго, што выступіла з-пад пяра майстра беларускай літаратуры.

У. Дубоўка насіў у ранцы «маршальскае жазло».

Паэты расцвітаюць рана. У кастры паэзіі згарэлі многія і многія таленты. Несумненна, што паэзія ўзвышае душу, але паэзія і забірае паэта, як забрала цалкам яна і У. Дубоўку. Натхненне прыходзіць у душу, як прыходзіць вясна на зямлю. Яго не спыніць, з'яўленне паэта — вялікая падзея, незвычайная з'ява, заўсёды свята. Ды толькі тады, калі ёсць неабходныя ўмовы, каб развінуцца і расквеціцца сапраўднаму глыбокаму таленту.

Але нездарма адзін з сучасных творцаў прыгадваў, што сэрца сціскаецца пры лічбе 27. Роўна столькі прабыў у сталінскай няволі беларускі паэт У. Дубоўка. У такі адрэзак часу у творчасці многіх паэтаў змясцілася ўсё зробленае імі ў літаратуры — Лермантава, Пушкіна, Дабралюбава, Пісарава, Ясеніна і Багдановіча.

У свае 30 гадоў памёр Шэлі, два гады перажыў яго Байран, Рэмбо перастаў пісаць у юначым узросце. У свае 40 год памёр ад сухотаў Ю. Славацкі, не перайшоў гэты рубеж і Лукрэцый, столькі ж пражыла беларуская паэтэса Цётка. Маладымі загінулі ў вайну А. Ушакоў, А. Мілюць, М. Сурначоў, Ю. Таўбін, З. Астапенка. Не хапіла даўгалецця і многім маладым паэтам і празаікам 20-х гадоў, хто трапіў у сталінскую рэпрэсіўную машыну: М. Чарот, П. Галавач, М. Зарэцкі, У. Хадыка, С. Дарожны.

Паэтычнае слова У. Дубоўкі ішло да глыбінь духу нязведанымі дагэтуль, неспавяданымі і пакручастымі шляхамі.

Эвалюцыя мастака слова была складанай і дынамічнай. У. Дубоўка рана зразумеў, што паэзія — гэта не зарыфмаваныя аднадзёнкі, не лёгкае жангліраванне словамі, а глыбіня самавыяўлення, творчасць на вякі, імкненне выклікаць «арфазвонныя гукі». Глыбокае дыханне верша ў яго сплаўляецца з унутранай энергіяй хвалюючага пачуцця, з дынамікай развіцця; з музыкай. Рытміка-інтанацыйны малюнак твораў багаты, уздымаючыся па лесвіцы рытмаў, гукаў, мелодый. У паўторах і няспыннасці, як прылівы і адлівы марскіх хваль, рухаецца радок у вершах — няўхільна, няўмольна, як дзень змяняе ноч, — па законах рытму. Гэта як дыханне. Так пульсуе кроў у жылах. Усё ў прыродзе трыадзіна. Бог Айцец, Бог Сын і Бог Дух Святы. Кажуць у народзе: да ісціны трэба дастукацца трыма ўдарамі малатка. Заўважым, што ў казках прапаноўваюць добраму малайцу ажыццявіць тры подзвігі, перш чым ён зможа прэтэндаваць на руку сваёй абранніцы, на іспытах трэба адказаць на тры пытанні, тры разы дастаць залатую манету, трэба зрабіць тры добрыя ўчынкі. Тройчы прамаўляецца закляцце.

Паўторанае тры разы запамінаецца найлепш. Чаму так? Бо першы раз — даносіцца інфармацыя, другі раз — што тут няма памылкі, на трэці раз — кантрольнае пацвярджэнне, запамінаецца на чыставік. Чаму трэба стукаць тры разы, каб дастукацца да ісціны? Пацвярджэнне гэтаму з народных прыкмет: крые дах майстар — тры ўдары — перадых, падбівае шавец боты ў хаце — тры ўдары малатком, і гатова. Рытм у Дубоўкі «трохступенчаты», калі радкі «навучаны хадзіць па-рознаму»… Рытміка яго паэзіі — гэта не гукаперайманне, не стэп, не бязладдзе і бестурботнасць, а дынамічнае вылучэнне ўнутранай энергіі і слова, напал думкі і пачуцця. Рытм тут арганізуючы, канструктыўны. Змястоўнасць рытмікі паэта — у выяўленні псіхалогіі суперажывання, у філасофіі гукаў і фарбаў.

«Разліліся, развіліся вакол туманы, і на кветкі і на лісці ўсе яны, яны, яны… Струн кранае ціхі вецер, доля ў іх мая. Ты пра вошта сніш у вецці кветка любая? Ані слова, ані гуку не чутно ў адказ. Што зязюля — “Ку-ку, ку-ку” — у засмучаны час…» («Ноч наплакала бярозы»).

Такія рытмы ў вершах У. Дубоўкі. Паэт эксперыментуе, шукае, прыдумляе, а часам пацвельваецца з чытача і забаўляецца рытмічнай арганізацыяй вершаваных строф. Ён свабодны і раскаваны ў самавыяўленні пачуццяў. Гэта бунтарны паэт у сваіх творах, незвычайны, уражлівы, эпатажны, напорысты, настраёвы. Яму падуладна ўсё: гукапіс, стройнасць, меладычнасць.

У чаканцы майстроў XIV ст. аклад-аздоба, аправа «перамагла» іканапіс. Так арнамент — знешняе афармленне — выходзіў «на самастойны шлях». Так і ў Дубоўкі. Арганізацыя верша, яго інструментоўка станавіліся выдатнейшымі за сам верш, за ягоны змест. Экзатычнасць рыфм, новых рытмаў, неалагізмаў сведчыла аб форме і змесце. Мудрагелістаць, манернічанне, метафарычнасць, незвычайнасць вобразаў, якія ён ствараў, зачароўваюць. Ён шырока выкарыстоўвае недакладныя, абрывістыя блокаўскія рыфмы. Вобразы ўзнікаюць ад ірэальнай асацыяцыі, яны часам суб’ектыўныя, адвольныя. Паэт апускае аб’ектыўныя сувязі паміж з’явамі. Ён злучае нязлучанае. Ніцыя лозы ў вершы становяцца гімнам прыгажосці. У паэзіі выяўляецца новы погляд мастака на свет і асобу.

Ранні У. Дубоўка — рамантычны. У пазнейшы перыяд — інтэлектуальна-філасофскі. «Строма» — такую назву насіў ягоны першы зборнік. Услед за ім паяўляюцца новыя і новыя кнігі. У 1925 годзе — «Трысцё» і «Там, дзе кіпарысы», у 1926-м — «Крэда», у 1927-м — «Наля». Паэт-рамантык, барацьбіт за новы змест жыцця і за абнаўленне паэзіі — бачыў тое, што замінала ў жыцці. Бескультур’е, адсутнасць адукацыі, выхаванасці, эрудыцыі давалі мала спатолення душы, наводзілі на сум. Так паяўляюцца матывы тугі, самоты, болю.

Часінай весела, часінай — сумна.
Ідуць шляхамі — у балотах трацяцца,
А недзе злоснікі бразгочуць бубнамі,
Ад барабаннага бою стамляецца сэрца…

Бубны — пустыя гукі новага. Яны нікуды не клічуць. Паэт «вітаў дні наступныя ў трывозе», не аднойчы сцвярджаючы, што заўсёды заўтрашняе — рэбус. Паэтава лірыка без фанфар. Аўтар не хоча падзяляць агульных бадзёрых нотак, ура-патрыятызму, не жадае «дзьмуць» у адзіную ідэалагічна-прапагандысцкую дуду.

Не хоча Уладзімір Дубоўка
Спяваць пад зазубраны лёскат, —

пісаў у вершы «Часіна ды з сокам рабіны». Скаргамі, скрухамі, «скелзамі» напоўнены яго творы, «з дарагога апрыклага сёння», дзе згубілася сцежка, якая не вяла нікуды, без адраса, як дэпеша, пасланая абы-куды з «цьмянасці золкай і золі».

Матывы самастойнасці (адзіноты) сталі вызначальнымі для паэзіі У. Дубоўкі. Аднак вершы набываюць філасофскае гучанне. «Паэзія пачынаецца там, дзе ёсць тэндэнцыя», — вядомы выраз У. Маякоўскага. «Тэндэнцыйная літаратура — дрэнная літаратура», — прызнавалі лепшыя творцы свайго часу. Паэту надакучвае «бурапенная», касмічна-планетарная, умоўная і траскучая паэзія маладнякоўцаў. Ці не востраму на слоўка У. Дубоўку належыць неалагізм «бура+пена» — як яркая і дакладная характарыстыка маладой паэзіі і рэвалюцыйнага пафасу 20-х гадоў ХХ стагоддзя. Паэт спрабуе супраціўляцца засіллю рытарычнай павярхоўнасці. Піша вершы «Вясенняя смага», «Пачынаецца з-пад хмар вандроўных...», «Не можам мы абысціся без лірыкі». І гэта ў той час, калі У. Маякоўскі «рэвалюцыю» не пісаў. «Нами лирика в штыки неоднократно атакована». У. Дубоўка зазначае:

Што складаць пра каханне вершы?
Госіздат друкаваць не будзе.
Што з таго, што адным прыбудзе?

Верш «Пачынаецца з-пад хмар вандроўных...» — праграмны. «З-пад хмар» ідзе жыццё, яно ідзе да жней, якія «серп гарбаты на хмары ўскінуць, хай ускінуць яго сёння…», бо з зямлі засмяецца (ужо) «электрычная жнейка».

Праяўляецца жаданне выказаць свае погляды на паэзію, выявіць сутнасць уласнай пазіцыі ў новым грамадстве, раскрыць змест творчасці, яе дух. З’явіўся зборнік «Крэда» (1926).

Як знайсці гармонію свету, прыгажосці? Як з’яднаць мінулае і будучае? Як быць творцу ў гэтым свеце? Дзеля чаго існуе паэзія? У чым яна? Якая яе роля? Сэнс мастацтва ў тым, каб раскрыць і выявіць душу мастака. Так калісьці духоўны настаўнік У. Дубоўкі сам В. Брусаў выкладаў канцэпцыю мастацтва ў брашуры «Аб мастацтве». Як вядома, адзіным аб’ектам мастацтва з’яўляецца асоба мастака, творцы. Але мастак не можа мірыцца з адзінотай. Душа паэта рвецца да людзей, да судакранання і яднання, якое мажліва толькі ў мастацтве, роднасці душ. На гэтым шляху паэта падпільноўвае небяспека пагружэння ў містыку, як гэта было ў паэзіі Д. Меражкоўскага. У. Дубоўка імкнуўся спасцігнуць тайну паэзіі, дабіцца высокага майстэрства, хацеў зрабіцца не здольным «рыфмачом», а тонкім выразнікам душы, яе настрояў, выразнікам дум людскіх, адчуванняў. Але душу паэта мала хто хацеў зразумець.

Тады і пачыналіся нападкі на яго, пасыпаліся абвінавачванні ў адарванасці ягонай паэзіі ад жыцця, у незразумеласці сімвалаў і падтэкстаў, у містыфікацыі. Паэт ведаў, разумеў, што галоўнае ў творчасці — слухаць самога сябе, сваё сэрца, падслуханае біццё якога выратуе і падкажа шлях далейшых пошукаў. Ён кажа: «Вядзі мяне, як і вяло ты, сэрца». Паэт не здаваўся. Ён добра разумеў, што ў літаратуры застанецца толькі праўдзівае, свабоднае, самае патаемнае. А. С. Пушкін пісаў:

Поэт! Ты — царь: живи один!
Дорогою свободной
Иди, куда влечет тебя свободный ум.

Уладзімір Дубоўка гатовы жыццём заплаціць за выяўленне «хараства» душы, за «найдаражэйшае» «летуценне» — за высокае імкненне натхнення. Паэт шукае выхаду ў гісторыі і філасофіі.

Ва ўзвышанскі перыяд гучаць матывы віны і бяды, роздуму над жыццём і часам. У вершы «Пярэсты букет» паэт скажа:

Хоць даўно я ў горадзе бытую —
З той пары лунаюць адгалоскі.
Бацькаўшчыну я шукаў другую,
А застаўся тым жа сынам вёскі.

Пошукі «другой Бацькаўшчыны», захапленне народнай песеннай творчасцю і нежаданне перавыхоўвацца вытлумачвалася проста: «Аб'ектыўна гэта азначае непрыняцце рэвалюцыі». Паэт імкнецца быць шчырым:

Перайначыць я сябе імкнуўся
І займаўся перавыхаваннем.
Але моцна зацягнуўся вузел,
Што завязаны ў часіны рання.

«Вязьмо» зацягнулася для У. Дубоўкі, залічанага ў «наццэмы» (канвой лаяўся: «Эй, вы, надземы!..» — згадка з эсэ Янкі Брыля), ды яны сапраўды былі з «надзем'я», з-пад тых паэтычных аблокаў. Але паслухаем лепш самога паэта:

Гадавалі дух мой не частушкі,
А легенды, песень пералівы…

Якую ж «другую Бацькаўшчыну» шукаў паэт? А менавіта песенна-шчодрую, адкрытую і незалежную, тую, якая здаўна жыла і доўга яшчэ будзе жыць у сэрцы паэта, згадка пра якую ніколі не згасне ні ў тайзе, ні ў снягах, ні ў палярнай начы. Верш «Паляжам мы» аказаўся прарочым для беларускага паэта. Так геніяльны Лермантаў у вершы «Сон» распавядаў пра сваю смерць, апісаў яе, нібы прадбачачы:

В полдневный жар в долине Дагестана
С свинцом в груди лежал недвижим я;
Глубокая еще дымилась рана,
По капле кровь точилася моя.

Усё адбылося так, як убачыў гэта паэт, усё сышлося аж да дэталей: месца гібелі — Каўказ, падножжа гары Машук, смерць ад кулі на дуэлі. Больш таго, па сведчанні секунданта Глебава, паэт некаторы час жыў, дыхаў, паранены ў грудзі. Прадчуванне паэта збылося. Як збылося яно і ў беларускага творцы У. Дубоўкі, які пісаў: «аддам усё за гукі шчырай песні, якая прыйдзе…». Паэт быў настроены «загінуць з гукамі ў тумане сінім, а не схіліць ні галавы, ні скроні», прадчуваючы тое, як «ішлі і гінулі, як хвалі ў хвалях…».

«Як хвалі ў хвалях», ішлі і гінулі ў рэвалюцыйных бурах адна паэтычная хваля за другой: маладнякоўская, узвышанская.

Новыя жанравыя формы шукаў У. Дубоўка ў цыкле вершаў «Крыху восені і жменька кляновых лістоў» (1929), у «Вершах з заўвагамі» і ў трох паэмах: «Кругі» (1927), «І пурпуравых ветразей узвівы» (1929), «Штурмуйце будучыні аванпосты» (1929).

Уладзімір Дубоўка — хрэстаматыйны паэт.

Сапраўдны майстар вершаванага радка. Ягоныя шматлікія творы вывучаюцца ў навучальных установах: школах, каледжах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, ВНУ. Вядомы кінарэжысёр М. Ром неяк зазначыў: «Усе творы А. С. Пушкіна напісаны так, што нагадваюць кінасцэнарый, які лёгка разбіць на эпізоды і адразу прыступаць да здымак».

Сакрэт тут просты. Паэт бачыў воблік герояў, учынкі, падзеі ў іх паслядоўнасці ў кожны момант дзеяння. Ён не дапускаў нічога прыблізнага, неабавязковага, размытага. Немагчыма апісаць усё да самых дробязей. Мастацкі вобраз вылучае значнае. Канкрэтны малюнак у гэты час з'яўляецца і малюнкам абагульняючым. Дэталізацыя толькі разбурае. Як, напрыклад, тое фарбаванае крэсла ў вытанчаным пакоі, як пра гэта згадваў А. Талстой. Зусім не важна, якой фарбай, якой формы, — чужародны прадмет у багатай эстэтычнай прасторы, які сведчыць аб адсутнасці густу і прынцыпаў у гаспадара. Вось такога,

«фарбаванага» прадмета ў паэзіі У. Дубоўкі немагчыма адшукаць. Рыфма, рытм, сэнс, вобраз, агульны малюнак у творцы заўсёды дасканалыя, дакладныя, маляўнічыя. Вылучым толькі некалькі вершаў з хрэстаматыйнай «школьнай», ліцэйскай, «гімназічнай» лірыкі паэта.

Такі вытанчаны пейзажны малюнак прыроды знаходзім мы ў вершы «Залатая, асенняя раніца...». Які цудоўны вобраз, як хораша падабраны словы, які багаты гукапіс і выразна акрэслены акварэльны малюнак! Гэта сапраўды жывапіс словам. Спачатку ідзе захапленне прыродай, выказваюцца адносіны да восені, раніцы дня, падкрэсліваецца, чым слаўная гэтая пара.

Залатая, асенняя раніца!
Хараством ты на свеце адна.
Сонца ў пушчы глыбокай адгукаецца
і ніяк не дастане да дна...

Як тут усё да месца! Сонца, якое «не дастане да дна» ў вечназялёнай пушчы, мітуслівае лісце, і сама восень, якая «распаветрыцца на берагі», ужо тыя самыя «берагі беражыстыя», і «згалелыя пожні», і «дзень залаты», і «залатыя лісты». Фарбы восені дакладныя. Гэта не «фарбаванае крэсла» ў шыкоўным пакоі. Усе дэталі прапісаны мазкамі, чытач сам дадумвае і дадае свае ўражанні. Заканамерна ўзнікае матыў ростані, бо восеньская пара — развітальная, а, як вядома, пра што і піша мастак слова, «развітальная хвіля найгоршая», бо яна можа не толькі пасеяць скруху, тугу і одум у душы, але «яна можа і сэрца спаліць». Паэт суцяшае ўсіх, сябе, нас, чытачоў: «не бядуй, не гаруй», бо прыходзіць ужо новая пара года, можа, зіма, можа, лета, прыгадваецца вясна-красна, усё ж недзе «з-за балота» прамяніцца пярэстая гаць. Пісьменнік імкнецца ўзбуйніць чытацкія пачуцці, усклікаючы: «Не гаруй! Ты дарэмна заплакала: я прыйду, я вярнуся ізноў». І тут голас творцы ўздымаецца да абагульнення, да філасофскага асэнсавання не толькі быцця прыроды, але і чалавечага сужыцця.

Лёс для ўсіх не бывае аднакавы,
Як для тых засмучаных лістоў.

Развітваецца паэт з восенню, якая найбольш шчымліва ўспрымаецца раніцай, нібыта развітваецца «з хараством, з пекнатою». Як бачым, пры ўсёй «зашыфраванасці» ранняй паэзіі творцы верш атрымаўся лаканічны, змястоўны, просты і зразумелы.

Блізкі па сэнсе і духу да названага вышэй і верш «Пальцы жоўтых кляновых лістоў». Ён зноў жа пра восень, калі «пальцы жоўтых кляновых лістоў імкнуцца восень схапіць за шыю». Дзіўны і неверагодны вобраз. Выразна метафарычны твор. Варта назваць год стварэння верша — 1925 — час найскладанейшых ідэйна-эстэтычных пошукаў у творчасці не толькі аднаго маладога паэта, надзвычай папулярнага, бойкага, ваяўнічага. Гэта быў час спрэчак у літаратурных колах, духоўнага і творчага крызісу, нападак адной літаратурнай групоўкі на другую («Маладняка» на «Узвышша», «Узвышша» на «Маладняк»), стварэння іншых суполак, адгалінавання ад «Маладняка» ўсё новых і новых літаратурных плыняў, тэндэнцый. І тады становяцца зразумелымі словы ў фінале твора, што «людзі любяць душу прасаваць, калі гэта душа чужая». Верш алегарычны, наватарскі. Тут «месяц рве» арэхі з кустоў, «ліставея не моўкне, шуміць», «небакрай апракінуўся («абрынуўся». — **У. Н.**) жалем». Усё гэта метафары, за якімі бачыцца і пошум літаратурных галасоў маладых паэтаў («ліставея»), усё, што ў тыя часы называлі «бурапенай» — наватвор, які складзены са слоў «бура» і «пена», буры ў шклянцы вады ды пеністай хвалі нібыта над гэтым усім. Тады ўжо і «пальцы кляновых лістоў» уяўляюцца як жывыя, якія цягнуцца, каб «схапіць за шыю» не

адну толькі восень. Але і адзін аднаго ў асяроддзі паэтаў, бо паэтычная брацiя шумела, гула, папрокі і абвінавачванні сыпаліся на галаву адных і другіх літаратурных геніяў, як кляновыя лісты.

Так верш «пра прыроду» атрымаў магутнае сацыяльна-літаратурнае гучанне і засведчыў эстэтычную спрэчку — праблемы выхавання маладых — «ліставею» ў асяродзі літаратурнай моладзі.

Разыходжанні не мелі палітычнага характару, а былі чыста эстэтычнымі, кожны адстойваў свае падыходы да адлюстравання рэчаіснасці, намагаўся здзівіць, уразіць, «даць аплявуху грамадству».

Сапраўдны поспех прыходзіць да паэта, калі ён звяртаецца да ўслаўлення Радзімы, маці, народа і матчынай мовы, роднай і цудоўнай. Простыя, але такія пранікнёныя словы знаходзіць У. Дубоўка, услаўляючы беларускую мову.

У вершы «Родная мова, цудоўная мова» ён перадае сваё захапленне чысцінёй, багаццем, мілагучнасцю роднай мовы. Беларуская мова, па сведчанні спецыялістаў, самая музычная пасля італьянскай, яе поўнагалоссем можна нават лячыць хваробы горла, бо мова нашага народа характарызуецца аканнем, яканнем, голас гучыць натуральна, без прымусу, адкрыта, вельмі гучна, калі ўвесь галасавы апарат у горле знаходзіцца ў натуральным стане.

Паэт сцвярджае ў вершы:

Родная мова, цудоўная мова!
Ты нашых думак уток і аснова!

Уладзімір Дубоўка разгортвае палітру ўражанняў ад хараства і велічы роднай мовы. Ён называе мову не іначай як «матчын дарунак ад самай калыскі», параўноўваючы яе з «самацветамі», каралямі, пацеркамі, паяднроўвае, злучае беларускае слова з «барвамі дзівоснымі», з агнём, які «зіхаціць-згарае». У гуках матчынай мовы паэт чуе «пераразвоны крыніцы», «павевы зялёнага бору», «водгулле працы народа». Паэт выказвае ўласнае стаўленне да прадмета сваёй гаворкі, падкрэсліваючы:

Ты мне заўсёды была дапамогай,
дзе б і якой ні хадзіў я дарогай.

Выдатна сказана. Галоўнае, што шчыра і ад душы. Пісьменнік ведае вытокі роднай мовы, дзе «кожнае слова вякамі створана», жыве ў народным светаўспрыманні, а таму і варта пашаны. Цвёрда ўпэўнены пісьменнік у адным:

І на вякі яно жыць застанецца,
вечнае так, як народнае сэрца.

Мова — аснова самасвядомасці народа, выяўленне народнага духу, які вышэй за ўсё. Мова — захавальніца культуры, аснова літаратуры, мастацтва. Мова дазваляе захоўваць незалежнасць лепш за іншыя межы, равы і пагоркі.

Праграмным для Уладзіміра Дубоўкі стаў верш «О Беларусь, мая шыпшына...».

«Зялёным лістком» на сусветным Дрэве жыцця называюць родную краіну Беларусь. Хто параўноўвае яе абрысы на карце свету з дубовым, хто — з бярозавым лістком. Зялёны колер ёсць у аснове дзяржаўнага сцяга, як і чырвоны. Два асноўныя колеры сталі візітнай карткай роднага краю. Паэт упэўнены, што Беларусь будзе жыць вечна, якія б вятры не дзьмулі на яе прасторах. Аўтар гаворыць пра яе пялёсткі, «цвятка», якія лірычны герой гатоў «накалоць» «на дзіды (пікі. — **У. Н.**) сэрца». Паэт параўноўвае красу роднай краіны з красой дзяўчыны, жытнёвае поле з прыгажосцю «дзявочых кос». Творца ўпэўнены, што ў «перашкодах дух расце», што ніхто і нішто не «засціць шляху» да шчасця, «каб радасць красавала скрозь».

Яшчэ ў далёкім 1925 годзе У. Дубоўка ўпершыню загаварыў пра «чарнобыльскія» беды роднай Беларусі, будучы ўпэўненым, што родны край пераадолее ўсе цяжкасці.

«О Беларусь, мая шыпшына...» Так, цвет шыпшыны — яркі, чырвоназялёны. Ён кідаецца ў вочы яшчэ здалёк. Зялёны стаў колерам дабрабыту, радасці і хараства, упэўненасці ў светлым будучым. Беларусь шукае свой «брэнд», знак, сімвал, па якім яе змогуць і будуць пазнаваць у свеце. Чым не сімвал Беларусі?

Верш атрымаўся маляўнічым, метафарычным. Свет вачыма паэта бачыцца цэласна, гарманічна і прывабліва. Гэта святло роднай Беларусі.

Уладзімір Дубоўка — паэт філасофскага складу. Нездарма так удаліся яму пераклады з англійскай мовы санетаў У. Шэкспіра. Ён творча развівае традыцыі беларускага фальклору, паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа.

У лірычных вершах пачуццё і змест сплаўлены ў адзінае.

Слова набывае філасофскае гучанне. У паэзіі ўслаўляецца дух народа, яго вальналюбства, паэтызуецца краса прыроды, кахання. Звяртае на сябе ўвагу высокая культура верша.

Талент паэта — шматгранны. Творчая індывідуальнасць яркая, самабытная. Імя У. Дубоўкі па праве стаіць у шэрагу класікаў беларускай мастацкай літаратуры.

Паэмы — філасофскія. Паэма «Кругі» напісана ў 1927 годзе і ў аснове яе — казачны сюжэт, казка-падман пра ўпартага і нястомнага шукальніка праўды, якому падказалі, калі ён дайшоў да сонца, што, каб стаць шчаслівым, трэба знішчыць залатое дно ў студні. Што меў на ўвазе паэт, калі гаварыў пра залатое дно? Невычэрпныя нашы багацці, вялікую духоўную культуру народа, асновы сялянскага характару, наша мінулае, сучаснае? Мы, людзі на сваёй зямлі, да апошняга часу знішчалі «залатое дно» — нішчым, нявечым прыроду, нівеліруем душы людскія. Дно — невычэрпная крыніца народнай мудрасці і памяці, наша духоўная сіла. «Кругі» — гэта кругі надзеі і дабра, кругі ўзвышэння, як гадавыя колцы на дрэве, шлях пазнання, які ідзе па спіралі.

У другой паэме, «І пурпуравых ветразей узвівы», У. Дубоўка выступаў за захаванне гістарычнай спадчыны народа, супраць бяздумнага яе выкарыстання і нягеглых спроб злучыць незлучальнае, уліць у старыя мяхі новае віно — з'яднаць пралетарскую па форме новую культуру з нацыянальным зместам жыцця, што само па сабе выглядала праблематычным. У цэнтры паэмы — спрэчка Лірыка і Матэматыка, адвечная спроба «алгебрай гармонію праверыць». Спаборніцтва «фізікаў» і «лірыкаў». У спрэчцы Лірыка і Матэматыка выявіліся дыскусіі 20-х гадоў XX стагоддзя аб пошуках рэальных шляхоў служэння мастацтву. Для Матэматыка народная паэзія выглядала непатрэбшчынай, старызной, якой месца хіба толькі на сметніку гісторыі, яна была зношаным адзеннем, якое варта замяніць на новае. Кажуць, той не матэматык, для каго двойчы два чатыры. У паэме Матэматык — чыноўнік ад мастацтва, дылетант, верхагляд, не гаворыць, а павучае, не размаўляе, а прамову кажа, сыпле завучанымі формуламі, дзьме ў ідэалагічную дуду, ён закасцянелы ў сваіх поглядах. Паэма мела сатырычную скіраванасць. Гэта зразумела тагачасная крытыка і не магла не адкрыць свой перакрыжаваны агонь як па творы, так і па самім аўтары. Пачалося сапраўднае цкаванне паэта. Таму ўжо наступная паэма — «Штурмуйце будучыні аванпосты» — свету не пабачыла. Яна была абвешчана заганнай у ідэйных адносінах, шкоднай для новага, сацыялістычнага грамадства, а набор яе ў выдавецтве быў рассыпаны, таму засталася невядомай масаваму чытачу.

Што так напалохала ідэолагаў савецкага часу? Паспрабуем перадаць яе змест.

Дзеянне адбываецца ў вагоне цягніка, дзе завязваецца размова паміж кандуктарам і пасажырам, простым селянінам, які скардзіцца на сваё цяжкое

існаванне. Кандуктар раіць селяніну перабудаваць сваё жыццё. Але як перабудавацца? Адмовіцца ад сваёй уласнай гаспадаркі? Адзінае выйсце. Але ці лёгка гэта зрабіць? У паэме думкі, настроі, спрэчкі, погляды на жыццё людзей розных узростаў. Твор аб повязі з часам (матыў «вязьма» ўжо знаёмы нам па творах самога У. Дубоўкі, а таксама М. Зарэцкага) чалавека, які трымаецца сваіх каранёў. Твор аб падзеях часу, аб людзях, якія з-за лесу не бачаць дрэў, не бачаць далей свайго носа, гатовы на злом галавы кінуцца ў бездань новага. Твор — арыгінальны па форме. Гэта «паэма-камбайн», што па-англійску азначае «спалучэнне». Ён і быў спалучэннем — перакладаў, дыялогаў, маналогаў, лірычных адступленняў. У. Дубоўка адстойваў права мастацтва на пошук, на эксперымент, на сувязь з жыццём і часам.

Чаго мне сумаваць па кім,
Па мне хто ўдаецца ў жаль?
І пёс, павыўшы ля вуглоў,
Чужым служыць пачне.

Паэт гаворыць: «Мой карабель, імкні мяне праз пенны перакат», — альбо: «Калі ж вярнуўся б я дамоў…» Але не суджана было паэтаваму караблю «пераплыць» той «пенны перакат», не хутка ён ізноў вернецца дамоў. У 1930 годзе У. Дубоўку арыштуюць у Крамлі ў Маскве за нацыяналізм.

Толькі ў канцы 50-х гадоў пасля доўгага блукання па сталінскіх ГУЛАГах паэт вернецца ізноў дамоў і да ўласнай творчасці. Выходзяць зборнікі паэзіі «Палеская рапсодыя», прозы «Пялёсткі». Паэт нібы пачынаў усё спачатку. Але гэта быў ужо не той Уладзімір Дубоўка, якога ведала беларуская літаратура ў 20-я гады. Уражанні ад паездкі па Палессі, думкі, развагі паэта станавіліся больш улагоджанымі, ідэалагічна вывеpанымі. Гэта была паэзія сацыяльнага заказу. Толькі за адзін 1958 год паэт напісаў каля 40 твораў. Сярод іх чатыры паэмы: «Перад імем Любові», «Чакае ля берага човен мяне», «Маленькая гераіня», «Жоўтая акацыя», у якой паэт расказваў прытчу пра чалавека, які не чакае. У. Дубоўка і сам не чакаў. Ён тварыў, верачы, што прызнанне і слава самі прыйдуць да яго. Імя паэта сёння ў ліку самых слынных паэтаў незалежнай Беларусі. Паэтаў ад Бога.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# НЕ БЫЎ НА РАЗДАРОЖЖЫ



*Платон Галавач.*

Калі з нейкай нагоды згадваю каго-небудзь з беларускіх пісьменнікаў, якія актыўна працавалі ў літаратуры ў 1920-я — першую палову 1930-х гадоў, то міжволі ажываюць у памяці радкі верша народнага паэта Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы Петруся Броўкі «Не буду я стаяць на раздарожжы...». Канечне ж, гэтымі, як і шмат якімі іншымі высокімі званнямі, Пятрусь Усцінавіч быў уганараваны куды пазней, а тады, у 1926 годзе, калі пісаўся гэты верш, ён толькі ўваходзіў у літаратуру. Вуснамі свайго лірычнага героя П. Броўка выказваў не толькі тое, што на той час было на душы ў яго самога, а і тое прамаўляў, чым жылі, у чым былі ўпэўнены гэткія ж, як і ён, тагачасныя пачаткоўцы, у пераважнай большасці ўраджэнцы вёскі, якіх паклікаў да сябе горад:

Усход успыхнуў ясны і прыгожы,
Сплылі далёка моракі начы,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець у далячынь.

Вясна вакол, адгрукалі марозы,
Ручай паміж палеткамі журчыць,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець у далячынь.

Пад гэтым вершам, не задумваючыся, мог бы падпісацца і Платон Галавач, бо і ён таксама ніколі не «стаяў на раздарожжы». Дарэчы, і сам спрабаваў пісаць вершы, але ў зусім юным узросце, будучы яшчэ школьнікам. Толькі гэта працягвалася нядоўга. Дый творы тыя не захаваліся. Наўкола так віравала жыццё, што П. Галавачу хутка стала не да вершаў. Ён з галавою акунуўся ў гэтае жыццё — такое неспакойнае і разам з тым вабнае, хоць у нечым і невядомае, загадкавае, гатовае падносіць сюрпрызы. Ды яшчэ, канечне, юнае, маладое. Гэткае, як і сам ён.

Юным, маладым, няўрымслівым застаўся П. Галавач не толькі ў памяці тых, хто быў знаёмы з ім, мог сустракацца з ім, а то і сябраваць. Такім яго ведаюць і ўвогуле прыхільнікі беларускай літаратуры. Дзякуючы здымку, можна сказаць, хрэстаматыйнаму. Здымак гэты можна знайсці ў энцыклапедычных даведніках, у розных дапаможніках і падручніках па літаратуры... На ім малады чалавек, здаецца, зусім яшчэ юнак. Прыемныя, вабныя рысы твару, засяроджаны позірк уважлівых, крыху затуманеных роздумам, а таму трохі журботных

вачэй — яны ў яго былі васільковыя. Чупрына спадае на лоб, валасы з правага боку кранаюцца брыва...

Такім аб'ектыў занатаваў для нашчадкаў яго, вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча, надзіва чулага і сардэчнага чалавека.

Чарговы раз узіраюся ў ягоны воблік, і з'яўляецца жаданне ўзнавіць у памяці аднойчы чытанае. Бяру з кніжнага стэлажа кнігу Валянціны Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу...», у якой яна гаворыць пра свайго бацьку, народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. П. Галавач жа даводзіўся ёй дзядзькам, а ў сям'і Куляшовых быў заўсёды чаканы і дарагі: «Калі ж гаворка заходзіць пра Галавача, я заўсёды бачу адно і тое ж: да мяне, вельмі, відаць, маленькай, нахіляецца чалавек, твар якога, калі ён схіляе галаву, зацяняе густая льняная шавялюра. Мне так падабаюцца гэтыя мяккія валасы, што, працягваючы руку за падарункам, я спярша дакранаюся да валасоў».

Некалі ў сям'і Галавачоў гасцінна сустрэлі будучую маці Валянціны Аркадзьеўны: «Для маёй маці, у дзявоцтве Ксеніі Фёдараўны Вечар, Галавач зрабіўся другім бацькам пасля таго, як яна, круглая сірата, трынаццацігадовай пераехала ў Мінск, у сям'ю Платона Раманавіча, за якім была замужам яе старэйшая сястра Ніна». І яшчэ: «Сям'я Галавача, дзякуючы таварыскасці гаспадара, жыла надзвычай адкрыта. Да іх ішоў кожны, каму патрэбна была сяброўская падтрымка, парада, дапамога ці проста спачуванне».

Гэткім жа сардэчным і чулым застаўся Платон Раманавіч і ў памяці паэта Міколы Хведаровіча, з якім яму даводзілася таварышкаваць: «Пры сяброўскай увазе Галавача рос і развіваўся талент тады зусім маладога паэта Аркадзя Куляшова. Адчуванне "локця" было ў кожнага, хто меў справу з Платонам Галавачом. У цяжкую хвіліну кожны пісьменнік лічыў за правіла звярнуцца да Галавача, які ахвотна гатоў быць дзяліць з таварышам яго бяду. Такім бескарыслівым і добрым чалавекам застаўся ён у нашай памяці і па сённяшні дзень».

Цудоўны ж дзіцячы пісьменнік Станіслаў Шушкевіч пакінуў такое сведчанне: «Просты і шчыры, настойлівы і неадступны ў вырашэнні любога пытання».

Неадступны ж, канечне, калі справа тычылася прынцыповай жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі. А перадусім — нязменныя даверлівасць, адкрытасць і жаданне на сяброўства адказваць сяброўствам. Імкненне ніколі не падкрэсліваць сваю «вышэйшасць» у параўнанні з іншымі, хоць ужо ў маладым узросце займаў пасады, пра якія многія могуць толькі марыць. Аднак быў шчырым, адкрытым. Душа — насцеж. Нездарма сябры называлі яго ласкава — Платоша...

Адкуль жа гэтая дабрыня, душэўная шчодрасць? Бадай, як і талент — ад нараджэння... Але ў дачыненні да П. Галавача правільным будзе і ўдакладненне — не толькі. Відаць, развіццю і выхаванню такіх якасцей спрыяюць умовы, у якіх чалавек расце, гадуецца, у якіх фарміруецца ягоны характар. Часам тут спрацоўвае, так сказаць, закон адваротнага. Нягоды, выпрабаванні не азлабляюць, а, наадварот, яшчэ больш спрыяюць развіццю чалавечнасці. Прынамсі, жыццё П. Галавача — таму пацвярджэнне.

У паўтарагадовым узросце хлапчук застаўся без маці (нарадзіўся 18 красавіка 1903 года ў вёсцы Пабокавічы цяперашняга Бабруйскага раёна). З малых гадоў яму давялося працаваць па найме, улетку пасвіць кароў. Яно ведама, які смак сірочага хлеба. Ды і доля сіроцкая — ворагу не пажадаеш. На шчасце, свет — не без добрых людзей. Сустрэліся яны і на жыццёвым шляху П. Галавача. Іх падтрымка, а то і звычайная спагада аказаліся вельмі да месца. Ён рана навучыўся цаніць сапраўдную дружбу, зразумеў цану своечасовай узаемавыручцы. Так у характары закладваліся акурат тыя якасці, якія і вызначылі ягоныя паводзіны ў далейшым. А яшчэ П. Галавач зразумеў, як можна разлічваць на свае сілы. Не чакаючы, што нехта добранькі штосьці зробіць за цябе і для цябе.

Ведаў і тое, што трэба вучыцца, таму закончыў Гарбацэвіцкую сямігодку. Ягоная жыццёвая энергія, няўрымслівасць хутка спатрэбіліся. На вёску прыйшло

новае жыццё. А калі надараецца нешта новае, дык яно, гэткае прывабнае ў сваёй загадкавасці і невытлумачальнасці, дае мажлівасць таму, хто актыўны, разгарнуцца. П. Галавач адразу знайшоў сабе занятак па душы. У 1920 годзе ён першым у роднай вёсцы і адзін з першых у воласці ўступіў у камсамол, разам з аднадумцамі ў Пабокавічах стварыў камсамольскую ячэйку.

Сам радаваўся гэтаму жыццю і хацеў, каб іншыя адчувалі яго патрэбу. А таму ўзяўся за пяро... Пісаў карэспандэнцыі, замалёўкі на тэму камсамольскага жыцця, дасылаў іх у газету «Юны камуніст», што выходзіла ў Бабруйску. Рэдактар яе — пасля вядомы публіцыст, актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі Вера Харужая падахвоціла яго да далейшага супрацоўніцтва. Любіў і маляваць. Атрымлівалася ў яго гэта някепска. Настаўнікі нават думалі, што з П. Галавача вырасце прафесійны мастак.

Аднак яму хутка стала не да малявання. Гэтым разам не атрымаў далейшага развіцця і ягоны публіцыстычны талент. Прычына не толькі ў юным узросце, калі лёгка мяняюцца захапленні. Такое было жыццё, калі не да журналістыкі. Дарэчы, пра гэта дакладна расказаў той жа М. Хведаровіч: «Ён (П. Галавач. — **А. М.**) прымае актыўны ўдзел у працы камбедаў і ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. У той час вакол вёсак шнырылі банды Булак-Булаховіча, якія забівалі сельскіх актывістаў, падпальвалі вёскі і рабавалі насельніцтва. Давялося Платону Галавачу ў атрадах часцей асобага прызначэння рабіць начныя аблавы, выбіваць ворага з прыслучанскіх лясоў, з любанскіх балотных абшараў».

Платон Галавач вітаў савецкую ўладу...

З ёй ён звязваў свае лепшыя спадзяванні, таму і служыў ёй, як падказвала яму сэрца і сумленне.

У 1922 годзе быў накіраваны Бабруйскім павятовым камітэтам камсамола ў Мінскую партыйную школу так званага першага склікання. На гэты час і прыпадае першае знаёмства з ім М. Хведаровіча. Усяго адна згадка, ды як шмат гаворыць яна аб настроях тагачаснага П. Галавача, аб ягонай кіпучай, няўрымслівай натуры:

«Мой новы сябра прыцягваў да сябе нейкай адметнай шчырай прыхільнасцю і ласкавасцю ў размове і, як мне здавалася, душэўнай дабратой. Расказваючы пра свае Гарбацэвічы, ён успамінаў пра сакратара камсамольскай ячэйкі. Пра суботнікі, якія наладжвала моладзь, пра тое, як хлопцы і дзяўчаты агульнымі сіламі адрамантавалі памяшканне пад клуб. Расказваў Платон і аб тым, што ў іх вёсцы неўзабаве збіраюцца адкрыць хату-чытальню і што ён мяркуе вярнуцца ў Гарбацэвічы, каб працаваць у гэтай хаце-чытальні».

Але ягоная мара не ажыццявілася. Пасля заканчэння вучобы П. Галавача прызначылі інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола. Праўда, праз год выказаў жаданне працягваць вучобу і стаў студэнтам тагачаснага Камуністычнага ўніверсітэта ў Мінску. Вучоба доўжылася да 1926 года.

У кішэні чаканы дыплом аб вышэйшай адукацыі, а наперадзе — шырокае поле дзейнасці. П. Галавача заўважылі, належным чынам ацанілі яго няўрымслівасць, уменне згуртаваць людзей, таму і выбралі ў чэрвені гэтага ж года на пленуме ЦК ЛКСМБ загадчыкам арганізацыйнага аддзела ЦК. У красавіку ж 1928 года дэлегаты IX з’езда камсамола Беларусі даверылі Платону Раманавічу пасаду першага сакратара ЦК ЛКСМБ. Адначасова ён стаў адказным рэдактарам газеты «Чырвоная змена». У лістападзе 1929 года П. Галавача прызначылі намеснікам наркама асветы БССР. У розны час яму давяралі рэдагаваць часопісы «Маладняк», «Полымя», быць кіраўніком літаратурных арганізацый «Маладняк» і Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў.

З часопісам «Полымя» ён і раней падтрымліваў цесныя сувязі, аднак менавіта з прызначэннем галоўным рэдактарам (афіцыйна пасада называлася адказны рэдактар) цудоўна раскрыліся ягоныя дзелавыя і арганізатарскія здольнасці. Не кажучы ўжо пра тое, што ўмеў згуртоўваць вакол сябе літаратараў. Гэта асабліва

важна было ў той час, бо ў сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» перад часопісам «Полымя рэвалюцыі» (пад такой назвай ён пачаў выходзіць з ліпеня 1932 года) паўсталі новыя задачы. Старэйшына сярод літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў Беларусі не мог заставацца ў баку ад такой важнай справы, як стварэнне Саюза пісьменнікаў. Была ўтворана і новая рэдкалегія часопіса, у якую ўвайшлі Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Клімковіч, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны...

Яшчэ раз слова М. Хведаровічу: «Платон Галавач, як член аргкамітэта, актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх пасяджэннях і мерапрыемствах па падрыхтоўцы да першага з'езда пісьменнікаў БССР. Ён імкнуўся стварыць вакол "Полымя" таварыскія ўзаемаадносіны паміж маладымі і старэйшымі пісьменнікамі. Рэгулярна праводзіліся пасяджэнні рэдкалегіі, дзе чыталіся рукапісы чарговага нумара. Часцей пачалі наведваць рэдакцыю Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля. Актыўнымі аўтарамі часопіса сталі Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Уладзімір Хадыка, Аркадзь Куляшоў. Яны давяралі П. Галавачу свае творчыя сакрэты. Прыемна было бачыць, як быў задаволены Платон Галавач гэтымі сяброўскімі размовамі».

Менавіта пры П. Галавачу цяснейшымі сталі сувязі рэдакцыі часопіса з расійскімі літаратарамі: «...Да нас часцей пачалі прыязджаць з Масквы пісьменнікі, Галавач любіў таварыскія размовы з Уладзімірам Лідзіным, Новікавым-Прыбоем, Бруна Ясенскім. Сяброўскія адносіны ў яго завязаліся з Уладзімірам Лідзіным». А што ўжо казаць пра аўтарытэт сярод калег-літаратараў беларускіх?!

Ян Скрыган выказаў меркаванне: «...Мне здаецца, што сябравалі з ім усе, і ён нікога не вылучаў і не дзяліў на лепшых і горшых. З кожным ён быў роўна чулы і блізкі, знаходзіў хвіліну і сустрэцца на вуліцы, і пасядзець на канапе ў Доме пісьменніка, і ахвотна ўзяць пачытаць рукапіс, каб не пазней як назаўтра ж пабачыцца з аўтарам, бо ён, можа, чакае і хвалюецца. Ён знаходзіў нейкае сваё душэўнае слова, па-свойму раскрываў рэчы і з'явы. Не скупіўся некага пахваліць, нечаму парадавацца ці сказаць у вочы праўду, калі яму што не падабалася».

Гэтае ўражанне ў Я. Скрыгана з'явілася тады, калі ён ужо добра ўведаў Платона Раманавіча. Аднак і першае заёмства з П. Галавачом, нават і не знаёмства яшчэ, а толькі сустрэча з ім, дый то, калі можна так сказаць, на адлегласці, запомнілася. Не магла не запомніцца: «На пісьменніцкім сходзе, сярод тых, што былі ў прэзідыуме, я ўбачыў незаёмага чалавека гадоў дваццаці шасці. Ён сядзеў на заднім плане, за спінамі паміж Міхасём Лыньковым і Андрэем Александровічам. Валасы пышныя, вельмі светлыя і, відаць, мяккія, як кужаль. І бровы зусім светлыя, што іх аж не відно. У твары многа простай і даступнай дабраты. І сціпласці. Ён як бы пачуваў сябе няёмка, што яго запрасілі на такое пачэснае месца, і стараўся быць у цяньку. Але раз ад разу да яго паварочваўся то Александровіч, то Лынькоў, то яшчэ хто з прэзідыума. І кожны раз, калі ён нагінаўся да іх, кужэльныя валасы ападалі на лоб, і ён шырокай рукою адкідваў іх назад. Часам ён спрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка не ішла яму і зараз жа згасала, паблукаўшы якое імгненне каля тонкіх губ. Усмешка занадта маладзіла яго. Рабіла юнаком і як бы сама ведала, што робіць не вельмі выгадную паслугу».

Янка Купала, які ставіўся да П. Галавача надзвычай прыязна, іначай як Платонам Раманавічам яго і не называў. З-за павагі, канечне. Паважаць жа П. Галавача народнаму песняру было за што. І за прынцыповасць. І за выразнасць грамадзянскай пазіцыі. І за адданасць справе беларускасці. А яшчэ за тое, што ніколі не даваў у крыўду літаратараў. Асабліва маладых, калі ў іх творчасці знаходзілі розныя ідэалагічныя хібы. Асабліва «нацыяналістычныя грахі». Так, заступіўся за Сымона Баранавых. Не пакінуў П. Гавалач сам-насам з аглабельнай крытыкай і Уладзіміра Хадыку.

Ды грамадская дзейнасць ніколі не перашкаджала яму плённа працаваць творча. Спачатку, яшчэ тады, калі вучыўся ў Камуністычным універсітэце, шмат

займаўся публіцыстыкай. Друкаваўся ў газеце «Савецкая Беларусь», часопісе «Чырвоны сцяг», іншых перыядычных выданнях. Як правіла, выступаў з артыкуламі, публіцыстычнымі развагамі, нарысамі. Спакваля з’явілася жаданне ўзяцца за прозу. Пачаў з невялікіх апавяданняў, пабудаваных на дакументальнай аснове. Паспрабаваў сілы і ў крытыцы. У прыватнасці, 15 мая 1925 года надрукаваў у «Звяздзе» артыкул «Дваццаць гадоў творчасці Янкі Купалы».

Тыя першыя апавяданні так і засталіся ў Платона Раманавіча ў чарнавіках. Літаратурным жа дэбютам яго стала апавяданне «Загубленае жыццё», змешчанае ў верасні 1925 года ў газеце «Савецкая Беларусь» (№ 251—258). Як для свайго часу, сюжэт гэтага твора традыцыйны: паніч-нягоднік спакушае даверлівую і абяздоленую сялянскую дзяўчыну. Няцяжка здагадацца, што тым самым малады пісьменнік, як і іншыя аўтары, паказваў сапраўднае нутро эксплуататараў, мараль аджываючага класа.

Апавяданню, на жаль, бракавала мастацкай цэласнасці, яно атрымалася расцягнутым, з лішнімі аўтарскімі адступленнямі. Хоць вобраз галоўнай гераіні Ніны засведчыў, што П. Галавач умее выпісваць няпростыя характары. Гэтая дзяўчына марыць аб лепшым жыцці, хоча шчасця. Выйсце Ніна бачыць у тым, каб падацца ў горад, дзе, як ёй здаецца, усё інакш: і грошай можна зарабіць, і чалавекам сябе па-сапраўднаму адчуць. «І ад таго нарадзілася ў галаве думка пайсці ў горад у заробкі, каб пасобіць дому і каб не бачыць больш хатняга жыцця».

«Хатняе жыццё» Ніны — не пазайздросціш! Бедна жывуць Шапілёвы, іх будні аднастайныя, і, здаецца, ніколі прасвету не будзе: «У канцы вуліцы, дзе сялібы канчаюцца, высока на ўзгорак забралася, схаваўшыся пад галлём густых дзвюх старых ліп, такая ж старэнькая хата Якава Шапілёва, кутніка навасельскага. Не адзін ён такі ў Новым Сяле, мусіць, з дзесятак такіх знойдзецца.

Шапілёву даўно, яшчэ ў вайну, калі вярнуўся дахаты паранены з нямецкага фронту, пакінула жонка чацвёра дзяцей. Шкадаваў іх Якаў. Але, каб карміць і дзяцей, і сябе, каб мець час зарабіць, ажаніўся другі раз, узяў дзецям мачаху.

Старэйшая дзяўчынка Ніна змалку прывыкла хадзіць па заработках. Гэтым памагала бацькам. Як мачаха стала, уся хатняя праца легла на плечы Ніны. Расла яна ціхая, не смеючы слова адказаць сварлівай мачасе, думала толькі, каб пасобіць падняцца меншым братам і сястры.

Год за годам цягнуліся...»

Магчыма б, Ніне ў горадзе і пашчасціла... Усё ж яна працалюбівая, сардэчная, адкрытая. Ды, бадай, апошняе і пагубіла дзяўчыну. Сын паноў Галіноўскіх, у доме якіх яна пачала працаваць хатняй работніцай, не без падбухторвання свайго сябра, вырашыў пагуляць з ёю ў каханне.

Нешматслоўны аўтар, калі перадае тое, што на душы ў гэтага нягодніка і мярзотніка, але нутро яго раскрываецца адразу:

«Вечарам Лявон хадзіў па пакоі і думаў аб Ніне. Нядобрую справу задумаў. Абудзілася ў ім нешта звярынае.

“Хаджу я вот з сваімі, роўнымі сабе дзеўкамі, хлушу ім, жаніцца збіраюся, і абрыдла ўсё гэта. Дык чаму ж не пажартаваць з гэтай вось дзікай, вясковай дзяўчынкай? Маладая яна, прыгожая. Стаюся, ласкава падыду. Ды што там! Круціць, дык круціць раман. А потым што?.. Чаго аб гэтым думаць. Скажу, каб аборт зрабіла, заплачу, а то і проста выгнаць можна будзе, ажанюся, і нічога яна мне не зробіць”».

Урэшце так і сталася. Калі Ніна зацяжарала, Лявон ад яе адвярнуўся. І вось яна, хворая, знясіленая, пазбавіўшыся дзіцяці, апынулася ў роднай вёсцы. І нікому не патрэбная. Хіба што ў жанаддзеле (падобныя арганізацыі былі ўтвораны ў 1918 годзе пры партыйных камітэтах для работы сярод жанчын) са спагадай да яе паставіліся. Ды ці пражывеш на адну спагаду?! І Ніна рашылася на адчайны і апошні крок — яна атруцілася, бо не змагла больш трываць здзекаў, знявагі...

Глыбокі сэнс у апавяданні набывае роздум супрацоўніцы жанаддзела Пашы, якая ўзялася была маральна падтрымаць дзяўчыну. Паспачувала, добрыя словы сказала, а сама... Сама Паша цудоўна разумее, што справа нават не столькі ў гэтым выпадку. Доля жанчыны па-ранейшаму цяжкая, а прычына ў абяздоленасці народа. Калі ці не ўсе пакрыўджаны, яны не могуць паспагадаць належным чынам іншаму. І гэта бяда...

Платон Галавач не пабаяўся паглядзець у вочы самой праўдзе, калі прамаўляў ад імя Пашы:

«Выйшла Ніна, а Паша з месца не краталася. Надта цяжкія думкі ў галаве.

“Вось здарылася бяда з ёй, дык людзі смяюцца, бацькі вон гоняць. Не пашкадуюць, не памогуць парадай, а смяюцца, рады няшчасцю другога, такога ж, як самі, няшчасцю брата свайго. Ах, вёска, вёска!.. Дык што ж ад іх хачу? Яны ж усе цёмныя. Забітыя. Іх век ціснулі паны, насміхаліся. І век прывучалі клапаціцца толькі аб сабе, аб сваім двarэ, паставіўшы іх у такія ўмовы, а другі, брат, — хай гіне, абы я жыў. І вось смяюцца над сабой, хоць і шкадуюць у душы, але смяюцца, бацькі з дому гоняць. Больш свету трэба ў гэтыя цёмныя вёскі, перарабіць іх трэба па-новаму, унесці свядомасць, новае, лепшае жыццё, новыя, нашы, камуністычныя погляды на жыццё трэба ўнесці ў маленькія шэрыя хаты”».

«Камуністычныя погляды» — безумоўна, даніна часу. Але тое, што П. Галавач, як і тыя, хто ўваходзіў у літаратуру разам з ім, пісалі свае творы з марай аб новай вёсцы і з верай у гэтую вёску, сумнення не выклікае. Пацвярджэнне таму і апавяданні П. Галавача, што з’явіліся ўслед за «Загубленным жыццём». Напрыклад, «Рубанаўскі вузел», адзін з герояў якога таксама ў роздуме над тым, што ёсць і што, як яму падаецца, павінна быць: «Жыццё, як бы вам сказаць, што мудра збудаваная машына, якую круціць вялікае кола. У гэтай машыне тысячы вінцікаў, гаек, за якімі трэба назіраць, каб дзе што не аслабілася, каб не здарылася перабояў у працы. Гэтай машынай трэба кіраваць умеламу машыністу...»

Неўзабаве ў П. Галавача сабралася твораў на першую кнігу, якая пад назвай «Дробязі жыцця» выйшла ў 1927 годзе. Адным з тых, хто ўважліва паставіўся да маладога празаіка, стаў Максім Гарэцкі. Прынамсі, ён сказаў сваё слова пра апавяданні Платона Раманавіча, калі ў газеце «Чырвоная змена» выступіў з цыклам артыкулаў «Творчасць маладнякоўцаў». Трэці з іх прысвячаўся П. Галавачу (1928, 18 лістапада). Дэталёва прааналізаваўшы некаторыя апавяданні, М. Гарэцкі прыкмеціў у кнізе вызначальнае: «Як бачым, галоўнае ў ідэалагічным змесце твораў Галавача — гэта супрацьстаўленне новага ладу жыцця старому ладу жыцця. Апавядаючы аб мінулым, аўтар малюе страшэнную сялянскую беднасць, бяспраўнае становішча працоўнага чалавека, надмерную працу, цемру і забабоны, злосць, сваркі... [...] Вобразы ў яго простыя, жывыя, народныя. Мова — добрая, народная мова, хоць, на жаль, трапляюцца часам такія расіянізмы, без якіх зусім лёгка абысціся». М. Гарэцкі быў перакананы, што апавяданні П. Галавача «з прыемнасцю і з карысцю для сябе прачытае самы масавы савецкі чытач».

Знайшлося месца П. Галавачу і ў літаратурна-крытычнай працы М. Гарэцкага «“Маладняк” за пяць гадоў. 1923—1928» (1928). І публікацыя ў «Чырвонай змене», і згаданая праца — сведчанне таго, як больш творча вопытны, хоць і не нашмат старэйшы пісьменнік (М. Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 года) быў па-сапраўднаму зацікаўлены ў развіцці, станаўленні таленту таго, на каго ён ускладаў надзеі. М. Гарэцкі разумеў, што сяброўская крытыка павінна пайсці толькі на карысць, таму выказаў і шчырыя заўвагі: «Часам у Галавача занадта шмат сур’ёзнасці, мала жывасці, слаба выяўляецца гумар і сатыра, хоць нахіл да іх у некаторых месцах ёсць зусім выразны і памысны»; «заўважаецца некаторая непрапарцыянальнасць частак апавядання: ёсць часам размах на аповесць, але аўтар уціскае сябе ў асадкі апавядання».

У той жа час М. Гарэцкі ў дачыненні да П. Галавача сведчыў: «Аднак жа, у яго ёсць пачуццё, шчырая спагада да абяздоленых людзей, ласка да маладых

парыванняў і ў гэтых месцах апавяданні яго ажыўляюцца і робяць большае мастацкае ўражанне. У яго няма лішняе голае тэндэнцыйнасці. Ён трымаецца здаровага рэалізму. Блізка што няма ў яго і ўхілу ў лішні натуралізм...»

Надзіва па-мастацку выніковым стаў для П. Галавача 1930 год — выйшла другая кніга яго апавяданняў «Хочацца жыць». Асобнымі кнігамі пабачылі свет аповесці «Вінаваты» і «Спалох на загонах». Новыя творы засведчылі, што пісьменнік настойліва пашырае тэматычныя абсягі сваёй прозы. Зразумела, ён па-ранейшаму супрацьпастаўляў новае і старое жыццё (ці наадварот), але разам з тым пачынаў больш пільна прыглядацца да таго, што адбывалася не столькі ў самім жыцці, колькі ў самім чалавеку. П. Галавача цікавіла, што дзеялася ў душы тых, хто воляй абставін вымушаны быў змяніць свой звыклы ўклад жыцця.

У гэтым сэнсе вельмі характэрнае апавяданне «Уцякач». Герой гэтага твора чырвонаармеец Павел Голуб, хоць і знаходзіцца ў войску, па-ранейшаму адчувае сябе селянінам. Ён пакутуе ад таго, што адарваны ад свайго звыклага ўкладу жыцця. Не ў меншай ступені яго гняце і боязь быць параненым, а тым больш забітым. Таму і з’яўляецца ў Голуба жаданне ўцячы з фронту. Хоць разумее, што, калі зловяць, ніякай спагады чакаць нельга. Як дэзерціра, не задумваючыся, расстраляюць. Аднак, тым не менш, думка аб уцёку ніяк не пакідае яго. Магчыма, Павел неяк усё ж пераадолеў бы ў сабе гэтую назойлівую думку, ды трэба ж было так здарыцца, што камандзір адправіў яго ў разведку.

Убачыў Голуб жытнёвае поле, якое пачало каласіцца.

Убачыў высокую траву, што зачакалася ўзмаху касы...

Убачыў усё гэта, і тое, што апошнім часам так доўга і пакутліва не давала яму спакою, стала рэальнасцю.

Калі злавілі Паўла, не прымусіў сябе чакаць прыгавор трыбунала. Далей адбылося тое, што ў літаратуры патрапляе пад вызначэнне «быкаўская сітуацыя»:

«Калі камісар пачаў гаварыць чырвонаармейцам аб справе дэзерціра Паўла Голуба, а потым чытаць пастанову Вайскова-рэвалюцыйнага трыбунала, Голуб выпадкова глянуў сабе пад ногі на жоўты сыры пясок, яскрава ўявіў усё, што павінна адбыцца праз некалькі хвілін, і страх яшчэ большы, як дагэтуль, заўладаў ім, скаваў цела. Захацелася крыкнуць таварышам аб сваёй здрадзе, кінуцца ім у ногі, прасіць літасці, абяцаць да канца заставацца на фронце, але ногі нібы ўраслі ў зямлю, язык не змог зварухнуцца, і толькі губы шапталі словы, чутныя толькі для самога сябе...

— Братцы, братцы, я ж не хацеў, я не мог, мучыла мяне смерць...»

Аднак не толькі «быкаўская сітуацыя» ў апавяданні «Уцякач», а і быкаўскае яе вырашэнне. П. Галавач гэтаксама праўдзівы, пераканаўчы, як і ягоны выдатны наступнік у паказе чалавека на вайне. Ці, калі быць больш дакладным, вайны ў чалавеку. У выяўленні таго, што гэтая самая вайна можа зрабіць з сумленным чалавекам. Тады, калі ён не можа ўпісацца ў яе. П. Галавач, пішучы апавяданне «Уцякач», як бы абагнаў свой час. Ён перадаў адну з тых пагранічных сітуацый, калі супрацьстаяць сумленне і здрада. Сам пра гэта не здагадваючыся, па сутнасці, прадугадаў, якім шляхам у будучым пойдзе беларуская літаратура ў паказе чалавека на вайне.

Паўла Голуба ўжо нішто не ўратуе. Прысуд ваеннага трыбунала ніхто не можа адмяніць. Хіба хто-небудзь з вышэйшага начальства. Толькі дзе такога дабрадзея знойдзеш. Тое, што зрабіў герой апавядання «Уцякач», у ваенных умовах ніколі не даруецца:

«Не сціхае ўгары гоман, не сціхае зязюля, кукуе камусьці доўгія гады.

Халоднымі цяжкімі кроплямі падаюць у мазгі словы прысуду.

Цяжэе тулава. Усё болей ўрастаюць у зямлю ногі. Страшны боль сціскае галаву...

Чуў апошнія словы прыгавору, чуў злосныя словы таварышаў...

Сціхла... Пачулася кароткая каманда..

Хацелася ўзняць вочы, глянуць на таварышаў, каб убачылі, каб зразумелі, што ён каецца, але галава, быццам налітая волавам, не ўздымаецца. Апушчаныя ўніз вочы бачаць перад сабой бліскучыя канцы цэлага шэрагу штыкоў. Пачуў апошнюю каманду».

Чырвонаармеец Сідарук з апавядання «Кара» таксама самавольна пакінуў вайсковую часць, але адбылося гэта ўжо ў мірны час, калі праводзілася калектывізацыя. З ліста, які прыйшоў з ягонай вёскі, ён даведаўся, што сялян прымусова зганяюць у калгасы, а ў ягоных бацькоў забіраюць апошнюю карову. Сідарук вырашыў упэўніцца, ці так гэта.

Аказалася, што ніхто нікога не прымушае. Дый непісьменныя бацькі Сідарука не прасілі пісаць яму. Гэта зрабіў іхні сусед Міканор, які баяўся за багацце свайго бацькі. Адно цяпер непакоіць героя твора: як апраўдацца на службе за тое, што без дазволу пакінуў сваё падраздзяленне? Дый якое пакаранне будзе? Як высветлілася, самае нечаканае. Чырвонаармейцы вырашылі не браць яго назад у роту. Але супраць гэтага выступіў палітрук...

Сітуацыя, як і ў апавяданні «Уцякач», — таксама неардынарная. Хіба што не такая драматычная. Аднак і яна дазваляла пісьменніку глыбока псіхалагічна разабрацца ў ёй. На жаль, гэтага не атрымалася. Прычына, бадай, у тым, што П. Галавач свядома абмежаваў свае творчыя мажлівасці ідэалагічнай зададзенасцю, не заўважаючы, наколькі надуманай выглядае «кара» таварышаў Сідарука. Але такая мера пакарання неабходна была пісьменніку для таго, каб паказаць, наколькі справядлівы палітрук. Ён умяшаўся і, калі ласка: «За горадам мутнеў, сціраўся пазалочаны край цёмнай хмары». Пасля ўмяшання знікла і хваля непрыемнасцей, што збіралася накрыць сваім крылом галоўнага героя твора.

Магчыма, апавяданне «Кара» можна было б пакінуць па-за ўвагай. У творчай спадчыне П. Галавача шмат твораў, у тым ліку і апавяданняў, што сведчаць аб высокіх задатках ягонага таленту. Ды я прыгадаў гэтае дзеля таго, каб паказаць, што пісьменнік, нават калі ў аснову клаў і сітуацыі чымсьці блізкія, не заўсёды пераадольваў супраціўленне матэрыялу, не мог пазбавіцца зададзенасці.

Прычына, несумненна, не толькі ў тым, што аўтару адзін твор можа ўдацца лепш, другі — горш. Не трэба забываць і аб узросце П. Галавача. Усё ж ён знаходзіўся, па сутнасці, толькі ў пачатку свайго творчага шляху. Мастакоўскае сталенне ў яго адбывалася паскорана, таму не абыходзілася без выдаткаў. Але здаровы талент рабіў сваю справу: у цэлым майстэрства пісьменніка расло ад твора да твора. І не толькі ад апавядання да апавядання. Аб гэтым сведчыць і аповесць «Вінаваты».

У гэтым творы П. Галавач задумваўся над спаконвечнай праблемай бацькоў і дзяцей. Аднак паколькі аповесць пабудавана на сучасным яму матэрыяле, то і акцэнты ў ёй расстаўлены паводле абставін гэтага часу. Заложнікам іх і стаў студэнт тэхнікума Алесь Шавец, хоць і ён належыць да тых, хто блізка да сэрца ўспрымае змены, якія адбываюцца ў грамадстве. Алесь ніколькі не хібіць, калі ў лісце да свайго таварыша прызнаецца: «Ведаеш, я так веру ў рэвалюцыю, у камуну, што, здаецца, вырваў бы сэрца з грудзей, згарэў бы, каб пераканаць сялян, што толькі ў гэтым выйсце з жабрацтва, беднасці».

Гэты «Данко», нягледзячы на малады ўзрост, змог ужо многага дасягнуць. Школьнікам арганізаваў камсамольскую ячэйку. Вёў барацьбу з культурна-асветніцкім гуртком, бо, як пагаджаўся з адным са сваіх сяброў, у гэты гурток уваходзіла «гнілая інтэлігенцыя». Паспеў Алесь пазмагацца з бандытамі, папрацаваць старшынёй сельсавета. Дый у тэхнікуме па-ранейшаму актыўны: узначаліў прафкам. Ён непрымірымы да ўсіх, у кім бачыць тых, з кім яму не па шляху. Шавец перкакананы: «У нас не хапае пільнасці, каб пазнаць свайго класавага ворага. Гэта ад таго, што мы не выхоўваем у сабе пачуцця нянавісці да ворагаў». Як клятва, гучыць з ягоных вуснаў: «Я заўжды буду гаварыць, што мы надта шкадуем усіх і ад гэтага мы жывём вось ужо колькі год і забыліся на небяспеку».

Што за гэтымі словамі хаваецца? Святая вера ў тую справу, якой гатовы аддаць усё сваё жыццё? Юначы максімалізм? Звычайны кар'ерызм? Бадай, і першае, і другое. Што ж да кар'ерызму, то такога памкнення ў сумленнага Алеся акурат і няма. Але менавіта ў гэтым яго якраз і западозрылі тыя студэнты, якім надакучыла, што ён гатовы ўсіх «чысціць», ледзь не ў кожным шукаць ворага. А тут яшчэ даведваюцца, што ягоны бацька некалі служыў у сакрэтнай канцылярыі. Праўда, Мікіта Шавец утаіў гэта ад сям'і, таму пра ягонае мінулае Алесь нічога не ведаў. Ды гэта ўсё адно яго не ўратавала. Быў выключаны і з партыі, і з тэхнікума.

Сябры з ім абышліся гэтаксама жорстка, як дагэтуль сам Алесь Шавец абыходзіўся з тымі, «чыстку» каго праводзіў. Так ён стаў без віны вінаватым. Такое рашэнне для яго стала моцным ударам. Сам не шкадаваў «ворагаў». Не пашкадавалі і яго, калі даведаліся, што ён «вораг». Сходам усё не скончылася: «Калі праходзіў ля аднаго з сяброў, з якім працаваў заўжды ў лабараторыі, той адвярнуўся. Ля самых дзвярэй нехта брыдкімі словамі кінуў у твар Алесю:

— А як другіх чысціў? Усе яны такія!

Яму адказаў другі:

— Цяпер яго кар'ера скончана!..»

Аповесцю «Вінаваты» П. Галавач, па сутнасці, папярэджваў, наколькі страшная для грамадства ворагаманія, да якіх непапраўных вынікаў можа прывесці празмерная пільнасць. У другой жа сваёй аповесці, «Спалох на загонах», ён, кажучы ягонымі словамі, імкнуўся «з максімальнай праўдзівасцю паказаць самы працэс калектывізацыі вёскі з усімі цяжкасцямі, з усёй складанасцю класавага змагання, ва ўмовах якога гэты працэс ідзе».

Падобнае прызнанне прагучала ў яго артыкуле «Як была напісана аповесць "Спалох на загонах"», апублікаваным у чацвёртым нумары часопіса «Заклік» за 1933 год, калі перад гэтым, у 1932 годзе, аповесць была перапрацавана для другога выдання.

Як на свой час, яна з'явілася яшчэ адным звяном у літаратурным ланцугу твораў, напісаных тагачаснымі аўтарамі аб пераломных працэсах у беларускай вёсцы. Ды і пісалася яна гэтаксама, як і ўсё тое, што з'яўлялася на злобу дня.

Гэта відаць і з расказу самога П. Галавача:

«Зімой 1928—1929 года я быў на перавыбарах сельсаветаў у Клявіцкім сельсавеце Смалявіцкага раёна. У гэтым сельсавеце ў вёсцы Панічова існавала ўжо тады камуна "Камсамольская воля", створаная ў надзвычайна цяжкіх умовах ініцыятывай камсамольцаў таварышаў Чыкуна і Воўка... Пазаёміўшыся блізка з жыццём камуны, я паставіў сабе мэтай напісаць твор пра камуну. Пачаў збіраць матэрыялы, рабіў запісы, але да 1930 года нічога не напісаў».

Чарговая паездка ў П. Галавача была «ў лютым 1930 года па камандзіроўцы ЦК КП(б)Б», калі ён наведаўся ў Дрысенскі раён. Нарэшце, прызнаваўся Платон Раманавіч, «вясна 1930 года была для мяне як пісьменніка надзвычай вялікай практычнай школай у справе вывучэння, пазнавання сялянства і надзвычай вялікаю магчымасцю нарыхтовак матэрыялу. Запас матэрыялу стаў яшчэ большы, калі ЦК КП(б)Б у маі 1930 года перакінуў мяне для ўдзелу ў пасяўной кампаніі ў Лупалаўскі раён (б. Магілёўская акруга)».

Сваю задачу пры напісанні гэтай аповесці П. Галавач бачыў так: «Як пісьменнік, я павінен праўдзіва, без прыфарбоўкі паказаць селяніну ўсё гэта, ужо бачанае, па-новаму, каб, прачытаўшы аповесць, ён змог разгадаць на сходзе ў сваёй вёсцы, у сваім калгасе, хто з'яўляецца ворагам калгаса, яго ворагам, а хто з'яўляецца сапраўдным калгаснікам, старроннікам новага жыцця».

Матэрыялу, канечне ж, назапасілася шмат. Неабходна было толькі яго належным чынам асэнсаваць. Праўда, П. Галавач (зноў жа аб гэтым ён прызнаецца сам), перш чым пісаць аповесць, абмежаваўся апавяданнем «Нястрымнае» (па яго словах, гэта быў эскіз да будучага твора) і надрукаваў яго ў часопісе «Чыр-

воная Беларусь» (1930, № 4). З ужо згаданага артыкула даведваемся: «Гэты эскіз я чытаў на некалькіх сходах. Сяляне ўважліва слухалі і гаварылі, што напісана правільна, так, як от было яно і ў іхняй вёсцы».

Сама ж аповесць пасля такой карпатлівай падрыхтоўкі напісалася вельмі хутка: «А праз тры месяцы, менавіта 27 жніўня 1930 года, я змог запісаць у дзённіку:

"Сёння скончыў пісаць аповесць "Спалох на загонах"».

Несумненна, уважліва знаёмячыся з творам цяпер, калі мы ведаем пра калектывізацыю шмат таго, што дзесяцігоддзямі замоўчвалася, асобныя моманты ў «Спалоху на загонах» выглядаюць празмерна палітызаванымі. Аўтар, кіруючыся патрабаваннямі часу, не мог не згадваць і аб «класавым стаўленні да падзей». Дый самі персанажы нярэдка не тое што гавораць, а быццам прамаўляюць з трыбуны, а іх гаворка пазбаўлена жывых інтанацый. Няцяжка заўважыць у аповесці і празмерную «полюсавасць» — з аднаго боку тыя, хто верыць у новае жыццё, з другога — яго праціўнікі.

Яно ж так... П. Галавач, жывучы ў сваім часе, гэты час і адлюстроўваў у сваіх творах, прытым паказваў з пазіцый, блізкіх і зразумелых яму. Але не будзем забываць, што за пяро браўся чалавек з вялікімі творчымі магчымасцямі, а таму талент часта як бы «не слухаўся». І гэта яскрава відаць сёння, калі да аповесці можна паставіцца непрадузята. Асабліва на тое, што тычылася сялянскай псіхалогіі, зірнуць. П. Галавач не спрашчаў працэсу «перавыхавання» вяскоўцаў, але ён, як бы выконваючы свайго роду ідэалагічны заказ, бачыў у гэтым жаданні — мець свой надзел зямлі, сваю гаспадарку, свайго каня, сваю карову — і адмоўнае.

Прынамсі, падобнае заўважаецца, калі знаёмішся з тым, як насцярожана і абачліва ставяцца сяляне да таго, за што агітуе іх пасланец партыі Панас. Ды ён і не адмаўляе класавага стаўлення да ўсяго, што адбываецца: «Агульначалавечае шчасце, бачу я, ідзе пад палотнішчам, афарбаваным у кроў. Гэта сімвал нашае веры. Гэта сімвал таго, што агульначалавечае шчасце можна толькі заваяваць у жорсткім змаганні». Хоць, трэба глядзець праўдзе ў вочы, Панас — ідэйна перакананы барацьбіт за новае жыццё. Ён можа памыляцца. Ён не прызнае кампрамісаў. Аднак яму не адмовіш у сумленнасці, таму кар'ерысты, прыстасаванцы — для яго таксама ворагі: «Яны гатовы скрозь вывесіць шыльды з лозунгамі аб рэвалюцыі і заваяваным ёю, назваць вуліцы гарадоў імёнамі вялікіх рэвалюцыянераў нашай эпохі, абвясціць сацыялізм пабудаваным і заклікаць чалавецтва да вечнага міру. Яны гатовы ўвагнаць сацыялізм у форму бронзавых і гіпсавых статуэтак і помнікаў, каб гэтым паралізаваць яго дзейную сілу».

Далёка наперад глядзеў П. Галавач. Бачыў той час, калі «забранзавеласць» ператворыцца ў страшную з'яву, што пачне, быццам іржа, раз'ядаць грамадства. Папярэджваў аб гэтай небяспецы. Сілай праўдзівага мастацкага слова рабіў гэта. Але галоўным для яго ў «Спалоху на загонах» было, безумоўна, раскрыць тыя няпростыя працэсы, якія адбываліся ў сучаснай яму вёсцы.

Чым пільней учытваешся ў той ці іншы эпізод, тым больш пераконваешся: псіхолагам, яшчэ якім псіхолагам паўстае П. Галавач, калі паказвае селяніна!

Узяць хоць бы Клемса... Хто, здавалася б, як не ён, павінен адразу запісацца ў калгас. Ды не спяшаецца чалавек, не спакушаецца шчасцем, якое абяцаюць яму. Над усім бярэ верх тая сялянская мудрасць і разважлівасць, калі не хочацца верыць на слова. Не хочацца, бо ёсць на тое падставы, таму што горкі жыццёвы вопыт навучыў асцерагацца. Клемс з поўным на тое правам можа сказаць словы, прамоўленыя ў пачатку аповесці сынам гаспадара, у якога прыпыніўся Панас: «Я разумею гэта, таварыш, што свет існаваць не будзе, калі мужыка абдурваць не будуць...»

Трывожна, гнятліва на душы ў Клемса: «Клемс усе гэтыя дні хадзіў неспакойны, крыху ўзлаваны. Пачалося гэта з тае пары, як у вёсцы з'явіўся Панас.

А ўся справа была вось у чым. Чуткі пра калгас у Цярэшкаў Брод трапілі не адразу. Спачатку яны спляталіся дзесьці далёка, аж у суседнім раёне, і адтуль даходзілі заблытанымі, невыразнымі, як нешта далёкае, што не мае адносін да Цярэшкавага Броду. Ад таго яны Клемса і непакоілі. А цяпер яно, тое, што ўкладаў Клемс у разуменне калгаса, падступала балюча да грудзей і пытала: ну, як жа ты, як жа ты вырашыш, куды ж ты пойдзеш? Цяпер яно не адыходзіла, не давала нідзе спакою. Прыйдзе Клемс у гумно, стане на таку, а з бакоў нахіляюцца абскубленыя торпы сена, саломы, кулёў, цягнуцца гострымі канцамі каліў да нутра самага і пытаюць: а як будзе тады? Чыімі тады будуць кулі і сена? Ляжа ўвечары спаць і доўга не можа заснуць, варочаецца з боку на бок, нервуецца, а яно ўсё не адыходзіць. Мысліў, што ўвесну перасыпле хлявы, купіў сем пнёў лесу для гэтага, а цяпер як? Рабіць ці не?»

«Рабіць ці не?» — гэтае пытанне не дае спакою многім жыхарам Цярэшкавага Броду. Пісьменнік, наколькі дазваляў яму талент і ўнутрана супраціўляючыся тым дырэктыўным указанням, паводле якіх калектывізацыя падавалася толькі як суцэльнае шчасце для простага чалавека, спрабуючы адысці ад ідэалагічных схем, праўдзіва раскрываў сам драматызм людскіх лёсаў. Ламаліся векавыя традыцыі, мяняліся адносіны да зямлі як асабістай уласнасці, а тым самым і адбываўся «вялікі перралом», якому многія працівіліся, як толькі маглі.

Рэч зусім не ў тым — прымалі людзі савецкую ўладу альбо не верылі ёй. Галоўнае — пад нагамі ў сялян рушылася тая глеба, на якой яны трывала стаялі заўсёды. Паняцце «маё» — гэта не толькі (і не столькі!) прага ўласніцтва, а зразумелае жаданне чалавека мець нешта сваё. А паняцце гэтае аб'ёмнае. Сюды адносіцца і зямля. І пабудовы. І асабістыя рэчы. А за ўсім гэтым — адчуванне сябе сапраўдным гаспадаром, што, урэшце рэшт, і было заўсёды характэрна для селяніна, асабліва для селяніна беларускага, які (і гэта ні для каго не сакрэт) вызначаўся вялікім працалюбствам.

Той жа селянін, калі ў яго прымусова імкнуцца забраць тое, што належыць яму, гатовы ператварыцца ў звера... Лютага, раз'юшанага. А міжвольным сведкам падобнай дзікасці і стаў сталяр Клім Сідар, калі завітаў на рынак купіць дроў. Яго ўвагу, як і іншых наведвальнікаў, прыцягнула, як злосна, можна сказаць, пасадысцку, адзін з вознікаў біў каня за тое, што той не мог скрануць з месца саней, бо «падкаваныя жалезам палазы ўехалі на голы, ледзь прыкрыты снегам брук»: «Пугаўё біла каня па баках, па спіне, па галаве. Некалькі мужчын узяліся пхаць воз. Конь зноў матнуўся ў бакі, пачаў брыкацца, ірвануў, упаў на каленкі. Хтосьці з натоўпу крыкнуў:

— Не бі, сволач ты, не маеш права!»

Ды дзе там! Возніка як завяло: «Адыдзі! Не лезь! Заб'ю! Мая!..» І тут Клім не стрымаўся, «ірвануў мужчыну за армяк, крутануў яго, наваліў плячыма на бервяно. Мужчына ірвецца. Тужыцца і са злосці крычыць:

— Пусці!.. Заб'ю!.. Пусці!..»

Тлумачэнне таму, што адбылося, даў другі селянін, у якога Клім купіў дровы: «А што ж шкадаваць — усё роўна конь цяпер не ягоны, абагульнены...»

Гэта калі гаварыць пра канкрэтны выпадак, а ў цэлым:

« — Скалечыў каня. Здурнеў, што за народ... — прамовіў Клім.

На яго словы хтосьці з натоўпу сказаў:

— Злоснымі людзі зрабіліся цяпер, як зверы... Нічога не шкадуюць: ні чалавека, ні жывёліны».

Платон Галавач праўдзіва адлюстраваў жыццё не толькі тагачаснай вёскі, а і горада. У краіне разруха. Заводы спынены, людзі галадаюць. Адзін гэты малюнак чаго варты! — «У горадзе чароды гэткія ўжо чацвёрты дзень. Чатыры дні таму назад у крамах горада не хапіла хлеба. Гэта было ўвечары. Вестка, што не хапіла хлеба, хутка абляцела ўвесь горад, і ля хлебных крам неўзабаве выраслі вялікія чароды. За хлебам прыйшлі і тыя, у каго хлеб яшчэ быў. Чароды стаялі да

адзінаццаці гадзін ночы і разышліся тады, калі крамы, распрадаўшы хлеб задоўга да гэтага, зачыніліся.

На другі дзень раніцою ля ўсіх хлебных крам, яшчэ да таго, як яны адчыніліся, стаялі вялікія хвасты».

Безумоўна, давала аб сабе знаць і паніка, ды яна не на голым месцы ўзнікла...

Вартасці аповесці «Спалох на загонах» — у яе набліжанасці да тагачаснага жыцця, у здатнасці пісьменніка паказаць яго поўна, шырока, аб’ектыўна. Але ж не будзем забываць, што падобныя якасці характэрныя для высокамастацкага дакументальнага твора. Ды П. Галавач паказаў сябе і выдатным псіхолагам, даследуючы людскія характары. Таго ж Панаса, Кліма, сакратара заводскай партыйнай ячэйкі Сідара... Гэта не проста літаратурныя персанажы, а жывыя характары. Зразумела, кожны з іх разважае ў межах сваіх здольнасцей, умення арыентавацца ў падзеях. Але нават і, калі глядзець на ўсё з вышыні сённяшняга дня, той жа Клім праяўляе цвярозае разуменне няпростасці рэвалюцыйных зрухаў і да працэсаў калектывізацыі ставіцца даволі неадназначна:

«Сідар узняўся з-за стала, падышоў да Кліма, каб суняць яго.

— А ты, бацька, спакайней, не хвалюйся, — прыказаў ён, — пра такія скрыўленні і ў газеце пісалі, за гэта не хваляць...

— Скрыўленні... Ты мяне не вучы, я разумею, што партыя не так кажа рабіць, але чаму газета не вучыць, як след рабіць, а толькі аб працэнтах піша...

— Далібог, пашлём цябе, бацька, на калектывізацыю.

— А думаеш, не паехаў бы?! І яшчэ як бы зрабіў. Лепш, чым вось робяць там многія... На такую справу, раз рэвалюцыя поўная ў гаспадарцы, як кажуць, трэба пасылаць людзей з галавою, хто і палітыку, але і гаспадарку хто разумее, а не тых, хто языком толькі добра чэша. А то вось яны і робяць так, што потым і чорт не разбярэ, хто вінаваты».

Менавіта чалавекам з галавою і бачыцца ў аповесці Панас. Невыпадкова пра яго адна сялянка гаворыць: «Як мы чулі, вы багата дзе людзям, таварыш, душу паднялі, дык просім і да нас прыйсці, пагутарыць з намі хоць крыху».

Аповесць мае прысвячэнне: «Галіне — новаму чалавеку». Адразу відаць, што П. Галавач будучыню вёскі, як і ўсёй Беларусі, увязваў з тым, наколькі неабходнасць жыццёвых змен зразумее моладзь, як актыўна паставіцца яна да ўсяго, што адбываецца. Праўда, вобраз самой Галіны ўсё ж у многім атрымаўся схематычным, ён яўна прайграе ў параўнанні з вобразамі Панаса, Сідара, не кажучы ўжо пра Клемса... Слаба індывідуалізавана і Палашка, а яны, як бачна з аповесці, мусілі стаць у творы ўвасабленнем новай вёскі. Не ва ўсім пераканаўчым атрымаўся і Мушкін, якога аўтар паказаў як увасабленне старога свету.

Нельга казаць, каб адназначна ўспрымалася і само завяршэнне твора. А на час з’яўлення аповесці, канечне, як быццам усё было зразумела. Панас загінуў, таму што выступленне нядаўніх калгаснікаў, якія забралі свае заявы назад, справакавалі мясцовыя кулакі на чале з Мушкіным. Але, калі лепей разабрацца, не толькі гэта стала прычынай ягонай смерці. Людзі таму і ператварыліся ў раз’юшаны натоўп, што бачылі несправядлівасць, сутыкнуліся з перагібамі ў арганізацыі калектыўных гаспадарак, з прымусам. Панас на падобнае не ішоў. Так рабілі іншыя. Аднак адказваць давялося яму. Як заўсёды ў жыцці — гінуць самыя лепшыя.

Хоць твор і меў поспех, П. Галавач разумеў, што яму ўдалося ажыццявіць далёка не ўсё, што хацелася. У канцы артыкула «Як была напісана аповесць “Спалох на загонах”» ён сцвярджаў: «Але і цяпер, калі звяртаюся да сваіх запісных кніжак, я разумею, што поўнасцю з задачай, якую я ставіў перад сабой у пачатку напісання аповесці, я не справіўся яшчэ. І таму я кажу, што мая аповесць “Спалох на загонах”, якая з’яўляецца бясспрэчным дасягненнем у маёй творчай рабоце, ёсць эскіз для напісання новага вялікага твора пра сялянства, над якім я працую цяпер».

Спачатку П. Галавач хацеў напісаць аповесць «З-за сівых тумаnoў», але значнасць задумы патрабавала больш шырокага ахопу падзей і адпаведна пашырэння аб'ёму твора. А ў выніку пачалася праца над раманам «Праз гады», які ў маі 1934 года з'явіўся на старонках часопіса «Полымя». Пры жыцці пісьменніка ён двойчы выдаваўся ў арыгінале, а таксама перакладаўся на рускую і польскую мовы.

У рамане ахоплены падзеі з 1913 па 1933 год. А гэта, як вядома, Першая сусветная вайна, вайна грамадзянская, калектывізацыя. Да ўсяго гэтага, у той ці іншай ступені, маюць дачыненне і героі твора. Таму дзеянне яго адбываецца не толькі ў беларускай вёсцы Шапятоўцы, а і ў Пецярбургу, на фронце, згадваецца і Сібір, куды ў свой час лёс закінуў некаторых персанажаў, расказваецца пра будаўніцтва энергахімічнага камбіната.

Адным з першых сярод беларускіх пісьменнікаў П. Галавач у гэтым творы задумаўся над праблемамі інтэлігенцыі, якая ў час эпахальных зрухаў у жыцці грамадства вымушана была шукаць сваё месца. І гэта раскрыта на прыкладзе прадстаўнікоў як старога, так і маладога пакаленняў (Галынскі, які нямала пабачыў на сваім вяку, паэт-аграном Ягупла, малады Пілацееў).

Аднак не будзе перабольшаннем сказаць, што і гэтым разам П. Галавача найперш і найбольш цікавіць лёс працоўнага сялянства. Ён раскрываецца на прыкладзе братоў Шкробатаў.

Старэйшы, Мікіта, хоць і з цяжкасцю, але дасягнуў дастатку, разбагацеў. Здавалася б, паколькі «выхад у людзі» яму даўся нялёгка, каштаваў вялікіх фізічных і духоўных высілкаў, ён павінен са спагадай ставіцца да абяздоленых, слабых. Атрымалася ж наадварот. Прага нажывы, багацця засціла Мікіту вочы, і ён ужо не хоча па-сапраўднаму бачыць тое, што адбываецца наўкола. Таму і выганяе з хаты свайго хворага брата Паўла, хоць не можа не здагадвацца, што той сам не выжыве. Таму і віжуе за сялянамі, якія хочуць новага жыцця, гатовы запісацца ў калгас.

Куды больш псіхалагічна заглыблена раскрыў П. Галавач вобраз Мікітавага брата Тарэнты. Ён спрабаваў знайсці сваё шчасце ў Сібіры. Падаўся ў перасяленцы разам з Паўлам. Давялося ні з чым вяртацца назад. Але мары займець свой кавалак зямлі не пакінуў, таму разам з іншымі сялянамі выступіў супраць памешчыка. А ў выніку апынуўся на катарзе, пасля мёрз у акопах, а тут — рэвалюцыя.

Здавалася б, ажыццяўленне мары так блізка: «ён цвёрда верыў, што даб'ецца зямлі». І гэта на самай справе так, ды зноў змены — калектывізацыя. Яна ж не адпавядае таму стаўленню да зямлі, якое блізкае Тарэнту, у чым ён бачыць сутнасць свайго жыцця: «Усё з зямлі жыве. Усё за яе трымаецца, і лішні ты, чалавек, на зямлі, калі не маеш свайго ўласнага месца на ёй, ці, калі, скажам, цесна табе на такой вялікай планідзе, калі вузак твой шнур на ёй. Зямля таго любіць, хто цвёрда на ёй стаіць, хто шырокім крокам мерае на ёй сваю часціну».

Не адразу прыходзіць Тарэнта да высновы, што яго месца з іншымі. Як кажуць, з наскоку на падобны ўчынак ён не мог рашыцца, бо гэта сапраўдны гаспадар зямлі, а гаспадар, перш чым зрабіць нейкі важны крок, старанна ўсё абдумае і ўзважыць. У свайго сына ён пытаецца, а шукае адказ для самога сябе: «...А цяперака што ж, рашыцца ўсяго і ў табун ісці? Добра — на сваіх дзяцей рабіў, а цяпер на чужых рабіць?» Аднак выбару для яго ўжо няма: ці ў калгас уступаць, ці патрапіць пад раскулачванне.

У маі 1936 года П. Галавач у часопісе «Полымя рэвалюцыі» выступіў з аповесцю «Носьбіты нянавісці», падзеі якой звязаны з акупацыяй Беларусі палякамі ў гады грамадзянскай вайны. Тэма грамадзянскай вайны прагучала і ў яго аповесці «Яны не пройдуць» (1937), героем якой стаў удзельнік Першай сусветнай вайны, кавалер Георгіеўскага крыжа Рыгор Каленік. З прыходам палякаў ён зноў мусіў узяцца за зброю, стварыў партызанскі атрад.

Па-ранейшаму пісаліся новыя апавяданні, з’яўляліся нарысы, рэпартажы. І па-ранейшаму П. Галавача не пакідалі творчыя задумы, асобныя з якіх пакрысе ажыццяўляліся. Так ён пачаў пісаць раман «Дарога ў свет», закончыць які хацеў у сакавіку 1937 года і прысвячаў 20-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. Зацікавіўся і гісторыяй, сабраў шмат матэрыялу пра паўстанне 1863 года. Гэтыя падзеі, а таксама лёс Кастуся Каліноўскага ён хацеў асэнсаваць у асобнай кнізе. Завяршыў першыя раздзелы... Адначасова пісаліся і раманы «Ён» і «Вялікі Дняпро». І, няма сумнення, з’явіліся б творы, якія яшчэ раз засведчылі б, наколькі яркі талент меў П. Галавач, і спрыялі б станаўленню беларускай літаратуры.

Аднак ведама ж, які час быў. Ноччу з 5 на 6 жніўня 1937 года Платона Раманавіча арыштавалі. Расстралялі яго 29 кастрычніка таго ж 1937-га...

Пасля рэабілітацыі П. Галавача ў 1956 годзе А. Куляшоў змог пазнаёміцца з ягонай следчай справай. Як успамінае В. Куляшова, «...яна была вельмі аб’ёмнай, — расказваў ён нам, — але ўся яе сярэдзіна аказалася вырванай. Засталіся толькі матэрыялы абвінавачвання і прысуд. Галавач праходзіў па справе як «глава трацкісцкай змовы супраць Главы дзяржавы».

Да апошняга трымаўся мужна. Гэта відаць з расказу гэткага ж сталінскага вязня, як і П. Галавач, Станіслава Пятровіча Шушкевіча, які расказаў В. Куляшовай:

«Твайго дзядзьку Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 года. Іх прывялі сведчыць супраць мяне. Першым павінен быў гаварыць Галавач. Скатаваны і знясілены, ён доўга маўчаў. Нарэшце Платон Раманавіч загаварыў:

— За ім няма ніякай віны, таксама як за кожным з нас.

Сказаў і заплакаў. Іх хуценька вывелі. А мы неўзабаве даведаліся, што 29 кастрычніка Платона Галавача і Васіля Каваля не стала».

Перад тым як сабрацца на расстрэл, Платон Раманавіч у камеры, за трубой, пакінуў запіску на абрыўку паперы ад махорачнага пачка. З расказа М. Хведаровіча, які прыводзіць В. Куляшова, змест быў такі: «Бывайце, таварышы, гісторыя нас рассудзіць!» Сяргей Грахоўскі («Два лёсы — дзве трагедыі». «Маладосць», 1989, № 1), згадвае, што было напісана так: «Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя скажа праўду. Платон».

Ды ад гэтага сутнасць не мяняецца: П. Галавач сумленна жыў, сумленна працаваў і годна пайшоў з жыцця.

Назва яго другой кнігі цяпер, на адлегласці дзесяцігоддзяў ад падзей, сведкам і актыўным удзельнікам якіх ён быў, успрымаецца крыху інакш — «Хацелася жыць». Ім, маладым, акрыленым, напоўненым верай ва ўсё лепшае, хацелася жыць, тварыць. П. Галавач з поўным правам мог бы паўтарыць, калі б жыў, тое, што сказаў на адным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі А. Куляшоў, вяртаючыся ў 30-я гады: «Мы былі шчырымі ў тым, што пісалі, бо наша свядомасць была абумоўлена грамадскай псіхалогіяй нашага часу».

Такімі і павінны ўспамінаць мы, людзі пачатку XXI стагоддзя, тых, хто ўвайшоў у літаратуру ў канцы 20-х гадоў XX стагоддзя, заняўшы ў ёй у 30-я сваё трывалае месца.

Адзін з першых у гэтым вялікім шэрагу П. Галавач, творы якога вартыя таго, каб іх чытаць. Як і ўвогуле ён заслугоўвае таго, каб часцей успамінаць пра яго, таму што быў усебакова развітой асобай. Адзін з лепшых, чыё жыццё і дзейнасць звязаны з тым перыядам, пачатак якога ўслед за Іванам Буніным многія любяць называць «окаянными днями». Ды толькі парадокс у тым, што, калі б гэтыя дні не наступілі, не было б і Платона Галавача як АСОБЫ.

**Эмануіл ІОФЕ**

# ВЫДАТНЫ ПАЭТ, ДУХОЎНА ПРЫГОЖЫ ЧАЛАВЕК

*(Да 100-годдзя з дня нараджэння Аляксея Русецкага і 90-годдзя часопіса «Полымя»)*

У шэрагу найбольш знакамітых беларускіх паэтаў і заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Аляксей Русецкі. Сапраўднае прозвішча паэта, як вядома, Бурдзялёў. Яго жыццёвы шлях пачаўся 4 снежня 1912 года ў мястэчку Студзянец цяперашняга Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Дзед Аляксея быў непісьменным селянінам, а прадзед — прыгонным селянінам. Бацька Стэфан Ермалаевіч, вясковы грамацей, у пошуках лепшай долі марыў паехаць у Амерыку і збіраў грошы для гэтага. Таму спачатку паехаў у Данбас, дзе некалькі год працаваў на шахтах. Але не пашанцавала. Прастудзіўся, вярнуўся дамоў і цяжка хварэў. Не паспеў як след выздаравець — забралі ў апалчэнне. У адным з баёў пад Варшавай быў цяжка паранены і хутка памёр у шпіталі.

Пасля смерці бацькі двухгадовы Аляксей застаўся з дзедам Ермалаем Фёдаравічам пры апякунстве хроснага бацькі. Потым, успамінаючы сваё дзяцінства, ён акрамя дзеда нагадваў дзвюх вясёлых цётак, якія шылі яму кашулю, і дзядзьку Трафіма, які вучыў пляменніка спяваць рэвалюцыйныя песні. Калі трохі падрос, стараўся дапамагчы дзеду весці гаспадарку.

У 1924 годзе А. Русецкі скончыў пачатковую школу ў мястэчку Студзянец. У хлопчыка была вялікая любоў да літаратуры, асабліва да паэзіі. Ён ведаў на памяць многія вершы А. Пушкіна, М. Лермантава, С. Надсана, Я. Купалы, Я. Коласа, паэму «Тарас на Парнасе» і чытаў гэтыя творы са сцэны ў мясцовым клубе.

Аднак не вытрымаў экзаменаў у адзіную ў раёне Касцюковіцкую сямігодку і вельмі пакутаваў з гэтай прычыны. Нарэшце вырашыў стаць добрым сельскім гаспадаром. У доўгія восеньскія вечары хлопчык чытаў дзеду і бабцы часопіс «Сам сабе аграном». У тую зіму любіў хадзіць у клубную бібліятэку, пасябраваў з адным местачковым хлопцам, у якога была поўная шафа кніг: Жуль Верн, Райдэр Хагарт, Гогаль, Пушкін, Талстой, падшыўкі «Нивы». Выпускаў насценныя газеты, удзельнічаў у падрыхтоўцы спектакляў і адначасова вучыў арыфметыку, граматыку і геаграфію.

Аднойчы ўлетку у Студзянец прыехаў Уладзімір Дубоўка да сваіх цесця і цешчы. З лістка календара Аляксей даведаўся, што гэта паэт. Таму хадзіў за ім па вуліцы, але падысці не адважваўся. А яму так хацелася паказаць свае вершы, а галоўнае — пагаварыць з сапраўдным паэтам.

У 1925 годзе А. Русецкі паспяхова здаў уступныя экзамены ў чацвёрты клас Касцюковіцкай сямігодкі. Праз шмат гадоў ён успамінаў: «У школе была вялікая бібліятэка. Я чамусьці наважыўся прачытаць усяго Талстога. Потым захапіўся часопісамі “Полымя”, “Маладняк”, “Узвышша”, у першую чаргу чыталася паэзія. У нашым класе некалькі хлопцаў пісалі вершы. Утварыўся гурток аматараў паэзіі, у якім было асабліва добра, калі ў школу прыехаў настаўнічаць паэт-маладняковец Янка Туміловіч. Мы слухалі яго, як пасланца з недасяжнага Парнаса. Бывала, пакуль дойдзеш да школы, прадэкламуеш безліч любімых радкоў:

Дзе лозы ніцыя ў тумане
Журбу аплаквалі да дна.
Там адзінока, на кургане,
Стаяла стромкая сасна...»

Калі ў час адной з размоў з А. Русецкім я адзначыў, што Я. Туміловіч — мой зямляк, нарадзіўся ў мястэчку Сяліба Бярэзінскага раёна, адкуль родам мой бацька, Аляксей Сцяпанавіч заўважыў: «Янка Туміловіч — менавіта той чалавек, дзякуючы якому я стаў паэтам. Асабліва мне падабаліся яго вершы “Начлег” і “Захістаўся зялёны хвойнік...”».

Вясной 1930 года, калі А. Русецкі вучыўся ў 6-м класе, райкам камсамола прапанаваў яму перайсці на курсы падрыхтоўкі для паступлення ў тэхнікумы. За тры летнія месяцы ўпарты і мэтанакіраваны юнак асвоіў праграму 7-га класа і стаў студэнтам Аршанскага белпедтэхнікума. У адной групе з ім вучыліся будучыя двойчы Герой Савецкага Саюза, Маршал Савецкага Саюза Іван Якубоўскі і загадчык Крупскага раённага аддзела народнай асветы Антон Ліпецкі, які ў гутарцы са мной успамінаў: «Аляксей Бурдзялёў выдзяляўся сярод нас тым, што быў надзейным сябрам (мог падзяліцца з аднагрупнікам апошнім кавалкам хлеба), гаспадаром свайго слова (гэта значыць, калі паабяцаў, то зрабіў), спакойным і вельмі старанным студэнтам, які ніколі не ўхіляўся ад грамадскай працы. І яшчэ — ён вельмі паважліва адносіўся да дзяўчат».

Акрамя таго, на старэйшым курсе вучыўся прызнаны ў гэтай навучальнай установе паэт Язэп Васілеўскі, якому Аляксей Бурдзялёў даваў чытаць кожны свой новы верш. Менавіта ў гэты час ён пачаў выступаць у рэспубліканскім друку з сваімі допісамі.

Праз год, калі курс, дзе вучыўся Бурдзялёў, перавялі на педагагічныя курсы, ён зразумеў, што хутка яму прыйдзецца настаўнічасць. Аляксей быў самакрытычным і не мог уявіць сябе ў ролі настаўніка з такімі, як ён сам лічыў, «мізэрнымі ведамі». І тады ў 1931 годзе па парадзе свайго дзядзькі Трафіма паступіў у Маскоўскі зоаветэрынарны інстытут. Але любоў да літаратуры, да напісання вершаў расла з кожным годам. Жывучы ў Маскве, часта наведваў музеі, літаратурныя дыспуты і вечары.

Непадалёку ад інстытута, на Арбаце, знаходзіўся Беларускі клуб. У ім пад кіраўніцтвам будучага аўтара музыкі гімна БССР кампазітара Нестара Сакалоўскага праводзіў свае спеўкі хор, збіраліся літгурткоўцы, да якіх часам прыходзілі Максім Лужанін, Аляксей Зарыцкі, Алесь Жаўрук, Андрэй Ушакоў, якія вучыліся ў розных маскоўскіх інстытутах.

У 1934 годзе Зарыцкі, едучы ў Мінск, узяў адзін з яго вершаў пра звонкае інтэрнацкае жыццё і прапанаваў газеце «Літаратура і мастацтва», дзе ён быў надрукаваны пад псеўданімам «А. Бурдзель». Узрадаваны гэтым, адважыўся выслаць у Саюз пісьменнікаў Беларусі новыя творы. Яны былі змешчаны ў альманаху «Аднагодкі».

Пасля заканчэння ў 1935 годзе інстытута яго з дыпломам ветурача-бактэрыёлага камандзіравалі ва Узбекістан, дзе тры месяцы вандраваў па кішлаках Ферганы верхам на кані ці на арбе. Пасля чаго быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў у кавалерыйскай дывізіі ў Смаленску і Барысаве. Пасля звальнення ў 1936 годзе ў запас працаваў навуковым супрацоўнікам Маскоўскага мікрабіялагічнага інстытута, знаходзіўся ў доўгатэрміновых камандзіроўках па Краснаярскім краі і Хакасіі. А ў студзені 1938-га вярнуўся ў родную Беларусь і стаў загадчыкам бактэрыялагічнага аддзела Мінскай абласной ветэрынарна-бактэрыялагічнай лабараторыі.

У 1936—1941 гадах вершы А. Русецкага друкаваліся ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», газеце «Літаратура і мастацтва». Ля вытокаў яго паэтычнай творчасці акрамя А. Зарыцкага стаялі А. Куляшоў, П. Броўка, А. Кучар, Р. Бярозкін. Беларускія паэты паміж сабой называлі Р. Бярозкіна «крытыкам нумар адзін» і вельмі лічыліся з яго думкай.

У яго зборніку «Спадарожніца часу» быў артыкул «Чалавек і яго справа. Адкрыты ліст Аляксею Русецкаму». Крытык пісаў:

«Пачынаючы з 1935 года, калі ў друку з'явіліся першыя Вашы творы, я быў — не пабаюся сказаць — адным з самых уважлівых і зацікаўленых вашых чытачоў. Помню, якое моцнае ўражанне зрабіў Ваш першы верш "У дарозе", асабліва яго пачатак:

Месяц — важкая куля,
пудоў сто медзі ў ёй,
груз для цэлага каравана,
а не падае вось,
плыве над зямлёй,
як пушынка ад губ каханай.

...Калі задумваешся над "сакрэтамі" Вашых лепшых вершаў, калі спрабуеш высветліць прычыну іх уздзеяння на чытача, міжвольна прыходзіш да такога вываду: у Вашых вершах, надзвычай стрыманых па тону, скупых на фарбы, заўсёды прысутнічае чалавек **справы, заняты чалавек,** і гэтая "занятасць" выратоўвае яго ад спакусы паўтарыць агульнавядомы "лірычны "пропіс" або хадавую формулу "перажывання" наогул. Так "узважыць" кулю месяца, што плыве над стомленым караванам, як гэта зрабілі Вы, мог толькі адзін з удзельнікаў каравана».

Праз дзевяць гадоў у часопісе «Дружба народов» Р. Бярозкін адзначыць:

«Первые стихи Русецкого выросли из его "непоэтической" практики, из конкретного дела так же естественно и закономерно, как стихи его предшественников, белорусских советских поэтов старшего поколения, возникли из чувства удивления и восторга перед новой революционной действительностью».

З даваенных твораў Русецкага мне больш за ўсе падабаецца верш «Гарадок», напісаны ў 1940 годзе. Ён нагадаў мне маю радзіму — невялікі гарадок Беразіно, маё маленства і юнацтва, час, калі я быў сакратаром камітэта камсамола школы. Мне нават здавалася, што гэта твор пра мяне, хоць у той час, калі быў ён напісаны, мне споўніўся ўсяго адзін год. Нельга не згадзіцца з ацэнкай, дадзенай гэтаму твору Міхасём Стральцовым: «...А яшчэ раней, перад самай вайной Аляксей Русецкі напісаў верш "Гарадок", ў якім упершыню прагучала тэма сустрэчы з юнацтвам і дзе кінуты погляд назад, на зусім яшчэ недалёкія школьныя гады.

Я ў свет паехаў — чуўся мне гудок,
я ўсюды помніў ціхі гарадок,
як помню сорам ад апошніх слёз,
і кашаль свой ад першых папярос,
і кінутыя словы наадрэз
каханаю, і непрыняты бэз;
так камсамольскі помніцца білет,
суботнікі, язда ў далёкі свет.

Наогул Русецкі — паэт, які любіць супастаўленне былога і сённяшняга, для яго ўсё ў жыцці, у чалавечым станаўленні пазнаецца праз параўнанне... "Гарадок" сведчыць і пра нейкае ранняе пасталенне паэта...

Аляксей Русецкі адразу пачаў стала».

А потым была вайна. Больш чым праз 20 год Аляксей Сцяпанавіч успамінаў: «Было загадана з'явіцца ў свой ваенкамат. Я прайшоў праз дым і полымя Мінска і разам з многімі мінчанамі падаўся на ўсход ад Магілёўскай магістралі, пад бамбёжкамі і абстрэламі дыверсантаў. Доўга быў у рэзервовых камандах у Калініне, Горкім і іншых месцах. У жніўні зноў трапіў у Маскву. Мяне па спецыяльнасці залічылі ў штат лабараторыі Маскоўскай ваеннай акругі, дзе я працаваў да пачатку зімы. У студзені 1942 года адкамандзіравалі на фронт. Служыў пры штабе

тылу стралковага корпусу, калі ён вёў баі пад Бранскам, Вялікімі Лукамі і пад Віцебскам на Калінінскім, Заходнім і 3-м Прыбалційскім франтах... Дзень перамогі сустрэў за Рыгай, у Курляндыі».

Аляксей Русецкі — адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, які ўдзельнічаў у разгроме імперыялістычнай Японіі. Напярэдадні вайны з Японіяй воінская часць, дзе ён служыў, была накіравана ў Манголію. Аляксей Сцяпанавіч прайшоў праз раку Халхін-Гол, горны хрыбет Хінган. Потым у эшалоне праехаў Цыцыкар, Харбін, Мукдэн і, нарэшце, дасягнуў Порт-Артура. Менавіта ў гэтым горадзе ён пражыў паўтара года. Будучаму паэту даверылі напісаць гісторыю воінскай часці, але нават у грозныя гады вайны ён не спыняў сваёй паэтычнай творчасці.

У пераломным 1943 годзе ў яго вершы «Наступ» былі такія радкі:

...Нас тысячы ўсталі з адным «ура»,
пайшлі мы жалезным маршам —
настала пара, прыйшла пара,
пара перамогі нашай.

Нішто цяпер не стрымае нас:
ні крупаўскай сталі ўдары.
Ні люты свінец кулямётных трас —
чужынцам настаў час кары.

...Яшчэ праз бінты праступае кроў,
ад поту загрывак мокры,
а трызніць салдат, што заззяюць зноў
яе маладыя вокны.

Ён верыць, што ўбачыць сям'ю сваю,
І трызніць ён гэтай верай...
За лёс Беларусі увесь Саюз
у бітве ідзе наперад.

У 1945 годзе ў вершы «Май» з пачуццём радасці адзначаў:

...Магутны час! Мякчэй за лёгкі шоўк
на хвоях раны сцягвае жывіца,
пад папялішчам ходзіць моцны сок,
каб зелянінай новай адрадзіцца

...Гары, святло магутнае вясны,
і ззяй вясёлкай колераў гарачых,
над тымі, хто не змог прыйсці з вайны,
хто пераможны гэты май прадбачыў.

Ацэньваючы гэты твор, М. Стральцоў адзначаў:

«"Душэўнай думкай" для Аляксея Русецкага было жыццё, месца чалавека-пераўтваральніка ў ім, радасць творчай працы. Невыпадкова ім напісаны адзін з лепшых вершаў пра радасць вяртання былога салдата да мірнай працы, пра тую небывалую, так востра адчутую цішыню, што запанавала над светам пасля вайны. Пра травінку і кропельку расы, убачаныя так выразна, як ніколі раней. Верш гэты "Май"».

Вельмі высокую ацэнку гэтаму твору даў і Р. Бярозкін:

«Весной сорок пятого под Ригой Алексей Русецкий написал стихотворение, которое так и называется — "Май". Не рискуя преувеличить, скажу, что это одно из лучших произведений советской поэзии о том, что все мы думали, чувствовали, переживали на переломе войны и мира.

"Как облаку, просторно сердцу вновь", — это было сказано не только свежо, необычно, но и на редкость точно: так ощущали все. И ещё:

Я часто думал о такой весне,
обшарпанный железом,
заскорузлый,
теперь я чувствую, что ширится во мне
весенний паводок цветущих яблонь.
(Подстрочный перевод).

И самое, пожалуй, сильное в “Мае”, то, что организует стихотворение в единое целое — память о погибших друзьях, чувство какой-то вины и неоплатного долга перед ними

Друзья мои, герои молодые,
Я не забуду, где тогда глубоко
похоронили вас тяжёлые пески
и навсегда укрыли мраком...
Так пусть же в сне глубоком и до вас
Доходят солнца тонкие лучи
и тихих нив благоуханье,
как до живых в тот смертный час
порыв наш светлый докатился.
(Подстрочный перевод).

...Для белорусской поэзии, которая в силу некоторых особенностей своего развития, почти не знала “высокого”, “книжного” стиля, это обращение Русецкого к традиции философской, одухотворённой лирики было и новым, и перспективным.

Стихотворение “Май” потому и запоминается, что здесь пером поэта водила выношенная и пережитая необходимость сказать самое важное для себя и для всех, а живое вдохновение автора ничем не сдерживалось, не “ограждалось”».

Ва Уладзіміра Гніламёдава былі ўсе падставы для наступнай высновы аб вершы «Май»: «У ім чуецца гімн Перамозе, гімн вясне і жыццю, гімн натуральнасці прыроды, іх неадольнасці. Верш здзіўляе паліфанічнасцю свайго гучання, у ім усё знаходзіцца ў дынаміцы. А побач развіваецца другая тэма — тэма ўдзячнасці тым, “хто не змог прыйсці з вайны, хто пераможны гэты май прадбачыў”, каму мы абавязаны “мірным блескам зялёных рос”».

Аляксей Сцяпанавіч дэмабілізаваўся ў маі 1947 года. Ён вярнуўся ў Мінск, дзе быў адразу прыняты ў СП Беларусі і на працягу шэрагу гадоў працаваў літаратурным кансультантам па паэзіі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі (1947—1951, 1961—1967). У 1951 годзе быў прызначаны загадчыкам аддзела публіцыстыкі часопіса «Беларусь».

У тым жа 1951 годзе з’явілася яго першая паэтычная кніга «У заўтрашні свет». Дэбют — больш чым запознены: аўтару ішоў 39-ы год. Затое ў творах адчувалася ўпэўненая рука майстра. У далейшым прыхільнікі беларускай паэзіі ўважліва сачылі за выхадам у свет кожнай новай кнігі А. Русецкага: «Святло акон тваіх» (1959), «Усход і захад» (1962), «Яго вялікасць» (1965), «Служба святла» (1967), «Два колеры жыцця» (1973), «Паэмы» (1979), «Выбраныя творы» ў 2 тамах (1982), «Хвала жыццю» (1987) і іншыя.

З паэзіі А. Русецкага 60-х гадоў XX стагоддзя, на мой погляд, найбольшы рэзананс выклікала яго паэма «Яго вялікасць» (1965). Рэкамендуючы чытачам гэты твор, М. Стральцоў акцэнтаваў увагу на наступным: «Новы твор Аляксея Русецкага — цікавая, арыгінальная з’ява ў нашай паэзіі. Ён прыкметна выходзіць за межы ўласна аўтарскай удачы і, паспяхова рэалізуючы пэўныя тэндэнцыі жанру, нейкім чынам і характарызуе яго сённяшняе аблічча і ўплывае на яго».

Аб’ектыўную і арыгінальную ацэнку паэме даў У. Гніламёдаў: «Над паэмай “Яго вялікасць” аўтар працаваў у пачатку 60-х гадоў, свядома вылучыўшы на першы план лірычнае “я”, асабовы пачатак, і гэта было наватарствам. І ўсё ж эпічны план (як мэта) быў неабходны паэту, таму ён выходзіў на шырокія пытанні

светапогляднага характару. “Лірычнае разгортванне” дапамагае яму дасягнуць менавіта эпічнага эфекту. З гэтага пункта гледжання можна гаварыць пра лірызацыю эпасу і эпізацыю лірыкі. Эпас і лірыка — як два магутныя ўнутраныя струмені — жывяць паэму А. Русецкага, які не адмаўляецца ні ад пластыкі, ні ад рэчыўнасці свайго стылю, што, безумоўна, узмацняе мастацкую пераканальнасць твора».

Даследчык працягваў: «“Яго вялікасць” — твор аўтабіяграфічны. Рысы біяграфіі аўтара ўгадваюцца ў самых першых радках, дзе ідзе гаворка пра мора, да якога паэт некалі ў вайну дайшоў з баямі, а цяпер вось, з іншай нагоды, вярнуўся зноў.

Мой плашч ляціць на пясок руды,
спяшаюся,
між намі —
нікога....
Іду, каб мігцела ты
нароўні з маімі губамі.

...Ужо з самых першых радкоў аўтар арыентуецца на вельмі асабістае, амаль інтымнае, сэрцам адчутае ўспрыняцце гісторыі. Гісторыя мора, вечнасць, жыццё — гэтыя і іншыя вобразы і паняцці існуюць у паэме ў асабовым успрыняцці аўтара...

Безліч сувязей існуе паміж чалавекам і аб’ектыўным светам, у якім ён жыве. Паэт імкнецца разгледзець гэтыя сувязі ў глабальна-рэтраспектыўным плане. Яму ўвогуле надзвычай уласціва звяртацца да першавытокаў жыцця, разглядаць яго не толькі на сацыяльным, але і нават на біялагічным узроўні. Так мора ўяўляецца яму калыскай жыцця. Гэтую навуковую ісціну ён разумее паэтычна: “бушуе з крыві людзей дагэтуль марская сіла”. Паэт пачынае ад пачатку. Аднак у імя гістарызму ён пазбягае хранікальнасці. Думка пульсуе свабоднымі асацыяцыямі. Шырокімі вобразнымі мазкамі ўзнаўляе гісторыю ачалавечвання чалавека, цяжкі працэс яго самапазнання, сцвярджэння на зямлі велічных маральных ідэалаў...»

А цяпер пазнаёмімся з рэцэнзіяй Р. Бярозкіна:

«Я уже упоминал поэму “Его величество”. Не всё в ней одинаково удалось автору. Там, где Русецкий говорит о Человеке, о том, как подымался, преодолевая невежество, веру в богов, деспотизм, там стих звучит чересчур пересказочно и отвлечённо. Но в поэме, особенно в первых её разделах, есть судьба, есть биография человека, и они-то волнуют прежде всего...

В белорусской литературе было немало хлопчиков-пастушков и пахарей. А такого не было. Не было подобного рассказа о мальчугане в сермяжке, о его удивлении перед “звёздным кругом” вселенной.

Московский студент-биолог — а это всё тот же белоголовый деревенский мальчик — определил свой путь, избрал своё будущее:

Я окружён галактиками колб,
бьет в темень полем зренья микроскоп —
слежу я в круглый свой иллюминатор:
плывёт звездою бледною микроб,
блестит кометой злобною мохнатой.
В ту грань я луч вонзаю
наконец,
где бытия секрет
и смерть таится…
Я в белой униформе,
я — боец,
такой же,
как ровесник на границе».

*(Пераклад Н. Кісліка.)*

З кастрычніка 1967 года па жнівень 1973-га А. Русецкі працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». На жаль, у чацвёртым томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (1987), трынаццатым томе «Беларускай энцыклапедыі» сцвярджаецца, што на гэтай пасадзе ён знаходзіўся ў 1967—1972 гадах. А ў пятым томе біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» ён названы аўтарам кнігі «Ісці да чалавека». На самай справе аўтар яе — Аркадзь Русецкі.

Менавіта ў час працы Аляксея Сцяпанавіча ў «Полымі» і адбылося маё знаёмства з ім. Пасля я неаднаразова сустракаўся з А. Русецкім, а таксама з галоўным рэдактарам часопіса Паўлам Кавалёвым і загадчыкам аддзела навукі Анатолем Клышкам у сувязі з публікацыяй у «Полымі» маіх артыкулаў «Партрэт вучонага» (пра У. І. Пічуту) (1970, № 12) і «Першыя крокі», прысвечанага 50-годдзю Інстытута беларускай культуры (1972, № 2).

З мая 1967-га па красавік 1972 года галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» быў Павел Кавалёў. Потым Аляксей Сцяпанавіч два месяцы — май і чэрвень выконваў абавязкі галоўнага рэдактара, пакуль у ліпені 1972 года не прызначылі новага галоўнага — Кастуся Кірэенку.

Мяркую, што перыяд з кастрычніка 1967-га па жнівень 1973 года быў адным з самых плённых перыядаў у 90-гадовай гісторыі часопіса «Полымя». У гэты час у ім быў апублікаваны шэраг твораў, якімі ганарыцца беларуская літаратура.

Галоўны рэдактар адказваў за прозу, а яго намеснік — за паэзію. П. Кавалёў давяраў яму вырашэнне найбольш спрэчных пытанняў, улічваючы яго высокі аўтарытэт сярод пісьменнікаў. Не выпадкова, што ў розныя гады А. Русецкі выбіраўся старшынёй секцыі паэзіі, старшынёй Бюро па прапагандзе літаратуры, членам праўлення і прыёмнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшынёй праўлення Беларускага аддзялення Літфонду, членам рэдкалегіі штогодніка «Дзень паэзіі».

Павел Кавалёў амаль заўсёды лічыўся з думкай Аляксея Сцяпанавіча. У якасці прыкладу прывяду такі выпадак. Восенню 1971 года я прапанаваў часопісу «Полымя» матэрыял «Вядомае і невядомае аб Інбелкульце», прысвечаны 50-годдзю з дня яго заснавання. Галоўны рэдактар прапанаваў мне параіцца, дакладней, атрымаць санкцыю ЦК Кампартыі Беларусі. На маю прапанову даць матэрыял пра Інбелкульт у часопісе «Полымя» намеснік загадчыка адзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПБ Я. Бабосаў адказаў: «Дзесяць гадоў назад мы не давалі матэрыял да 40-годдзя Інбелкульта. Чаму цяпер павінны даць такі матэрыял да 50-годдзя Інстытута беларускай культуры?»

Пра гэта я расказаў Паўлу Нічыпаравічу.

— Ведаеце што, — пачулася ў адказ, — парайцеся з Аляксеем Сцяпанавічам і Кандратам Крапівой. Як яны скажуць, так і зробім.

Намеснік галоўнага рэдактара трошкі падумаў і сказаў:

— Я за. Лічу, што нам няма чаго баяцца. Гэта наша гісторыя.

Што тычыцца Кандрата Кандратавіча, то ён заўважыў:

— Будуць ці не будуць адзначаць у нашай рэспубліцы юбілей Інбелкульта — гэта іншая справа. У любым разе, лічу, што матэрыял у «Полымі» трэба даваць. Толькі перад тым як несці ў рэдакцыю, пакажыце мне.

У 1973—1980 гадах А. Русецкі працаваў старшым рэдактарам часопіса «Беларусь».

Пасля таго як ён стаў персанальным пенсіянерам рэспубліканскага значэння, Аляксей Сцяпанавіч атрымаў большую магчымасць заняцца непасрэдна творчасцю.

4 лютага 1978 года не стала народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. У вершы А. Русецкага «Памяці Аркадзя Куляшова» мяне ўсхвалявалі такія радкі:

Ён пашаннай не шукаў сабе пасады,
не прыкідваў, хто ніжэй, а хто вышэй;
незабыўны, з думкай смелаю крылатай
і з лагоднаю смяшынкаю вачэй.

Ён захоплены быў светам шматгалосым,
чулым сэрцам востра бачыў, быстра жыў,
адкрываў для ўсіх паэзіі нябёсы,
хараство яе абшараў, новых ніў.

У 1980 годзе гэты верш увайшоў у зборнік вершаў «Крокі сэрца», за які ў 1981 годзе А. С. Русецкаму была прысуджана Літаратурная прэмія імя А. Куляшова.

Напярэдадні 70-годдзя Аляксея Русецкага выдавецтва «Мастацкая літаратура» зрабіла яму каштоўны падарунак. Былі выпушчаны яго «Выбраныя творы» у двух тамах. Абедзве кнігі ўключалі лепшыя вершы і паэмы паэта.

Нельга не згадзіцца з І. Багдановіч, што творы А. Русецкага вылучаюцца філасофскім напружаннем думкі, увядзеннем у стылістыку вершаў тэрміналогіі, розных галін навукі, што характарызуе лірычнага героя як чалавека справы. Безумоўна, ён стаў адным з заснавальнікаў ліра-маналагічнай паэмы ў беларускай паэзіі.

З іменем гэтага паэта звязаны таленавітыя пераклады асобных твораў М. Някрасава, А. Міцкевіча, М. Упеніка. Творы А. Русецкага былі перакладзены на мовы народаў СССР, англійскую, нямецкую, венгерскую, іспанскую, польскую і іншыя замежныя мовы.

Напярэдадні 80-годдзя паэта — у 1992 годзе выйшаў у свет зборнік выбраных вершаў і паэм А. Русецкага «Айкумена». У прадмове Барыс Бур'ян пісаў: «Гарманічнае суладдзе паміж мастацка-гукавым рухам паэтычнай думкі — настрою і выразна абазначаным сэнсам творчых намераў аўтара — вось галоўная вартасць творчасці Аляксея Русецкага, у яе лепшых узорах не надта кідкай па форме, часам наўмысна сціплай па фарбах і рытмах, заглыбленай у плынь роздуму аб часе і аб месцы ў ім чалавека. Яна пазначана, бадай, усім тым, што адбывалася і адбываецца ў сучасным нам грамадстве. І вельмі своеасаблівая. Вельмі асабістая».

Пайшоў Аляксей Сцяпанавіч у вечнасць 17 чэрвеня 2000 года, на 88-м годзе жыцця.

У размове з аўтарам гэтых радкоў Анатоль Астрэйка, Сяргей Грахоўскі, Васіль Вітка, Алег Лойка, Іван Навуменка, Янка Брыль, Рыгор Няхай, Міхась Скрыпка, Алесь Якімовіч, Уладзімір Мехаў і іншыя беларускія пісьменнікі ўспаміналі аб А. Русецкім як аб цікавым, сціплым, душэўным і прыстойным чалавеку.

Такім ён застанецца ў нашай памяці — таленавіты беларускі паэт і перакладчык, грамадскі дзеяч, палымяны патрыёт і проста цікавы, духоўна прыгожы чалавек.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# РУСКАЯ ПАЭЗІЯ БЕЛАРУСІ: ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

Што такое паэзія? «Если двое, — совсем не в шутку, но с легким юмором, — пісаў калісьці В. Бялінскі, — начнут объяснять один одному, что каждый из них имеет в виду под словом "поэзия", то и выходит на поверку, что один называет поэзией воду, а другой — огонь...» Азначэнняў паэзіі шмат, у тым ліку азначэнняў вобразных. З аднаго боку, паэзія — у жыцці (або «в траве», як сцвярджаў Б. Пастарнак), з другога — яна звязаная са станам чалавечай душы. Спалучэнне, інакш кажучы, аб'ектыўнага з суб'ектыуным. У эстэтычным сэнсе паэзія — вобразнае выяўленне сутнасці ў кароткім выказванні, адлюстраванне ўнутранага свету чалавека, а праз яго і свету знешняга.

«Поэзия, — сцвярджае вядомы чувашскі паэт Генадзь Айгі, — даёт чувство значительности жизни. Её конкретности. Вот листва шуршит, потом, у человека глаза сияют, сумерки, или вот эта весенняя погода за окном, она насыщена значительностью, каким-то ожиданием, она указывает на значительность и серьёзность жизни, превышающую нас, которую мы переживаем, не замечая. Мы просто идем в лес, гуляем, смотрим, вот он, мир, поле, дерево, а поэзия даёт осмысление этому... Поэзия — это способ или средство, если хотите, коснуться каких-то сущностных вещей в мире».

Гэтыя свае спрадвечныя радавыя рысы паэзія захавала і да пачатку XX ст. Наша гаворка — пра сучасную рускую, або рускамоўную паэзію Беларусі. Пачнём з таго, што сёння рускамоўная паэзія Беларусі ў колькасных адносінах вельмі багатая, пра што сведчыць хаця б укладзеная і выдадзеная паэтам А. Аўруціным анталогія, якая ўключае ў сябе творы 222 аўтараў. І гэта, зразумела, не ўсё, а толькі найбольш прыкметныя, вядомыя. Некаторыя ўжо, на жаль, пайшлі ў іншасвет, але да іх творчай спадчыны мы звяртаемся і сёння.

Панарама творчых пошукаў цяперашняй паэзіі складаная і шматстайная, аднак адразу ж хочацца адзначыць два самыя агульныя моманты: паэзія пашырыла сваю мастацка-пазнавальную аснову, стала магчымым, па-першае, пра ўсё гаварыць, і, па-другое, у паэзію вярнуўся Бог, у слова вярнулася тое глыбіннае, што з'яўляецца анталагічнай асновай рэальнасці свету. У эстэтычным самавыяўленні лірычнага героя, як правіла, верх бярэ маральна-этычны пазітыў, пакліканне чалавека сцвярджаць і тварыць дабро. У дабрыні шмат назваў: любоў да бліжняга, альтруізм, братэрства, чалавечнасць, спагада, суперажыванне, дапамога, міласэрнасць, пяшчота, пачуццё грамадскай справядлівасці, патрыятызм. Усё гэта і складае найважнейшы аспект маральна-этычных памкненняў лірычнага героя, які адкрывае ў вершах сябе, сваё ўнутранае, душэўнае жыццё. Душэўнае звязанае з духоўным, тым, што чалавек бярэ ад свету, што падзяляе з ім.

Духоўнасць паэзіі ў тым і заключаецца, што яна жыве субстанцыянальным — пытаннямі пра свет, пра чалавека і чалавецтва, пастаянна пытае: што з імі, куды яны ідуць, што ў свеце адбываецца?

Няма ўжо з намі цудоўнага паэта Аляксея Жданава (1948—1993), чыя Муза валодала сваім, арыгінальным «лица необщим выраженьем» (Я. Баратынскі), непаўторным бачаннем свету і адносінамі да яго. Гісторыя XX стагоддзя ў яго паэзіі

паўстае як «эпоха крайнасцей», жорсткіх эксперыментаў над чалавекам, выпрабаванняў на выжыванне. Лірыка гэтага паэта настоеная на нялёгкіх перапетыях яго лёсу, яго цяжкасцях і драматызме, барацьбе за духоўную свабоду. Гэта важна мець на ўвазе, таму што першае пытанне, якое ўзнікае пры знаёмстве з паэтам, — не тое, як ён піша вершы, а — хто ты такі. Вершы А. Жданава, трэба сказаць, даюць на гэта адказ. У іх прысутнічае моцна выяўлены спавядальны пачатак, паэт вядзе бесстаронні дыялог з чытачом і з самі сабой, даходзячы да самабічавання. Ён імкнецца выразіць сябе — жывога і складанага, адчуваючы пры гэтым унутраны разлад, тугу і безвыходнасць. Паэт шмат раздумваў пра лёсы Радзімы, звязваючы гэту тэму з эканамічным развалам і заняпадам нораваў у другой палове 80-х — 90-х гадах, калі ён у пошуках заробку прыязджае на Калыму і знаходзіцца там працяглы час да вяртання ў Беларусь.

Насколько способна хватать рука —
Оборваны все плоды.
И леденящая, как тоска,
Зеленая рябь воды.

Вокруг необъятный дремучий мир —
Насколько хватает глаз.
Сквозные крапинки звездных дыр —
Глаза неизвестных рас.

Всё это — смотрит, и всё молчит.
И ужас уже пророс.
Растет тяжелый древесный стыд.
И так не хватает слёз.

Молчат эпохи. Молчат века.
Мрачны и безмолвны льды.
Насколько способна хватать рука —
Оборваны все плоды.

А. Жданаў дамагаецца не толькі эфекту застылага часу, але і супынку жыцця. Ці трэба казаць, што друкаваўся ён вельмі мала, пісаў, таму што не мог не пісаць. Пакутавала ў жыццёвых зломах душа, пакутавала, выпраменьваючы незагойную чалавечнасць. У вершах гучалі драматычныя матывы, героем авалодвалі трагічныя прадчуванні. Лірычны герой пры ўсёй філасафічнасці яго светапогляду не ў стане быў растлумачыць логіку жыцця, логіку быцця. Логіка быцця страчваецца, і А. Жданаў паўстае тыповым «праклятым паэтам» (накшталт П. Верлена, А. Рэмбо, Г. Апалінэра і інш.), песняром жаху, адчаю, бяды і віны. У яго вершах нямала ясенінскіх рыс, алкагольнага чаду і наступнага за ім працвяражэння, але гэта паэт мяжы ХХ—ХХІ стст. Свет паэта — гэта свет-багна, свет-пастка, у якім ён стараўся намацаць хаця якую-небудзь кропку апоры, каб зразумець, на якіх каардынатах ён знаходзіцца.

І ўсё ж такі! Хочацца паўтарыць вокліч біблейскага прарока: «Вялікі Бог у сваіх нябесных міласцях!» Міласцівы ён быў і да Аляксея Жданава: паэт выбірае галоўную каштоўнасць — заставацца чалавекам, любіць жыццё, спадзявацца.

Тяжела земная ноша,
но мила земная чаша.
Богохульник и святоша
в общем круге польку пляшут.

А. Жданаў тварыў усёй сваёй існасцю, жыў вершамі, любіў жыццё, любіў з болем, бесшабашнасцю. «Але хто ведае, — пісаў ён пра сваю паэзію, — ці няма ў маіх вершах крупінкі аб’ектыўнай ісціны, я нікога не кляну, не абвінавачваю ні ў чым, але гавару толькі: вось маё жыццё, прачытайце яго, яно выродлівае,

яно прыгожае. Кожны з нас вольны па-свайму бачыць свет. Кожнаму дадзена неад'емнае права бачыць свет па-свойму і свая індывідуальная згода ці нязгода з ім. Таму імкнення да аднастайнасці я не разумеў і не разумею. У гэтым плане я веру ў чалавека, у яго жыццёвую моц і сілу розуму».

Сёння ўсё больш вядомымі становяцца імя і паэзія Веніяміна Блажэннага (1921—1999) — чалавека цяжкага, складанага лесу, пра які пры яго жыцці мы вельмі мала ведалі. Паэт Д. Строцаў у сваіх успамінах пра яго паведамляе:

«Паэт нарадзіўся ў яўрэйскім мястэчку Копысь, на ўсходзе Беларусі. Дзіцячыя і юначыя гады правёў у Віцебску. Неўзабаве пасля вайны абаснаваўся ў Мінску. З сярэдзіны 40-х амаль штодзённа пісаў вершы... Да другой паловы 80-х — не друкаваўся». Яго сапраўднае імя — Айзенштат Веніямін Міхайлавіч. Да вайны скончыў адзін курс настаўніцкага інстытута, працаваў настаўнікам гісторыі (у эвакуацыі), чарцёжнікам, пераплётчыкам, фатографам-лабарантам у інваліднай арцелі. В. Блажэнны доўгі час, як і А. Жданаў, не публікаваўся, жывучы ў забыцці, пісаў «у стол». Ці трэба казаць, як гэта было нялёгка. Але шчасцем яго, яго прызваннем была паэзія, і як бы ні складвалася жыццё, яна давала яму магчымасць асабістага эстэтычнага ўпарадкавання рэчаіснасці. Архетып паэта — дзіця, дзіцянё, прымудронае гістарычным ці, хутчэй, генетычным вопытам. Публікавацца ён пачаў позна, у 1982 годзе. Вершы бралі часопісы «Новый мир», «Знамя», «Звезда», «Нёман» і інш. Выходзілі яны і асобнымі зборнікамі: «Возвращение к душе» (1989), «Слух сердца» (1990), «Сораспятие» (1995), «Скитальцы духа» (2000).

Паэзія, творчасць былі для яго сэнсам жыцця. І яшчэ — вера. Бог, боскае заўсёды заставаліся неад'емнай часткай свядомасці гэтага паэта. Ва ўзросце сямідзесяці пяці гадоў В. Блажэнны прыняў хрышчэнне. Пра свой духоўны шлях расказваў у вершах:

Нехорошо бродить так далеко от Бога,
Чтобы не видеть рук, простертых в высоте.
Когда под сенью их лежит твоя дорога
И даже за предел уходят руки те...

Нехорошо уйти отшельником на гору.
Нехорошо забыть, как странствовал Христос...
Как листья на ветру, доверь себя простору,
Доверь семи ветрам росу недавних слёз...

Кожны паэт піша свой травелог, і жыццёвы шлях В. Блажэннага ў гэтым сэнсе — шлях біблейскага духабачцы Іова.

Я — избранник немыслимой боли.
Содрогается косная плоть,
когда пригоршни колющей боли
на стези мои сыплет Господь.
Сыплет соль мне Владыка на раны,
и от боли дышу я едва,
— и мирские пути осияны
светом гибнущего естества.

Цудоўныя вершы! З аднаго боку, гаротныя скаргі на жыццё, з іншага — «азоранасць мірскіх шляхоў», перажыванне цуда жыцця.

В. Блажэнны імкнуўся асэнсаваць «сябе ў свеце і свет у сабе», як сказаў з іншай нагоды М. Бахцін. Паэт ставарае вершаваныя і празаічныя тэксты, якія, па сутнасці, становяцца сродкам спазнання свету ў шырокім і цэласным кантэксце. Яму было даступна тое, што называюць сістэмнасцю Космасу і ўніверсальнасцю яго законаў. «Абагульненасць меркаванняў не пераходзіць у адцягненасць»; разважлівасць ураўнаважваецца праўдай і шчырасцю.

В. Блажэнны па-свойму глыбока адчуваў крызісны стан свету, ён чытаў і перачытваў Біблію. Біблейскія тэмы і матывы — матэрыя тонкая, якая патрабуе асобага падыходу. Гэтым падыходам ён валодаў.

Біблія паўплывала на лад мыслення паэта, на яго светаўспрыманне, своеасаблівасць рэлігійнай метафізікі, яна для яго — крыніца натхнення і вобразнасці, якая дазваляе пашырыць сэнсавую аб'ёмнасць таго, што выказваецца. Вершы яго часта нагадваюць экзегетыку, своеасаблівы каментарый да Свяшчэннага Пісання — Бібліі або працяг яе тэксту. У яго лірычным героі моцна сядзела перакананне, што ён жыве не столькі ў гісторыі, колькі ў вечнасці, якая патрабуе ад чалавека вялізных духоўных высілкаў. А між іншым, творчасць В. Блажэннага, як і В. Мандэльштама, была па-сапраўднаму сучасная! Абодва паэты паслядоўна адстойвалі чалавечую асобу, абаранялі чалавечнасць, «хлеб дабрыні», які не можа замяніць ні інтэлектуальная мудрасць, ні гульня ўяўлення. Тая акалічнасць, што «я» знікне, а свет застанецца, не палохала В. Блажэннага, а нібыта дадавала сэнсу ў яго існаванне. Як запавет застаюцца ў памяці яго радкі:

Ну что я могу вам сказать на прощанье.
Старик сумасшедший, прохожий чудак?..
Глядите на кошек моими очами,
Моими руками ласкайте собак.

Пасля смерці В. Блажэннага «Литературная газета» ўключыла яго ў спіс найбольш яркіх паэтаў XX стагоддзя.

Адна з самых значных фігур сярод сучасных паэтаў — носьбітаў чароўнага лірычнага дару — Анатоль Аўруцін (нар. у 1948 годзе). Вядомасць да яго прыйшла, канешне, не адразу, але талент, і перадусім талент зоркасці, назіральнасці, відаць быў ужо ў першых кнігах. Аўтар умеў вялікае перадаць праз малое, вычленіць дэталь, падрабязнасць і ажывіць усё глыбока маральным пачуццём. Некаторыя вершы і сёння пакідаюць вельмі моцнае ўражанне, запамінаюцца, як, напрыклад, гэты, пад назвай «Грушевка»:

Стирали на Грушевке бабы,
Подолы чуток подоткнув,
Водою осенней, озяблой
Смывали с одежки войну.

Из грубой дощатой колонки,
Устроенной возле моста,
Прерывистой ниточкой тонкой
В корыта струилась вода.

От взглядов работу не пряча
И лишь проклиная ее,
Стирали обноски ребячьи
Да мелкое что-то свое.

И, дружно глазами тоскуя,
Глядели сквозь влажную даль
На ту, что рубаху мужскую
В тугую крутила спираль.

Гэтыя вершы цытавалі многія, хто пісаў пра А. Аўруціна, а прызнаны мэтр Глеб Гарбоўскі, расчуліўшыся, быў асабліва шчодры: «Апошнія чатыры радкі напісаў геній!» А, падавалася б, звычайная побытавая замалёўка, дзіцячы ўспамін, а на самай справе — колькі тут праўды, колькі чалавечага! І ў разуменні жаночай долі, і ў спачуванні ёй, і нават у той мяккай, незласлівай зайздрасці, якую зазнаюць няўцешныя ўдовы ў дачыненні да сваёй замужняй сяброўкі. Такія радкі здольны закрануць самыя тонкія струны душы. Грушаўка, пра якую ідзе размова ў вершы, —

гэта мікраараён у Мінску, у мінулым чыгуначны пасёлак, месца, дзе А. Аўруцін нарадзіўся. Малая радзіма паэта. Яна і дала выток яго творчасці.

Ёсць у А. Аўруціна адчуванне каранёў, прыналежнасці народнаму лёсу, раскаванасць мыслення, арыентацыя на прадметнасць акаляючага свету. Узбуйняюцца далягляды паэта — сацыяльныя, маральныя, інтэлектуальныя. У якасці аб'ёкта яго паэзіі часцей за ўсё выступае не асобны факт, выпадак, здарэнне, а жыццё ў сваёй сукупнасці, жыццё як быццё. Сфера яго кампетэнцыі як паэта — чалавек, яго лес і доля.

Молчанье мрачное глагола
Над переломами судеб,
Когда созвездья пали долу,
А миром правит ложь да хлеб.
Когда небесное теченье
Навек утратила вода,
А радий вновь гоняет тени
Из ниоткуда в никуда...

У гэтых радках — аблічча сучаснай рэчаіснасці. Пра жыццё-быццё ён любіць пагаварыць падрабязна, звяртаючыся да шматзначных яго вобразаў — В. Мандэльштама, які разбіраўся ў гэтых «шчапленнях». У А. Аўруціна, аднак, усё сваё — антытэзы, супрацьлегласць. Думка, а разам з ёю і жыццё развіваюцца па неспасціжных законах дыялектычнай, або, гаворачы па-сучаснаму, сінергетычнай логікі. Вось, напрыклад, якімі вершамі пачынаецца зборнік «Золочёная бездна» (2002):

Предаст любимый —
                придёт страданье.
Придёт страданье —
                постигнешь душу.
Постигнешь душу —
                навек прозреешь.
Навек прозреешь —
                любовь узнаешь.
Любовь узнаешь —
                предаст любимый…

Свет складаецца з супярэчнасцей, і гарманізаваць іх, па меншай меры, цалкам, немагчыма, але можна прыкладаць намаганні ў гэтым кірунку, перадусім, намаганні эстэтычныя, маральныя, калі гутарка вядзецца пра мастака, паэта. Так меркаваў А. Блок, так лічыць і А. Аўруцін.

Яго новыя публікацыі сведчаць, што паэт па-ранейшаму напружана ўглядаецца ў жыццё, асвойвае яго адначасова і як мастак, і як філосаф. Вось вершы з нядаўняй нізкі «Приглашение к заветному слову» ў часопісе «Нёман»:

Небо меркнет, кораблик качается,
Золотится тугое зерно —
Нет, случайно ничто не случается.
Что случилось — случиться должно!

Не случайно я встретил товарища
И мы с ним порешили вот так:
Не случайно война и пожарища,
И Бетховен... И Ванька-дурак.

Не случайны княжна бледнолицая,
Пьяный Стенька и бомба царя.
Не случайно ГУЛАГ, инквизиция,
«Вальс цветов», Леонардо, заря...

Не случайно убили Есенина,
Не случайно, часы напролёт.
Не случайная Анна Каренина
Не случайного поезда ждёт...

Не случайно...
Надеждою тайною
Вековая полна благодать —
Вдруг случайно случится случайное,
Чтоб его неслучайным назвать.

У гэтых вершах бачна, як форма працуе на змест, як гэтыя пералічэнні, «выпадковасці» згушчаюць, робяць больш цвёрдым сэнс верша, лагічна выбудоўваюць «доказы», запрашаюць чытача задумацца над дзівоснай будовай нашага сусвету.

Звяртаючыся да складаных праблем, якія хвалююць сучаснікаў, паэзія асэнсоўвае жыццёвы матэрыял на новым, больш шырокім ідэйна-філасофскім падмурку. Прыклад такога паэта — Канстанцін Міхееў (нар. у 1971). У яго паэзіі сумяшчаюцца эпохі і прасторы, яго не задавальняе сярэдняя норма быцця.

Лірычны герой К. Міхеева вылучаецца інтэнсіўным унутраным жыццём, пільнай увагай да гісторыі і чалавечых паводзін. Напружаны духоўны пошук паэта нарадзіў неспакойныя «Январские стансы», якія напоўнены паэтычнымі рэмінісцэнцыямі, звернутыя да сучаснікаў і да чалавека ўвогуле, да яго месца ў свеце, наканавання і лёсу.

Кто же мы? В тихом затишье дремлющие тростники?
Слёзы на Божьей ладони? В ангельских дланях клички?

Счастье — лишь звон подковы. Горе — лишь горсть земли.
Прожили мы бестолково, прожили мы как могли.

Ах, нищета изобилья вкупе с обильем нищеты.
Мы никого не любили, кроме своей пустоты.

Как желобки в пенале школьники в час перемен,
Праздно её заполняли взятым взаймы и взамен.

Воины мёртвых ратей, хмель на чужом пиру,
Всюду пришлись мы некстати, всюду не ко двору.

И недаром, как видно, коли Бог весть почему,
Ныне бредём мы с повинной — неизвестно к кому.

Вечный судья нашим ссорам, сжавший бразды судьбы,
Взором сверкнёт — и сором выметет нас из избы.

Паэт арыентаваўся на высокі стыль. Успамінаецца Ф. Цютчаў:

Из края в край, из града в град
Судьба, как вихрь, людей метёт…

Гэтакія ж маштабныя развагі прысутнічаюць у лірыцы беларускага паэта А. Куляшова канца 50-х — пачатку 60-х гадоў. У яго «Элегіі» ёсць такая страфа:

За ўсе гады вазьму з гадоў даніну,
З дарогай разлічуся рэштай дзён,
Астатнія, як костку, смерці кіну
За той парог, дзе векавечны сон.

Паэты-філосафы ўтаймоўваюць прастору і час. Глыбокае ўражанне ў гэтым сэнсе пакідае верш «Велемир», прысвечаны рускаму паэту пачатку XX ст. Веляміру Хлебнікаву — аднаму з лідараў групы футурыстаў — «будетлян»,

паэту-эксперыментатару, аўтару бунтарскіх і ўтапічных праектаў перабудовы сусветнага жыцця, ператварэння Сусвету на аснове сусветнага братэрства людзей, яднання з прыродай на шляхах, адкрытых рэвалюцыяй. Ён быў апавяшчальнікам ідэі ўсёпланетнага яднання ўсяго жывога, братэрства людзей, жывёл, раслін, апавяшчальнікам глыбокай ідэі В. Вярнадскага пра наасферу Зямлі, якая захоўвае на ёй жыццё. У гэтых грандыёзных праектах асаблівая роля адводзілася паэту, яго місіі дапамагаць вызваленаму чалавецтву асвойваць новыя далягляды мыслення і жыццятворчасці. Заглядаючы ўглыб стагоддзяў, паэт спрабуе асэнсаваць міфалагічныя, легендарныя вобразы, упісаць іх у кантэкст гісторыі. Адзін з такіх вобразаў — Агасфер. Агасфер — персанаж хрысціянскай легенды позняга Сярэднявечча пра чалавека, які ў час пакутніцкага шляху Ісуса Хрыста на Галгофу абразліва і бязлітасна адмовіў яму ў кароткім адпачынку, загадаўшы ісці далей. За гэта Агасфер быў асуджаны бесперапынна бадзяцца з веку ў век, чакаючы другога прышэсця Хрыста, які адзін можа зняць з яго гэты вырак.

«Агасфер» К. Міхеева — вельмі прыгожы, яскрава-метафарычны верш, напісаны класічным амфібрахіем, які стварае рух часу — эпох і стагоддзяў.

> Духовное осмысливается поэтом как атрибут космоса.
> Под моею пятою дороги вселенной клубились, как змеи,
> Мне безмолвье сгноило язык. Если что и сказать я умею,
> Рассечённое на два мерцающих слога безликое: «Кто я?»
>
> За решёткою рёбер в предсердьях старинная сыграна драма:
> Я слыхал, как под вдовьи стенанья победные трубы трубили,
> с плачем пали во прах оба Рима, рассыпались в пепел два Храма,
> осыпались, как листья, на землю страницы коранов и библий.
>
> Континенты, как братья, друг другу навстречу тянули ладони.
> Раны скорби моей врачевала хрустящая снежная вата.
> Оголённый огонь вожделенья и влага предсмертных агоний
> Одинокой слезою искрились на впалой щеке эмигранта.

Чытаючы верш (ці не паэма гэта?), пачынаеш разумець, што яго герой — не толькі сучаснік Хрыста, але і наш сучаснік, што паэт распавядае пра гістарычныя шляхі чалавечага пазнання, якое было і ёсць пазнаннем Бога, узаемаадносінамі з ім.

У эсхаталагічнай будучыні яны павінны зноў сустрэцца — Агасфер і Хрыстос. Легенда ўтрымлівае у сабе легенду, што Агасфер, які пакаецца і якому будзе даравана, ператворыцца ў добры знак для ўсяго сусвету. Да гэтага сюжэта звярталіся многія пісьменнікі — ад Й. В. Гётэ да Х. Л. Борхеса. К. Міхееў знайшоў сваё арыгінальнае рашэнне, якое ўражвае.

Напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя з’явілася паняцце «мінская школа» і аднайменная выдавецкая серыя. У 2009 годзе ў гэтай серыі выйшаў першы выпуск альманаха паэзіі «Минская школа», у якім надрукаваны вершы М. Ганчарова, А. Жданава, А. Казанцавай, І. Паглазава, Д. Строцава, А. Крупа, В. Кудрэвіча, Т. Святашовай і інш. «Мінская паэтычная школа, — тлумачыць Д. Строцаў, — гэта вопыт асяродкавай нонканфармісцкай культуры, вопыт драматычнага самастаяння мастака сярод крывых люстэркаў, вопыт фатальнай несустрэчы аўтара і аўдыторыі. Прадстаўнікоў Мінскай школы аб’ядноўвае не гуртковая салідарнасць, не канцэптуальная супольнасць, а тоеснасць сацыяльнага, культурнага і экзістэнцыяльнага вопыту».

Няведанне пра існаванне папярэднікаў і сучаснікаў стварае асобны мінскі культурны феномен — пачуццё «незанятай» прасторы, захапленне першапраходніцтва і захопленае асваенне дзікіх тэрыторый». Паэты «мінскай школы» вельмі розныя, непадобныя — гэта натуральна, бо так і павінна быць. Паэзія — гэта разнастайнасць. «Я» ў кожнага паэта выяўляецца па-рознаму. Тут маюць значэнне непаўторнасць асобы, светапогляд, псіхалагічны склад, праблематыка, мастацкая

смеласць, майстэрства і эстэтычны густ. Паэты «мінскай школы» адчуваюць сябе дастаткова свабодна, імкнуцца размаўляць са сваім чытачом менавіта на мове паэзіі. «Мінская школа» крэатыўная, яе хвалюе пытанне самаідэнтыфікацыі, яна сама сябе ўсведамляе — і гэта яе права. У маладой паэтэсы Т. Святашовай ёсць вершы як раз на гэту тэму:

Объявляю себя
Создателем минского мифа!
Город — мир.
Город — миф,
Ничего для тебя не жалею!
Мою юность — возьми —
Пусть горит на твоих аллеях!
Я тебя не предам,
Проживаю свою невечность
Золотистым, живым
Муравьём на твоём предплечье.

Прадстаўнікі рускамоўнай «мінскай школы» час ад часу звяртаюцца да «беларускай тэматыкі», якая падаецца ў розных падыходах і ракурсах. У не вельмі аб'ектыўным выглядзе яна прадстаўлена ў творы Д. Строцава пад назвай «Лоскутная ода», у якім малюецца развал Савецкага Саюза і з'яўленне на яго месцы новых дзяржаў. У «Лоскутной оде» аўтар робіць паварот у бок постмадэрнізму.

Сорочий хвост Скорины
Избой прищемлён
Первоначальная
Плазменная друза
ещё с тобой под груздем
почитаем на трасянке

а скатерть лобная
хохлатка
палаточных птенцов не удержала
держава-птичница в подоле унесла
оранжевых цыплят
окрест теперь пестрят

а нам оставлена палатка —
не палатка
почтовый камень угловой
куриной памяти загладка.

Бязрадасны, скептычны погляд аўтара на перспектыву існавання «оранжевых цыплят», якіх пры сабе не ўтрымала «держава-птичница». Даволі сумна выяўляецца і гістарычны партрэт Беларусі: «почтовый камень угловой куриной памяти закладка». Зразумела, што пераход з адной гістарычнай эпохі ў іншую і з адной краіны ў другую нялёгкі. Аднак погляд паэта на сучасны стан рэчаў чамусьці не пужае, ён уяўляецца хутчэй наіўным і выклікае ўсмешку.

У «мінскай школе» ёсць паэты цікавыя, значныя. Вялікую папулярнасць заваявала сваімі вершамі-песнямі А. Казанцава. У яе песнях было шмат непасрэдных эмацыянальных водгукаў на пытанні і запыты сучаснікаў, была праўда жыцця і побыту, часта ў іранічным асвятленні.

У меня специальности нет.
Я пишу бестолковые песни,
Я непризнанный русский поэт, —
и душа у меня не на месте.

Я не знаю, кто правильным был,
Может, Пушкин да питерский Бродский.

Если б Пушкин меня полюбил,
Я б не плакала так по-сиротски.

Ни работы, ни денег, ни дел,
Да один кавалер полупьяный...
Если б Пушкин меня разглядел,
Не Натальей была бы — Татьяной...

Пусть меня не осудит народ:
Он — народ, он же всё понимает!
Если песня моя не умрёт —
Это Пушкин меня обнимает.

У 1991 годзе з’явіўся першы зборнік яе вершаў і песень «Вечер городской», у якім аўтар выявіла свае жыццёвыя назіранні і непасрэдную, сацыяльна-побытавую рэальнасць. Шчырасць і задушэўшасць — першасныя рысы паэзіі А. Казанцавай, яе асабістага самавыражэння, імкнення да эмацыянальнай праўдзівасці. Яе творчасць вызначаецца асабістым пачаткам, і ў гэтым — яе вартасць. Паэтэса на хавае, што стыхія паўсядзённасці мае вялікую ўладу над яе гераіняй, стварае загадкавы шарм.

Ты помнишь, пограничник, — было лето.
И ты домой тогда ходил пешком.
А я, горячим солнышком согрета,
В «Кулинарию» шла за пирожком.

И наволочки — белые, льняные —
Висели на верёвке во дворе.
И бегали машины заводные,
На радость бестолковой детворе.

И в платье из дешёвого поплина
Я ночью выходила на балкон:
Пила вино болгарского разлива;
И больше не жалела ни о чём...

Вершы А. Казанцавай, у адрозненне ад К. Міхеева, успрымаюцца як натуральны працяг асабістага існавання аўтара, аповед пра ўласны жыццёвы вопыт. Вядома, важна, каб простасць не ператваралася ў павярхоўнасць, але паэтэсе гэта, здаецца, не пагражае. У яе вершах-песнях вельмі проста раскрываецца свет сучаснай жанчыны, яна вельмі даверліва распавядае пра сябе, аднак якіх-небудзь інфармацыйных звестак у яе не знойдзеце. Да свайго пакалення яна звяртаецца з наступнымі, даволі дакладна падабранымі словамі:

А ты не жалуйся, моё поколение:
не замерзало ты в окопах зимой.
Для нас построили дома немцы пленные —
Ведь нашы деды не вернулись домой.

Зато у нас остались бабушки родные,
Чтоб нам про дедушек рассказывать рассказ...
А те дома стоят поныне, как стальные,
Где вместо Сталина Господь глядит на нас…

Найвышэйшая жыццёвая каштоўнасць і крытэрый паэтэсы — каханне. А. Анпілаў — аўтар прадмовы да зборніка яе вершаў «На извозчике едет Алёшенька» — піша: «Адзіная субстанцыя, якая нараджае сэнс, — любоў (яна ж шкадаванне). [...] Яна ўзнікае быццам бы ніадкуль — падобна дабрадару — і гэтак жа таемна можа раптам растаць. Пакуль ёсць любоў — жывое сэрца б’еццца, душа ляціць, ёсць адзінства, мэта, сэнс. Няма любові — стоп машына!»

Некаторыя сцвярджаюць, што любіць у наш час немагчыма, што гэта — аднабаковы акт, таму што чалавек адзінокі, не хапае ўзаемаразумення. А ці так гэта? «Усёабдымная любоў, — пісаў вядомы сучасны рэлігійны філосаф П'ер Тэяр дэ Шардэн, — не толькі псіхалагічна магчымая, яна адзіна поўны і апошні спосаб, якім мы можам любіць». Гэтакіх жа поглядаў прытрымліваецца і Е. Казанцава. Любоў, чалавечнасць гавораць пра глыбіню яе асобы, высокі узровень унутранай культуры.

Запамінаюцца таксама радкі А. Казанцавай:

…нет у жизни такого вагона,
Чтобы я провожать не пришла...

Гэта — любоў-пяшчота, ахвярная, якая аддаецца бліжняму. Але ёсць любоў-эрас, накіраваная на плоць і падобная да нейкай касмічнай сілы прыцяжэння, на якой трымаецца сусвет. У Казанцавай — і такая любоў. Яна дае выхад любоўнай жарсці, часта блытанай гульні эмоцый, якія, не сакрэт, заўсёды былі ўласцівымі чалавеку. Яна рэабілітуе, сцвярджае цела, лібіда, жыццё, часам тлумачачы ідэю свабоды, быць можа, занадта шырока, адрываючы яе ад духоўных каштоўнасцей.

А. П. Чэхаў казаў, што «не надо брезговать жизнью, какова бы она ни была», і, наш погляд, ён мае рацыю. Гэту думку, па ўсім відаць, падзяляе і наша паэтэса, якая тонка заўважае ўсё, што адбываецца навокал. Яна спачувае людзям.

З чаго пачынаюцца вершы? Перпадусім, думаецца, з пачуцця здзіўлення перад прыгажосцю свету, з адчування, што чалавечае жыццё — гэта шчасце, падарунак лёсу! Гэта думка, нам здаецца, заўсёды жывіла паэзію Любові Турбіной (нар. у 1942). «Паэзія Л. Турбіной, — пісаў пра яе Іван Шамякін, — гэта споведзь жанчыны, якая тонка адчувае і востра ўспрымае рэчаіснасць, для якой каханне — унутраны стрыжань светаўяўлення. Яе вершы і энергічныя, і свежыя. Аўтар, як гэта можна адчуць па вершах, добры і сумленны чалавек, які здымае з сябе адказнасць за ўсе памылкі і пралікі гадоў, што мінулі, і які ахоўвае памяць сям'і і продкаў, з Богам у душы».

У сярэдзіне 80-х гадоў Л. Турбіна напісала верш «Покаяние»:

Все это помнила подробно:
Что головы нельзя поднять,
И вместо близких самых бревна
Оплакивать и обнимать.

Не щепки в сторону — опилки
Текут беззвучно, в никуда...
И милость принятой посылки
Мне изъявлялась.
Но когда?

До моего рожденья, где-то
Давно, за два десятка лет,
И мой по лживому навету
Был молодым расстрелян дед.

И знак беды к нам в хромосомы
Внедрился — вынырнул со дна:
С прищуром, пристально, знакомо
Взглянул с экрана сатана.

И тьма гнездится в сердце — где мы?
Навеки выжжено клеймо:

Коснулась вслух запретной темы —
И взгляд с прищуром — из трюмо.

У гэтых вершах адкрываецца драматызм унутранага стану лірычнай гераіні, псіхалагічная напружанасць імкненне сказаць нешта важнае. Пра сябе паэтэса расказвае ў выдатным вершы «Четыре портрета», у якім апісваецца рэальны выпадак, які адбыўся ў Ленінградзе, на Неўскім.

На Невском — зачем согласилась я сдуру?
И тут же, узрев дармовую натуру,
Художников стая — стервятники духа —
Клюют мою душу как хлеба краюху.

Их взоры остры, а повадки их птичьи...
И вот предо мною четыре обличья:
Где первый мой облик — житейская тётка,
Немного вульгарна, почти что красотка.

Второй неспроста вдохновился беретом —
Увидел меня романтичным поэтом.
А третий — в три четверти, вполоборота.
Изящно, небрежно, богемное что-то.

Четвёртый... Я знала — от женского взгляда
Напрасно поблажки мне ждать и пощады:
Она покрывала бумагу штрихами,
Она расправлялась с моими грехами;

Дай, Боже, минуют несчастий пучины,
Не скоро проступят все эти морщины...
Смиренный набросок с непрожитых лет —
Дороже, чем прочие, этот портрет.

Что общее в обликах кроме берета?
Четыре дороги, четыре ответа.
Как надпись на камне: «направо пойдёшь...»
И в каждом есть истины доля — и ложь.

«Четыре портрета» Л. Турбіной — гэта рускі псіхалагізм з яго маральнай праблематыкай. Але ўражанне такое, нібыта ў гэтым вершы рана яна паставіла кропку. Мы ўспрымаем «Четыре портрета» як уступ да паэмы кшталту «Фаўста» Гётэ. Гэта быу бы жаночы «Фаўст», калі б паэтэса на такім жа ўзроўні павяла гутарку далей і «без поблажки» сваёй гераіні распавяла пра яе, пра яе жыццё, як гэта зрабіў у сваім выпадку Гётэ.

У чалавечай душы заўсёды існавалі два пачаткі: сэрца і розум. Пра гэта яшчэ раз напамінае рускамоўная паэзія Ізяслава Катлярова, які жыве ў Светлагорску Мінскай вобласці. Пра сябе ён гаворыць:

В этом нет никакого резона —
Делать общим свой собственный век.
И живу я от всех отстраненно.
Ибо каждый — себе человек.

И живу-то я как-то подспудно
Здесь, где свет к нам приходит из тьмы.
Где еще до сих пор почему-то
«Я» мое не вмещается в «мы».

Паэзія, асабліва лірычная, патрабуе, як вядома, каб паэт заставаўся самім сабою, каб у вершах выяўлялася яго сапраўдная сутнасць. І. Катляроў да гэтага як

раз і імкнецца. Слова ў яго мае ўласную глыбіню і напоўненасць, свой сэнс і сваю таемнасць. Яго герой, зразумела, не чалавек-змагар, не грамадскі дзеяч, не аналітык — галоўны акцэнт паэт робіць на рэфлексіі, на спавядальнасці і пачуццях. Душэўную апору ён знаходзіць у паэзіі, якая садзейнічае росту і развіццю светапогляду, разуменню таго, што знаходзіцца навокал чалавека, што заслугоўвае яго пільнай увагі і ўдумлівасці.

Да здравствует дыхание строки.
Где совесть только совести подсудна!..
Осталось время только на стихи, —
На остальное — нет его как будто.
Жестокость или щедрость бытия?
Мне жаловаться вроде не пристало,
Коль мир земной разглядываю я
Восторженно, хоть всё-таки устало.
Позволь, Господь, не всё я рассмотрел
И суть я сутью слова не возвысил...
Лишь заглянул за солнечный предел,
Лишь заглянул в него, а не осмыслил.
Отсрочь мой срок, дай истину познать.
Дай душу всю оставить здесь стихами,
Дай дописаться, дай мне написать
Всё то, что остаётся за словами.

Талент паэта-філосафа, якім можна лічыць І. Катлярова, даволі рэдкі, таму што для гэтага мала толькі эмацыянальнага адчування жыцця, тут неабходная сталасць светапогляду і жыццёвая мудрасць. У І. Катлярова ўсё гэта ёсць, і гэта жыватворная аснова для творчых пошукаў.

Уяўленне пра Ю. Сапажкова (нар. у 1940) як пра паэта дае зборнік яго вершаў «Точка невозврата» (Мінск, 2006), у якім аўтар дзеліцца з чытачамі сваімі жыццёвымі назіраннямі і думкамі, сагрэтымі нераўнадушнымі і ўдумлівымі адносінамі аўтара да чалавечага быцця. «Вершы Юрыя Сапажкова, — піша пра яго крытык В. Маслюкоў, — вершы рамантычйыя ў сваёй пяшчоце.., бязбоязна расчыненыя, як расчынена ў сад акно, — вершы Сапажкова безабаронныя. Як безабароннае ўвогуле ўсё шчырае і чыстае. Не зацверджаныя грамадскай думкай, без славы, яны выходзяць у свет не толькі без брані, але, здаецца, нават без адзення. Голыя». З гэтымі (няхай і метафарычнымі) меркаваннямі крытыка хацелася б паспрачацца. Вершы Ю. Сапажкова цалкам здольныя пастаяць за сябе, не настолькі яны безабаронныя. Наадварот, яны змястоўныя і адрозніваюцца зайздроснай мастацкай апрацоўкай. Яны прадуманыя. Лірычны герой паэта знаходзіцца, як ён сам сябе ўсведамляе, паміж мінулым, да якога няма вяртання, і будучыняй, якая трывожыць сваёй невядомасцю. Вось верш «Точка невозврата»:

Уйти от старых берегов,
Как уходил уже когда-то...
Есть в обиходе моряков
Понятье — точка невозврата.

Теперь уже в последний раз!
Что впереди — успех, утрата?
Есть в жизни каждого из нас
Такая точка невозврата.

И, как ни медли, предстоит
Тебе решить — что ложь, что свято.

Расслышать, что душа велит
Пред этой точкой невозврата.

Когда назад уже не сметь,
И время надвое разъято,
И что-то гонит, как на смерть,
Тебя за точку невозврата.

Ю. Сапажкоў — прыхільнік філасофскага наратыву. У большасці сваіх вершаў ён выступаў як апавядальнік, як цікавы суразмоўца. Партрэт гэтага апавядальніка — лірычны герой паэта бачны ў вершы «Утреннее»:

Не жди, когда твои суставы
Вдруг, как составы, затрещат.
Пока на старость нет управы,
Есть бег по десять вёрст подряд.
Спасайся жизненною тряской,
Проточною водой забот,
Не дай душе покрыться ряской —
Зелёной ржавчиной болот.
(...)

Ён умее вельмі тонка злучыць чыста апісальныя моманты (пейзажы, успаміны пра мінулае, назіранні і да т. п.) з філасофскімі роздумамі, раскрыццём унутранага свету чалавека, яго пачуццямі і перажываннямі, радасцямі і нягодамі, стратамі. Глыбокія, хоць і створаныя, эмоцыі перабіваюцца простымі жыццёвымі назіраннямі і падрабязнасцямі, адчуваннем важнасці звычайнага і прывычнага. Але часцей за ўсё Ю. Сапажкоў разважае пра вечнае: жыццё, смерць, каханне, грэх, маладосць, старасць, памяць, прыроду, Бога і да т. п. Паспеў перабраць, здаецца, усе тэмы сусветнай паэзіі і нідзе не ўдарыў тварам у гразь, помнячы, што самая новая і самая арыгінальная паэзія часта тая, якая напамінае нам пра старыя ісціны.

У кожнага сур'ёзнага паэта свая індывідуальнасць, сваё аблічча. Марына Куноўская (нар. у 1969) — паэтэса, журналіст, перакладчык. Яна паказала, што здольная на сваё, незапазычанае слова, якое прыйшло з жыцця. Гэта той выпадак, калі ў паэце жыве журналіст, сацыёлаг, які дапытліва ўглядаецца ў акаляючы свет, умее назіраць, думаць і рабіць вывады. М. Куноўская хоча ўсвядоміць свет, у якім жыве і пра які, перафразуючы Леніна, можна сказаць, што ўсё перакулілася і не спяшаецца «укладываться». Яна пазбягае непасрэднага самавыражэння — пісаць пра сябе. Большасць яе вершаў маюць прысвячэнні: «Хорошим девочкам из глубинки», «Оптимистам», «Романтикам революции», «Классным дамам», «Девственникам», «Подругам из кружка английского», «Поклонникам русской литературы», «Вечным студентам», «Ударникам труда», «Долгожителям», «Народным писателям», «Комиссии по национальному вопросу» і г. д., і да т. п. І як вынік — вельмі цікавы сацыялагічны зрэз сучаснасці.

Ёй вядома, што чалавек — істота «бытийствующая», як гавораць філосафы, г. зн. экзістэнцыяльная, і паэтэса хацела б надаць яго быццю рысы большай вызначанасці, пазнавальнай канкрэтнасці і тыпічнасці. Яе вельмі непакоіць думка пра абсурднасць, бессэнсоўнасць быцця, у што ёй не хацелася б верыць, калі б не шматлікія доказы.

Жыццё ў яе вершах паўстае бясконца шматвобразным, складаным і зменлівым. Зрэдку гэта карнавал разнастайных персанажаў, тыпаў і сітуацый. У многіх радках М. Куноўскай бачна няўстойлівасць быцця, глыбокі, часта хваравіты падтэкст, які блізкі сэрцу сучасніка і зразумелы яму, але ў песімізм, расчараванне і бязвер'е паэтэса не ўпадае, у яе здаровая светаўспрымальная аснова, а гэта вельмі каштоўная чалавечая якасць.

Жизнь понимает каждый,
Только когда созрел:
Я — молодая ромашка,
Ты — волосатый шмель.

Ты на меня садишься,
От нетерпенья жужжа.
Охнув, склоняюсь ниже —
К небу летит душа.

Сок из меня ты тянешь,
Так шевелись быстрей!
Слаще в гортани станет,
Станет цветкам теплей.

Всё. Улетел, негодник,
Не повернув лица.
Но, сквозь разлуки горечь,
В теле поёт пыльца.

Движется внутрь неспешно.
Жизненных сил полна,
И — постарался, грешник! —
Вдруг достигает дна.

Здравствуй, момент экстаза!
Дам семена — держись:
Кто не рожал ни разу —
Не понимает жизнь.

Гэты верш напісаны жанчынай, і гэтым ён каштоўны.

Эстэтычнае багацце паэзіі — гэта багацце творчых індывідуальнасцей, з'яўленне новых генерацый, новых паэтаў. Крытыка, на жаль, не ўдзяляла ім дастатковай увагі. Таленавітым, арыгінальным, але не прачытаным да гэтага часу застаецца, напрыклад, паэт Юрый Фатнеў (нар. у 1938). У яго ёсць выдатныя вершы, якія выяўляюць рамантычную накіраванасць і тонкую душэўную арганізацыю: паэзія Ю. Фатнева — гэта паэзія самапазнання праз тое, што знаходзіцца навокал, праз збліжэнне з «прозай» жыцця яна пазнае сябе, узбагачае сваё лірычнае пісьмо драматызмам і псіхалагічнасцю. Ён ўмее ўжыцца ў гістарычную эпоху, падзею, асобу, пановаму раскрыць іх сутнасць, даць ацэнку з сучасных пазіцый. Для яго мыслення характэрныя семантычная ўшчыльненасць і неадназначнасць. Паэзія Ю. Фатнева перадае бясконцы рух часу, асэнсоўвае гісторыю як памяць, непарыўна звязаную з сённяшнім днём, з гераічнымі запаветамі продкаў. Але на сённяшні дзень паэт адчувае сябе вельмі няўтульна: «Мне в этом веке не с кем говорить», — так назваў ён нядаўнюю нізку сваіх вершаў у часопісе «Белая вежа». Ён прызнаецца, што хацеў бы пагутарыць з Кірылам Тураўскім. Пра што? Хацеў бы, як тлумачыць у аднайменным вершы, расказаць пра сваю разгубленасць...

И я растерян. В думу погружён:
О чём тебе поведаю теперь я?
Как божьи лики пожирал огонь?
Как мало в нас теперь осталось веры?

Вот полюбуйся: к новым алтарям
Несут иуды лицемерно свечи!
Швырял свой гнев когда-то ты князьям!
Так почему сегодня не перечишь?..

Погляд паэта накіраваны за паверхню рэчаў, за межы пачуццёвага, у духоўнае. Пры гэтым ён не хоча выглядаць Прарокам, а застаецца звычайным рэаль-

ным чалавекам, але далёка не ардынарным. У вершах Ю. Фатнева шмат рэфлексіі, ёсць адлучанасць і нават містыка, але не гэта, напэўна, галоўнае. Галоўнае, што думка паэта ўсё часцей схіляецца да таго, што жыццё — гэта не рамяство, і нават не праца, узятыя самі па сабе, а нібыта падарунак неба. Мэта жыцця — у самім жыцці, у яго кожнадзённай плыні.

Паэты, якія намі разглядаюцца, вельмі розныя, не падобныя адзін да аднаго, і прылічэнне іх усіх да «мінскай школы» выглядае даволі ўмоўным, але ў такім прылічэнні, «прописке», ёсць свой сэнс. Усё ж такі яны «мінскія». Гэта дапамагае зразумець глебу, на якой яны «произросли» і якая іх у некаторай ступені аб'ядноўвае.

У 2011 г. убачыла свет кніга (здаецца, першая) вершаў В. Бястолкава над назвай «Тридцать семь». Трыццаць сем у дадзеным выпадку — гэта ўзрост аўтара. Паводле роду заняткаў ён прадпрымальнік, з ліку тых, каго называюць «сярэднім класам». Пра сябе ён расказвае (у вершы «Себе посвящаю»):

Меня достаток в сон не уволок.
Я яростно гоню долой дремоту.
Но вынужден признать, пока не смог
Сформировать, создать, построить что-то.

Я не донёс до разума людей
Крамольные свои слова и фразы.
Я не озвучил собственных идей
В противовес политикам ни разу.

Я не открыл им своего лица.
Не воплотился Гамлетом на сцене.
Хотя имею тот же дух бойца,
Но обречён не выходить из тени.

Чего ещё не создал, не достиг:
Вполне посильных рубежей карьеры.
Научных знаний многих не постиг,
Как и в религии познаний веры.

Зажат в пределах собственной души.
Зашитой в твёрдой оболочке тела,
Мечтающий о подвигах больших
И о масштабах собственного дела...

Чым не партрэт нашага сучасніка? І партрэт, на наш погляд, у многім тыпічны, а галоўнае — шчыры. Відаць, што гэты чалавек неспакойны, які знаходзіцца ў пошуку і які многае ў жыцці пабачыў і спазнаў, але усведамляе, што яшчэ далека не ўсё. І што яшчэ хочацца заўважыць: гэта чалавек, які вагаецца. Адсюль у пэўным сэнсе разумова-размякчаны характар некаторых вершаў, якім не хапае пругкасці і мускулістасці, перашкаджае даўжыня. Ва ўсякім разе, В. Бястолкаву ёсць над чым працаваць.

У 2011 годзе ў Мінску пабачыў свет зборнік вершаў П. Галушкі над назвай «Шведский дневник, или Записки путешествующего поэта». Паэт жыве ў эміграцыі, у Швецыі. Тое, што ён бачыць вакол сябе, — новае, да якога датыкаецца не забытае «старое». У выніку і з'яўляецца філасофская «іскра». Філасафічнымі здаюцца радкі П. Галушкі з верша «Рождество»:

Вот так и живёшь со словом «подожди!» на пересохших
губах... с бесконечными «не уходи», «сложится»,
«бывает», «не забуду», «дружили», «судьба»...

Штуршком для філасофскіх роздумаў стала, напрыклад, паездка ў цягніку, пейзажы, якія мільгалі за акном.

Мелькают города за окнами поезда,
Как листья, сорванные осенним ветром.
Бутики, отели, салоны искусств, площадки
Для выгула собак, пасущиеся стада.
А мы несёмся, подобно звуку в проводе,
В точку, где случится наша встреча,
А жизнь полетит дальше.
Постепенно теряя нас из виду.

Адчуваецца, што лірычны герой паэта знаходзіцца ў стане інтэнсіўных перажыванняў, адсюль фрагментарнасць, імпрэсіяністычнасць успрыняцця ім рэчаіснасці, роздум выступае як плынь свядомасці, не пазбаўленая ўнутранага драматызму.

Паэзія заўсёды існавала насуперак усяму. Жыве і ў наш няпросты час, калі зямныя, утылітарныя інтарэсы людзей відавочна бяруць верх над духоўнымі, адсунулі іх на другі план. Аднак, як гэта ні дзіўна, чалавек, нягледзячы ні на што, не спыніўся, не развучыўся ўспрымаць прыгажосць, здзіўляцца новаму, хвалявацца, радавацца і сумаваць, знаходзячыся ў пастаяннай сувязі з жыццём, яго шматвобразнай будзённасцю, няспыннай хадой і развіццём.

Сапраўдная паэзія — гэта слова, якое звернута да сучасніка і адкрывае яму новае бачанне свету і самога сябе. Паэта не можа не цікавіць новае, тое, чым жывуць людзі, чым жыве ён сам. Паэзія — у падарожжы. Ніхто не мае ключа ад новага Сезама, які б адамкнуўся па першым патрабаванні паэта, няхай нават і самага таленавітага. На сённяшні дзень становіцца ўсё больш відавочным, што ў паэзіі ніхто не валодае гатовымі адказамі, што іх трэба шукаць самому. Паэты ўсё больш пераконваюцца, што «ўсё наперадзе» і працэс пазнання рэчаіснасці бясконцы. Яны не абмяжоўваюцца, як гэта здаралася раней, знешняй канстатацыяй вядомых і часта бясспрэчных палажэнняў, а імкнуцца даследаваць іх, захапляючы чытача, глыбока і ўсебакова. Іх, як і раней, цікавіць сутнасць рэчаў, сутнасць свету, сутнасць чалавечых пачуццяў. Імі кіруе неабходнасць, часам абвостраная да хваравітасці, адшукаць ісціну, якая не аддзяляецца ад маральнасці і прыгажосці, падняцца да паэтычнага азарэння. Яны па-ранейшаму вераць, што паэзія лечыць людскія душы.

# НАТАЛЛЯ ГАЙДА: «АПЕРЭТА — МАЯ ЛЮБОЎ...»[1]

**— А з кім з рэжысёраў вам працавалася асабліва цікава і плённа?**

— Калі пачынаць з оперы, то я вельмі ўдзячная Марку Мінскаму, галоўнаму рэжысёру Свярдлоўскага опернага тэатра, які паверыў у мяне, даручыў, яшчэ студэнтцы, галоўную партыю. З прыемнасцю згадваю і Георгія Мілера, які паставіў «Багему» ў тым жа тэатры. З гэтай операй мы гастралявалі ў Маскве. Я спявала партыю Мюзеты, і менавіта яе выкананне прынесла мне ўсесаюзную вядомасць. Гэта і рэжысёр тэатра Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі Павел Златагораў, у ягоным спектаклі «Дон Жуан» я выканала партыю Цэрліны.

А ў аперэце — гэта, безумоўна, Сямён Штэйн, высокапрафесійны, адукаваны чалавек. Гэта, канешне, Вячаслаў Цюпа. Працаваць з ім было няпроста, але цікава. У нашым тэатры ён паставіў чатыры спектаклі, і ў кожным з іх у мяне была галоўная роля. Ну, і не магу не сказаць добрае слова пра Барыса Уторава, які лічыўся драматычным рэжысёрам, але быў адораным музыкантам і тонка адчуваў спецыфіку музычнага спектакля. Я ўдзячная яму за тое, што ў першым жа мюзікле, які мы паставілі, «Мост мары», ён даручыў мне галоўную партыю. Прычым без дублёркі. Гэта — вялікі давер для актрысы.

А «Каралева чардаша»? А «Вольны вецер»? А «Шклянка вады»? Усё гэта бліскучыя пастаноўкі Барыса Уторава, дзякуючы якім і тэатру, і мне выпала нямала прыемных кампліментаў.

Ну вось а цяпер у нашым тэатры новы галоўны рэжысёр — Сусанна Цырук, з якой мне, на шчасце, працуецца і цікава, і камфортна. Спецыяльна для мяне ў новай пастаноўцы «Сільвы» яна зрабіла ўстаўны нумар — партыю Аляксандры, маці Эдвіна. Гэты нумар вельмі дакладна выяўляе сутнасць актрысы. Я была кранута такой увагай. Разумееце, гэта заўсёды вялікая радасць і шчасце для акцёра, калі рэжысёр робіць нешта спецыяльна для цябе.

**— Музыказнаўцы не раз выказвалі захапленне вашым голасам, характарызуючы яго самымі высокімі эпітэтамі і паэтычнымі параўнаннямі. А як вы самі адносіцеся да свайго багацця, падараванага вам прыродай? Як вы беражаце свой голас?**

— З мемуараў я ведаю, што многія вялікія спевакі надзвычай клапатліва адносіліся да свайго голасу. Я сама бачыла, як Лемешаў старанна ахутваў горла шалікам. Напэўна, кожны, ведаючы свой арганізм, робіць па-свойму.

Для мяне такое здаецца няправільным. Больш таго, нават шкодна, таму што калі ты ўвесь час хутаешся, то пасля — не дай бог што — імгненна прастудзішся. Трэба проста апранацца па надвор'і. Як кажуць, няма кепскага надвор'я — ёсць кепская вопратка. Але не ствараць цяплічных умоў для горла, для голасу.

Так, канешне, існуюць пэўныя правілы, якія неабходна захоўваць. Я, напрыклад, перад спектаклем не буду піць шампанскае, газіраваныя напіткі, з халадзільніка малако. Не буду есці арэхі, шакалад, марожанае. Але гэта толькі перад спек-

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2012 г.



*Унучка Арына і ўнук Данілка.*

таклем. А ў прынцыпе, я ўсё гэта ем і п'ю. Трэба толькі ведаць, калі і колькі. Я не хутаюся. Адзінае, чаго патрабуе мой голас, і не толькі голас, а і маё здароўе, фізічнае, — гэта захоўванне рэжыму. Таму не спаць ночы напралёт, тусавацца, выбачайце, бог ведае дзе, а пасля на наступны дзень выходзіць на сцэну — такога, канешне, дапускаць нельга. Я павінна нармальна высыпацца. Хаця, напэўна, у кожнага свой рэжым. Нехта кладзецца спаць у 10 гадзін вечара, нехта значна пазней. У мяне раней 12-ці не атрымоўваецца. Затое раніцаю я не магу валяцца ў ложку. Я прачынаюся і адразу займаюся хатнімі справамі.

**— А падтрымліваеце голас у форме вы самастойна ці займаецеся з педагогам?**

— Самастойна. Так у мяне склалася жыццё, што я рана пакінула сваю альма-матар і свайго педагога. А мяняць педагогаў небяспечна. Я проста старалася многа слухаць жывых спевакоў, запісы класікаў, і ўсё, дзе можна было браць нешта карыснае для сябе, абавязкова брала. Ва ўсякім разе, калі праз некалькі гадоў у Мінск прыехала мой педагог Людміла Флягонтаўна Драздова і паслухала мяне ў спектаклі «Баядэра», то сказала: «Малайчына, ты нічога не згубіла. Наадварот, набыла». І я зразумела, што мне трэба працягваць гэту сваю самаадукацыю, самавыхаванне.

Безумоўна, чуйнае вуха з боку, з боку прафесіяналаў патрэбна. Сёння ў мяне — гэта мастацкі кіраўнік Адам Мурзіч і выдатны спявак Пётр Рыдзігер.

**— Якія якасці акрамя голасу і таленту трэба мець артысту музычнага тэатра?**

— Ды, уласна кажучы, як і ўсюды — валодаць прафесіяй. А прафесія мяркуе ўсе астатнія складнікі — і дысцыпліну, і сілу волі, і самавыхаванне. І, канешне ж, здароўе. А ў нас яшчэ — валоданне пластыкай, уменне танцаваць, акцёрскае майстэрства. Ну і, само сабой зразумела, праца — штодзённая, напружаная, упартая, мэтанакіраваная. Без гэтага ўсе астатнія якасці зводзяцца да нуля.

**— У вашай біяграфіі быў такі факт. Цэлы год вы не працавалі ў тэатры. Былі салісткай філармоніі, выступалі з сольнымі канцэртамі. Што здарылася?**

— Было, было і такое. Хаця ў тэатры я працягвала працаваць. Разава. Таму што заставалася адзінай выканаўцай ролі ў спектаклі «Клоп», таму прыходзіла і іграла.

А што здарылася? Да нас галоўным рэжысёрам прыйшоў працаваць чалавек, імя якога я нават не хачу называць. І вось па нейкіх незразумелых прычынах ён паставіў мне прагул і абвясціў вымову. Зрабіў гэта абсалютна несправядліва. А справа была вось у чым. Мяне Штэйн, у якога я рэпеціравала, адпусціў на трое сутак на фестываль ва Уфе. Тым больш што спектакляў маіх у тэатры ў гэтыя дні не было. А калі вярнулася, усчаўся цэлы скандал. Праўда, калі разабраліся, то прагул адмянілі, а вымову чамусьці пакінулі. Мяне гэта пакрыўдзіла, і выпадак гэты стаў той апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу майго цярпення. Мне вельмі многае не падабалася ў рабоце гэтага рэжысёра, і я думала, што такое будзе доўжыцца бясконца, а нервы мае ўжо не вытрымлівалі, і я сышла. І стала

працаваць у філармоніі. А пасля таго як знялі таго рэжысёра, які аказаўся абсалютным непрафесіяналам, у тэатр прыйшоў новы дырэктар і ў адным з інтэрв'ю сказаў: «Першае, што я хачу зрабіць, — гэта вярнуць у тэатр Наталлю Гайду…» І я, натуральна, з задавальненнем вярнулася.

**— Пэўны час таму вы прызнаваліся, што значнай ролі ў тэатры ў вас няма. Ці змянілася сітуацыя цяпер?**

— Ды асаблівай сітуацыі і не было. Проста я, у сілу ўзросту, перайшла ў іншае амплуа — характарнай актрысы. І, слава богу, ролі ў мяне ёсць. Гэта ролі, у якіх ёсць што сказаць. І ў тым жа «Аршыне мал алан», і ў тым жа «Бабіным бунце», і ў той жа «Сільве»…

Я адчуваю, што патрэбна тэатру. Радуе, што акрамя спектакляў мяне запрашаюць у тэатральныя канцэртныя праграмы. Я супрацоўнічаю з Таццянай Старчанка, мастацкім кіраўніком філармоніі, удзельнічаю ў розных тэматычных канцэртах. Быў, напрыклад, такі цікавы праект: драматычныя акцёры спяваюць, а спевакі чытаюць літаратурныя творы. Я вывучыла «Нунчу» Горкага. Ніколі да гэтага не чытала са сцэны, а тут вялікае апавяданне. Хвалявалася, але ўсё абышлося.

Ёсць і іншыя праекты. Гэтай восенню запланаваны вечар рамансаў і песень «Тры ўзросты кахання».

**— Хачу дадаць: акрамя свайго тэатра вы яшчэ разам з народнай артысткай Беларусі Марыяй Захарэвіч у Купалаўскім тэатры іграеце ў трагікамічным спектаклі «Я не пакіну цябе». А да гэтага не адзін сезон былі заняты ў спектаклі «Валянцінаў дзень», што ішоў на сцэне Тэатра імя Горкага. У сувязі з гэтым, відаць, не аднаго мяне цікавіць: навошта вам такія эксперыменты? Што вам гэта дае?**

— Так, так *(смяецца)*… Многіх гэта не толькі цікавіць, але і здзіўляе. Калі я іграла Кацюшу ў Рускім тэатры, мне перадалі недаўменнае пытанне адной маёй паклонніцы: «А што, Наталля Віктараўна робіць гэта з-за грошай? Яна ж у сваім тэатры — гераіня, а тут нейкая грубая, развязная жанчына — гарэлку п'е, лаецца…» Сапраўды, я такога ніколі не іграла. Роля, што называецца, на супраціўленне. І я ў сваёй Кацюшы хацела паказаць не толькі кепскае, але і нешта добрае, светлае. Наогул лічу: любы вобраз нельга маляваць толькі адной фарбай. Чалавек — істота складаная, шматмерная…

А што мне гэта дае? Ну, па-першае, новы вопыт, новае спасціжэнне чалавечых характараў. Па-другое, гэта ж вельмі цікава, выяўляеш у сабе нейкія новыя магчымасці, адкрываеш тое, пра што і не здагадваўся. І калі гэта знаходзіць прызнанне ў гледачоў, у тэатральных крытыкаў, — адчуваеш сапраўднае шчасце. А партнёрства з такімі актрысамі, як Марыя Захарэвіч, Бэла Масумян, з такім рэжысёрам, як Валянціна Еранькова, — гэта ж які вопыт, якое задавальненне!

**— Наталля Віктараўна, з гадамі, калі ўжо ёсць багаты вопыт, шырокае прызнанне, працаваць лягчэй ці цяжэй?**

— І лягчэй, і цяжэй. Лягчэй, таму што дапамагае вопыт. Ведаеш, што на прафесійным узроўні ты гэта можаш спець, можаш сыграць — няма праблем. Увесь акцёрскі арсенал табою засвоены, усе 365 штампаў *(смяецца)*… У маладосці баялася: ой, а ці вазьму гэтую ноту, а ці змагу сыграць гэты эпізод? Цяпер такога страху няма. Ёсць хваляванне, але страху няма.

А складана, бо, як я ўжо казала, з гадамі патрабавальнасць да самой сябе, адказнасць за тое, што ты робіш, з чым выходзіш да гледача, намнога павышаюцца. Я не магу апусціцца ніжэй планкі, якую паставіла перад сабой і якую паставіў для мяне глядач.

**— Што б вы параілі маладым калегам, каб яны ў сваёй артыстычнай кар'еры маглі дабівацца поспехаў?**

— Толькі праца. Не лічыць, што калі ты на нейкім этапе справіўся з роляй, то наступная будзе ўжо давацца проста і лёгка. Не, да кожнай ролі трэба падыходзіць

як у першы раз. І быць у поўным ўзбраенні прафесійных навыкаў. А каб іх мець, патрэбна заўсёды трымаць сябе ў тонусе, увесь час займацца, вучыцца. Нават калі ў цябе няма ролі — усё роўна браць урок і ўвесь час быць у трэнінгу. Жыццё ў мастацтве ў многім складваецца з выпадковасцей. Але артысту да іх трэба заўсёды быць гатовым.

## Трохі пра вечнае

**— Наталля Віктараўна, хачу папытацца ў вас вось аб чым. Вы верыце ў лёс, у фатальнае прадвызначэнне чалавека?**

— І так, і не. Напэўна, нешта ў жыцці ёсць такое, што вызначае шлях, па якім чалавеку наканавана прайсці. Але ж і ад нас многае залежыць, як прайсці па гэтым шляху, які зрабіць выбар. Таму што ёсць магістраль, а ёсць сцежкі-дарожкі, якія могуць вывесці на магістраль, а могуць завесці ў тупік. Зрабіць правільны выбар, напэўна, дапамагае і жыццёвы вопыт, і ўнутранае ўсведамленне сваіх магчымасцей, і інтуіцыя, і, урэшце рэшт, тое, што мы называем лёсам. Словам, чалавечы лёс, можа, і прадвызначаны небам, не ведаю, але аддавацца на яго волю цалкам — неразумна. Трэба сваім жыццём і кіраваць.

**— А сны прарочыя вам сняцца?**

— Вось штосьці да гэтага часу ў мяне такіх сноў не было *(смяецца)*… Ці, можа, былі, але я не звярнула на іх увагі. Гэта ж залежыць яшчэ і ад таго, як ты настроены. Мы ў сваіх паўсядзённых клопатах настолькі занятыя, што часам не заўважаем нічога вакол. Не заўважаем знакаў лёсу. А трэба было б час ад часу прыпыніцца, азірнуцца, асэнсаваць пражытае, падумаць над будучым. На жаль, мы робім гэта вельмі рэдка, а то і зусім не робім.

Іншы раз я думаю: мне такія сны не сняцца, таму што я кепскі вернік, у царкву хаджу рэдка, не прычашчаюся. Хаця бывае, раптам узнікне такая патрэба. Я зайду, паслухаю малітвы, царкоўныя спевы — і так душа расчуліцца, ажно слёзы на вачах выступяць. І выходзіш пасля гэтага супакоены, з дабрынёй у душы.

У той жа час мне думаецца, што Бог не павінен ад мяне адвярнуцца. У сваім жыцці я ніколі нікому не рабіла зла, не прычыняла непрыемнасцей. Тым больш свядома.

**— Вы сказалі, што стараліся ніколі і нікому не прычыняць зла. А якім учынкам, дзеяннем у сваім жыцці вы ганарыцеся?**

— Ведаеце, так з ходу ўспомніць няпроста… Калісьці, яшчэ школьніцай, я выратавала дзяўчынку, якая тапілася. Мы былі ў піянерскім лагеры. Малодшая група пайшла купацца. І я гляджу, адна дзяўчынка падазрона пляскае рукамі і захлынаецца ад вады. І хоць я сама кепска плавала, але, не задумваючыся, кінулася ў раку. Малеча сутаргава ўхапілася за мяне і пацягнула на дно. Тады я што было сілы адштурхнулася нагамі і да берага, да берага. І выплылі…

Наогул, у дзяцінстве я была дзяўчынай смелай, цярплівай. Вайны, на шчасце, мне не давялося бачыць, але я ведала, што, калі б мяне фашысты каталі, я нізавошта нікога не выдала б. Калі мы часам з хлапчукамі гулялі ў вайну і мяне, узяўшы ў «палон», дапытвалі, каб я сказала, дзе хаваюцца «партызаны», заломвалі рукі — балюча, па-сапраўднаму — дык я, сціснуўшы зубы, цярпела і ўпарта адказвала: «Не скажу!» Адзін раз нават вывіхнулі руку, у бальніцы ўпраўлялі. Пасля гэтага хлапчукі сталі адносіцца да мяне з асаблівай павагай.

Я да чаго гэта расказваю? Мяне можна падмануць, я магу даверыцца чалавеку, з-за гэтага зрабіць нейкую памылку. Але свядома ўчыніць непрыемнасць — ніколі. І ніхто мяне да гэтага не змусіць.

Я заўсёды заступалася за таго, каго несправядліва крыўдзілі. І нават цяпер, калі часам у транспарце нехта хуліганіць, брыдкасловіць, я не магу сцярпець, не магу не сказаць: «Перастаньце! Тут жа дзеці, жанчыны. Як вам не сорамна!..»

Я не тое што гэтым ганаруся, але такое ўва мне ёсць. І мне здаецца, гэта станоўчая рыса характару. Чалавек не павінен усяго баяцца і, як страус, хаваць галаву ў пясок, пазбягаць вострых момантаў.

**— Дарэчы. Нярэдка жыццё ставіць нас перад выбарам. І выбарам, бывае, вельмі няпростым. Скажам, падтрымаеш начальніка ў яго нейкім несімпатычным учынку, несправядлівым намеры — і ты будзеш заахвочаны, абласканы. Не падтрымаеш, зробіш, як патрабуе сумленне, — і ты трапіш у няміласць, будзеш мець непрыемнасці…**

— Ведаеце, былі, канешне, у маім тэатральным жыцці такія моманты, калі я рабіла памылкі. Але не ў плане выгод-невыгод, а з-за сваёй маладосці, максімалізму. Не разумела некаторых рэчаў. Скажам, ёсць абставіны, калі ты маеш права ўмешвацца ў сітуацыю і выказваць сваю думку, а ёсць выпадкі, калі ты такога права не маеш. Гэта тычыцца, на мой погляд, кіраўніцтва тэатра. Я зразумела, што самае лепшае, калі кожны адказвае за сваё, за тое, што ты робіш. Калі кіраўнік дапусціў нейкі хіб, вось хай ён за яго і адказвае. А табе лезці туды са сваёй крытыкай не трэба. Гэта — не тваё пытанне.

Па маладосці я, здаралася, дапускала памылкі. Ды і абставіны часам былі такія, што трэба было гаварыць. Як члену мастацкага савета. Альбо калі прыходзілі вышэйшыя начальнікі і аб нечым пыталіся. А пасля я ўсё ж прыйшла да высновы, што не ўсё і не заўсёды трэба гаварыць прама, адкрыта. Таму што мы можам памыляцца, няправільна разумець праблему. У сувязі з гэтым я нават лічу, што ў тэатры мастацкага савета не павінна быць. Гэта ўскладняе работу галоўнага рэжысёра, галоўнага дырыжора, іншых спецыялістаў.

Акрамя таго, тут ёсць і пэўная няёмкасць. Атрымліваецца, калі цябе выбралі ў савет, то ты ўжо маеш права, абавязаны крытыкаваць сваіх калег. Тым самым парушаецца спрадвечнае акцёрскае братэрства. Нам лепш гэтым не займацца. А рабіць заўвагі па спектаклі, наводзіць крытыку ў нас ёсць каму і без акцёраў.

**— А ці быў у вашым жыцці ўчынак, аб якім вы шкадуеце?**

— Канешне, быў. І не адзін. Я вельмі шкадую, што ў дзяцінстве часта не слухалася сваёй бабулі, якую вельмі любіла. Ці па неразумнасці крыўдзіла дзядулю. Ён працаваў шаўцом, з раніцы, бывала, параскладвае свае нарыхтоўкі на ложку, а я прыбягу — бабах на ложак! — і ўсё змяшаю ў адну кучу. Але ён ніколі на мяне не сварыўся, зноў усё цярпліва раскладваў у патрэбным яму парадку.

Я ўсё гэта цяпер успамінаю — і слёзы на вачах. Думаю: Госпадзі, як жа я кепска сябе паводзіла. Але назад ужо нічога не вернеш…

Шкадую таксама, што рэдка пісала бацькам. Наколькі я люблю пагаварыць, настолькі не люблю пісаць. Маё пяро не можа ўгнацца за маімі думкамі, і мяне гэта раздражняе.

Прыгадваецца і такі момант. На школьным вечары я вельмі хацела, каб мяне запрасіў на танец адзін хлопец, які мне вельмі падабаўся. І вось я бачу, ён ідзе да мяне. Але тут яго апярэджвае іншы хлопец. І я, не падумаўшы, адмаўляю яму. А з тым, хто падабаўся, пайшла. А пасля мне было так сорамна, непрыемна, што я нават пайшла з вечара. І я пра гэты свой учынак шкадую да гэтага часу.

З гадамі, канешне, набываецца пэўны вопыт, і ты ўжо можаш хутчэй асэнсоўваць сітуацыю і больш правільна рэагаваць.

**— А ў вашым акцёрскім жыцці такія ўчынкі здараліся?**

— Ну, такія, каб мне было сорамна за іх, то не.

**— Але ж здараюцца сітуацыі, калі ад вашага выбару залежыць не толькі ваш асабісты дабрабыт, але і дабрабыт сям'і, вашых блізкіх, родных.**

— Так, так. Ва ўсякім разе, я бывала ў такіх сітуацыях, калі можна было і лепш было прамаўчаць. Тым больш, што ад мяне як бы і не патрабавалася гаварыць, але настолькі ўсё было несправядліва, што я закіпала і гаварыла ўсё, што

думала. І гэта, канешне ж, было мне на шкоду. Але супроць свайго сумлення не ішла ніколі. Інакш гэта была б куды большая шкода — для майго ўнутранага стану, для развіцця, прабачце за пафас, майго таленту.

**— Дарэчы, а ад чаго яшчэ залежыць развіццё, сталенне таленту артыста?**

— Безумоўна, найперш ад працы. Ад сур'ёзнага стаўлення да таго, што табе даў Бог. Калі я вучылася ў кансерваторыі, была ў нас адна студэнтка. Прырода шчодра адарыла яе — і харастовам, і талентам. Я белай зайздрасцю зайздросціла яе голасу — прыгожаму, моцнаму. Упэўнена была, што яна стане зоркай першай велічыні. На жаль, не стала. Дзяўчыну згубіла лянота.

Справа ў тым, што талент, як вядома, даецца ад нараджэння, ад Бога, але калі яго не развіваць, не берагчы, ён можа лёгка знікнуць. Каб гэтага не здарылася (я, напэўна, гавару элементарныя рэчы), трэба многа займацца, вучыцца, удасканальвацца — творча, духоўна, прафесійна. Праўда, бываюць сітуацыі, нейкія выключэнні (я не ведаю, ад чаго гэта залежыць), калі ў аднаго, нягледзячы ні на што, талент знікае даволі рана, а ў другога захоўваецца да глыбокай старасці. Загадка. І ўсё ж такія выключэнні толькі пацвярджаюць агульнае правіла, непахісны закон прыроды. Як бы ты ні бярог голас, як бы ні быў прафесійна падрыхтаваны, але гады бяруць сваё. І з узростам вялікі спектакль ужо вытрымаць цяжка. Чаму? Таму што ўсё мае тэндэнцыю старэць. І звязкі слабеюць, становяцца вялымі, і ўжо не можаш трымаць дыханне, дыяфрагма не слухаецца.

Але ў чым я абсалютна пераканана — гэта ў тым, што ўвесь час трэба працаваць над сабой, і тады больш гарантыі, што Бог не забярэ назад твае здольнасці. Калі ж акцёр, нават самы таленавіты, супакойваецца на дасягнутым, ён заканчваецца як акцёр. І гэта сапраўдная драма, таму што ўсе твае недахопы, усё тваё акцёрскае нутро, як на рэнтгене, бачны ў святле рампы, прасвечваюцца праз рысы тваіх гераінь.

**— Вы большы прыхільнік якой музыкі — класічнай, джазавай, народнай?**

— Я люблю розную музыку. Толькі — як вам сказаць? — усё мае свой час і сваё месца, свой настрой. Калі я, скажам, прыйшла ў парк альбо на канцэрт лёгкай музыкі, то з задавальненнем буду слухаць поп-музыку і падпяваць, і танцаваць — словам, ствараць сабе настрой. А калі хочацца пабыць на адзіноце, у атмасферы лірычнага ці філасофскага роздуму, тады найлепш падыходзіць класіка. У мяне дома ёсць неблагая калекцыя запісаў лепшых спевакоў свету, фартэпіянных, аркестравых канцэртаў.

**— А што з класікі вы слухаеце найчасцей?**

— У мяне дастаткова разнастайныя густы. Усё залежыць ад настрою, ад сітуацыі. Іншы раз кладзецца на душу Бетховен, іншы раз — Бах…

**— Бах?**

— Так, Бах. Асабліва калі Бах паявіўся ў сучасных апрацоўках, ды яшчэ з вакальнымі спевамі, то гэта проста здорава! Вось вам яшчэ адзін прыклад разумнага, удалага спалучэння традыцый і наватарства. Калі ў творы ёсць мелодыя, яе можна расквечваць сучаснымі аранжыроўкамі, і гэта не сапсуе, а, якраз наадварот, — упрыгожыць твор.

А наогул я вельмі люблю рускіх кампазітараў — Рахманінава, Чайкоўскага… Ёсць цудоўныя мелодыі ў беларускіх кампазітараў, у таго ж Семянякі. У прыватнасці, ягоная «Трава дзяцінства» ў сучаснай апрацоўцы. Моладзь слухае яе з задавальненнем.

**— Як вам падабаецца сучасная эстрада?**

— Складанае пытанне… Калі гаварыць пра музыку на эстрадзе, то я наўрад ці маю права даваць нейкія ацэнкі, таму што кепска разбіраюся ў сучасных стылях і накірунках. Ды і мала слухаю. Гучыць жа ўсюды толькі поп-музыка. А ўсе эстрадныя спевакі і іх песні, як правіла, падобныя як блізняты. Гучаць толькі прымітыўныя песенькі, калі адзін і той жа матыў паўтараецца тысячу разоў, убіваецца як цвік у галаву.



*Разам з дачкой Насцяй.*

Вельмі важна, каб на эстрадзе была асоба, індывідуальнасць. Такая, скажам, як Іосіф Кабзон, які на сцэне ўжо 50 гадоў і да гэтага часу сучасны. Пры гэтым ён не гоніцца за модаю, не імкнецца прытанцоўваць, здзіўляць нейкімі шоу. Ён застаецца самім сабою, зачароўвае, бярэ ў палон слухачоў сваімі арыгінальнымі інтэрпрэтацыямі песень.

Яркая індывідуальнасць, несумненна таленавітая спявачка Ала Пугачова, Алена Камбурава і іншыя.

**— А з беларускім народным меласам вы знаёмыя?**

— Я ў прынцыпе люблю народныя песні — і беларускія, і рускія, і ўкраінскія. У маёй мамы была часцінка ўкраінскай крыві, і яна дужа гарна спявала песні сваёй малой радзімы. І я за мамай з дзяцінства спявала гэтыя песні. Помню іх і цяпер *(спявае)*: «Стоїть гора высокая, а під горою гай, гай…» Калі паступала ў кансерваторыю, выконвала акрамя «Балеро» Дэліба рускую народную песню «Я в садочке была…»

Мне падабаюцца песні савецкіх кампазітараў, якія створаны на аснове народных матываў. Скажам, тая ж *(спявае)*: «За дальнею околицей, за молодыми вязами мы с милым расставалися, клялись в любви своей…» А «Березонька»? А «Шумел камыш»? Усё гэта — цудоўныя песні!

Мне толькі не падабаецца, калі іх спяваюць гучна, крыкліва *(паказвае, пераймаючы такое выкананне)*. Гэта — псеўданароднасць. Песні трэба спяваць душою. Асабліва беларускія, якія вызначаюцца лірычнасцю, напеўнасцю, задушэўнасцю. Хаця мне асабіста мала даводзілася іх спяваць. Але я вельмі люблю і «Чабарок», і «Кацілася чорна галка», і «А ў полі вярба» і многія іншыя.

Што мы называем народнай музыкай? Возьмем, напрыклад, дрэва. Ёсць у яго карані, ёсць ствол і ёсць галіны з лісцем. Дык вось калі перанесці гэты вобраз на фальклор, то мне не падабаюцца ў ім гэтыя карані, гэтая неапрацаваная грубавата-прымітыўная аснова. Даводзілася часам бачыць: стануць вясковыя бабулі ў рад з такімі каменнымі, індыферэнтнымі тварамі і ля-ля-ля...

Не падумайце, я фальклор не адмаўляю. Але гэта толькі аснова, якая павінна апрацоўвацца, шліфавацца майстрамі. У таго ж Чайкоўскага, колькі ў яго творах народнага меласу!

Альбо возьмем Людмілу Зыкіну, каралеву народнай песні. Да яе была Русланава, але тая сваёй манерай спеваў была іншая. Яна была бліжэй да каранёў. Яе знакамітыя «Валенки» Зыкіна спявала б ужо інакш. Яе выкананне ўжо было б з лісточкамі *(паказвае, як гэта гучала б — пяшчотна, кранальна, сцішана)*.

**— Ведаю, што вы яшчэ любіце джаз. Адзін час спявалі нават з Аляксандрам Дольскім.**

— Ну, я не магу сказаць, што мы з ім спявалі джаз. Проста, калі мы былі студэнтамі — я юрыдычнага, а ён політэхнічнага інстытута, — мы актыўна ўдзельнічалі ў розных канцэртах, зараблялі на пражыццё. Саша іграў на банджа лёгкія амерыканскія мелодыі, а я яму падпявала. Па-англійску, не ведаючы мовы, але гэта было модна, стыльна. І мы атрымлівалі мора эмоцый.

А джаз я сапраўды люблю. Хаця кепска разбіраюся ў стылях, але люблю сімфаджаз. Асабліва ў выкананні аркестра Дзюка Элінгтона. Была на яго канцэрце

ў Мінску. Люблю аркестр Глена Мілера, пад яго мінусоўку я нават спявала неаднойчы «Месяцавую серэнаду» на сур'ёзных канцэртах.

Я, бадай, абыякавая да року. Розныя хэвел-метл і іншае мяне не кранаюць. Гэта вельмі агрэсіўная музыка. І калі мне кажуць, што там жа класныя тэксты, я адказваю: але ж людзі іх не чуюць. Чуюць толькі гэты страшэнны грукат, аднастайны, д'ябальскі рытм. І, мне здаецца, акрамя агрэсіі такая музыка ў чалавеку нічога не выклікае.

**— Наталля Віктараўна, як вы думаеце, для чаго існуе музыка — для забавы, задавальнення, адпачынку ці ўсё-такі заклікана развіваць і нейкія эстэтычныя, духоўныя пачаткі ў чалавеку?**

— Мне наогул здаецца, што напачатку было не слова, а музыка. І ўзнікла яна ад шуму мора, ад посвісту ветру, ад песень птушак…

А што значыць музыка ў жыцці чалавека? Вельмі многае. Ёю нават лечаць некаторыя хваробы. Але музыка можа не толькі лячыць, а і калечыць. Таму важна слухаць добрую, гарманічную музыку, прывіваць правільныя музычныя густы з дзяцінства.

Канешне ж, музыка — дабро. Канешне ж, яна аказвае свой уплыў на душу, на духоўны свет чалавека. Уявіце сабе на хвіліну, што наша жыццё засталося без музыкі. Гэта — страшна.

**— Крытыкі неаднаразова адзначалі такую вашу якасць, як уменне кахаць на сцэне. Упэўнены, што вы ўмееце кахаць і ў жыцці.**

— О, на што вы мяне правакуеце!.. *(Смяецца.)*

**— Дык што ж гэта за такая дзіўная, казачная птушка — каханне? Ці бывае каханне з першага погляду? Гэта пачуццё часовае ці вечнае? Давайце паразважаем на гэту тэму.**

— Тэма, канешне, няпростая. Магу адразу прызнацца: доўгі час я лічыла, што мяне Бог гэтым пачуццём наогул абдзяліў. Бо лічыла, зноў-такі па сваім юначым максімалізме, што калі пакахаў, то ўжо да канца свайго жыцця. А тут мне сёння хлопец падабаецца, а заўтра я ў ім расчароўваюся. І мяне гэта страшыла. Я нават не хацела выходзіць замуж, думаючы, што кахаць не ўмею.

Але, напэўна, у жыцці кожнай жанчыны наступае такі момант, калі хочацца, каб побач нехта быў, каб цябе цанілі, кахалі. Такі момант наступіў і ў мяне. Мой будучы муж мне, безумоўна, падабаўся. Ён быў заўсёды такі элегантны, у гальштуку-бабачцы. Прыгожа заляцаўся. Меў прыемны, багаты голас. А як ён класна калоў дровы! Я калі ўбачыла гэта аднойчы, сэрца маё канчаткова скарылася. І я рашыла выйсці замуж, хаця, па праўдзе кажучы, да канца не была ўпэўнена, кахаю яго ці не. Сапраўднае пачуццё прыйшло пазней. Так што мне ў гэтым плане пашанцавала. Амаль паўвека мы з мужам пражылі душа ў душу.

Звычайна каханнем мы называем тое, што ў нашым жыцці як бы не збылося, не рэалізавалася. Скажам, некім мы моцна захапляліся, пачуцці ў душы бурлілі, але з-за нейкіх абставін давялося расстацца. І вось цяпер успамінаеш і думаеш: а я ж яго кахала. А ці сапраўды кахала? Невядома нават, што атрымалася б з кахання Рамэа і Джульеты, калі б яны пажаніліся. Гэта аднаму Богу вядома.

Я лічу, што каханне з першага погляду не прыходзіць. З першага погляду — гэта страсць. Хаця бывае па-рознаму. Можна многія гады разам працаваць, працаваць, а пасля раптам — ах! — і ўбачыш чалавека ў новым святле. Узнікае страсць, якая мінае, і мінае даволі хутка. Але калі гэта твой чалавек, якога ты па-ранейшаму хочаш бачыць побач, які цябе разумее, праяўляе чуласць і клопат, то з гэтай страсці вырастае новае пачуццё — ужо больш спакойнае, глыбокае. І вось гэтае ўзаемаразуменне, гэтае жаданне падабацца адно аднаму, нягледзячы на розныя дробязі, — усё гэта, відаць, і можна назваць каханнем.

У любой сям'і, як вы ведаеце, рознае бывае: і сваркі, і прыкрыя непаразуменні, і нават канфлікты, якія даходзяць ледзь не да разводу, але ўсё роўна сям'я павінна заставацца на першым плане. Гэта — галоўная каштоўнасць, нешта святое, што трэба берагчы як зрэнку вока.

Такія экзэмпляры, як адналюбы, сустракаюцца вельмі рэдка. Таму калі нехта гаворыць: «Ой, мне муж ніколі не здраджваў», — я толькі ўсміхаюся. Бо справа не ў тым — здраджваў ці не здраджваў, а як гэта адбылося: свядома, хітравата-подленька ці выпадкова, у хвіліну слабасці. Захапляцца можна — гэта жыццё, і нельга яго пражыць без захаплення. Так, я магу пафліртаваць, і мужчына можа загледзецца, захапіцца прыгожай жанчынай, але трэба ведаць мяжу, якую пераступаць небяспечна. Трэба ўвесь час памятаць, што сям'я — гэта святое. І хай сабе твой каханы не ідэальны (такіх не бывае па вызначэнні), але ён побач, ён твой, і ты з ім прайшла ўжо агонь, ваду і медныя трубы.

**— Як вы лічыце, чалавек, які не кахаў у жыцці, можа сыграць каханне на сцэне?**

— Ведаеце, з аднаго боку, артыст не абавязкова павінен зведаць усё, што ён іграе на сцэне. Ёсць жа акцёрскае ўяўленне, акцёрская назіральнасць. З другога боку, ён жа па жыцці хоць аднойчы ды перажываў пачуццё сімпатыі, закаханасці. А я думаю, што такое перажывае кожны чалавек. Іншая справа, наколькі гэты акцёр таленавіты, каб сыграць каханне ярка, моцна, каб глядач паверыў яму.

А бывае наадварот. Узяць майго мужа. У жыцці, што тычылася кахання, ён быў чулы, шчодры, ён умеў кахаць. А на сцэне яму гэта ўдавалася менш за ўсё. Яму лепш удаваліся ролі, дзе трэба было змагацца, праяўляць мужнасць, гераізм. А выяўляць свае інтымныя пачуцці публічна, са сцэны, саромеўся ці што. Гэта, відаць, уласцівасць характару.

**— Ну калі мы ўжо загаварылі пра гэта, то хачу запытацца вось пра што. Якую рысу характару вы лічыце ў жанчыне галоўнай?**

— У жанчыне? Ой, не ведаю… Вось гэта пытанне дык пытанне *(задумваецца)*. Звычайна называюць дабрыню. Але калі муж п'яніца, б'е жонку, дзяцей, прапівае апошнюю капейку, а жонка з ім сю-сю-сю… То якая гэта дабрыня?

Тады што? Можа быць, чуласць? Самаахвярнасць? Ну, не ведаю… Госпадзі, колькі ўсяго жанчыне трэба! Ну вось скажыце, чым мы вас, мужчын, прыцягваем?

**— Жаноцкасцю.**

— Але ж жаноцкасць складаецца з многіх якасцей. Гэта — і абаяльнасць, і ўменне весці размову, і проста ўменне сябе паводзіць. Трохі какецтва, трохі дасціпнасці, гумару… І калі ўсё гэта разам сабраць, то можна сказаць: жанчына павінна быць жанчынай. Вось і ўсё.

**— А ў мужчыне прасцей вызначыць галоўную рысу?**

— Канешне. Мужчына — гэта перш за ўсё розум. Гэта — надзейнасць, чэснасць, сумленнасць. І яшчэ — шчодрасць. Маю на ўвазе шчодрасць не толькі матэрыяльную, а найперш духоўную, душэўную. Шчодрасць ва ўчынках, у пачуццях.

**— Да якіх чалавечых слабасцей вы ставіцеся паблажліва?**

— Многае можна дараваць. Таму што чалавек па сваёй прыродзе слабы. Усе мы складаемся з нейкіх дробных слабасцей. Часам робім неабдуманыя ўчынкі, дапускаем глупства. Але калі чалавек гэта разумее і раскайваецца, то ўсё можна дараваць. Нават, як я ўжо гаварыла, часовае захапленне — выпадковае, неспадзяванае.

**— А чаго дараваць нельга? Ні ў якім разе…**

— Нельга дараваць хлусні. Свядомай, подлай. Нельга дараваць здрады. Захварэла, скажам, жонка альбо дзіця нарадзілася калекаю, а муж пакідае сям'ю. Жонка ніколі б так не паступіла, хіба што выключныя экзэмпляры. Таму што жанчыне ўсё-такі ўласціва самаахвярнасць. Не, здрады дараваць нельга. Гэта адназначна.

— **Наталля Віктараўна, калі вы сябе адчувалі больш камфортна — у савецкія часы ці цяпер?**

— Не буду Бога гнявіць: у мяне ўсё добра складвалася і раней, і, на шчасце, складваецца так да гэтага часу. У савецкія часы ўсё, аб чым я марыла, чаго хацела, — усё гэта збылося.



*З мужам, народным артыстам Беларусі Юрыем Бастрыкавым.*

І наогул тады многа чаго было добрага. Асабліва, што тычылася выхавання маладога пакалення. Пачынаючы з дзіцячага садка і канчаючы інстытутам. Нас вучылі чытаць добрыя кніжкі, паважаць старэйшых. Былі розныя гурткі, секцыі, у якіх мы развівалі сябе духоўна, фізічна. Прычым абсалютна бясплатна. Гэта было, як мне здаецца, самае вялікае дасягненне савецкай улады.

Але і цяпер у нашым жыцці ёсць многа станоўчых момантаў. Так, нехта не вытрымаў працэсу выжывання, згубіў сябе. Аднак абсалютная большасць людзей хутка прыстасавалася да новых умоў і адчувае сябе дастаткова камфортна. Мы цяпер маем большую свабоду ў думках, у жаданнях, ва ўчынках. Хаця многія гэту свабоду разумеюць своеасабліва — як усёдазволенасць, паступаюць, як ім хочацца, і не зважаюць на іншых, на тых, хто побач.

Да плюсаў я аднесла б і куды меншую ідэалагізаванасць нашага жыцця. Паявілася больш магчымасцей зарабляць. Калі раней ты працаваў у тэатры, то левыя заработкі не віталіся і не заахвочваліся. Цяпер, калі ласка — працуй хоць у дзесяці месцах, толькі б гэта не замінала на асноўным месцы работы.

Ну і, канешне, немалаважна тое, што цяпер не трэба нічога даставаць — усё можна купіць у магазіне без усялякіх знаёмстваў і блатаў.

Так што, грэх скардзіцца, я і цяпер жыву нармальна, адчуваю сябе камфортна. Тэатр дае мне тое, чаго часам не хапае ў рэальнасці, — і радасць, і маральнае задавальненне, і адчуванне паўнаты жыцця.

**— Кажуць, не ў грошах шчасце…**

— Але шчасце, калі яны ёсць *(смяецца)*. Грошы даюць магчымасць пра іх не думаць, спакойна займацца сваёй справай. Для мяне заўсёды на першым месцы была любімая праца і на другім — сям'я. Кажу пра гэта трохі няёмячыся, бо баюся, што жанчыны мяне не зразумеюць. Але калі быць чэснай, то гэта сапраўды так.

## Паспець зрабіць галоўнае

**— У сваіх ролях вы заўсёды вясёлая, дасціпная, гарэзлівая, няўрымслівая. А якая вы ў жыцці? Аптымістка ці песімістка?**

— Не, і на сцэне я не заўсёды вясёлая. Усё залежыць ад ролі.

А ў жыцці? Я — чалавек адкрыты, кантактны, камунікабельны. Я — чалавек усмешлівы. Іншы раз нават думаю: ці не залішне ўсміхаюся? Хаця настрой у мяне вельмі хутка мяняецца. Як ні дзіўна, часта бывае сумна, журботна, нават не ведаю, ад чаго. Але я не люблю дэманстраваць гэта публічна. Таму, калі паяўляюся на людзях, стараюся быць вясёлай. Словам, я такі аптымістычны песіміст.

**— А як вы змагаецеся з кепскім настроем?**

— Я стараюся змагацца з ім на адзіноце. Калі мне сумна — я сумую. Люблю купіць што-небудзь смачнае і паласавацца. Альбо пачытаць добрую кнігу.

Я павінна вам чэсна сказаць: люблю адзіноту. Хацела гэтага з юнацтва, бо жыла ўвесь час у інтэрнатах, а калі адзін час здымала кватэру, то нас у пакоі было чатыры чалавекі. І мне часам так хацелася пабыць адной. Студэнткаю я нават у кіно ці ў тэатр хадзіла адна. Напэўна, з таго часу я і палюбіла адзіноту.

І разам з тым я доўга не магу заставацца адна. Мне хочацца тады на людзі. Вось такая супярэчлівасць.

**— Хто вашы сяброўкі? Іх многа ў вас?**

— Многа сябровак не бывае. Нават у маладосці. Канешне, у мяне былі сяброўкі і ў школе, і ў кансерваторыі, і ў маім прафесійным жыцці. Але ўсё гэта сяброўкі мінулых гадоў. А з узростам новых не прыбавілася. Я прыяцельствую з многімі сваімі калегамі. Шмат добрых людзей і па-за тэатрам, з якімі я падтрымліваю сувязі.

**— А ў чым, на ваш погляд, розніца паміж сяброўкай і прыяцелькай?**

— Да сяброўкі, калі што якое, я магу звярнуцца ў любы час з любой нагоды і буду ведаць, што яна заўсёды шчыра, з гатоўнасцю адгукнецца. А да прыяцелькі — неяк няёмка. І не кожнаму можна безаглядна адкрыцца, даверыць самае інтымнае, самае запаветнае. А сяброўцы — можна. І быць упэўненай, што яна ўсё правільна зразумее. А калі і не зразумее, то ніколі не адвернецца. І наогул гэта цяжка растлумачыць… Сяброўку хочацца бачыць заўсёды!

**— Якія рысы свайго характару вы цэніце найбольш?**

— Я магу быць харошым другам. А яшчэ я — чалавек адказны. Не люблю спазненняў, неабавязковасці. Не паважаю людзей, якія не цэняць чужы, а значыць і свой час… Зрэшты, мне цяжка адказаць на ваша пытанне... Пакуль я добры чалавек *(гарэзліва смяецца)*.

Хаця, па вялікаму рахунку, мы сябе да канца не ведаем. І цяжка сказаць, як бы я павяла сябе ў той ці іншай экстрэмальнай сітуацыі. Але добра ведаю, што на подзвіг — імпульсіўны, імгненны, калі ўсё вырашаюць долі секунды, — я на гэта здольная. А вось так, як адзін мой знаёмы, які дзесяць гадоў даглядаў прыкаваную да ложка маму, не ведаю, ці змагла б. Гэты подзвіг намнога цяжэйшы. Такое не кожны можа вытрымаць…

**— А вы ж таксама колькі гадоў даглядалі мужа, а цяпер вось даглядаеце мужаву маму…**

— Ну, гэта трохі іншае. Тут мне дапамагалі і ўрачы, і сямейнікі. Дый сам Юрачка да апошняга мне памагаў. А што да свякрухі, то яна ўсё ж такі хоць і па сценачцы, але ходзіць па кватэры. А не дай бог, зляжа зусім, не ведаю, што і буду рабіць. Але работу не магу кінуць ні пры якіх абставінах. Як-небудзь прыстасуюся.

**— А што вам не падабаецца ў сабе? Ад чаго вы, магчыма, хацелі б пазбавіцца, падкарэкціраваць?**

— Ой, многае не падабаецца *(звонка смяецца)*… Пачынаючы са знешнасці. Памятаю, з дзяцінства хацелася мець іншы нос, бо ўсе называлі курносая, курносая.

А калі сур’ёзна, то я залішне эмацыянальная, нястрыманая, узрыўная. Праўда, хутка адыходжу і, калі ў чым вінаватая, папрашу прабачэння. Але такое ёсць, і я лічу гэта вялікім недахопам. Трэба ўмець валодаць сабою. Гэта, відаць, добра ведалі мае бацькі, таму што, калі я надумалася ехаць у Маскву, яны мяне доўга адгаворвалі. Урэшце рэшт тата махнуў рукою: «Ладна, хай едзе. У яе галава на плячах ёсць…» — «Ага, — парыравала мама, — галава ёсць, але ў адзін цудоўны момант яна яе можа згубіць!»

Так, вытрымкі мне часам не хапае, гэта праўда.

Я не люблю кухню. Прычым на фізіялагічным узроўні. Гэта ідзе па мацярынскай лініі. Мая мама злавалася, калі нешта трэба было прыгатаваць. А мая бабуля

Насця, яна, канешне, і піражкі смачныя пякла, і многія стравы ёй удаваліся, але не раз мне шэптам, па сакрэту прызнавалася: «Я ж не люблю кухню…»

Вось і я такая. На жаль. Таму і лічыла, што ў жонкі не гаджуся. І свайму будучаму мужу адкрыта сказала: я добры сябар, а жонка кепская. Ён нават спачатку крыху разгубіўся, пасля супакоіў — і мяне, і сябе: «Тады буду гатаваць я».

А яшчэ — мяне нярэдка адольвае лянота.

**— Вас? Лянота? Цяжка паверыць…**

— Праўда, праўда. Падленьваюся. Часам я думаю: колькі ўсяго я магла б зрабіць, каб не гэты мой недахоп. Скажам, вывучыць замежную мову і спяваць таго ж Моцарта па-нямецку. А гэта ўжо зусім іншая справа. Інакш будуецца і музычная фраза, і акцэнт робіцца іншы. А калі завучваеш тэкст механічна і паўтараеш яго як папугай, то ты ідзеш ужо толькі ад музыкі.

Гэта па-першае. А па-другое, калі цяпер усе вакол гавораць на адной, дзвюх замежных мовах, то прызнавацца, што ты не ведаеш нічога, ужо няёмка.

Я не валодаю фартэпіяна. Таму што не вучылася музыцы ні ў школе, ні ў кансерваторыі. Апраўдваю сябе тым, што не было часу. Але калі б моцна захацела, то ноччу вучылася б граць. А, валодаючы фартэпіяна, я села б і сама сабе іграла і спявала. Наколькі больш я вывучыла б твораў. Так што лянівая я — нічога не скажаш.

**— Ну, гэта вы ўжо ацэньваеце сябе па вельмі вялікім рахунку. Па Гамбургскім рахунку.**

— А як жа, па ідэі, і трэба жыць па Гамбургскім рахунку. Што тычыцца тэатра, то я так і паступаю. Не магу сябе папракнуць і ў вядзенні хатніх спраў. Я люблю парадак, люблю чысціню. У мяне няма такога, каб я сказала сама сабе: ай, не хачу, прыбяру заўтра. У кватэры заўсёды чыста і ўтульна.

Але гэта я ўжо пачынаю хваліць сябе. Канешне ж, недахопаў хапае. Таму я ўсё жыццё займаюся самавыхаваннем. І тое-сёе мне ўдаецца. Я раблюся ўсё лепшай і лепшай *(весела смяецца)*.

Часам, я чую, кажуць: хачу быць самім сабой. Але ж самім сабой можна быць дома, на сваёй кухні. А калі ты знаходзішся ў калектыве, у грамадстве, то павінен імкнуцца быць лепшым, чым на самай справе. Таму свае недахопы я стараюся не паказваць, імкнуся праяўляць свае лепшыя якасці.

**— Наталля Віктараўна, вы неяк сказалі, што спеваку трэба мець добрае здароўе. Вы пра сваё здароўе як клапоціцеся?**

— Спецыяльна гэтым не займаюся. Я на сваім здароўі ніколі не зацыклівалася. Усё сваё свядомае жыццё жыла па сістэме Амосава. Забалела нешта — хай пабаліць дзень, другі, нават тыдзень, не звяртаю ўвагі. Вось калі ўжо боль не суцішаецца і праз два тыдні, тады іду да ўрача. Не хапаюся пры першых нейкіх сімптомах за таблеткі. І гэта, на мой погляд, правільна. Вось у мяне летась балела плячо. Я ўпала прама на сцэне, і ўпала няўдачна. Рэнтгенаўскі здымак, праўда, паказаў, што ні пералому, ні трэшчыны няма. Зрабілі ўкол, а плячо ўсё баліць і баліць. Але я не стала мітусіцца, цярпела. Мінуў год — і ўсё цяпер нармальна. Прайшло само па сабе…

Ці вось нядаўна забалеў тазасцегнавы сустаў. Я яго стала ласкава ўгаворваць: «Ну, што ж ты, мой харошы? Яшчэ ранавата табе расклейвацца, ранавата. Пачакай крыху… Я ж тваражок ем кожны дзень? Ем. Значыць, усё павінна быць у парадку». І праўда, мінуў тыдзень, другі — і боль прайшоў.

Гэта — мой прынцып. Баліць — пройдзе. Арганізм сам здольны спраўляцца са сваімі збоямі. Яму толькі часам трэба крыху памагчы.

Канешне, запускаць хваробу нявარта. Калі, не дай бог, нешта сур’ёзнае, то без урачоў, без медыцынскай дапамогі не абысціся.

Што тычыцца нейкіх штодзённых працэдур — ранішняй зарадкі, аблівання халоднай вадой, заняткаў фітнесам, — то я гэтага ніколі не рабіла і не раблю. У мяне на гэта не хапае часу. Я з задавальненнем хадзіла б у басейн, але туды набіваецца столькі людзей, што плаваць у такіх умовах проста непрыемна.

Раней я адводзіла душу ў санаторыях — плавала ў моры колькі хацела. Прыязджала заўсёды загарэлая, фізічна акрэплая. На жаль, такой магчымасці ў мяне цяпер няма.

А яшчэ ў мяне ёсць адзін недахоп, пра які я вам не сказала: люблю смачна паесці. Усё жыццё не магу без мяса, дамашніх піражкоў, булачак. Усё гэта ела без усякіх абмежаванняў і не папраўлялася. На рабоце ўсё згарала. Цяпер ужо так не згарае, бо і работа не той інтэнсіўнасці, і ўзрост дае пра сябе знаць. А паесці па-ранейшаму люблю. Калі я позна вечарам прыйду дадому і не паем, то не магу заснуць. І гэта, напэўна, для здароўя не вельмі добра. Аднак ніякіх дыет не прытрымліваюся.

**— Як я зразумеў, адпачываць па-сапраўднаму вам удаецца толькі падчас водпуску.**

— Цяпер і падчас водпуску не ўдаецца. Я нават не магу выехаць за горад, пакінуць свякруху адну. Увесь мой адпачынак — тэлевізар.

**— Акрамя тэлевізара, пачытаць знаходзіце час?**

— Чытаю ў асноўным газеты. Выпісваю «Аргументы і факты», «Камсамолку». Люблю мемуарную літаратуру, дэтэктывы. Зараз, напрыклад, чытаю Арцёма Варгаўціка. Гэта — журналіст, піша цікавыя, як ён сам вызначае свой жанр, музычныя дэтэктывы. Гэта добрая гімнастыка для мазгоў. Часам гляджу такога плана серыялы, як, скажам, «Глухар».

**— Кажуць, жанчыне столькі гадоў, на колькі яна сябе адчувае. Бывае, і ў сорак — ужо бабуля, а бывае і ў восемдзесят — сапраўдная каралева. У вас таксама ёсць нейкі сакрэт маладосці душы. Можа, падзеліцеся?**

— Канешне, для жанчыны гэта праблема — прымірыць маладую душу з целам, якое старэе. Тут патрэбны розум, густ, пачуццё меры. Спрабую знайсці кампраміс, не ведаю толькі, наколькі гэта ў мяне на сённяшні дзень атрымліваецца.

Сакрэт жа маладосці душы вельмі просты. Гэта — цікавасць да жыцця, да работы, да людзей, да ўсяго, што цябе акружае. Стараюся жыць у гармоніі з сабою, не прычыняць нікому зла, а, наадварот, рабіць дабро. Быць з усімі прыветлівай, добразычлівай.

Але ж нельга ўвесь час жыць на адной мажорнай ноце. Часам наступае і мінор. Я, напрыклад, не люблю вясну. Яна мяне чамусьці прыгнятае, вось легла б, здаецца, і ляжала нерухома. Мне з гэтым даводзіцца змагацца. А восень, наадварот, прыносіць у маю душу супакаенне. Мне падабаецца, калі ідзе дождж — ціхі такі, без ветру. Пад яго шапаткі, аднастайны пошум лёгка думаецца, светла марыцца…

Чалавек пастаянна жыве ў чаканні. Чагосьці новага, незвычайнага. Што будзе заўтра, паслязаўтра? І не дай бог, як толькі не стане гэтага чакання, гэтага жадання, гэтай цікавасці да жыцця — лічы, што ты ўжо непапраўна састарэў. Прымітыўнае існаванне — паеў, паспаў, пaглядзеў тэлевізар — не для мяне. Я такога жыцця не хачу.

**— Наталля Віктараўна, адзін час вы займаліся педагагічнай дзейнасцю…**

— Так, мой педагагічны стаж 20 гадоў.

**— І працягваеце займацца?**

— Не, я ўжо ў акадэміі мастацтваў не выкладаю, але кансультую маладых тут, у тэатры.

**— Грамадскіх абавязкаў шмат?**

— Цяпер ужо меней. Раней я была і дэпутатам, і членам шматлікіх камісій, і яшчэ бог ведае кім… Цяпер застаюся толькі членам мастацкага савета, членам рады Саюза тэатральных дзеячаў, ну і час ад часу ўдзельнічаю ў журы міжнародных музычных конкурсаў.

**— І такое пытанне. Яно, прабачце, можа, не зусім карэктнае. Праўда, мы яго ўжо крыху закраналі. Да якога ўзросту можна выходзіць на сцэну?**

— А гэта індывідуальна. Вось, калі ласка, вядомаму расійскаму артысту Зэльдзіну 97, а ён яшчэ і спявае, і танцуе. Народны артыст СССР Аненкаў выступаў да ста гадоў і юбілей свой адзначыў на сцэне.

**— Толькі, відаць, узрост ужо дыктуе змену амплуа?**

— Ну, канешне, героя-любоўніка ў сто гадоў іграць не будзеш. А вось любую іншую ўзроставую ролю можна выконваць. Усё залежыць ад тваіх псіхафізічных даных. У оперы, вядома, гэта цяжэй, а ў аперэце — чаму ж не? Я і цяпер яшчэ магу спець «Сільву» — захавала і здароўе, і голас. Але Сільва ўжо не мая. А вось маці Эдвіна — гэта па мне. Цудоўная роля, ёсць што іграць і спяваць, і нават танцаваць. Бабулі цяпер усе мае!.. *(Гарэзліва смяецца.)* Не хачу толькі быць бабуляй па жыцці.

Артысту, як і спартсмену, важна сысці са сцэны своечасова. Я рада, што ў свой час змагла адмовіцца ад роляў гераінь. Хаця мяне ў тэатры і адгаворвалі рабіць гэта. А Барыс Утораў нават далікатна папракнуў: «Гэта капрызы прымадонны». Я тады сказала яму, што справа зусім не ў капрызах. Па-першае, мне ўжо нецікава іграць першае каханне. А па-другое, узрост ёсць узрост. Не хачу, каб нехта сказаў: «Ой, не трэба ёй ужо іграць гераінь». Для гэтага ёсць маладзейшыя актрысы…

Словам, паслухалася я сваёй інтуіцыі, свайго чуцця — і не шкадую. Мой пераход на новае амплуа — жанчына без узросту — адбыўся лёгка, арганічна, своечасова. Я ж усё роўна занятая ў галоўных ролях, але яны цалкам адпавядаюць майму ўзросту. Дарэчы, я з задавальненнем удзельнічаю ў дзіцячых спектаклях. Іграю, напрыклад, ролю чарапахі Тарцілы. Вы ведаеце, як выдатна рэагуюць дзеці на кожны нюанс маёй партыі. Бачыць іх радасныя твары, іх зіхоткія вачаняты — гэта ж сапраўднае шчасце.

**— Наталля Віктараўна, вы — шчаслівы чалавек?**

— Безумоўна. Я адбылася як актрыса. Займаюся любімай справай. У мяне добрая сям’я. Пашанцавала на мужа, які аказаўся не толькі таленавітым спеваком (Юрый Бастрыкаў доўгі час працаваў вядучым салістам нашага試 опернага тэатра, меў званне народнага артыста Беларусі), але і выдатным сем’янінам. На жаль, без пары пайшоў з жыцця. Дзесяць гадоў мужна змагаўся з цяжкою хваробай, і ўсё ж яна яго перамагла.

Дачка Насця скончыла педагагічны інстытут, нейкі час працавала ў школе, у гімназіі, а пасля таго як атрымала другую спецыяльнасць — культуролаг, — выкладае ў Інстытуце кіравання і прадпрымальніцтва. З музыкай звязваць свой лёс не захацела, хаця яна надзвычай музычна адораны чалавек. І наогул у яе залатыя рукі. Выдатна гатуе, вяжа, шые…

У мяне ўжо дарослая ўнучка, Арышка. Яна скончыла школу алімпійскага рэзерву, займалася таэквандо, мае чорны пояс, майстар спорту, сярэбраны прызёр чэмпіяната свету. Але працягваць займацца спортам не стала. Паступіла ў Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, на факультэт менеджменту. Выйшла замуж.

Данілка, мой меншанькі ўнучак, яму пайшоў толькі шосты гадок, пакуль што з намі. Рыхтуецца да школы. Харошы хлопчык, жывы, рухавы.

**— І апошняе пытанне. У чым, на ваш погляд, сэнс жыцця?**

— Бог падарыў чалавеку найвялікшую каштоўнасць — жыццё. Наша ж задача і галоўны сэнс нашага існавання, як мне здаецца, у тым, каб адведзены нам час выкарыстаць з максімальнай карысцю. Паспець зрабіць галоўнае. Вобразна кажучы, пасадзіць дрэва, пабудаваць дом і выхаваць сына.

Артыстам у гэтым сэнсе пашанцавала — мы пражываем на сцэне шмат розных жыццяў. Гэта, праўда, часам бывае складана, патрабуе шмат нерваў, сілы. Але без гэтага жыццё праходзіла б марна і сумна.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

# КАРАТКЕВІЧ І С. М.: ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ

***Асоба дзяўчыны з ініцыяламі С. М., якую кахаў Уладзімір Караткевіч падчас навучання ў Кіеўскім універсітэце, стала цэнтральнай у маіх даследаваннях, у тым ліку на старонках маёй кнігі «Донжуанскі спіс Караткевіча». Сітуацыю змяніў выхад першага тома новага збору твораў пісьменніка, падрыхтаваны руплівым даследчыкам Анатолем Вераб'ём. Дзякуючы яму чытач змог пазнаёміцца з больш чым паўсотняй раней невядомых тэкстаў класіка беларускай літаратуры. Яны дазволілі раскрыць некаторыя «белыя плямы» ў біяграфіі дзяўчыны і больш поўна распавесці гісторыю яе ўзаемаадносін з Караткевічам. Прапанаваны чытачам артыкул фактычна з'яўляецца ў нечым працягам, а ў нечым новай рэдакцыяй адпаведнага раздзела кнігі.***

## Знаёмства

Калі адбылося знаёмства Караткевіча з С. М.? На гэта пытанне нам дапаможа адказаць яго творчасць. У маленькай паэме «Ліста нямае» сцвярджаецца: *«Пачалося раней, нават з першага курса, // Калі квецень майскія ранялі плады».* Заўважу, што Уладзімір паступіў у ВНУ у 1949 годзе. Адпаведна, гаворка ідзе пра май 1950 года.

Як выглядала дзяўчына? Паводле паэмы, яна была брунеткай (*«у бліскучых чорных яе валасах»*). У аповесці «У снягах драмае вясна» Алёнка, чыім прататыпам стала С. М., выглядае наступным чынам: з *«пушыстымі валасамі над чыстым ілбом, міндалевіднымі сінімі вачыма, маленькім прамым носам, трошкі велікаватай ніжняй губкай, тонкай, дзіцячай яшчэ шыяй*; з *«агульным выразам чагосьці дзіцячага, нясмелага і, разам з тым, хітрага».* Тое, што С. М. была *«сінявокай»*, узгадваецца ў вершы «Недасланы ліст».

Пэўны час Караткевіч і С. М. былі толькі сябрамі.

Я і думаць не мог назваць яе другам,
Толькі песняй таемнай часам звінеў,
Але я зрабіў ёй аднойчы паслугу,
І яна палічыла другам мяне.

(«Ліста нямае»)

«*Она была моим хорошим другом»,* — сцвярджаў Караткевіч у лісце да свайго сябра Юрыя Гальперына (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4). Дзякуючы гэтаму ён атрымаў магчымасць бываць у яе ў гасцях.

Хутчэй за ўсё, С. М. была нейкім чынам звязана з музыкай. На карысць гэтага сведчыць некалькі аргументаў. У «Снягах драмае вясна» Алёнка сур'ёзна займалася музыкай у кансерваторыі. Музычныя вобразы і асацыяцыі настойліва паўтараюцца ў вершах Караткевіча. Напрыклад, у «Зімняй элегіі»:

Але затое так яскрава бачу:
Пакой, Чайкоўскі хмуры на сцяне,
Раяль пра нешта дарагое плача
І прывіды каштанаў у акне.

У той час дзяўчына і хлопец часта сустракаліся. Іх адносіны працягвалі заставацца сяброўскімі (*«о моем отношении к ней она не знала, в лучшем случае могла догадываться»,* — пісаў Караткевіч Гальперыну (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8 адв.). На падарожжы і вандроўкі, як разам з сябрамі, так і ўдваіх, звяртаецца ўвага ў аповесці «У снягах драмае вясна». Зразумела, неабходна ўлічваць, што пэўныя эпізоды маглі стаць вынікам мастацкай фантазіі аўтара. У любым выпадку, адсылаю цікаўных чытачоў да твора.

## Разрыў

Праілюструем сітуацыю, якая прывяла да разрыву ва ўзаемаадносінах, праз лісты Караткевіча да Ю. Гальперына. Паводле іх, прычын было некалькі. Па-першае, адмоўнае стаўленне да будучага пісьменніка маці дзяўчыны. *«Мать у нее строгая была, хотела для единственной дочери самого лучшего, будь я аспирантом — и разговору бы не было бы»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4).

У творы «Горкія напевы», што датуецца 1955—1956 гадамі, Караткевіч намаляваў карціну вельмі правільнай і нават мяшчанскай сям'і:

Ты жыла ў такім прыстойным доме,
Што ад «тону» млосна ўсім было.
Канарэйкі вывяліся з моды,
Але ўсё адно ў такіх дамах
«Стыль» пануе ўладна над «прыродай»,
А жывое выклікае жах.
Праўда ёсць і новых густаў слова:
Як бажок, як палкая любоў,
Над раялем хмурыцца Бетховен (…).
Граюць «Лунную» з адметным смакам,
Граюць так, што я, каб быў сабакам,
Пысу ўзвёў да люстры і завыў. (…).
Шкляначкі, імбрычкі — не адбіцца.
І варэннем сталі б частаваць.
Радзілі б з начальствам не сварыцца,
Не кахаць, не біцца, не палаць. (…)
Жывяце як крот які падземны,
Працы ўнікаеце і мар.
І сучаснасць вам не гул паэмы,
А сухі і нудны цыркуляр.

Другой прычынай, якая вынікала з першай, стала тая акалічнасць, што Караткевіч сапсаваў свае адносіны з начальствам і не меў вялікіх кар'ерных перспектыў. *«А я обострил со всеми отношения, высек стихами многих начальников из университета. Я не жалею, но не стоили они такой моей жертвы».* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4). У паэме «Ліста нямае» Караткевіч прызнаваўся: *«Юрысты, я вас не любіў ніколі, (…). // Яна памятае, як вершам вольным // Я жартам іх абсмяяў калісь».* Далей ў паэме прыводзіцца сам жарт (магчыма, ён сапраўды меў месца). Напрыклад, у ёй сустракаюцца наступныя радкі:

А ён табе: «Дык па сто другой
Вас, значыцца, і запрыходуем».
І пойдзеш ты на турэмныя сходы,
Быццам ты не Валодзя зусім, а злодзей.

Не цяжка ўявіць, якую рэакцыю маглі выклікаць такія радкі ў правільнай савецкай сям'і, ды яшчэ ў сталінскія часы.

Па-трэцяе, паміж Уладзімірам і С. М. адбылася сварка. У паэме «Ліста нямае» яна апісана наступным чынам:

Сябра быў у мяне, прыгожы, вясёлы, (…),
Трохі з'ездлівы, праўда, — французскай школы, (…)
У яго між зубоў варушылася джала,
Што зрабіла б гонар і сатане:
Быў паклёп, як хуткі ўдар кінжала,
Быў паклёп як атрута ў добрым віне.
Я даведаўся, быццам «э-э… нейкая пара…»,
Быццам «э-э... насіць табе ў сэрцы рубец».
О каханая, нельга сказаць і зараз,
Што за бруд яны шпурнулі ў цябе:
Мы б, вядома, і самі ва ўсім разабраліся,
Але гэтыя людзі з ходу ў галоп
І пра мяне бессаромна сказалі,
Быццам я навёў на цябе паклёп,
А пасля сказалі, што друг мой любы
Атрымаў на гэтым нейкі барыш.
І адзін аднаму мы набілі зубы,
І на нашай дружбе паставілі крыж.
А каханай, шчасцю майму і гору,
Ў сэрцы раптам адчуўшы жорсткасці лёд,
Я сказаў такое, што нават сорам
І прыпомніць гэта праз некалькі год.

У лісце да Гальперына Караткевіч пісаў: *«А тут ещё помог друг и догадался пустить между нами черную кошку. И была обидчивость, и была космическая, невероятная, страшная глупость. Почему не остался, почему не убедил, почему? Ждал все, вот явлюсь и брошу книгу»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4 адв.). А вось інфармацыя ў другім лісце: *«Это была короткая история: кончилась тем, что нам насплетничали один на одного, было много неприятного, трагического. Ей было тем легче отвернуться от меня, что о моем отношении к ней она не знала, в лучшем случае могла догадываться»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8 адв.).

У вершы «Юнацтва маё», што быў змешчаны ў кнізе «Быў. Ёсць. Буду», Караткевіч пісаў:

І развёў нас не леў і не востры кінжал,
Не вакзалаў далёкіх агні,
А гады пакут і няшчырых пахвал,
Даносаў і брыдкай хлусні.
І ведаў паклёп, як сэрца крануць,
І нас аддзяліў сцяной,
І паверыла ты, і змяніла вясну
На шаўкі, што знасіла даўно.

У аповесці «У снягах драмае вясна» супраць Уладзіслава Берасневіча (чыім прататыпам з'яўляецца Уладзімір Караткевіч) наладжваецца паказальны працэс з традыцыйнымі для таго часу абвінавачваннямі (дзеянне адбываецца ў 1952 годзе). У апавяданні «Ідылія ў духу Вато», дзеянне якога адбываецца ў 1951 годзе, гераіня праз гады прызнаецца герою: *«Я даведалася, што яны ўзвялі на цябе паклёп, што гэта яны выжылі цябе з універсітэта. (…) Гэта была вялізная подласць: наклеіць на цябе, такога добрага да людзей, той паршывы ярлык. Але ж ты памятаеш, які быў час? І я адхіснулася ад цябе, паверыла».*

У даследчыкаў пакуль адсутнічае інфармацыя пра такія падзеі. Не сустракаюцца яны і ў нешматлікіх успамінах кіеўскіх сяброў і знаёмых Караткевіча.

Неабходна ўлічваць, што Уладзімір паспяхова закончыў універсітэт у 1954-м. Магчыма, менавіта ў 1952-м адбылася сварка. На карысць такой версіі сведчыць радок з маленькай паэмы «Ліста няма»: *«Пяць вялізных гадоў над зямлёю сплыло»*. Калі ўлічваць, што паэма была скончана ў 1957 годзе, разрыў мог сапраўды адбыцца ў 1952-м. Акрамя таго, якраз у 1952-м дзеянне аповесці «У снягах драмае вясна», у якой пачынаецца *«ў канцы лютага тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят другога года»*.

Магчыма, Караткевіч вырашыў узмацніць канфлікт і дадаць да яго грамадзянскія праблемы. Зрэшты, гэтае пытанне яшчэ патрабуе свайго вырашэння.

## Пасля ўніверсітэта

А ў 1954-м Караткевіч закончыў Кіеўскі ўніверсітэт і з’ехаў працаваць настаўнікам у вёску Лесавічы Таращанскага раёна Кіеўскай вобласці. А. Верабей адносіць да гэтага года рускамоўны верш «Я молчу. Давным-давно забыл я…». У творы ёсць наступныя радкі:

Вон он поезд, в дымке исчезает…
От души твоей меня увёз. (…)
Расставанье будет не весёлым
Встреча вряд ли будет веселей…
Впереди ж пока родные сёла
И печаль великая полей.

Апошняя цытата, хутчэй за ўсё, сведчыць пра наведванне Уладзімірам Оршы пасля заканчэння вуза і перад ад’ездам у вёску. Увесь гэты час Караткевіч думае пра С. М. і піша дзеля яе. Верш «Матчына душа», які даў назву першай кнізе паэта, відаць, пачаў пісацца летам 1954 года. Бо менавіта гэтым часам датуецца аўтограф на рускай мове «Ты теперь у теплого моря» с прысвячэннем «С. М.-к.» (датаваны 18 ліпеня 1954 года). Вядомы і больш позні беларускамоўны аўтограф пад назвай «Прадмова да песні» і з пазнакай «Прысвячаю С. М.», які А. Верабей датуе канцом верасня — снежнем 1955 года. Малады пісьменнік спадзяваўся скарыць сэрца дзяўчыны сваёй першай кнігай: *«Почему не остался, почему не убедил, почему? Ждал всё, вот явлюсь и брошу книгу»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4 адв.).

Разважаючы пра гісторыі свайго кахання, Караткевіч пісаў 7 студзеня 1955 года ў лісце да Гальперына: *«э да ладно, чего толковать»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 11. Л. 6 адв.). Такая ацэнка прынцыповая, бо ў іншых лістах будучы пісьменнік быў шчыры з сябрам і дзяліўся з ім сваімі сардэчнымі справамі. Таму, хутчэй за ўсё, у той час Уладзімір яшчэ не меў ніякай пэўнай інфармацыі пра С. М.

У любым выпадку, паміж хлопцам і дзяўчынай каменным мурам стаялі былыя сваркі. У вершы «Иней» Караткевіч пісаў:

Я вдогонку песню посылаю,
Может, хоть она догонит нас.
Может, догоняя, поцелует
Губ тепло, ресницы, холод век,
Всю тебя, извечно дорогую,
Но потерянную мной на век.

Здавалася, усё скончана.

## Новая сустрэча

Нечакана ва Уладзіміра і С. М. з'явіўся шанец усё пачаць з пачатку. У паэме «Ліста нямае» Караткевіча пісаў:

Праляцелі гады, ад яе нечакана
Прыляцела пісьмо праз асенні туман,
І я адказаў, і заззяла світанне,
І чакаю,
Тры тыдні чакаю пісьма.

У вершы «Размова з Кіева-Пячэрскім сланом», змешчаным ў зборніку «Матчына душа», лірычны герой радасна паведамляе слану, сімвалу кіеўскага жыцця: *«мне яна напісала ліст. // У сэрцы зноўку парасткі даўніх надзей»*.

Зборнік быў выдадзены ў 1958 годзе. Відавочна, што ліст быў атрыманы за год ці два да таго. Чым не сувязь з узгаданымі падзеямі? Можа, яны і сталі эмацыйным штуршком для напісання апошніх, аптымістычных раздзелаў аповесці «У снягах драмае вясна»? Твор быў завершаны якраз у той час, у ноч на 28 мая 1957 года. Нагадаю, што, паводле сюжэта, галоўныя героі твора, Берасневіч і Алёнка, сустракаюцца праз гады. Яны разумеюць, што іх каханне не згасла, і дамаўляюцца сустрэцца зноў, каб, магчыма, не развітвацца ўжо ніколі.

Што адбывалася ў рэчаіснасці? У лісце, напісаным Ю. Гальперыну ў пачатку 1957 года (падрабязней пра дату гл. ніжэй), Караткевіча пісаў: *«Недавно мы снова начали переписываться. Потом, при встрече я убедился, что она меня любит»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв). Магчыма, узнаўленне перапіскі адбылося восенню, у верасні або ў кастрычніку 1956 года. Бо 10 лістападам 1956 года датаваны верш «Ліст дзяўчыны». Гаворка ідзе ад жаночага імя:

Восень.
Пустыя дачы. (…)
Я вінаватая, знаю.
Я выпраўлю ўсё сама.
Усе паехалі. Я чакаю,
А цябе ўсё няма і няма.
Як мне цяжка дадому вяртацца
Й кожны дзень на грошы краіць.
Ты мне праўду казаў, прызнацца,
Я чужая стала ў сям'і. (…)
Іншы,
Не той, што ўлетку,
Чакае цябе адказ.
Я веру,
На мокрых палетках
Шчасце чакае нас. (…)
Толькі не кінь мяне,
Любы,
Толькі ты берагі!

Працягнем цытаванне ліста да Гальперына: «*Потом, при встрече я убедился, что она меня любит. А я, как дурень какой-то, не мог разобраться в своих чувствах к ней. То временами оживало на душе старое, потом вдруг приходило охлаждение, смешанное с чувством старой обиды. И это при самом теплом, самом дружеском отношении к ней как к человеку. К тому же примешивалось сознание, что я с низов лестницы, а она с верхов, что мне еще пробиваться и пробиваться к тому моменту, когда я смогу спокойно писать, не заниматься другой работой»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.).

І, нарэшце, самая прынцыповая цытата з ліста: *«Была и ещё одна причина, вследствие которой я молчал: ужасно угнетенное состояние. Ты знаешь,*

*гораздо легче получить отставку от девушки, чем дать её самому. Получить отставку в сравнении со вторым прямо радость, особенно для поэта. Из этого терзания душевного рождаются лучшие вещи. А вот когда наоборот получается, это до такой степени гадко, что страх один».* І ніжэй: *«Какое я имею моральное право сказать ей “да”, если сам еще не знаю, “да” или “нет” и, скорее всего, “нет”? Скверно, брат, и гадко на душе, очень гадко, тем более что чувствую, могу испортить ей жизнь»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.).

Дакладнай даты, калі быў напісаны ліст, няма. На першы погляд, на ім пазначаны час: «люты 1957 года». Акрамя таго, у фондзе ён размешчаны пасля лістоў ад 5 і 23 лютага. Але, на маю думку, пры датаванні кімсьці была зроблена памылка. Магчыма, дату няправільна паставіў Ю. Гальперын ці яго сваякі. У выніку лісты трапілі ў БелДАМЛМ у такой паслядоўнасці.

Чаму я выказваю такую версію? Як сцвярджалася вышэй, ліставанне паміж С. М. і Караткевічам аднавілася восенню (у кастрычніку ці ў лістападзе) 1956 года. У лісце да Гальперына сцвярджаецца: *«Недавно мы снова начали переписываться».* Заўважу, з тых падзей прайшло дастаткова часу. Уладзімір рэгулярна паведамляў сябру пра падзеі з уласнага жыцця. Акрамя таго, ліст адлюстроўвае сітуацыю пачатку 1957 года, калі Караткевіч яшчэ знаходзіўся на раздарожжы. Менавіта таму дакумент можна датаваць студзенем 1957 года. У наступным месяцы адбылася падзея, пасля якой разважанні Уладзіміра сталі бессэнсоўнымі.

## Расстанне

Нечакана Караткевіч даведаўся сапраўды шакіруючую навіну. 5 лютага 1957 года ён пісаў Гальперыну: *«И вот сегодня получаю письмо от ее подруги и там “узаконили свои взаимоотношения С. М. (это она) и Миша”»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 4 адв.). Зноў-такі, у папярэднім лісце Караткевіч разважае пра магчымасць адказаць «так» ці «не». Пасля шлюбу гэта ўжо неактуальна.

Наогул, сітуацыя з вяселлем не такая адназначная, як здавалася. У двух празаічных творах сцвярджаецца цалкам адваротнае. У апавяданні «Ідылія ў духу Вато»:

*— Ты развялася?*

*— З кім?*

*— З Барысам.*

*— Каб развесціся, трэба спачатку выйсці замуж, — сказала яна.*

А ў аповесці «У снягах драмае вясна» мы прачытаем нешта падобнае:

*— Справа ў тым, што ты недачуў… Я не замужам… І, напэўна, ніколі не буду.*

Але пра факт шлюбу сцвярджаецца ў вершы «Калі ў жамчужніцу пылінка трапіць…» (поўную цытату гл. ніжэй), у якім сустракаюцца наступныя радкі:

Але развеяў шчасце, нібы дым,
Лісток, напісаны рукой чужою:
Ты замужам,
ты знікла,
ты з чужым.

Хутчэй за ўсё, шлюб сапраўды меў месца. Што тычыцца празаічных твораў, магчымы два варыянты: або запэўніванні С. М. у штучнасці ці несапраўднасці шлюбу, або імкненне творцы пераканаць самога сябе ў свабодзе дзяўчыны.

Апошнія надзеі, якія маглі быць у пісьменніка, зніклі. *«И всё же, я почему-то не верю»*, — напісаў ён Гальперыну 23 лютага (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 7). Да гэтага ліста быў прыкладзены верш «Калі ў жамчужніцу пылінка трапіць…», напісаны 13 лютага і прысвечаны С. М.:

Няўжо былі вы:
Пушча над азёрамі,
Асенні холад, здзірванелы шлях,
Два небы, дзве маленькіх карты зорных,
Што ззялі блізка ў дарагіх вачах.
Але развеяў шчасце, нібы дым,
Лісток, напісаны рукой чужою:
Ты замужам,
ты знікла,
ты з чужым.

Сітуацыя атрымалася вельмі двухсэнсоўнай. З аднаго боку, дзяўчына з восені лістувалася з Уладзімірам. Прычым можна меркаваць, што гаворка ішла пра магчымасць будучага шчасця. З другога боку, ліст з інфармацыяй пра вяселле. Цяжка сказаць, хто быў яго ініцыятарам. Хутчэй за ўсё, сама С. М., якой не ставала смеласці на прызнанне. Фраза *«ты знікла»* магла азначаць, што С. М. і Міша з'ехалі ў іншы горад. Тым больш, дзяўчына і Караткевіч наўрад ці афішыравалі свае адносіны, таму пра іх ліставанне ніхто не ведаў. А адрас Уладзіміра мог быць толькі ў дзяўчыны.

## Доўгае рэха…

Што было рабіць Караткевічу? Недвухсэнсоўны адказ гучыць у вершы «Недасланы ліст»:

Што рабіць, як кахаеш замужнюю, —
Не адкажа і Саламон. (…)
Ён, напэўна, харошы хлопец,
Але хай нават дрэнны…
Ён твой.
Бык не ўкрадзе новай Еўропы,
Здохне лепей на лузе з травой.
І нямае ў маім законе
Слоў такіх, каб дазволіць маглі (…)
Заплаціць смяротная абразай
Самай лепшай з зямных кабет.

Згадкі пра былое каханне пэўны час сустракаліся ў паэзіі Караткевіча. Напрыклад, 26 верасня 1957 года ў вершы «Каханне і камендант» ён элегічна ўзгадвае сваё мінулае:

У студэнты мяне запішыце,
Дайце тэрмін, дакуль дагуляць,
І каханую тую вярніце,
Ад якой не хацелася спаць.
І няхай хоць да самай смерці
Будзе рына мне на дазвол,
Каб вярнулі знову ў сэрца
І каханне старое, і боль.

Праз некалькі дзён, 29 верасня, Караткевіч піша адразу два вершы. Першы з іх, які мае назву «Песня», надзвычай цікавы. Гаворка ў ім, як і ў «Лісце дзяўчыны», вядзецца ад імя ўкраінскай дзяўчыны (*«на Украіне хлопец чакае»*), якая сумуе па беларускаму хлопцу (*«З ніў беларускіх // Хлопец бялявы»*):

Колькі начэй
Вы ў садочку не спалі? Колькі вачэй
На Вас пазіралі?
Што гаварылі
Суседкі на вуха,
Што маці сварылася — хто яе слухаў?

Аднак мяркую, што Караткевіч, хутчэй за ўсё, напісаў верш для таго, каб пераканаць сябе:

Скажыце хлопцу
У далёкім краі,
Што я вінавата,
Што я чакаю.

Бо ў другім вершы ўсё, на жаль, зноў устае на свае месцы:

Я кахаю цябе, кахаю,
Як у тыя далёкія дні,
Калі ночы светлага мая
На зямлю насылалі сны.
Я кахаю цябе, кахаю,
Як у той развітальны час,
Калі дрэвы даждлівага мая
Злівай слёз праводзілі нас.

Мажліва, апошнія радкі ўказваюць на час апошняй сустрэчы Караткевіча і С. М.

Магчыма, пра гэту гісторыю расказваецца ў вершы «Ураган», які, на думку А. Вераб’я, датуецца 1959 годам:

Хто нас з табой развёў з табой, мая каханка.
Прымусіў нашу песню адзвінець?.. (…)
О, як тады мы горка пашкадуем,
Што горда йшлі на спрэчак злы падман,
Што воклічаў не чулі ў поўнач тую,
Як катаваў яліны ўраган.

У красавіку 1959 года быў надрукаваны верш Караткевіча «Было юнацтва», які, на маю думку, прысвечаны С. М.:

Я зноўку засумую
Па дарагой дзяўчыне,
Халоднай, як лілея,
Што дрэмле на вадзе.
Блакітная і белая,
Жамчужная, ружовая,
Ўсю цеплыню хавае
У самай глыбіні.
Пакут маіх не бачыць,
Майго не чуе слова,
Каханне зневажае
І пра каханне сніць.
(…)
Далёкая, маўклівая,
Халодная і чыстая —
Зусім яна не думае
Што мне балюча жыць.

Нарэшце, апошнія спробы аднавіць былыя ўзаемаадносіны маглі адбыцца ў 1962 годзе. У маі гэтага года Караткевіч напісаў верш «Мёртвае рэчышча»:

Мне сказалі: мяне ты шукаеш,
Зноў шукаеш — пасля ўсяго, —
Плынь рачная, калісьці жывая,
Што пазбылася ложа свайго.
Усё дарэмна: пратокі-песні
Абмялелі пад рэзкай травой.
Я не Лазар, я не ўваскрэсну,
Нават голас пачуўшы твой.
Ні твой заклік, калісьці любы,
Ні пяшчотны дотык рукі,
Ні ад смагі пасохлыя губы
Не абудзяць вялікай ракі.

Як жа ацэньваў ролю С. М. у сваім лёсе сам пісьменнік? 23 лютага 1957 года Уладзімір пісаў Ю. Гальперыну: *«Я всё же благословляю эту вздорную и, возможно, чужую мне по взглядам девочку. Что в нас было двоих такое, что редко светит друг другу в мужчине и женщине. Ну ты сам понимаешь, мог бы я на Марсе, она в XIII веке. Нет, встретились; оказывается, встретиться это ещё не все»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 7).

Караткевіч усё жыццё памятаў С. М., думаў пра яе і звяртаўся да яе асобы ў сваёй творчасці. На старонках «Донжуанскага спісу…» вялася падрабязная гаворка пра канкрэтныя ўплывы дзяўчыны на тыя ці іншыя вобразы ў яго творчасці. Таму адсылаю цікаўнага чытача да сваёй кнігі.

Дазволю сабе толькі адно дапаўненне. Бадай, усе жанчыны, якімі захапляўся Уладзімір Сямёнавіч, па-свойму паўплывалі на яго лёс. Але менавіта С. М. і Ніна Молева найбольш змянілі пісьменніка. У выніку іх уплыву ён стаў іншым чалавекам. Інакш кажучы, без іх Караткевіч ніколі б не стаў Караткевічам.

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ПА ВЫСОКАЙ МЕРЦЫ

У многіх сучасных паэтаў, а тым больш у класікаў, ёсць радкі і строфы, у якіх настолькі ёміста сканцэнтравана і сфакусіравана глыбокая думка, што яна як бы вызначае сутнасць іх творчасці і магла б стаць своеасаблівым да яе эпіграфам. У Я. Купалы гэта: «Я — мужык-беларус, Пан сахі і касы», — у Я. Коласа — «Мой родны кут! Як ты мне мілы. Забыць цябе не маю сілы», у П. Панчанкі — «Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая!», у А. Пысіна — «Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта». Ёсць такія радкі і ў Сцяпана Гаўрусёва: «Я вырас пад гарматнымі стваламі, я мераў час секундай, а не днём, я вызначаў свой рост не пад сталамі — пад расчахлёнай пашчай, пад агнём». І па сённяшніх мерках — добротная, моцна сшытая і па-майстэрску падкутая традыцыйна-хрэстэматыйнай рыфмай страфа, у якой маецца аўтабіяграфічная канкрэтыка з запамінальнымі атрыбутамі, што ўводзяць нас у свет маленства паэта, сведчаць пра тое, чым багата яго памяць і які жыццёвы вопыт назапасіў за плячыма. Ці трэба лішне гаварыць пра філігранную гравіроўку і інструментоўку радкоў, на што ён быў адменны майстар, іх адпаведнасць аўтабіяграфічнай праўдзе, дакладнасці кожнага слова і вобраза, высокую культуру пісьма. Нельга не зазначыць, што гэта шчырае прызнанне стане для далейшай творчасці аўтара своеасаблівым маніфестам і падмуркам, на якім будуць грунтавацца яго паэтычныя пошукі і адкрыцці. Ён пачне больш актыўна асвойваць, пашыраць і паглыбляць ваенную тэму, гаварыць пра тое страшнае і жахлівае, што давялося пабачыць на свае вочы, а іменна, як пачыналася вайна і як вымушаны былі адступаць нашы байцы. Ён не толькі будзе ўзнаўляць той трагічны для байцоў Чырвонай Арміі час у вершах, але і згадваць у вузкім коле сяброў пра асобныя жахліва-гераічныя эпізоды вайны, калі, напрыклад, маладзенькі чырвонаармеец, вырываючыся з акружэння, дабег з-пад Магілёва да вёскі, дзе жыў будучы паэт, без абцаса ў салдацкім чаравіку і… без уласнай пяты. Хіба на пустым месцы маглі з'явіцца вось такія пранікнёныя па эмацыянальнай пранізлівасці і сэнсавай напоўненасці радкі: «Акружэнцу-салдату не было дваццаці. Ён саромеўся ў хату і напіцца зайсці». Не з чужых рук узяты і наступныя штрыхі, якія так многа гавораць пра тое, што адчувалі жыхары вёскі, становячыся міжвольнымі сведкамі адступлення нашай арміі: «Да яго, як да бога, — і малы і стары». Чытачы разумеюць, якога ліха паспытаў баец і чаму, праганяючы смагу, «З цяжкога каўша ён па праву салдата п'е — святая душа». На першы погляд, усё, здаецца, ідзе добра. Фронт, па ўсім відаць, недзе далёка ад вёскі і акружэнцу нічога не пагражае. Але лірычныя героі вершаў С. Гаўрусёва — людзі з гарачай душой, адданыя Радзіме і воінскаму абавязку. Яны не могуць адседжвацца ў зацішку. І як не балюча аўтару, ён прадбачыць трагічны лёс байца: «Хоць адсюль апраметнай не відно, не чутно — у той конаўцы меднай ды свінцовае дно». Прыведзеныя прыклады сведчаць не толькі пра аўтарскае імкненне гаварыць сцісла і шматзначна, але яшчэ і пра пахвальнае і рэдкае ўменне аб самым балючым і драматычным сказаць далікатна і інтэлігентна, не ўтойваючы пры гэтым праўды, якой бы яна ні была суровай і горкай. Не забывае паэт і пра ашчаднасць і эканомнасць у выкарыстанні мастацкіх сродкаў. З двух апошніх радкоў кароценькага верша, дзе гаворыцца пра лёс акружэнца-салдата: «У той конаўцы меднай ды свінцовае дно», — вынікае, што яго чакае трагічны канец.

І хоць тэма вайны стане пачэснай і ледзь не дамінуючай у паэзіі С. Гаўрусёва, ён не цураўся сучаснага жыцця, той інтрыгуючай і вабнай паўсядзённасці, якая хвалюе і прыцягвае ўвагу кожнага сапраўднага мастака. Паэт і пачынаў свой творчы шлях з вершаў, прысвечаных з'явам і атрыбутам, якія ўзнікалі ці праходзілі перад яго вачамі і, стаўшы мастацкімі дэталямі, клаліся ў радкі. І хаця радкі гэтыя былі па першым часе нязграбныя, тым не менш у іх там-сям прасвечваліся паэтычныя залацінкі, як і ў вершы пра клён, якім, магчыма, дэбютаваў пачынаючы паэт. Канечне, заснаваны і сатканы ён проста, без таго майстэрства і вопыту, які прыйдзе да паэта пазней. Але ўжо ў ім прысутнічае вобразнасць, і гэта ў тыя гады, калі метафарычнасць, як прызнаваўся знаўца паэтычнага слова А. Вялюгін, не толькі не заахвочвалася, а лічылася заганай і нават у нейкай ступені крамолай. Што да верша С. Гаўрусёва, то ён паспрабаваў выкарыстаць даволі ёмістую метафару. Хто ведае, як бы ўспрыняла гэты твор афіцыйная крытыка, калі б у ім не ўслаўлялася адданасць Радзіме і героіка тагачасных мірных дзён. Аўтар глядзіць на клён і бачыць, як «сонца льецца з вышыні у бронзавае лісце», і яму здаецца, «што гэта ўсе медалі, што гэты клён, магутны клён сягоння з рук прыроды заварту верную сваю прымае ўзнагароды». Як бачам, паэт робіць даволі значнае абагульненне, якое на той час выглядала сур'ёзным паэтычным адкрыццём, вартым увагі і пахвалы.

Гэты верш быў напісаны ў пачатку пяцідзясятых гадоў, як нельга лепш, адпавядаў ідэалагічным запатрабаванням, што ставіліся перад тагачаснай паэзіяй, і, безумоўна, не мог застацца незаўважаным. Камсамольскую непаседлівасць з правільнай ідэалагічнай скіраванасцю паэт пацвярджаў і ў наступным вершы пра паходныя кастры — «сляды гарачай маладосці». Ён заяўляў, што «сэрцы ў маладых грудзях адным ахоплены імкненнем, каб асвятліць кастрамі шлях наступным, новым пакаленням». Гэтыя радкі прыводзяцца не для таго, каб паказаць, што пачынаючы паэт з дня нараджэння ўвабраў у сябе камсамольскі задор і неспакой і ўслаўляў іх у сваіх радках. Проста на той час так думала і паводзіла сябе ўся моладзь. І ён, вясковы юнак, трапіўшы ў Магілёўскае педвучылішча, раўняўся на сваіх равеснікаў, вучыўся ўсяму таму лепшаму, што чуў ад іх і выкладчыкаў. А бадзёрая інтанацыя вершаў, захапленне зменамі, што адбываліся на вачах у юнака, не былі той заганай, якую назавуць пасля гладкапісам і яшчэ бог ведае якімі грахамі. Пачынаючы паэт прыглядваўся да навакольнага свету, набіраўся жыццёвага і літаратурнага вопыту. І з душы выліваліся радкі таго кшталту і гучання, што стануць характэрнымі для яго паэтычнага голасу ў будучым, як вось гэтыя: «Пад старасць гукну маладосць — і ўсюды яна адгукнецца». Можна заўважыць і іншыя штрыхі і рысы, якія знойдуць працяг і ўмацуюцца ў пазнейшых творах паэта: «Так ярка неба майскае сінела, нібыта хмары не было зусім, ў ім калыханка ціхая звінела, любімы зрок свяціўся ціха ў ім».

Менавіта тады, калі паэт быў студэнтам педвучылішча, ён шмат чытаў, займаўся самаадукацыяй, спасцігаў сакрэты і таямніцы паэзіі, да многага даходзіў, дзякуючы прыроджанай дапытлівасці і інтуіцыі, пераконваўся, што мастака ў першую чаргу павінна цікавіць не тое, што ідзе на патрэбу дня і карыстаецца шырокім попытам, а агульначалавечыя каштоўнасці, якія адносяцца да вечных тэм: прыгажосць прыроды, чалавечая душа, каханне, узаемаадносіны паміж людзьмі, спагада і чуласць, ды і ці мала што іншае. Дапамагала маладому аўтару ў творчасці і само жыццё. Пасля педвучылішча неблагой школай стала для яго салдацкая служба, якую праходзіў на Далёкім Усходзе. Там, відаць, у казарме, пасля вячэрняга «адбою», і з'явіўся верш пра салдацкі танец. Уражвае ён інтанацыйнай гнуткасцю і разнастайнасцю рытмічнага малюнка, што, здаецца, з першых радкоў падхопліваюць чытачоў, нясуць у круг танцораў і прымушаюць выбіваць танец разам з усімі. А якой неверагоднай сілай і стыхіяй напоўнены радкі верша. Сапраўды, трэба было душой адчуць не толькі прыгажосць, але яшчэ і магічнае жыватворнае ўздзеянне гэтай спрадвечнай гульні-забавы танца, што бадзёрыў байцоў,

дазваляў ім паказаць сваё ўменне і спрыт. Вось як па-майстэрску перадае паэт віхуру салдацкага танца: «Хто сказаў, што нашы ногі прытаміліся з дарогі? Выйшлі ўдвух на гладкі круг — русыя, бязвусыя. Гарманіст — салдат бывалы — па басах правёў удала. Палілася, панясласся ротная, пяхотная». Своеасаблівая парная рыфмоўка радкоў, частая змена рытмікі дапамагаюць С. Гаўрусёву падкрэсліць і перадаць неўтаймаваную юнацкую энергію, бунтарства маладой душы, якое так і просіцца ды ірвецца на волю. Безумоўна, у гэтым вершы інтанацыйна адгукнуўся паэтычны вопыт Я. Купалы з яго «Вечарынкі ў калгасе», дзе маецца рэфрэн «А гармонік грае, грае». Дык вось малады паэт у чацвёртай страфе свайго верша амаль даслоўна паўтарае купалаўскі радок, праўда, крыху змяніўшы яго: «А гармонь, гармонь іграе». Аднак гэта нельга назваць перайманнем ці запазычанасцю. У тым кантэксце, у якім выкарыстаны, ён гучыць зусім самастойна і арыгінальна. У гэтым няцяжка пераканацца, прывёўшы ў якасці аргумента гаўрусёўскую страфу поўнасцю: «А гармонь, гармонь іграе, аж да сэрца прабірае — і паўроты топча боты, сцелецца мяцеліцай». Жывая размоўна-гутарковая інтанацыя, фальклорная напеўнасць, нязмушанасць гаворкі, плаўны пераход з аднаго рэгістра гучання на іншы робяць верш адным з тых, што можна смела аднесці да творчай удачы С. Гаўрусёва.

Цяжка сказаць, падчас службы ў арміі ці трошкі пазней, але яшчэ ў «гады маладога жадання» (М. Багдановіч) у паэта выявілася цяга да афарыстычных, трапных выказванняў і крылатых выразаў з філасофскім ухілам. Гэтыя якасці і знайшлі сваё адлюстраванне ў чатырохрадкоўі, якое нагадвае птушаня, што яшчэ як след не аперылася, але смела заглядвае ў паднябесныя вышыні: «Жыццё нашы словы праверыць, ці шчырая сказана праўда? Калі ў іх сягоння паверацъ — паверацъ у іх і заўтра». Няхай думка выказана неяк няўпэўнена, радкі выглядаюць крыху разбэрсанымі, у ях яшчэ няма таго напружання, якое з’явіцца ў вершах пазней, але ўжо сама спроба і жаданне выказацца ў адной страфе і як мага больш паўней нагрузіць сэнсам кожнае слова і радок заслугоўвае высокай ацэнкі і пахвалы.

За гады знаходжання ў сценах Магілёўскага педвучылішча ён не толькі авалодаў навыкамі і ведамі настаўніка пачатковай школы, але і набыў яшчэ шмат якога іншага багацця. Паэт паспяхова і плённа займаўся самаадукацыяй, знаёміўся з класічнымі набыткамі сусветнай літаратуры, зразумела, у першую чаргу з паэзіяй, і, маючы прыроджаную кемнасць і інтуіцыю, дзе свядома, а дзе і навобмацак адкрываў для сябе і спасцігаў сакрэты і таямніцы паэтычнага майстэрства, пачынаў разумець, што радкі, створаныя на злобу дня, гэта мыльныя бурбалкі, якія лопаюцца нават ад самага лёгкага павеву ветрыка. Да яго прыходзіла перакананне, што невычэрпнай скарбніцай для паэтычнай творчасці перш за ўсё з’яўляецца фальклор, з яго разнастайным багаццем, побыт, звычаі і абрады, што жылі ў вёсцы і перадаваліся з пакалення ў пакаленне, і ён шчасліва ўбіраў усё гэта ў сваю чулую і чуйную да роднай жыццёвай навізны душу. Ён даражыў усім гэтым і не расставаўся з ім нідзе, у якія б складаныя перапетыі і варункі не трапляў. Цікава, што менавіта вось гэты бок натуры і характару Сцяпана Гаўрусёва заўважыў выдатны паэт-франтавік і яго зямляк А. Пысін. У прадмове да выбраных твораў С. Гаўрусёва «Крона» ён адзначаў, што паэт «запомніўся ўражлівым, даверлівым і шчырым хлопцам, які нават за тры гады жыцця ў горадзе не пазбавіўся вясковай непасрэднасці». Гэта, канечне, уражвае. Бо хіба сакрэт, што кожны вясковы юнак ці дзяўчына, трапіўшы ў гарадское асяроддзе, стараецца як мага хутчэй расстацца з ранейшымі звычкамі, і перш-наперш з вясковай гаворкай, гэта значыць з роднай мовай, перайсці на гарадскую «трасянку», тутэйшыя словы вымаўляць па-руску. Помніцца, што сваёй вясковай непасрэднасці паэт заставаўся верны нават тады, калі пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Ён не саромеўся нават хадзіць у вясковых валёнках-катанках, як гэта рабіў іншы таленавіты паэт, дарэчы, яго аднагодак, родам з Валагодчыны, М. Рубцоў, які таксама, задзірыста і, відаць, знарочыста кідаючы выклік маскоўскай багеме, хадзіў у гэтым вясковым абутку па белакаменнай у сакавіку месяцы.

Сцяпан Гаўрусёў не толькі не расстаўся з сельскімі паводзінамі, але і ў вершах згадваў і ўслаўляў народныя звычаі і абрады, як, напрыклад, хлеб-соль, што падносяць падчас сустрэчы дарагім і чаканым гасцям. Размашыстымі і маляўнічымі фарбамі ўзнаўляе паэт карціну сустрэчы: «На ручніках, расшытых пеўнямі, хлеб-соль падносім для гасцей, вядзем за стол, каўшамі пеннымі частуем брагай пагусцей». Гэта, так сказаць, вонкавы акварэльны антураж малюнка, але ён настолькі зрокава-асязальны і прадметна-канкрэтны, нібы яго асобныя дэталі выгравіраваны на мармуры. У страфе ўзвышаны тон, урачыстая інтанацыя, фальклорныя выразы, што можна сустрэць у народных паданнях і легендах: «ручнікі, расшытыя пеўнямі», «хлеб-соль», «пенныя каўшы», «брага пагусцей». Як вядома, ва ўсіх звычаях і абрадах маецца глыбокі сэнс, які адточваўся і шліфаваўся вякамі. Прысутнічае ён і пры сустрэчы хлебам-соллю: «І не хаваем — дзе падзенешся? — сваіх пачэсных мазалёў. А трэба — крошкаю падзелішся: лепш сто сяброў, чым сто рублёў». Вось яна, славянская душа, адкрытая і бясхітрасная, з тутэйшай завядзёнкай, якая культывуецца з веку ў век, — аддаць і падзяліцца з госцем самым апошнім, але не пакрыўдзіць і застацца ў дружбе. Безумоўна, гасціннасць і ўменне цаніць дружбу — пахвальная нацыянальная рыса, але не менш важная і чалавечая гордасць. Пра яе таксама не забывае паэт, і гаворыць не газетнымі зашмальцаванымі штампамі, а па-народнаму трапна і ёміста: «Але з нявыцертымі ботамі не запрашаем на парог». Можна было б і далей прыводзіць яркія і пераканаўчыя прыклады са святых запаведзяў, якіх прытрымліваецца наш народ, аднак дзеля гэтага давялося б працытаваць увесь верш. Нельга, канечне, не спыніцца і на радках, якімі аўтар як бы падводзіць рысу пад сказаным, і менавіта тым словам, якое ў спалучэнні з ранейшымі міжволі робіцца каламбурам. Гэты прыём часцей за ўсё выкарыстоўваюць у тых выпадках, калі трэба ажывіць гаворку, падкрэсліць значнасць пэўных момантаў і важкасць некаторых аргументаў. С. Гаўрусёў ужывае каламбур па-свойму, завастраючы чытацкую ўвагу на тым галоўным, пра што снаваўся верш: «Мы дзелім хлеб рукою брацкаю (падносім хлеб-соль. — **В. М.**), і любяць нас, і ў гэтым — соль!» Трошкі нечаканая, але заканамерная і цалкам апраўданая канцоўка, якая гучыць заключным акордам у шматгалосай і многазначнай сімфоніі, прысвечанай адной з нашых народных традыцый. Гэты верш варты таго, каб ён стаў настольным дапаможнікам для студэнтаў адпаведных навучальных устаноў, па якім яны маглі б знаёміцца з нашым народным багаццем і культурай, закладзенымі ў далёкім мінулым.

Такіх вось, як удала сказаў нехта з вядомых мэтраў, «буйнатанажных» вершаў грамадскага гучання ў творчай спадчыне паэта — не адзін дзясятак. Але паэзія і яе вартасць, якому б аўтару яна не належала, вымяраецца не колькасцю напісаных твораў, а іншымі катэгорыямі, і ў першую чаргу — мастацкімі якасцямі і значнасцю. Што тычыцца вершаў С. Гаўрусёва, радкі ў іх настолькі шчыльна падагнаны адзін да аднаго, што між імі, здаецца, не ўваб’е дзюбы нават дзяцел, а кожнае слова нясе такі сэнс, што яго можна адчуць на вагу. Трэба сказаць, што не толькі народныя звычаі і абрады, але і вясковыя прадметы, фальклорная лексіка прысутнічае ў творах паэта. Усё гэта настолькі глыбока запала ў яго памяць, настолькі ён зжыўся з ім у дзяцінстве, што яно ўваходзіла ў яго радкі нават там, дзе гаворка ішла пра рэчы і з’явы, далёкія ад вясковай рэчаіснасці і побыту, як вось тут: «Індустрыя! Цяпер твая пара: твае гіганты паставыя вышкі. І ўсё ж, як мы не забываем лыжкі, не забываем мы і тапара». Як бачам, побач з узвышаным і рамантычным суседнічае будзённае і празаічнае, што робіцца прывычным і як бы даўно знаёмым, але выступае ў нейкім новым арэоле і святле. Яно запамінаецца і робіцца блізкім для прыхільнікаў паэтычнага слова, аказвае на іх адпаведнае ўражанне. Помніцца, як недзе ў далёкіх шасцідзясятых гадах у Доме літаратара з чытаннем сваіх твораў выступалі маладыя на той час паэты, у тым ліку і С. Гаўрусёў. Адзін з іх аглушыў слухачоў, у тым ліку і мяне, гучнымі эпатажнымі вершамі, сярод якіх чулася усёсакрушальная алітарацыя, што абяззбройвала і брала ў палон. Услед за ім чытаў свае ўдумлівыя і пранікнёныя вершы і ўрывак з паэмы

пра індустрыю С. Гаўрусёў. Пасля каскада кідкіх і маланкападобных метафар, якімі былі аснашчаны строфы папярэдняга выступоўцы, радкі С. Гаўрусёва здаліся будзёнымі і спакойнымі, хаця і заслужылі ўдзячныя апладысменты. Пасля выступлення паэтаў мы, студэнты-слухачы, высыпалі на вуліцу і да мяне падышоў мой аднакурснік, які меў багаты журналісцкі вопыт, і сказаў: «А Сцяпан Гаўрусёў глыбей арэ, чым усе…» Не, ён не хацеў нікога пакрыўдзіць, а ўсяго толькі выказаў сваю думку. Я прамаўчаў. Але мне надоўга запомнілася як бы між іншым сказанае: «Глыбей арэ…» — і яно згадвалася мне кожны раз пры сустрэчы з новымі публікацыямі паэта. Сапраўды, С. Гаўрусёва не вабіла квяцістая, да рабацiння ўваччу, калейдаскапічная аздоба вершаў, хоць ён і любіў глыбокую філасофскую, а часам і зрокавую, метафару ці параўнанне. Тут дарэчы будзе прыгадаць, што талент С. Гаўрусёва быў як след ацэнены на нарадзе маладых, якая адбывалася ў 50-я гады ў Доме творчасці ў Каралішчавічах, і там адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак: яго разам з У. Караткевічам на гэтай нарадзе прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, чаго не было ні разу да гэтага.

Глыбінёю думкі і пачуцця вызначаюцца і лірычныя вершы паэта. Праўда, яны больш задушэўныя, напеўныя і ад пачатку да канца пранізаны і сагрэты аўтарскай цеплынёй, шчырасцю і даверлівасцю. Нават у тых выпадках, калі паэт звяртаецца да роднай прыроды. Характэрны ў гэтых адносінах радкі, дзе гаворка ідзе пра звычайны ставок вады. Здавалася б, што можна сказаць пра гэту з’яву? Але паэт на тое і паэт, што ён валодае багатай фантазіяй і яна дапамагае знайсці нешта такое незвычайнае і цікавае, што прыцягвае нашу ўвагу, а сказанае ўзбагачае нас тымі фарбамі і колерамі, якіх мы не ведалі раней: «Ставок вады, ставок вады раскрыў акно у падзямелле. І, асцярожныя, сюды заглядваць воблакі умелі». Паэт гаворыць спакойна і натуральна, без гучных слоў, выклікаў і экстравагантных параўнанняў, але з нейкай асаблівай вабнай інатанацыяй і прыцягальнай сілай, што мы адразу настройваемся на іх лад і чакаем — пра што скажа паэт далей? І ён, як вопытны і ўмелы ткач, што прыбівае бёрдам нітку да ніткі, няспешна і лагічна развівае думку, вядзе нас да таго моманту, каб паведаміць: «Туды, пад карані ракіт, што над магілай шалясцелі, нябёсаў чэрвеньскіх блакіт перанясці яны хацелі». Перад намі разгортваецца магічны рулон дзеяння, шчыльна нітуецца былое і цяперашняе, сплятаецца і зліваецца ў адно цэльнае і непадзельнае палатно, сцвярджаючы, што без учарашняга дня не магло быць сягоняшняга, а без сягоняшняга не можа быць будучага. А вось чарговы малюнак, выразны і дакладны, як дакументальны кінакадр: «Там спіць салдат, які не раз сачыў кірунак іх палётаў, хоць воблакаў было ў той час на небе менш, чым самалётаў». Аўтар дэманструе зайздроснае ўменне надаваць адным і тым жа з’явам і прадметам усё новыя і новыя якасці і значэнне, паказваючы іх у руху і дзеянні. Неба і зямля, аблокі і магіла салдата — гэта тое, што стала неад’емнай часткай свету, увайшло ў свядомасць паэта і чым ён дзеліцца з намі. Яркая і ўдумная карціна малюецца і дапаўняецца новымі мазкамі і фарбамі, пашырае і паглыбляе наша ўяўленне пра сказанае раней: «Салдат за неба вёў тут бой… Яму ж зямлёй закрылі вочы. Ды і ў магіле над сабой ён адчуваць нябёсы хоча». На нас настолькі ўздзейнічае магія паэтычнага слова і самога малюнка, што мы не заўважаем прыблізнасці сказанага пра байца, які «ў магіле над сабой… *адчуваць* нябёсы хоча». Зрэшты, у кантэксце твора гэта прыблізнасць не выклікае вялікага пярэчання. А калі пачнеш перачытваць радок, здаецца, што больш дакладна і не скажаш. І штосьці падобнае да музычнага ўсплёску гучыць у апошняй страфе, якая пераклікаецца з першай і такім чынам бярэ верш у своеасаблівае кальцо: «І, асцярожныя, туды штодня плывуць цяпер аблокі, каб не зямля — блакіт густы бярог салдата сон глыбокі». Мы ведаем ісціну, што ўсё простае — геніяльнае. Што тычыцца верша С. Гаўрусёва, скажам так: ён больш чым таленавіты.

Калісьці вядомы і папулярны крытык Р. Бярозкін, пішучы пра новую кніжку вершаў С. Гаўрусёва, слушна заўважыў, што яго творам характэрна арганічнасць гучання і лучнасці з жыццём. Сапраўды, у радках паэта цяжка знайсці нейкія

фальшывыя ноткі альбо спробу загаварыць неяк інакш, як ён гаварыў да гэтага, перагледзець сваю манеру пісьма і почырк і пачаць пісаць па-новаму, у тым стылі, што раптам зрабіўся модным і прэстыжным. Сцяпан Гаўрусёў у гэтых адносінах быў цвёрдым, непахісным і заставаўся верным тым прынцыпам, якія абраў на пачатку творчага шляху. Яго не маглі збіць з панталыку аніякія прошукі літаратурных авантурыстаў і правакатараў, не вабіла танная слава эстрадных гарлапанаў-вершатворцаў, якіх распладзіліся і арудавалі цэлыя плоймішчы. І не таму, што ён быў зашораны на нейкіх старарэжымных догмах і слепа адстойваў заплеснявелыя пастулаты, што аджылі свой час. Ён быў упэўнены, што гнацца за модай у паэзіі — тое самае, што крыўляцца і грымаснічаць там, дзе гэта нікому не трэба. Усё гэта не больш чым пена, якую садзьме само жыццё. Ён заставаўся верным класічным традыцыям, пісаў так, як падказвала душа і інтуіцыя. Пры гэтым поўнымі прыгаршчамі чэрпаў багацце з фальклорных засекаў, умеў аднаўляць у памяці і выкарыстоўваў у вершах выразы, якія бытавалі ў вёсцы, якія сёння нагадваюць моўныя жамчужыны, пра якія мала хто і згадвае, не кажучы ўжо пра тое, каб ужыць у творы. Хто цяпер скажа вось так свежа і непаўторна: «Стаміўся конь — ледзь *ставіў* капыты». Канечне, паэт не ламаў галаву над словамі, яны ліліся з душы самі сабой, без высілку і залішняй натугі. Бо карціны вясковага жыцця і побыту стаялі перад вачамі, а каларытныя словы і выразы жылі ў памяці. Паэт як бы між іншым мог сходу сказаць пра сельскую зімнюю раніцу, выпісаць яе такой густой маляўнічай акварэллю і перадаць не толькі яе фарбы і адценні, але і тую атмасферу, што можна адчуць, як наяве. Каму не западзе ў памяць гэты абразок: «Прыгнула інеем бярозу, галлё настыўшае звініць. Набухлі дзверы ад марозу, і мне іх цяжка адчыніць». Умее С. Гаўрусёў сказаць і пра тое патаемнае, што жыве недзе ў нашай падсвядомасці, і гаворыць пра яго проста, як пра нешта звычайнае і празаічнае: «Калі імчуся на экспрэсе, чамусь карціць заўсёды мне сысці на полі або ў лесе, што за вагонам прамільгне». Той-сёй можа грэбліва паморшчыцца, маўляў, ці мала на свеце дзівакоў, якім захочацца не толькі «сысці на полі або ў лесе», але і чортведама дзе, ды яшчэ і коніка выкінуць. Але чытачы з тонкай душой і высокім інтэлектам змогуць зразумець і адчуць вабнасць і чарадзейную магію такога паэтычнага адкрыцця: «Як быццам не зусім шчаслівы без той мясціны буду я, дзе толькі чутны пералівы ў сіўцах асцістых ручая». Па сваёй псіхалагічнай значнасці і напоўненасці радкі раўназначны эпізоду з паэмы А. Твардоўскага «За даллю — даль», дзе гаворыцца, як падпалкоўнік, з якім едзе ў цягніку лірычны герой твора, хоча паказаць яму велічную Волгу, што вось-вось павінна з’явіцца перад імі, і хвалюецца так, як быццам яе можа не аказацца на месцы. Такія эпізоды-знаходкі, эпізоды-адкрыцці становяцца жамчужынамі ў любым творы і цэняцца на вагу золата.

Напэўна, ніхто з паэтаў, яго равеснікаў, не мог так далікатна, тонка і прачула-пранікнёна сказаць пра першыя парасткі, што прабіваюцца ў душы вясковага юнака, таго сарамлівага і ўзвышанага пачуцця, якім з’яўляецца каханне. Пачуццё гэта настолькі мройлівае і безабароннае, што яго, здаецца, можа садзьмуць і знесці кудысьці далёка-далёка лёгкі подых ветрыку. Пачынае з’яўляцца яно неяк выпадкова і ў той жа час заканамерна, як і ўсё тое, што адбываецца ў жывой прыродзе: «Каму з нас радасць невядома, калі, прыспешваючы крок, дзяўчына пройдзе каля дома, нібы світальны вецярок». Калі гэта бывае? Ды хутчэй за ўсё вясной ці ўлетку, пасля цёплых дажджоў і ліўняў, тады, як буяюць травы і бушуюць сады, а ноччу да раніцы не змаўкаюць салаўі. Усё спрыяе таму, што юначая душа чуйна ўлоўлівае кожны шолах і пачуты крок на вуліцы. А таму «зірнеш на косы ільняныя — адвага траціцца твая, а сэрца ёкне і заные, бы ў золкай плыні ручая». Каханне ў вершы цнатлівае і сарамяжнае, яно не выстаўляецца напаказ, як гэта робіцца сягоння ў кінафільмах і дэтэктыўных раманах, дзе з-за парнухі не прайсці і не пралезці. І адносіны паміж закаханымі вырашаюцца адразу ў пасцелі, дзе яны адкрыта займаюцца сексам. А калі справа даходзіць да пацалункаў, то ўсё гэта нагадвае звярыную грызню, — лічыцца, чым больш паталагічнага шаленства, тым больш жыццёвай

праўды і ўздзеяння на чытача, гледача і г. д. Што да лірычнага героя С. Гаўрусёва, куды яму да сягонняшніх сексуальных маньякоў? Вясковы юнак прызнаецца: «Ты на яе пры ўсім народзе глядзіш нясмела, ўпатайкі». Менавіта вось гэтая павага і пашанота да дзяўчыны, якую ён яшчэ ні разу не абняў і не пацалаваў, і вылучае яго сярод тых, для каго прадстаўніцы слабага полу не больш, чым «цёлкі» ці істоты для цынічных забаў. Гераіня ў вершы паэта таксама цнатлівая і прыстойная дзяўчына, а не тая распусніца, што гатова вешацца на шыю кожнаму стрэчнаму і папярэчнаму, лавіць кайф. Яна падобна да русалкі, хаця зямная і рэальная: «Яшчэ яна не заўважае тваёй таемнае журбы, смяецца з некім, бы чужая, пад ціхай засенню вярбы». Пра адносіны юнака і дзяўчыны мы больш нічога не ведаем, але ўсё гаворыць пра тое, што паміж імі з часам успыхне гарачае каханне, якое скончыцца шлюбам, і іх чакае сямейнае шчасце, а не тая мітрэнга, калі маладажоны яшчэ не пакінулі ганка загса, а нехта з іх ужо думае аб скасаванні шлюбу.

Глыбокая павага, пашанота і нейкая асаблівая любасць да жанчыны, у асобе якой паэт бачыў каханую і паплечніцу, сястру і родную матулю, не пакідалі яго і пазней, ужо ў сталым узросце. Колькі пяшчоты, замілавання і трапяткога пачуцця можна знайсці ў вершах, якія ён прысвяціў сваім равесніцам. З якой душэўнай цеплынёй гаворыць ён пра іх, пабачыўшы ў возеры: «Купаюцца лябёдкі, равесніцы мае. І сорам іх дрыготкі спякотна абдае». Хто ўважліва знаёміцца з вершамі паэта пра каханне ці, як яшчэ кажуць, любоўнай лірыкай, не можа не заўважыць, што часцей за ўсё ён малюе не проста дзяўчыну ці жанчыну, а той ідэал, пра які марыў, але так і не пашчасціла сустрэць на жыццёвых дарогах, і ён застаўся для яго недасяжным прывідам альбо сненнем. Ці не таму паэт звяртаецца да яе, зямной і незямной багіні і чараўніцы, з незвычайным, поўным роспачы, прызнаннем, падобным да споведзі ці малітвы: «Відаць, ад радаснага болю цябе б любіў да скону я, і не пачутая ніколі, і неспазнаная мая!» Толькі чалавек, які не займеў сямейнага шчасця і сапраўднага кахання, а жыў сярод штодзённых сварак і згрызот, спадзеючыся, што ўсё-такі адбудзецца нешта незямное і казачнае, і ён нейкім чынам апынецца побач з тым ідэалам, чый воблік пранёс праз усё жыццё. Мне помніцца выпадак, калі аднойчы пасля пасяджэння літаратурнага аб'яднання была наладжана вечарынка з танцамі і сярод дзяўчат аказалася адна вабная асоба. Паэт неяк прымоўк, здаецца, адасобіўся і пагрузіўся ў сябе, зрэдку пазіраючы на вабную постаць, якая ўвесь час кружылася з цыбатым дзецюком, які крэмзаў бездапаможныя вершы, але на службе сядзеў у высокім крэсле. Няцяжка было здагадацца, што гэта ён прывёў з сабой красуню і ўсім сваім выглядам паказваў, што яна з ім і ён не ўступіць яе нікому нават на адзін танец. Не помню, як мы разышліся. Але назаўтра раніцай паэт быў у мяне, паставіў на стол бутэльку і, калі мы прыгубілі па кілішку, ён разварушыўся і прызнаўся, што не можа ачомацца пасля вечарынкі. «Разумееш, прымільгалася ўчарашняя ластаўка, і цяпер перад вачамі стаіць». На маё здзіўленне, што ён так перажывае, услед за гэтым і запытанне, чаму ён не запрасіў на танец і не пазнаёміўся з прысухай, ён толькі глыбока ўздыхнуў: «Дык яна ж была з гэтай міністэрскай дылдай. Як жа я мог…» Я, канечне, кінуўся яго суцяшаць і супакойваць, але, здаецца, не змог пераканаць, што такіх, як гэта красуня, можна сустрэць на кожным рагу вуліцы. Але, здаецца, не мог вывесці з таго ўтрапення, у якім знаходзіўя паэт. Гэта, магчыма, была адна з тых жар-птушак, якую хацеў сустрэць і, сустрэўшы, не мог пазнаёміцца і ўтрымаць у руках з-за сваёй вясковай сарамлівасці. Напэўна, у паэта такіх выпадкаў было мноства, і ён урэшце рэшт зразумеў, што яго мары не суджана збыцца, і падчас прыліву роспачы рашыўся сказаць адкрыта і з такой пранікнёна-драматычнай сілай, ад якой мурашкі паўзуць па спіне, пра тую, што засталася для яго «і не непачутая ніколі, і неспазнаная…».

Нельга не заўважыць, што там, дзе трэба гаварыць прачула і пяшчотна, С. Гаўрусёў знаходзіць адпаведную інтанацыю і моўную лексіку, а ў тых месцах, дзе гаворка вымагае іншага стылявога гучання, ён шукае іншыя мастацкія сродкі. У такіх выпадках яго радкі бываюць ціхія і мілагучныя, якія здольны крануць

любую душу, зачапіць яе, як кажуць, за жывое. У тым выпадку, калі трэба падкрэсліць маштабнасць якой-небудзь з'явы ці падзеі, на палатно карціны паэт кладзе густыя маляўнічыя мазкі, якія не могуць не кінуцца ў вочы і не здзівіць тых, хто ўмее цаніць мастацкую гіпербалу, перабольшанне. Дзеля чаго гэта робіць паэт? Ён імкнецца пераканаць чытачоў, што ў наш час усё павінна рабіцца з размахам і фантазіяй, з выключнай вынаходлівасцю і імпэтам. Калі ў вершы паэта ляцяць у санях рысакі, то настолькі шпарка, што «з падкоў вылятаюць цвікі», калі трэба берагчы на зямлі што-небудзь каштоўнае, то няйнакш, «як на дажджы апошнюю запалку», а калі ён сумуе і кудысьці ідзе, то пад ім «на маршчыны расколваецца лёд». Нярэдка з-пад пяра С. Гаўрусёва выходзяць настолькі трапныя, заснаваныя на жыццёвай праўдзе, гнеўна-саркастычныя выказванні, што нагадваюць сабой афарызмы, як вось гэтыя: «Каханне славіць еўнух, нянавісць — гвалтаўнік», «пярун шчапае дрэвы, пярун — у пні не б'е», «дзе коні — там сляпні». А як удала і многазначна сказана пра абстрактнае паняцце: «А ісціна ў пялёнках, нібы дзіця, крычыць».

Не могуць не здзівіць багатым інтанацыйным малюнкам радкі, прысвечаныя Я. Скрыгану. Казачная, загадкавая атмасфера і напеўнасць надаюць ім асобую аўру: «У бярозах пасяліўся гном — лес зялёны ходзіць хадуном. Ведаць бы, што сталася — лісце так шапталася? — мы гадалі з Янкам Скрыганом». Хто не адчуе нечаканага інтанацыйнага пераходу, які прымушае нас прыслухацца да чагосьці, бо нам здаецца, што аўтар як бы пераходзіць на даверлівы шэпт. Маляўнічая карціна і рытміка верша ўражвае настолькі, што, чытаючы радкі, міжволі хочаш азірнуцца: можа, сапраўды вакол лес, у якім «пасяліўся гном»? Далей паэт паўтарае аднакарэнныя рыфмы і ранейшы рытмічны малюнк, што ўзмацняе эмацыянальнае гучанне верша і яго прамое на нас уздзеянне: «У галінах вецер-метраном, і туман паслаўся палатном. Лета развіталася, восень затрымалася, — мы рашылі з Янкам Скрыганом». Гэта прыклад таго, якія дзівосы можа рабіць умела знойдзеная рытмічная аркестроўка радкоў, якая суправаджае іх і, дарэчы, вельмі нагадвае матыў песні. Што тычыцца радкоў, трэба зазначыць, яны вельмі простыя па сваёй сэнсавай нагрузцы і метафарычнасці, калі не лічыць першага з іх, дзе сказана даволі свежа і нечакана пра «вецер-метраном». А вось далей ужо пра асабістае і глыбока аўтабіяграфічнае Я. Скрыгана, якому давялося перажыць рэпрэсіі 30-х гадоў, звedaць ссылку і іншае ліхалецце: «Стала явай, што ўяўляў ты сном. Стала выссю, што лічыў ты дном». Згадзіцеся, што крыху іншасказальныя радкі напоўнены глыбокай думкай і не менш глыбокім сэнсам. А тое, пра што гаворыцца ў наступных: «Так перапляталася, так усё злівалася — нас дзівіла з Янкам Скрыганом», — можна аднесці як да таго, што адбывалася ў дарозе з творцамі, так і да жыццёвых перапетый лірычнага героя, якому прысвечаны твор. Нешта ад казак і паданняў гучыць у заключнне: «Гэткі свет дзівосны за акном — у бярозах пасяліўся гном. Скруха заставалася. Далячынь гайдалася, — ехалі мы з Янкам Скрыганом». Далібог, гэты верш, у якім спалучаны лірычныя, баладныя і іншыя мастацкія элементы, уражвае не менш, чым які-небудзь шырокафарматны твор пра драматычны лёс чалавека.

Нямала радкоў прысвяціў С. Гаўрусёў калегам па пяры, у пераважнай большасці тым, якія заўчасна пайшлі ад нас. Кожную страту ён прымаў вельмі блізка да сэрца, перажываў, не знаходзячы сабе месца. Ён выдатна ведаў іх творчасць і многа чаго з іх асабістага жыцця. Таму прысвячэнні не былі падобны на звычайную адпіску, да якой усе ставяцца паблажліва і глядзяць, што называецца, праз пальцы. У гэтых вершах столькі непрыхаванага болю, што яны прымушаюць скалануцца. Уражваюць радкі, прысвечаныя заўчаснаму адыходу ад нас С. Блатуна, у якіх паэт згадвае яго малога сынка, які, нічога не разумеючы, углядаецца ў твар бацькі: «Між панурых дзядзькоў, як матыль той лясны, ціха хлопчык снуе ля бацькоўскай труны. Не вялікае гора, што бацька ў труне — ён устане, калі яго бацька гукне». Так здаецца малому. А на самай справе ўсё зусім інакш: «Хутка бліснуць пупышкі на кожнай вярбе, але бацька на рукі не возьме цябе». Гэтыя радкі і сягоння могуць высечы скупую слязу з вачэй усіх тых, хто быў на пахаванні, добра ведаў

нябожчыка і балюча ўспрыняў яго недарэчны скон. У прысвячэнні У. Нядзведскаму, якога таксама напаткала трагічная і дачасная смерць, С. Гаўрусёў са скрухай гаворыць: «У знявечаных соснах — чорны цень ругана: аднагодкаў высозных даганяе вайна». Можа, нечаканы адыход сяброў прымушае яго згадваць ваеннае ліхалецце і фашысцкую няволю: «Пры акупацыі — за тры гады — у берагах паменшала вады: бязлітасна чужынцы секлі пушчы, а квола рос падлесак малады». Радкі, здаецца, не напісаны пяром, а выгравіраваны разцом. Маецца ў паэта і верш пра партызан, іх цесную сувязь з мясцовымі жыхарамі, якія дапамагалі лясным салдатам, дзелячыся апошнім. У вершы апавядаецца пра карову, карміцельку і ратавальніцу сям'і, якая мела некалькі душ. Карову бераглі як зрэнку вока ад акупантаў і паліцаяў. Яна і сама ведала, як ёй быць у схованцы: «Ні гуку — маўчыць у сляпой дамавіне і дыхаць зусім перастала, здаецца. І толькі, як зграя фашысцкая схлыне, яна сіратліва сваім абзавецца». І калі ноччу ў хату прыйшлі барадатыя людзі: «Мы толькі з блакады… — кажуць яны, — Разбіты абозы, і раненых многа…» — мы здагадваемся, якая прычына прывяла іх у сялянскую хату. Сітуацыя не простая. Як павядуць сябе партызаны далей? Што будзе рабіць гаспадар? Дзякуючы яго кемнасці ён адразу здагадаўся, што яму трэба рабіць. І паэт гаворыць: «Мой бацька тады, не сказаўшы ні слова і ўзяўшы з запечка абрывак пласконні, карміліцу моўчкі прывёў. І карова пайшла за санямі ў лясное сутонне». Вось гэтае псіхалагічнае ўдакладненне «моўчкі» гаворыць нам пра душэўны стан героя, які пакідаў галоднымі дзяцей, больш, чым дзясяткі рыфмаваных строф. Здаецца, сама карова разумее безвыходнасць таго становішча, у якое трапілі ўсе: і вясковая сям'я, і партызаны, — і стараецца іх выручыць, калі гэта слова, падыходзіць для таго, каб сказаць, што яна ахвяруе сабой, ідучы ў «лясное сутонне».

Добра помніў паэт і вызваленне роднай вёскі. Ён, здаецца, мог бы і праз гады пазнаць у твар таго байца, які абняў хлапчука ў садку, пад галіністай яблыняй. У плашч-палатцы і чырваназорай касцы, гэты баец прынёс хлапчуку радасць вызвалення. Тыя шчаслівыя і векапомныя хвіліны С. Гаўрусёў бярог у сваёй памяці, не раз вяртаўся да мясціны сустрэчы з байцом і сведчыў: «І праз трыццаць гадоў пазнаю супакоены вогненны кратэр». І адразу ў памяці паэта ўсплываюць суровыя рэаліі тых хвілін: «Бачу, ставіць свайго дзегцяра кулямётчык — узбек Мамсараеў». Згаданае прозвішча байца яшчэ больш запэўнівае нас, што ўсё, пра што піша паэт, не фантазія, а было на самай справе. Каб перадаць трагічную гібель кулямётчыка і каб яна запомнілася нам, аўтар знарок, як гэта робяць у кіно, запавольвае дзеянне, і асобныя эпізоды праходзяць перад нашымі вачамі, як дакументальныя кінакадры: «Я прынёс пехацінцу вады, ён мне даў звальцаванага хлеба, ён пра немцаў пытаўся…» І далей, як падзенне ў правал ці прадонне. Аўтар-сведка не хоча згадваць падрабязнасці. А можа, ён нічога і не помніць. Бо адбылося ўсё нечакана. Аўтар гаворыць коратка і адрывіста, нібы аддае рапарт: «…нас накрыла грымотнае неба». Далей паэт звяртаецца да свайго нашчадка: «Любы сын, мне трынаццаць было, як табе цяпер… Помніцца толькі — для байца тут пагасла святло, а мяне абмінулі асколкі». Для чаго ўсё гэта гаворыць паэт і з якой мэтай прывёў сюды сына? На гэта мы знаходзім адказ у другім вершы, у якім ён звяртаецца да байца, чыё аблічча стала родным на ўсё жыццё: «Твой воблік светлы напішу на небе і — назаўсёды сыну перадам!» Гэтым самым паэт падкрэслівае, якой цаной дасталася нам перамога, і пра гэта павінны помніць нашы нашчадкі. А з якім сарказмам і здзеклівай усмешкай гаворыць паэт пра гітлераўскага ваяку і стратэга Гудэрыяна, што захапляўся і любаваўся армадай сваіх танкаў і іх прыгажосцю, перад тым як вераломна напасці на нашу краіну, а пасля: «Падмазаўшы пяткі, на Захад рване і ён з недабіткамі гадзін, каб чуць — аж да скону — у кожнай сасне зноў нюрнбергскі скрып перакладзін». Сказаць вось так мог толькі паэт, які валодаў вялікім талентам, умеў мысліць і думаць глабальнымі катэгорыямі, гаварыць глыбока і афарыстычна.

Наўрад ці мог хто-небудзь іншы ўсклікнуць: «Імперыя, дзе сонца не заходзіць, — паэзія! І кожны прызнае — штоміг тут рунь вячыстая ўзыходзіць і —

невычэрпны жытніцы твае». Паэзія, канечне, заўсёды застаецца неразгаданым цудам і тым люстэркам, у якім мы бачым розныя дзівосы. Але не меншая заслуга ў гэтым і паэта, які з'яўляецца «трыумфатарам усіх эпох, бо кожная далёкая планета ваўчком круцілася ў яго ля ног». Дзіўна, што пасля такіх адкрыццяў і абагульненняў С. Гаўрусёў абыходзіўся без клічнікаў і нейкіх іншых знакаў прыпынку, каб падкрэсліць значнасць сказанага. Паэта непакоіла іншае — наш сучаснік. І ён не выпускаў з-пад сваёй пільнай увагі сельскіх працаўнікоў: аратага і сейбіта, касца і лесаруба, пчаляра і садоўніка — маўклівых і цягавітых руплівцаў і шчыруноў, з адметнай жыццёвай філасофіяй, фантазіяй і адносінамі да з'яў і падзей. Паэт характарызуе іх вось так: «Яны за стол садзяцца з краю, паклаўшы рукі на калені». Звяртаючыся да сваіх герояў, ён імкнуўся па-сучаснаму асэнсаваць іх побыт, умеў вывесці думку на высокую арбіту чытацкай душы і сэрца. Хто можа застацца глухім і абыякавым, не заўважыць і абысці бокам вось гэтыя радкі і лірычнага героя: «Стары задумаўся, і — пчолы снуюць у белай барадзе».

Герой С. Гаўрусёва ў розных абставінах паводзіць сябе па-рознаму. Калі ён пагружаны ў ціхі одум, ён як быццам аддаляецца ад рэальнага свету і ад самога сябе, імкнецца пазнаць, разгадаць уласную душу, законы быцця, тыя сакрэты, — дзеля чаго народжаны чалавек, у імя чаго ён жыве на гэтым белым свеце? Стварaецца ўражанне, што яго вясковы задуменны герой увесь час размаўляе з Богам, які жыве ў яго душы. Збіраючыся ехаць у лес па дровы, дзядзька у тым самым, вечным для сябе, одуме згарнуў цыгарку і шукае чагосьці. Шукае звычайны тапор, забыўшыся на тое, што ён даўно заторкнуў яго за пояс. С. Гаўрусёў яшчэ ў дзяцінстве падгледзеў гэту дэталь, запомніў і ўзнавіў яе ў вершы, і яна зазіхцела рознымі колерамі вясёлкі. У свой час паэт адкрыў для сябе, што ўсе багацці і дзівы і цуды на зямлі пачаліся «ад чалавека, птушкі і пчалы». І, дададзім ад сябе, яшчэ і ад жняі. Ці не таму так часта паэт малюе спякотнае лета і на ім жанчын-жней, што прыселі ў цянёк, каб прагнаць смагу сцюдзёным, як лёд, бярозавікам: «Каўшом святочным пойдзе гляк па кругу паміж сярпоў, што пекла гарачэй. На два глыткі не ў кожнай хопіць духу, а хусткі адхінуцца ад вачэй».

У творчай практыцы бывае, калі канкрэтны выпадак падымаецца да такіх вышынь абагульнення, што набывае новыя рысы, выгляд і гучанне, іншую інтэрпрэтацыю і сэнсавую нагрузку. Нешта падобнае адбылося і ў вершы С. Гаўрусёва, дзе гаворыцца пра чалавека, які носіцца на матацыкле ў вялізнай бочцы. Гэта не выдумка і не фантазія аўтара. Сапраўды, калісьці такі цыркач прыязджаў у Мінск і дэманстраваў на Камароўцы сваё жахлівае майстэрства. Паэт быў на гэтым відовішчы, са спецыяльных падмосткаў, што нагадвалі рыштаванні, назіраў за трукацтвам. Паэт пісаў пра цыркацкі трук: «Завёў матор, нагамі ўзяў педалі, махнуў і — пакаціўся па сцяне хутчэй-хутчэй-хутчэй! І задрыжалі ўсе клёпкі, а мурашкі — па спіне». Ці імкнуўся паэт да абагульнення? Наўрад! Але атрымалася так, што сёння верш успрымаецца па-іншаму. У ім бічуецца чыноўніцтва, якое лятае і кружыць на сваім бюракратычным «каньку» ў бочцы сваіх абавязкаў і не спрабуе штосьці змяніць ці зыначыць у сваёй заганнай практыцы. Не мог паэт выносіць ненатуральнасці, падмены прамых абавязкаў непатрэбнай гульнёй, як гэта пабачыў у цырку, дзе коні, якія спрадвек былі цяглавай сілай, раптам выступалі ў дзіўнай для паэта ролі: яны сталі артыстамі, забаўлялі гледачоў і самі, здавалася, былі рады свайму занятку. Са здзіўленнем, спачуваннем і адначасова душэўным болем аўтар усклікае: «Бачыш — коні на калені сталі, сталі на калені».

Не забываў паэт сваіх землякоў-вяскоўцаў, якія перабраліся ў горад і пасталі каля заводскіх станкоў і мартэнаўскіх печаў, водзяць грузавікі. Працу іх паэт малюе маштабна, выпукла і гіпербалічна. Ён па-свойму бачыць хлопца ў кабіне грузавіка-самазвала: «Прыехаў на саракатонцы ўранку суседскі хлопец, сын калгасных ніў, і, стаўшы на высокую страмянку, сваёй усмешкай сонца засланіў». Што да ўсмешкі, то сказана крышку перабольшана, чым трэба, але для гаўрусёўскага размаху прымальна і нармальна. А вось канцоўка гучыць вельмі

пераканаўча і лагічна: «Зямляк даўно за небасхілам едзе, а на стале чарніліца дрыжыць». Адгукаўся паэт і на тыя, здавалася б, прыватныя і дробныя здарэнні і выпадкі, якія адбываліся з ім самім і міма якіх можна было прайсці, не трацячы, як кажуць, пораху. Але яны кранал і душу паэта, і ён браўся за пяро. Палічыў ён патрэбным сказаць слова і пра шафёра машыны-хлебавоза, які яго падвёз, можа, дадому альбо ў тое месца, куды ён спяшаўся. Па дарозе яны разгаварыліся, і паэт даведаўся, што жыве ён не ў раскошы: «Халупка-хатка ледзь дыша, не сакрэт», — але ён задаволены сваім лёсам: «Ды пахвалюся, братка, пусціў дзяцей у свет. І не спасцігла ліха, хоць я не камерсант: дачка мая ўрачыха, а хлопец — аспірант». І ў канцы верша вельмі важная рыска ў характары шафёра, якая не магла крануць паэта і яго па-сялянску ўражлівую душу: «Ён у мяне на піва не ўзяў і паўрубля». Аўтар ведаў пра складанасць чалавечага жыцця і супярэчнасць свайго веку і жартам і ўсур'ёз зазначаў: «Дыялектыкі мудры закон на мяне пазірае з акон». Гаварыў пра вычварнае і нечалавечае: «Атамныя смерчы, рэактыўны свіст і грымасы смерці — рок-н-рол і твіст». І з трывогай пытаўся ў сябе і ў тых, хто акружаў яго: «Дык няўжо і пражывём да смерці з атамнаю бомбай у грудзях?!»

У творчасці паэта заўсёды на першы план вылучаўся духоўна багаты чалавек. Вызначальная ў гэтых адносінах яго лірыка-эпічная паэма «Штодзённы лістапад», дзе і раскрываецца духоўны свет вясковага юнака-дапрызыўніка, які кахае такую самую вясковую дзяўчыну Галю, трапляе ў армію і, адслужыўшы тэрмін, вяртаецца дамоў. Помніцца, як быў усхваляваны Пятрусь Макаль, які працаваў у часопісе «Маладосць», калі паэма лягла яму на стол і ён пачаў знаёміцца з яе радкамі. Не вытрымліваючы захаплення, ён ускокваў з-за стала і бег у суседні пакой, дзе сядзеў М. Аўрамчык, і напамяць цытаваў радкі з твора, паціраў рукі, круціў галавой, маўляў, як здорава! Ён адкрываў новы твор і новага С. Гаўрусёва, які зрабіў грандыёзны крок наперад! Цяпер толькі можна падзівіцца, як умелі тагачасныя па-сапраўднаму таленавітыя паэты радавацца творчай удачы, што напаткала калегу, а не сыкаць ад зайздрасці па-змяінаму атрутным джалам, пускаць плёткі і абразлівыя пародыі. Ды паэма, безумоўна, атрымалася таленавітай, ад пачатку да канца яна была заснавана на аўтабіяграфічным матэрыяле. Сцяпан Гаўрусёў напісаў яе, як сцвярджаў сам, за тыдзень у Доме творчасці ў Каралішчавічах. Але па той нязмушанасці, з якой лірычны герой вядзе гаворку, няцяжка здагадацца, што задума твора выношвалася даўно. І дзякуй Богу, што паэт не перагарэў, не астыў да матэрыялу і ў патрэбны час выплеснуў і выліў яго на паперу паэтычнымі радкамі.

Ён зайшоў у Дом радыё, запрасіў да сябе дамоў, дзе мусіла быць сяброўскае застолле. А я не мог адлучыцца ні на хвіліну. «Сустрэнемся пасля — у Бога дзён многа!» Прыкладна так было сказана на развітанне. Але гэты дзень стаўся для яго апошнім. Калі не лічыць таго часу, які паэт правёў у непрытомным стане ў бальніцы. Дакараю сябе: чаму ў той дзень не вырваўся да яго? Ах, каб толькі ведаць, што чакае чалавека наперадзе! Ён ударыўся патыліцай аб ацяпляльную батарэю ці аб падаконнік на кухні. Як гэта магло здарыцца, па неасцярожнасці ці па чыім злосным ці дурнаватым намеры, можна толькі здагадвацца. І прыходзіць на памяць страфа з яго верша, які ён часта чытаў у Каралішчавічах, лежачы на ложку ў белай кашулі і пінжаку, перад тым як пайсці ў сталовую сустракаць і адзначаць Новы год:

Сыплецца ў душу каменняў град,
Ды кажу я толькі не пра тое,
Колькі б не было у свеце звад,
А жыццё ўсё роўна залатое.

Тарас КУНЦЭВІЧ

# УСПАМІНАЎ КВЕЦЕНЬ ГУСТАЯ

**Мікола МАЛЯЎКА. Крыштальная галінка снегападу.** *Лірыка. Мн.: Паліграфкамбінат імя Я. Коласа, 2011.*

Нямала твораў прысвечана Коласавай калысцы Мікалаеўшчыне. Дый як жа іначай, калі з гэтай вёскі, што размясцілася ля берагоў Нёмана, родам многія беларускія паэты. У гэтай слаўнай кагорце, безумоўна, адно з першых месцаў належыць Міколу Маляўку. Канечне ж, ён таксама не можа не звяртацца ў сваёй творчасці да вёскі маленства. Дый нават асобную кнігу паэзіі прысвяціў ёй — «Старая зямля». Ужо назвай яе засведчыў, наколькі яму блізкая тая даўняя, шмат у чым патрыярхальная Мікалаеўшчына, якая паступова адыходзіць у нябыт. Аб любасці да роднай вёскі сведчыць і верш «О Мікалаеўшчына родная!..», змешчаны ў ягонай новай кнізе «Крыштальная галінка снегападу».

Шчыры, харошы, лірычна-прасветлены твор атрымаўся. Дый хіба іначай і быць магло, калі верш не проста пісаўся, а прамаўляўся. Сэрцам самім, чуйнымі струнамі душы. Яна ж ніколі маніць не можа. Асабліва тады, калі выказваеш тое, што так дарага табе, чаго ніколі не забыць. Любоў жа маленства з гэтага шэрагу. Яна тое, што раз і назаўсёды. Эмацыянальнае ўздзеянне твора ўзмацняецца тым, што М. Маляўка, малюючы вобраз Мікалаеўшчыны, бярэ не пару, калі ўсё квітнее, а прырода шчодра дорыць сваю радасць наваколлю. Ён ідзе як бы ад зваротнага. Мікалаеўшчына паўстае той часінай, калі, здавалася б, ад успрыняцця яе мала радасці:

О Мікалаеўшчына родная!
Прыціхла ў гняздзе ты, гляджу,
І шэрая, і халодная,
І мокрая ад дажджу.

Дзе лета з пахам мурожным?
Дзе твой з сырадоем гладыш?
Галінкай, карэньчыкам кожным
Пад небам асеннім дрыжыш.

Паўтаруся: пра Мікалаеўшчыну пісалі многія. Але так, як зрабіў М. Маляўка, здаецца, нікому не ўдалося. Верш «О Мікалаеўшчына родная!..» таму і выйграе, што для паэта гэтая вёска — жывая істота. Таму і стаўленне да яе адпаведнае. Да таго замілаванае, усцешанае, што чытаеш верш і ўсё тое, пра што гаворыцца ў ім, не проста прапускаеш праз сябе. Радкі, прамоўленыя М. Маляўкам, непрыкметна становяцца часткай тваёй уласнай споведзі. Адно толькі зайздросціш, што сам не валодаеш паэтычным словам, а таму і не можаш сказаць так пранікліва, як гэта зрабіў ён. Ды ўсё роўна на душы хораша. Цёпла на душы, не зважаючы на тое, што на двары ўжо далёка не летняе надвор'е. Пра Мікалаеўшчыну чытаеш, а ў думках пераносішся і ў сваю родную вёску. Быццам пра яе ўслед за паэтам прамаўляеш:

Каб мог, асцярожна ўзяў бы
Ў далоні цябе, пагушкаў,
Сагрэў бы дыханнем, азяблую,
Як недалётную птушку.

Змяншаюцца вуліцы, ліпы,
Змяншаюцца хаты, на шчасце,
І ўся ты, да крайняй сядзібы,
У сэрцы маім умяшчаешся.

Верш «О Мікалаеўшчына родная!..» — несумненна, адзін з лепшых

у кнізе «Крыштальная галінка снегападу». Калі ж разглядаць яе ў цэлым, то гэта сведчанне ўзросшага майстэрства паэта. Праўда, зрэдку напаткоўваеш у ёй і вершы, напісаныя раней, але, разам узятыя, яны ў суседстве з новымі творамі, па сутнасці, набываюць новае дыханне.

Лірычны герой паэта ўжо не толькі (хоць, бадай, правільней сказаць, не столькі) знаходзіццца ў сённяшнім дні. У думках сваіх ён сягае і ў дзень учарашні. У той дзень, калі быў зусім яшчэ малады. Як вядома, пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы ён два гады працаваў на лесанарыхтоўках у Карэліі. Адсюль з'явілася і прызнанне:

Не выпала з жыцця майго яна,
Карэлія... Не эпізодзік нейкі,
Дзе цешыў спеў начнога салавейкі.
На эстакадзе мы, сям'я адна,
Кацілі бервяно да бервяна:
Ад інею сінелі бровы, вейкі,
А мы з плячэй скідалі целагрэйкі, —
Работа ў снежні грэла, як вясна.

Адсюль і шэраг вершаў, у якіх лірычны герой шмат што асэнсоўвае са свайго рабочага юнацтва, прыгадвае найбольш запамінальныя яго моманты. Тое, што стала важкім радком асабістай біяграфіі. А ў пэўнай ступені і біяграфіі пакалення, да якога належыць паэт. Гэтае пакаленне не шукала лёгкіх жыццёвых дарог. І не адразу дасягала таго, да чаго імкнулася. Але дзякуючы такой настойлівасці, загартоўкі буднямі і стала маральна трывалым, моцным. Важна і тое, што, не абмінаючы таго, наколькі нялёгкая праца на лесанарыхтоўках, М. Маляўка піша пра гэта не «ў лоб», а знаходзіць, у чым упэўнівае верш «Танцы», надзіва арыгінальны падыход. Дый танцы гэтыя — зусім не тыя, што адбываюцца тады, калі знаходзяцца ахвочыя такім чынам бавіць вольны час. Гэтыя танцы з самой рабочай рэальнасці:

Т*а*нчыць нас запрасілі
Электрычныя пілы.
І праясняецца дзень пахмуры
Над тайгою —
Нашым Домам культуры.

Якія танцы, такая і музыка: «Горача ў холад вялікі // Граюць пілы-муз*ы*кі. // Не разбяруць старажылы, // Дзе — канчаюцца рукі, // Дзе — пачынаюцца пілы». Ахвотнікаў адседжвацца няма. Дый скуль узяцца ім, калі «танцы» гэтыя — агульныя: «Аціраецца ля вогнішча нялоўка, // І як чарэнь — танцляцоўка: // Пад целагрэйкаю цяжка // Уздымаецца // Валам дзявятым цяльняшка». На гэтых своеасаблівых танцах толькі адна жанчына:

Тут не апаліць румянец
Шчок дзявочых крамяных:
Танчыць, падняўшыся на эстакаду,
Завіруха —
Адна жанчына
На ўсю брыгаду.

«Белыя ночы Карэліі» (так, дарэчы, называецца і адзін з вершаў) не адпускаюць ад сябе лірычнага героя, не даюць яму спакою. Паступова тчэцца сувой успамінаў, звязаных з гадамі, калі ў суровых умовах мужала юнацтва. М. Маляўка пра той час умее сказаць не проста па-свойму, а запамінальна, знаходзячы такое вобразнае напаўненне радка, якое выглядае свежым, не зацягнутым: «Дыханне дым — // Нібы гарым // У ледзяным патоку. // Замёрз бы, пэўна, і Гальфстрым, // Каб працякаў непадалёку». Аб тым, якая была нясцерпная халадэча, яскрава сведчыць гэтае прызнанне з таго ж верша «Гальфстрым»: «Жартуе хлопец з Краснадара: // "Я быў бы рад цяпер // Самлець // Ад сонечнага ўдару"». Больш нічога дадаваць і не трэба. І так усё зразумела. Не на голым месцы такі жарт з'явіўся. Мароз у Карэліі быў яшчэ той!

Аднак душа лірычнага героя М. Маляўкі поўніцца і іншымі ўспамінамі. Яны ўжо не толькі з гадоў маладосці, а і з больш позняга часу. Але таксама таго, які ўжо стаў учарашнім днём. Будзе нават правільным сказаць, што згадкі гэтыя — свайго роду выбранае з перажытага. З той розніцай, што, паколькі гэта не проза, а паэзія, то, зноў жа, як і ў выпадку з успамінамі, якія тычацца знаходжання ў Карэліі, на першым плане аспекты не сюжэтнага, а эмацыянальнага, такія, што выклікаюць пэўны

зрух у душы, і гэты зрух перадаецца чытачу, настройваючы яго на суперажыванне. Адначасова вымушае згадаць і шмат што з таго, што па сваёй напоўненасці блізкае многім людзям, бо яно, калі можна так сказаць, агульнае. У многіх было тое, што прыгадваецца лірычнаму герою М. Маляўкі:

Ад успамінаў светла за акном.
Жыцця майго дарогі-пуцявіны
Праходжу ў думках хутка, за хвіліны.
І пахнуць успаміны перад сном
Духмянай мятай, горкім палыном.
Душу трывожаць, цешаць успаміны —
Падзеі, постаці людзей, карціны, —
Не ноч, а дзень за месячным акном.

Экран памяці працягвае высвечваць усё новыя і новыя згадкі, якія, паядноўваючыся між сабой, ствараюць цэласны малюнак. Не, нават і не малюнак, а цэлую карціну. Былога, не забытага, а ў пэўнай ступені і вечнага. Ва ўсякім разе, для таго, хто гэта згадвае, ці для таго, хто ў згадках лірычнага героя знаходзіць і блізкае, дарагое і самому сабе:

Відаць усё, што некалі не ўбачыў,
Асleплены надзеямі, удачай,
Відаць да дробных рысак і прыкмет,
Відаць у колерах жывых, яскравых, —
Як быццам гэта паралельны свет
Адкрыўся мне ва ўсіх яго праявах.

Гэткім жа элегічным настроем напоўнены і верш «Падае снег...». Таксама з шэрагу тых, у якіх дзень сённяшні ўвязаны з днём учарашнім, а згадкі былога дазваляюць суаднесці тое, што ёсць, з тым, што было:

Падае, падае, падае снег лебядзіны,
Падае, падае снег на ўспаміны,
Падае снег, быццам квецень густая,
Быццам над горадам сад адцвітае,
Сад, у якім сустракаліся рана,
Сад, у якім расставаліся позна,
Сад, які ўзнёсся дзівосна
Ў неба зімой...
І зацвіў нечакана.

Не толькі «падае снег, быццам квецень густая». Паўстае перад табой і квецень густая паэтавых успамінаў. Сярод іх самыя светлыя згадкі звязаны з той, якую некалі па-сапраўднаму пакахаў, і гэтае каханне пранёс праз усё сваё жыццё. Праўда, адначасова высвечваецца і іншае каханне — якое некалі абудзіла самыя светлыя пачуцці, сагрэла душы, выклікала спадзяванне на тое, што гэтае свята пачуццяў будзе доўжыцца бясконца. Толькі нічога не атрымалася. Тады, безумоўна, былі перажыванні. Цяпер гэта штуршок для з'яўлення элегічнага настрою:

Дзе ты сягоння, каханая,
Мною адкрытая,
Іншым забраная?
Тут, на зямлі, ці з нябеснага саду
Напамінаеш святлом снегападу.

І адразу пераход да рэалій сённяшняга жыцця. Пераход ад мройнасці да рэальнасці. Замест шкадавання таго, што магло быць, але не адбылося, з'яўляецца ўсведамленне таго, што ёсць, што стала часцінкай твайго лёсу, тваёй біяграфіі:

Падае, падае снег на ўспаміны,
Падае снег, быццам квецень густая,
Быццам і мёртвая хочаш забраць
ад жанчыны
Той, што з мяне гэты снег
рукавом абмятае.

Зразумела, не аднымі згадкамі аб мінулым напоўнены думкі паэта. Лірычны герой М. Маляўкі, як і кожны грэшны на гэтай зямлі, не можа не жыць днём сённяшнім. Гэта жывы чалавек, якому нішто чалавечае не чужое. Умее ён па-сапраўднаму захапляцца і краявідамі роднай прыроды, аб чым сведчаць вершы, у якіх ажываюць яе непаўторныя малюнкі. У тым ліку і «Вераб'іная ноч».

У згаданым творы, праўда, не адна прырода паўстае ў гэтую часіну ва ўсёй сваёй буйнасці: «Травы гараць, і звіняць камяні — // Вераб'іная ноч // Скача на чорным кані. // Кідае к нам на ганак // Белыя павады маланак». А наколькі ўражальны гэты малюнак?! — «...За платамі, // Б'е пярун капытамі». Прысутнічае і каханне, якое ў такую часіну таксама незвычайнае:

Будзь святой і грашы, —
Вераб'іная ноч,
Вераб'іная ноч у душы!
Добра, што з моцнай пароды
Сэрцы-громаадводы.

Міжволі думкі сягаюць яшчэ да аднаго верша, які, калі добра падумаць, увязваецца і з «Вераб'інай ноччу», і з некаторымі іншымі творамі: «Паэзія начэй — // Не тоўсты том, // А тоненькая кніжка, // Дзе кожны верш — // Як бліскавіцы ўспышка». Толькі гэтую кніжку ўдаецца ўважліва прачытаць не кожнаму. М. Маляўка — з тых шчасліўчыкаў, якія валодаюць такой якасцю. Таму ягоны герой і паўстае чалавекам, які прыцягвае да сябе. Больш за тое, яго, ягоныя памкненні і думкі шмат у чым успрымаеш блізкімі сабе. Як і імкненне радавацца кожнаму пражытаму дню:

Як Божы дар яшчэ адзін дзянёк
У ясным небе завязаўся рана.
Ён выплыў з блакітнага туману,
Ён промні сонечныя піў, як сок,
Ён у расе і пад зал*е*вай мок,
Трымцеў пад нечаканым ураганам —
І ўпаў нарэшце яблыкам румяным
За небакрай, у мяккі шэры змрок.

Падумай, як жывеш у свету садзе,
Ці ўсё зрабіў за дзень... А сонца сядзе,
А ляжа на душу вячэрні цень, —
Гані благія думкі і трывогу:
Для працы і любові новы дзень
Завязваецца ў небе, дзякуй Богу.

Вершы, што ўвайшлі ў кнігу «Крыштальная галінка снегападу», не па прымусе з'яўляюцца: захацелася штосьці напісаць, сеў за пісьмовы стол і зрабіў гэта. Такія творы нараджаюцца тады, калі нельга не пісаць. Сама душа прагне споведзі, а думкі кладуцца лёгка, нязмушана. Як жа іначай, калі ўсё гэта не прыдумана, а ўнутрана пержыта, вынашана. Дый, зразумела, талент вымагае гэтай споведзі. Талент жа — ад роднай зямлі.

Мікола Маляўка — адзін з тых апошніх паэтычных магікан, якія ў творчасці застаюцца традыцыяналістамі, працягваючы тую творчую плынь, якая не так даўно яшчэ бурліла, дзякуючы многім майстрам слова. Цяпер, на жаль, іх застаецца ўсё меней. Празмернае эксперыментатарства губіць паэтычнае слова, нівеліруе яго.

Аднак, трэба быць шчырым, дае аб сабе знаць і іншая бяда: адсутнасць таленту. За паэтычнае пяро бяруцца людзі выпадковыя. У іх ёсць памкненне пісаць, але пісаць яны проста не ўмеюць. Тады і пачынаюць мудрагеліць, нагрувашчваць выпадковыя словы, абы толькі падацца арыгінальнымі.

Тым большая адказнасць кладзецца на тых паэтаў, якія не здраджваюць сапраўднай паэзіі. Як М. Маляўка ў сваёй новай кнізе «Крыштальная галінка снегападу». Ёсць у ёй і ўспамінаў квецень густая. Ёсць і квецень дня сённяшняга. А перадусім прысутнічае сама паэзія, паядноўваецца зямное і вечнае. Твор хочацца не толькі чытаць і перачытваць. А яшчэ жадаецца новых вершаў гэтага выдатнага творцы, які, на шчасце, хоць і размяняў ужо восьмы дзясятак гадоў, па-ранейшаму не страчвае паэтычнага імпэту, даючы добры прыклад маладым аўтарам, як трэба пісаць, каб мастацкае слова не губляла сваёй нерушавасці, каб яно было патрэбна чытачу.

Васіль СЦЯПАНАЎ

# СВЯТЛО ВЕЧАРОВАЙ ЗАРЫ

**Алег САЛТУК. Дзве зары.** *Вершы. Мн.: Мастацкая літаратура, 2011.*

Разам з новымі творамі ў гэтую кнігу ўвайшлі і лепшыя з тых, што Алег Салтук напісаў раней. Зборнік сюжэтна цэласны, і вершы нагадваюць звёны ланцуга. Ідучы адзін за адным, яны развіваюць і паглыбляюць асноўную думку, што праходзіць праз усю кніжку: крэўнай далучанасці паэта да роднага краю, людзей, прыроды, пашыраюць наша ўяўленне пра характар і душэўныя абсягі як самога аўтара, так і яго лірычнага героя. Адкрываецца зборнік дзвюма строфамі, дзе ёсць радкі: «Нат малая сасонка свайму бору шуміць». Гэта значыць, што кожны верш працуе на галоўную задуму.

Цікава гаворыць А. Салтук пра сваю радаслоўную і пра тое, пра што некаторыя паэты лічыць за лепшае прамаўчаць. Згадваючы далёкага прашчура, ён адштурхоўваецца ад уласнага прозвішча, як гэта рабілі і іншыя, зыходзячы з таго, што яно часцей за ўсё цесна звязана з заняткам альбо нейкімі звычкамі яго носьбіта. Напрыклад, А. Сербантовіч сцвярджаў, што нехта з яго прадзедаў любіў гучна сярбаць страву. А. Салтук, відно, даўно здагадваўся, што яго прозвішча татара-мангольскага паходжання і не пабаяўся сказаць, што яго прашчур «Ханаў вой, а, можа, хан Салтук жыў калісьці ў святасці і грэху». Аднак услед за гэтым палічыў патрэбным зрабіць агаворку: «Асабіста я — не з ваяроў і не агрэсіўны па натуры, хоць і павандроўнічаць гатоў і крыху смугі ўвабрала скура». Адначасова здзіўляецца: «Толькі, як мангол да нас дапяў, у якія леты альбо зімы лёс раскосавокага паслаў, каб прыстаў да беларускі ў прымы». І тым не менш, А. Салтук па праву лічыць сябе тутэйшым і прадстаўляе такія аргументы і доказы: «…колер воч маіх заўжды васількамі застанецца ў жыце». Да ўсяго ён мае «збудаваны… маленькі дом». Але самы важкі довад яго прыналежнасці да тутэйшых — тое, што «прыйшоў да ўсіх з дабром» і просіць: «Адчыніце — хай пераначуе».

Канечне, калі хто-небудзь прыходзіць да людзей з дабром, гэта пахвальна. Але адразу паўстае пытанне: чаму аўтар просіцца ў дом з дабром для таго, каб яно толькі тое і зрабіла, што пераначавала? Ці не замалая гэта радасць для людзей? Можа, лепш было, каб дабро засталося з імі на ўсё жыццё.

Пэўна, А. Салтук інтуітыўна адчуў, што пра дабро выказаўся не поўнасцю ці не так, як хацеў, і неўзабаве зноў закранае гэта філасофскае пытанне, першнаперш звяртаючыся радкамі, падобнымі на заклік: «Кожны дзень рабі па добрай справе, не перашкаджай нікому жыць». Мы разумеем заклапочанасць аўтара і поўнасцю падтрымліваем яго. Менавіта так робіць у жыцці сам А. Салтук і з годнасцю заяўляе: «Я не замінаў нідзе нікому і сумленне з гонарам бярог». Той-сёй, праўда, можа папракнуць паэта, маўляў, хваліць самога сябе — не мужчынская справа! Але ён робіць гэта з адной мэтай — каб адкрыта і мужна сказаць: «З дабрынёй ішоў заўсёды к злому, толькі зла перамагчы не змог». Гэтае прызнанне ўражвае нас не столькі паэтычнай навізной і адкрыццём, колькі аўтарскай пазіцыяй, стаўленнем да зла.

Як бачым, хацеў перамагчы яго дабром. Але ці можна гэта зрабіць увогуле? Хіба мы не помнім радкі, што сталі крылатымі: «Добро должно быть с кулаками». Можа, такое дабро і меў на ўвазе А. Салтук? Калі гэта так, тады іншая справа. Але да зла і дабра

ў яго сваё ўласнае стаўленне, і паводле яго ён заяўляе: «Можа, сёння трэба па-другому, мо такая надышла пара: не рабіць нічога анікому, анідзе — ні зла і ні дабра?» Гаворачы пра зло, паэт паўтарае адну з вядомых біблейскіх запаведзяў. А што тычыцца вагання, маўляў, ці варта прыносіць людзям дабро, то наўрад ці можна знайсці залатую сярэдзіну паміж дабром і злом. А калі хто-небудзь і знаходзіў яе, то хутка пераконваўся, што станавіўся падобны на страуса, які хавае галаву ў пясок.

Алег Салтук і яго лірычны герой прынцыпова ставяцца і да тых, хто ігнаруе маральны кодэкс чалавечых паводзін, канфліктуе з ім. Ён не можа даравацъ нейкай правінкі нават колішняму прыяцелю, хаця звяртаецца да яго памяркоўна і разважліва: «Мне з табой вітацца неахвота, мой былы таварыш дарагі. Неяк нечакана, нібы ўпотай, разышліся нашы берагі». Згадваючы тое, што стала прычынай іх разрыву, ужывае выразы, што нагадваюць празаізмы: «вельмі цяжка сёння адказаць», «анічога ўжо не перайначаш», «на сваім сумленні мы пакінем», «ад якой залежым мы яшчэ». Але ў кантэксце верша яны, хоць і кідаюцца ў вочы, не рэжуць слых. Магчыма, выратоўвае інтанацыя і настрой, што прысутнічаюць у радках з публіцыстычнымі ноткамі, робяць іх цёплымі і ў нейкай ступені лірычнымі. Шчырасцю кранаюць заключныя радкі верша: «Не вітайся, як мяне сустрэнеш, — у мяне сляза не пацячэ, як і ў той непераводнай дрэні, ад якой залежам мы яшчэ».

Зло і падман, фальш і няпраўда, нахабства і двурушніцтва, раўшнадушша і абыякавасць — няпоўны пералік тых чалавечых заган і недахопаў, што не прымае А. Салтук і супраць якіх ваюе з адкрытым забралам. Канечне, зведаў паэт перамогі і няўдачы. Аднак не збіраецца апускаць рукі: «Радок свой у архіў не завярну, адхлання і спакою не адчую, пакуль сваю ня роўную вайну хаця б на бой адзін я не зваюю». А ці лёгка даецца паэту яго вайна? На гэта ён адказвае так: «Раненняў шмат, ды вось жывы яшчэ, боль праведны прымаю і трываю за рэчку, што ў нябыт ужо цячэ, за лес, які пад корань высякаюць». Душэўнае гарэнне, неспакой, непрыманне коснага і аджытага — гэта тыя Геркулесавы слупы, на якіх трымаюцца лепшыя творы А. Салтука.

У паэта баліць душа за родную мову, якая стаіць на мяжы знікнення, бо не карыстаецца той павагай і попытам, як суседняя. І доказна гаворыць пра гэты факт: «Самоцяцца Купала, Броўка, Танк і Куляшоў, і Панчанка, і Пысін, што з мовай нашай нешта ўсё не так, што ад яе амаль мы адракліся». Не можа абыякава прайсці паэт і міма пакінутай вёскі, у якой вокны хат забіты дошкамі, і са смуткам заўважае: «Ані следу людскога няма, ні кала, ні двара, ні імя. Толькі сумнага неба палоска над маёю радзіннаю вёскай». Сумны пейзаж! А тым часам паэт разважае: «Не адна яна сёння такая, нешта некалі ўсё аджывае. Аджываюць і дрэвы і хаты, жабракі, багацеі, магнаты, геніяльныя, проста нябогі па чарзе ўсе сыходзяць з дарогі». Уражвае стрыманая інтанацыя, з якой А. Салтук выказваецца пра драматычную з'яву: «Ды я ўрэшце зусім не пра гэта, а пра тое, што выспела лета і ўжо птушкі паўнюткаю жменькай сыплюць трэлі на вёску Рыжэнькі, да якой я прыехаў у госці. А яе ўжо няма, ягамосьці…» Колькі тут элегічнага смутку, прасветленай пакуты і адначасова ўсведамлення, што іначай яно і не можа быць.

Глыбока кранае паэта прыгажосць роднай прыроды, якую ён перадае маляўнічымі фарбамі, багатымі на розныя цені і адценні. Паглядзіце, як густа і выразна кладзе паэт акварэльныя каларытныя мазкі, малюючы лета: «Не дае спякота ні глыточка — для касцоў запас хавае свой. Стог заснуў пузаты, нібы бочка, з бацяном — затычкаю жывой». Колькі ў гэтых не надта прычасаных, але сімпатычных радках сапраўднай паэзіі. Мінорнае гучанне прымаюць яны ў заключнай страфе: «Мудра ўсё навокал і адзіна, тут, дзе радасць заўсягды была… Ланцужок руплівы мураўіны торыць сцежку да свайго жытла». Ад такіх радкоў святлее на душы, хочацца рабіць нешта добрае і прыемнае для іншых.

Пра з'явы ў прыродзе А. Салтук гаворыць вобразна і запамінальна. Каму не западзе ў душу і памяць вось такое: «Крылом заранка на світанку махне прамацеры-зары, і адпачыць

на цёплым ганку прысядуць стомлена вятры». Тады-сяды паэт нітуе прыроду з чалавечым клопатам, і, уступаючы з ім у гарманічнае яднанне, яны становяцца адзіным цэлым. Прыкладам гэтаму верш, дзе гаворка ідзе пра летнюю пару і сенакос. Проста і дасціпна пачынаецца запеўка верша: «Дажджы ідуць, калі не просяць ісці туды, дзе сена косяць…» І далей таксама без аніякай натугі і высілку, з натуральнай і спакойнай, як дыханне, інтанацыяй: «Яшчэ задоўга да зары ляглі ў пракосы дружна травы, заснулі ў засені вятры, стагі завершаны на славу». Своеасаблівым акордам служыць чарговае двурхадкоўе: «П'янілі водарам лугі, лагі не ведалі тугі…» Не бог ведае якая ў ім глыбокая думка і навізна, але яно тут да месца і становіцца мастком, што дазваляе перайсці вершу да журліва-задуменнага гучання, якое з'яўляецца ў наступнай страфе: «Як хутка гэта ўсё прайшло і на вачах адкрасавала, адсенакосіла сяло, адсмуткавала, адспявала». Глядзіце, звычайныя радкі, але здольны выклікаць пачуццё лёгкага і светлага смутку і адначасова ўзнёслай акрыленасці. З пэўнай драматычнай афарбоўкай гучыць апошняя страфа: «Грымяць уверсе перуны, унізе ўсё ад іх трасецца. Настрой такі, як у струны: больш нацягні — і абарвецца». Верш напісаны на адным дыханні, у ім столькі святла, прастору, што проста дзіву дацца. Гэта ці не адзін з лепшых вершаў у кніжцы.

Нешта хрэстаматыйнае і вабнае, як у школьнай чытанцы, у радках пра вясновы прылёт птушак. У іх аўтар немнагаслоўны, ашчадны на асобныя дэталі. Затое твор выдзяляецца графічнай выразнасцю малюнка: «Шпак, як чорны вугалёк, грак, як галавешка. Прыляцелі к нам здалёк, стрэліся на ўзмежку». Мы даруем аўтару памяншальна-ласкавае і не надта новае параўнанне шпака з вугельчыкам, якое ўсё-такі ўпісваецца ў агульную карціну, дзе грак падобны да галавешкі, што робіць вобраз зрокава яркім і запамінальным. Асвяжае верш і дыялог, які вядуць паміж сабой шпак і грак: «Як жыццё тваё, браток?» — «Ды нічога, братка!..» І мы верым, што «у абодвух — свой куток і жытло ў парадку». Паэт узнаўляе вясновы тлум і вэрхал, што ўзнімаюць птушкі, вярнуўшыся з выраю: «Недзе кнігаўка крычыць, чайка моўчкі ўецца, а кулік слупком тырчыць, казадой смяецца». У канцы верша ён, перапоўнены хваляваннем, усклікае: «Ах, гракі мае, шпакі, даль і высь спявае. І з-пад сонечнай рукі жаўранкі ўзлятаюць».

Нешта шчымліва-журлівае маецца і ў тых карцінках, дзе згадваюцца Салтуком паганскія павер'і і звычкі, што і па сёння жывуць у народзе: «А грымне першы гром, і далі абзавуцца, захочацца крадком праз галаву кульнуцца». Вясна дапамагае лірычнаму герою ўявіць сабе нешта такое незвычайнае і хвалюючае, што можна толькі прысніць: «Ручаіны не спынялі бег, грай птушыны навакола чуўся. Я касынку папраўляў табе, і здалося — неба дакрануўся». Паэт, вядома, не святы ўгоднік, але пра тое, што бывае падчас паміж закаханымі, гаворыць асцярожна і далікатна: «Спрасоння ўздыхала зямля, на захадзе неба цямнела. Спакуса, нібыта змяя, тваімі вачамі глядзела». У другім вершы пра інтымнае сказана крыху больш адкрыта, але таксама тонка і абачліва: «Сукенка падала ў траву павольна так, як ты хацела, каб зведаў я, ці то жыву, ці то душа ўжо адляцела».

Сустракаюцца ў вершах А. Салтука значныя і ёмістыя радкі, блізкія па сэнсавай значнасці і напоўненасці да крылатых выразаў: «Песня народа — не мода», «Навошта пераходзіць Рубікон, калі Нярэшню можна пераскочыць», «Прыйшло вяселле — вёска ўся гуляе, і вёска тая ж плача ля труны», «У Бога дзён не надта многа — ён іх ашчадна раздае…», «І ў сэрцы пачынаецца радзіма — малая і вялікая — адна!» Трапляюцца і запамінальныя строфы з філасофскім роздумам: «Міг і вечнасць, хто іх разбярэ і адкажа так, як павялося: міг патрэбны зорцы, каб згарэць, вечнасць, каб святло яе лілося?» Нешта ад паданняў і легенд маецца і тут: «На адной далоні — мёд, на другой — атрута. Паміж імі пасярод — шчасце і пакута. А ў сярэдзіне няма ні канца, ні краю. Ці то воля, ці турма, я і сам не знаю». Такія строфы не могуць не ўпрыгожыць паэтычны зборнік.

У кніжцы Алега Салтука знаходзім усё тое таленавітае і лепшае, што маецца на сённяшні дзень у ягоным творчым набытку.

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

# СУСТРАКАЙ НОВЫ ДЗЕНЬ З УСМЕШКАЙ

**Валянцін ЛУКША. Дзень-залацень.** Вершы, казкі. *Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2012.*

Кожны з нас, дарослых, сустракае новы дзень па-свойму. Хтосьці, песіміст, з раздражненнем і тугой, яму неахвота ісці на працу. Хтосьці звыкла і абыякава, зноў такі ж дзень, як і мінулыя. А некаторыя, шчасліўцы-аптымісты, чарговы дзень вітаюць з усмешкай і радасцю, бо ведаюць, што ён прынясе ім новыя ўражанні. Такім людзям пашчасціла зберагчы дзіцячую цікаўнасць да наваколля. Я невыпадкова параўноўваю гэтых дарослых з дзецьмі. Бо менавіта дзеці самыя аптымістычныя жыхары нашай планеты. Кожны дзень дорыць ім безліч новых адкрыццяў і эмоцый. Напрыклад, мая дачка Ксенія ўстае даволі рана і заўсёды будзіць мяне. Ніяк не можа зразумець, чаму я часам не спяшаюся падымацца: «Мама, уставай на вуліцы такі добры дзень-барадзень». Для яе дзень увасобіўся ў вобраз казачнага дзядулі-барадача, які напрыканцы ночы запальвае сваёй чарадзейнай палачкай вялікі ліхтар пад назвай сонейка, і такім чынам нараджаецца кожны новы дзень. А і сапраўды, з чаго пачынаюцца нашы думкі пра новы дзень? З першага промня сонейка, які зазірае ў акенца. Залаты праменьчык нясе з сабой надзею на тое, што гэты дзень будзе не горшым, а можа нават і лепшым за папярэдні.

На такія філасофскія разважанні мяне падштурхнула кніга Валянціна Лукшы «Дзень-залацень». Спачатку назва яе нагадала пра любімы ў нашай сям'і «дзень-барадзень», а потым і сам вершык «Дзень-залацень» — пра аптымізм, сонечныя праменьчыкі, а таксама пра неабходнасць сустракаць новы дзень усмешкай, каб ён заладзіўся.

Гэтак жа як новы дзень прыносіць дзецям новыя веды і ўражанні, кніга В. Лукшы ў гумарыстычнай форме дае ім адказы на шматлікія пытанні і дапамагае раскрыць некаторыя загадкі. «На гэтым свеце часам магчыма самае неверагоднае. Асабліва, калі пра ўсё гэта расказваецца ў цікавых і займальных творах. Як у вершах, так і казках, што склалі кнігу "Дзень-залацень"», — піша ў прадмове Алесь Марціновіч. Напрыклад, у некаторых хатах жывуць сапраўдныя дамавікі, і ў школах часам з'яўляюцца настаўнікі-экстрасэнсы, якія невядома адкуль ведаюць, хто не вывучыў урок.

Кніга складаецца з трох раздзелаў: «Карагодзяць поры года», «За дзясяткамі ў школу», «У госці да казкі».

Першы разлічаны на дашкольнікаў, якія толькі пачынаюць пазнаваць навакольны свет. Тэмы вершаў надзвычай разнастайныя: птушкі, каты, катамараны, снегавік, кветкі. І ўсе творы напісаны на актуальныя для дзяцей садаўскага ўзросту тэмы. Напрыклад, «Снегавік»:

Сёння ўся працуе група
Гаманлівага садка.
Сёння клопатна і рупна
Лепім мы снегавіка.

Каля дрэва пасадзілі
Недарэку-таўстуна.
Галаву яму зляпілі,
Каб вітаў прыветна нас.

Сапраўды, хто ў зімовы снежны дзень адмовіцца ад прапановы зляпіць

снегавіка? Для 3—4-гадовага хлопчыка ці дзяўчынкі снегавік — чароўная істота, якая раптам з'яўляецца са снегу і, безумоўна, валодае ўсімі якасцямі сапраўднага чалавека. В. Лукша, дарэчы, надзіва дакладна адчуў гэтыя дзіцячыя эмоцыі і вельмі трапна перадаў іх:

Хай вугольчыкі за вочкі
Будуць.
Морквіна — за нос.
Толькі б, толькі б гэтай ноччу
Снегавік наш не замёрз.

Гэта і называецца не страціць пачуццё маленства: умець захапляцца ў любым узросце прыродай, людзьмі, акаляючым асяроддзем; марыць і верыць, што твае мары здзейсняцца.

Самая першая вялікая мара маёй трохгадовай дачкі — веласіпед. І гэта не нова. З пакалення ў пакаленне, нібыта ў спадчыну, перадаецца яна. І гэты першы транспарт запамінаецца кожнаму на ўсё жыццё, бо прыносіць пачуццё свабоды і лёгкасці руху, дае адчуванне сваёй быстрыні і лоўкасці. Вось і В. Лукша добра памятаў пра свайго першага двухкалёснага сябра. Таму і нарадзіўся ў яго вершык «Бусляня»:

Мне свежы ветрык лашчыць твар
І валасы кудлаціць.
Я — уладар,
Я — гаспадар
Крылатага багацця.

Веласіпед «Бусляня» для паэта — сімвал маленства, лета і адпачынку, сімвал бесклапотнасці і аптымізму. Гэты сімвал з'яўляецца яшчэ і ў вершы «Ралі». Зноў герой кнігі В. Лукшы, маленькі чалавечак, ляціць на сваім веласіпедзе ў вялікае жыццё, каб знайсці адказы на шматлікія загадкі нашага свету і адшукаць сваё месца ў гэтым жыцці. Такому юнаму Калумбу, зразумела, цікава ўсё: і паход на рыбалку, і збіранне грыбоў і ягад, і катанне на катамаране, і плаванне.

Плаванне ў спякотны летні дзень — што можа быць лепш? Мы з сям'ёй і самі нярэдкія госці каля нашай дачнай сажалкі. І, канечне, дачка Ксенія — самы пастаянны і актыўны плывец з усіх нас. Менавіта пра такую дзіцячую радасць ад пакарэння воднай стыхіі і піша В. Лукша:

Пыркі зіхацяць, як свечкі.
Пыркі ў вочы — не бяда.
Я спяшаюся да рэчкі,
Дзе гаючая вада.

Другі раздзел кнігі, «За дзясяткамі ў школу», разлічаны на дзетак, якія ўжо дасягнулі школьнага ўзросту. Аўтар глядзіць на школьнае жыццё вачыма дзяцей, таму і вершы атрымоўваюцца лёгкія, гумарыстычныя, а галоўнае, праўдзівыя. Напрыклад, «Любімы ўрок»:

Мы падручнікі адкрылі,
А урок той адмянілі.
Я б прызнацца зараз мог —
Хай сябры ацэняць:
Мне мілей за ўсіх урок,
Той,
Які адменяць.

Лірычны герой В. Лукшы вясёлы, добры, клапоціцца пра прыроду, крыху хуліганісты, а яшчэ ён вялікі фантазёр. Для яго настаўнік — экстрасэнс. І сапраўды, як ён можа даведацца, што наш герой недавучыў вершык ці «забыў кеды» і «з'еў мала кашы»? Дарослыя скажуць: «Усё элементарна, Ватсан», — але для дзяцей усё чароўна і загадкава:

Ёсць ва ўсім таемны сэнс.
Наш настаўнік —
Экстрасэнс.
Экстрасэнс і не іначай,
Бо наскрозь усё ён бачыць.
Бо адкуль жа ён мог ведаць.
Што забыў я дома кеды?..

Школьны сябар гэтага лірычнага героя Ваня пачынае валодаць тэлекінэзам. Усё ў яго атрымоўваецца: дзверы перад ім адчыняюцца самі, «пусцее месца там, дзе стаяла парта», а галоўнае, «ён у дзённіку сваім усе дзясяткі мае». Памятаеце, як у адным з фільмаў пра Шурыка галоўны герой і студэнтка Ліда пачынаюць правяраць адно аднаго на наяўнасць тэлепатычных здольнасцей? І знаходзяць іх, бо, калі шчыра верыш у штосьці таямнічае, містыка і сапраўды, пачынае з'яўляцца ў жыцці.

Навінкі сучаснасці не абмінаюць і навучальны працэс. Так, у многіх школах дзеля падтрымання дысцыпліны ўведзены СМС-кантроль. Праз мабільную сувязь і сістэму электронных прапускоў бацькі даведваюцца, калі іх сын ці дачка прыйшлі ў школу, якія адзнакі атрымалі і ці прагульвалі ўрокі. Дарослыя адносяцца да такога новаўвядзення па-рознаму: хтосці выступае «за», маўляў, кантраляваць свайго неслуха будзе лягчэй, нехта шкадуе маладое пакаленне — якое ж гэта дзяцінства. Аднак усе дзеці прытрымліваюцца аднаго меркавання: СМС-кантроль — жах вучня. Як сапраўдны псіхолаг, В. Лукша ведаў пра гэта, таму вершык «СМС-кантроль» пісаў зноў-такі з пазіцыі свайго юнага лірычнага героя: «Уводзяць СМС-кантроль. // Гэта — галаўны мой боль».

Трэці раздзел кнігі спадабаецца не толькі дзецям, а і іх бацькам, бо складаецца з філасофскіх казак.

Часам мы, дарослыя, пачынаем забываць пра сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці. Нярэдка ў паўсядзённым жыцці паняцці «шчасце», «каханне», «дабрыня» падмяняем паняццямі «багацце», «грошы», «матэрыяльная стабільнасць». Гэтаму, на жаль, вучым і сваіх дзяцей. Казка ж «Золата і хлеб» нагадвае нам пра спрадвечныя чалавечыя каштоўнасці.

Князь вырашыў высветліць, «што даражэй» — золата ці хлеб. Каб разабрацца ў гэтым, паклікаў да сябе гандляра і селяніна. «Атлусцелы» гандляр абірае золата. А «схуднелы» ад працы селянін, вядома, хлеб. Тады, каб усё ж такі знайсці адназначны адказ, князь загадвае: «У пуні пасядзяць няхай на клунках, // А праз сядміцу вернуцца сюды…» І вось пасля такога выпрабавання гандляр пачынае згаджацца з селянінам.

— Хлеб — самае каштоўнае на свеце, —
Зноў паўтарыў Бядняк. —
Што варажыць…
Ёсць хлеб — і бесклапотна спіцца дзецям,
З ім,
Нібы з песняй,
Можна шчасна жыць.

Так В. Лукша нагадвае нам пра адвечную каштоўнасць, якую паважалі і берaглі нашыя продкі, хлеб. Бо, сапраўды, апошнім часам не паважаем мы яго і не вучым любіць хлеб нашых дзяцей. Бо не цэнім таго, што маем у дастатку.

«У радасці бяды не зразумець», — піша паэт у казцы «Ластаўка і чыстацел». Падобнае філасофскае сцвярджэнне надзвычай актуальнае. Як часта мы, радуючыся свайму шчасцю, не заўважаем тых, каму патрэбны наша дапамога ці парада, а часам і спачуванне. Вось і ластаўцы, у якой захварэлі дзеткі, дапамог толькі дрозд. Ён адзін адгукнуўся на яе бяду і падказаў ёй лекі.

У казцы «Жыта і васілёк» пісьменнік як бы параўноўвае вобраз працы, хлеба і творчасці, прыгажосці, што стаў практычна архітыпічным для беларускай літаратуры дзякуючы «Апокрыфу» Максіма Багдановіча. Памятаеце? «Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?» Вось і ў казцы В. Лукшы жыта і васілёк, заўсёды разам, як сімвалы матэрыяльнага і духоўнага, якія непадзельныя.

Ва ўсіх творах кнігі як звышідэя закладзены спрадвечныя чалавечыя каштоўнасці. Спачатку яны разлічаны на малога чалавека: аўтар вучыць яго радавацца жыццю, быць аптымістам, любіць сваіх родных і сяброў. Потым звяртаецца да дзіцяці, якое пачынае цягнуцца да новых ведаў, заклікае яго не ленавацца, быць адказным і сумленным, клапаціцца аб прыродзе. Казкі ж, прысвечаныя дзецям, якія ўжо могуць зразумець іх філасофскі змест і вылучыць для сябе павучальны момант, прымушаюць задумацца пра агульначалавечыя каштоўнасці.

Дарэчы, я вельмі рада, што кніга В. Лукшы, пісьменніка, які, безумоўна, разумеў і любіў дзяцей, трапіла да мяне менавіта цяпер. Сёння маёй трохгадовай дачцэ падабаюцца вершыкі з першага раздзела. Ксенія будзе расці, і мы пяройдзем да другога раздзела. А потым яна ўжо сама прачытае філасофскія казкі. Я ўпэўнена, разам з героем кнігі «Дзень-залацень» яна будзе вучыцца разумець і любіць прыроду, людзей, сваю краіну. А таксама любіць родную мову. Бо кніга «Дзень-залацень» напісана на добрай беларускай мове.

Мікола КУПЧАНКА

# СЛОВА ЖЫВОЕ, САКОЎНАЕ

**Міхась ПАЗНЯКОЎ. Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы.** *У двух тамах. Том 1. А—М. Том 2. Н—Я. Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2012.*

Не задумваліся, адкуль паходзіць тэрмін «эпітэт»? У такім разе, як і ў шмат якіх іншых выпадках, на дапамогу можа прыйсці «Беларуская энцыклапедыя» ў 18 тамах. Аказваецца, у аснову згаданага паняцця пакладзена грэчаскае слова *epitheton,* што літаральна азначае «прыкладанне». Эпітэт — гэта адзін з відаў тропа, пабудаваны на мастацкім азначэнні найбольш істотных прыкмет якога-небудзь прадмета ці з'явы, а ўзнік ён у фальклоры. Само сабой напрошваецца пытанне: а што ж такое сам троп? Гэтае слова таксама грэчаскага паходжання. Яно вытворнае ад *tropos* — паварот, моўны зварот, вобраз. Тропам называюць слова ці моўны выраз, якія ўжываюцца ў пераносным значэнні, і з'яўляюцца адным з прыёмаў стварэння мастацкага вобраза.

Міхась Пазнякоў ва ўступе «Ад аўтара», праўда, пра гэта не гаворыць. Затое прыводзіць не менш значныя звесткі, якія, перш чым пачаць карыстацца ягоным Слоўнікам, дапамагаюць лепей высветліць, што ўяўляе сабой эпітэт, якая роля належыць яму ў мастацкай літаратуры, а таксама, што немалаважна, адчуць, якое багацце эпітэтаў прысутнічае ў нацыянальным прыгожым пісьменстве. Хоць многія, асабліва тыя, хто дасягнуў сталага ўзросту, у гэтым змаглі ўпэўніцца яшчэ дваццаць чатыры гады назад, калі ў тагачасным выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1988 годзе пабачыў аналагічны Слоўнік М. Пазнякова, толькі меншага аб'ёму, таму ў адным томе. Тое выданне мела шмат станоўчых водгукаў у друку. Аднак галоўнае ў тым, што яно адразу была запатрабавана. Слоўнік М. Пазнякова стаў настольнай кнігай для пісьменнікаў, перакладчыкаў, рэдактараў, работнікаў радыё, тэлебачання, друку, а таксама для выкладчыкаў, студэнтаў, вучняў сярэдніх школ. Дый для усіх, хто цікавіцца беларускай мовай. Як і тых, хто хоча яе вывучыць.

Гэткай жа ўдзячнай аўдыторыі адрасуецца і двухтомнік, які, несумненна, з задавальненнем набудуць і многія з тых, хто ўжо мае першае выданне Слоўніка. Ва ўсякім разе, гэта не лішне зрабіць, бо новае выданне, у параўнанні з папярэднім, дапоўнена. У ім сабраны і пададзены па семантычных групах эпітэты да амаль 450 найбольш ужывальных назоўнікаў. У Слоўніку, аднак, павялічылася не толькі колькасць гэтых часцін мовы, да якіх падаюцца эпітэты. У асобных выпадках назоўнікі, што былі ў першым выданні, дапоўнены новымі эпітэтамі. Што і зразумела. Лексічны матэрыял М. Пазнякоў ілюструе прыкладамі з мастацкай літаратуры, фальклору, перыядычных і навуковых выданняў (дарэчы, неаднойчы звяртаецца ён і да публікацый у часопісе «Полымя»), а за час, што прайшоў 1988 года, з'явіліся новыя мастацкія творы, напісаліся нарысы, артыкулы, аўтары якіх нярэдка ўжываюць свежыя словы, сярод якіх і арыгінальныя эпітэты. Дый некаторыя цікавыя прыклады былі адшуканы ім у тым, што друкавалася раней.

Зразумела, адразу немагчыма ахапіць, па сутнасці, неахопнае, многае адшукваецца толькі з цягам часу. Дый мова не стаіць на месцы, яна развіваецца і ўдасканальваецца, а «багацце эпітэтаў у мове, — як слушна зазначае М. Пазнякоў, — паказчык яе развіцця, выразнасці, гнуткасці, здольнасці перадаваць

найтанчэйшыя рухі думкі, выяўляць самыя складаныя адценні паняццяў, характарыстык, фарбаў і іх паўтонаў пры апісанні рэчаў, прадметаў, раскрыцці разнастайных з'яў рэчаіснасці, перажыванняў чалавека». Аднак, працягвае ён, «не кожнае азначэнне, безумоўна, можа быць эпітэтам, Не з'яўляюцца эпітэтамі адносныя прыметнікі, бо яны не нясуць у сабе паказчыка якасці. Гэта — лагічныя азначэнні».

Міхась Пазнякоў нязменна прытрымліваўся той задачы, якую і паставіў перад сабой: «даць па магчымасці найбольш поўную рэгістрацыю эпітэтаў. Ён (Слоўнік. — **М. К.**) не толькі дапаможа падабраць найбольш дакладны і свежы эпітэт, але і паслужыць базай для рознага характару лінгвістычных і літаратуразнаўчых даследаванняў». Іначай кажучы, зробленае М. Пазняковым пры ўсёй сваёй вартасці паспрыяе з'яўленню новай вартасці — ягонымі напрацоўкамі змогуць карыстацца і іншыя даследчыкі, а гэта, вядома, паспрыяе яшчэ лепшаму вывучэнню беларускай мовы, разуменню таго, якое яна неацэннае багацце і як неабходна беражліва ставіцца да гэтага багацця.

Можна колькі заўгодна клясціся ў любві да беларускай мовы, але поклічы, няхай і шчырыя, праўдзівыя, — гэта толькі паўсправы дзеля таго, каб ёю карысталіся. Бо калі з'яўляюцца шэрыя, пасрэдныя зарыфмаваныя радкі, у якіх сцвярджаецца, што яна лепшая ў свеце, гэта ідзе толькі на шкоду. Мове не патрэбна абарона графаманаў, а колькі іх у такую позу станавілася ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Мова сама сябе абароніць, калі на ёй будуць напісаны цудоўныя мастацкія творы. Яны ж немагчымы і без яркіх, запамінальных эпітэтаў, якія ў Слоўніку М. Пазнякова ззяюць нібыта тыя жамчужыны. Быццам запрашаюць: бярыце нас, устаўляйце ў свае творы, і тады вы ўпэўніцеся, наколькі багатая, сакаўная родная мова.

Дарэчы, у артыкуле «Мова» можна знайсці не адзін дзясятак эпітэтаў, што сведчаць на карысць непаўторнасці, мілагучнасці беларускай мовы. Міжволі прыгадваецца, што, для прыкладу, у якуцкай мове існуе не адна сотня назваў снегу. Канечне, наша мова гэтым пахваліцца не можа. Затое колькі эпітэтаў да слова «снег» існуе, што толькі дзіву даешся. Усяго некалькі з іх не зацяганых, напрыклад, на выбар: дымчаты, казытлівы, махнаты, смешны, тоўсты, тугі, усадзісты, цнатлівы, шалёны, шапатлівы, яршысты, ясны... Не кажучы, зразумела, што снег — белакрылы, белы, белыбелы, блакітны, бліскучы, блішчасты... Пералік гэты можна доўжыць і доўжыць, знаходзячы ўсё новыя і новыя эпітэты для азначэння снегу. Правільней, іх адшукаў у літаратуры і перыёдыцы М. Пазнякоў, а, перагортваючы старонкі ягонага Слоўніка, застаецца толькі радавацца, што дзякуючы яму ў цябе пад рукой, аказалася такое моўнае багацце.

Любы назоўнік бяры з тых, што прыведзены ў Слоўніку, і абавязкова напаткаеш эпітэты, пра якія можна сказаць словам, якое так любіў паўтараць незабыўны Ян Скрыган: «Смаката». Праўда, Іван Аляксеевіч выкарыстоўваў такое азначэнне з іншай нагоды, ды хто-хто, а ён з'яўляўся цудоўным знаўцам беларускай мовы, ужываў свежыя словы, некаторыя з іх уводзіў у шырокі ўжытак упершыню.

«Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» М. Пазнякова заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Аўтарам выкананы такі вялікі аб'ём работы, які па сіле далёка не кожнаму, а толькі таму, хто самаадданна любіць родную мову, апантаны сваёй па-сапраўднаму даследчыцкай працай. Калі б такое было магчыма паводле палажэння аб прысваенні навуковых ступеней, дык за «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» яму можна смела прысвойваць званне кандыдата філалагічных навук.

Набыткі М. Пазнякова вельмі і вельмі значныя. Праўда, і сам аўтар разумее, што ёсць яшчэ над чым працаваць: «Вядома, хоць у Слоўніку і сабрана вялікая колькасць эпітэтаў, зафіксаваных у мастацкай, навуковай, публіцыстычнай літаратуры і фальклоры, ён не з'яўляецца вычарпальным. Таму што магчымасці вобразнага ўжывання слоў у мастацакай мове неабмежаваныя. Пошукі найбольшай выразнасці слова праз мастацкае азначэнне — адна з умоў жыццяздольнасці і паўнакроўнасці мовы».

Што ж, як кажуць, няма мяжы дасканаласці. Нават тады, калі яна на самым высокім узроўні.

Ігар АЎЛАСЕНКА

# СКАРБЫ ЗЯМЛІ КЛІМАВІЦКАЙ

***Дзе б ні быў я, куды б ні паехаў —***
***На любой шырыні, даўжыні —***
***Сэрцу ты адгукаешся рэхам,***
***Як юнацтва далёкія дні.***
Павел ПРУДНІКАЎ



*Герб Клімавічаў.*

Падарожнічаючы па Пасожжы, паступова рухаючыся на ўсход уздоўж левых прытокаў Сажа — Астра ці Лабжанкі, — трапляеш у самы ўсходні куток беларускай зямлі — на Клімаўшчыну. Гэты край не так часта згадваецца ў старажытных гістарычных крыніцах, бо знаходзіцца ўбаку ад летапісных гарадоў, ад буйных рэк, што ў даўніну злучалі важныя гандлёвыя цэнтры. Ды і мноства дакументаў, у якіх ўтрымліваліся звесткі пра мясцовыя падзеі, было знішчана падчас войнаў, што пракатваліся па нашай зямлі. Тым не менш, і тут нетаропка цякло сваё жыццё, свой век пражывалі людзі. Яны зберaглі многія каштоўнасці, якім мы сёння, на жаль, надаём мала ўвагі. І часам здаецца, што менавіта тут, далёка ад «цэнтраў-рухавікоў» гісторыі, і захаваўся подых сівой даўніны, старажытнасці, захавалася адчуванне яднання з прыродай, — неўміручай, жыватворнай, непадуладнай ніякім перапетыям нашага мітуслівага чалавечага быцця, — захавалася пачуццё самой Вечнасці. Гэтая зямля хавае ў сабе мноства сведчанняў мінулых эпох, спазнаючы якія, мы быццам паглыбляемся ў патаемную варонку часу, якая адкрываецца толькі тут, удалечыні ад сённяшняй няспыннай мітусні, у краі, дзе жывуць людзі, якія беражліва захоўваюць традыцыі сваіх продкаў.

## Вёскі і мястэчкі ў святле легенд і паданняў

У кожнага чалавека апроч вялікай Бацькаўшчыны — краіны, з якой звязанае яго жыццё, ёсць і малая Радзіма — месца, паселішча, дзе ён нарадзіўся. У старадаўнія часы людзі, большасць з якіх была далёкая ад палітычных перапетый, атаясамлівалі сябе перш за ўсё з той вёскай, мястэчкам, дзе яны нарадзіліся, адкуль паходзіла іх сям'я. Нядзіўна, што, захоўваючы памяць пра сваіх продкаў, пра свой род на некалькі пакаленняў у мінулым, яны імкнуліся пакінуць нашчадкам і гісторыю свайго роднага кутка, а калі вобразы тых ці іншых падзей растваралiся ў прыцемках далёкіх часоў, то абавязкова спрабавалі самастойна

тлумачыць тую ці іншую з'яву. Так з'яўляліся легенды пра гісторыю і паходжанне розных вёсак, паселішчаў, адметных прыродных мясцін (узгоркаў, азёр, крыніц), а таксама іх назваў.

Калі разглядаеш карту Клімаўшчыны, трапляюцца на вочы розныя цікавыя назвы населеных пунктаў: Мілаславічы, Нядзведзь, Гразівец і многія іншыя. Знаёмства з легендамі пра іх паходжанне і ёсць першы крок, які дазваляе дакрануцца да духоўнай скарбніцы гэтай зямлі. Пісьмовыя крыніцы ж нам пакінулі мала сведчанняў, абапіраючыся на якія можна дакладна высветліць, у выніку чаго з'явілася тая ці іншая назва. Навукоўцы часта могуць рабіць толькі ўскосныя высновы.

Звернем увагу, найперш, на сам раённы цэнтр, горад Клімавічы. Цалкам відавочна, што яго назва паходзіць ад імя Клім. Але хто гэта быў за чалавек? Упершыню аднайменнае паселішча ўпамінаецца пад 1581 годам, аднак гістарычныя дакументы нічога не кажуць пра гэтую асобу. Магчыма, гэта быў першы ўласнік мястэчка. А можа, на гэтым месцы пасяліліся нашчадкі нейкага Кліма? У людской памяці ж захавалася наступная легенда.

Калісьці ў гэтых мясцінах жыў чалавек. Звалі яго Клімам. Быў ён майстар на ўсе рукі. Аднойчы збудаваў незвычайны млын, які працаваў лепш за іншыя. Трошкі быў чалавек дзіўнаваты, але ў той жа час мог даць параду любому, за што яго і цанілі.

Аднойчы праз гэтыя мясціны ехаў нейкі вельмі высокі чыноўнік (можа, і сам цар, як кажуць старажылы). Аднак павозка знянацку трапіла ў багну, і выратавацца самастойна пасажыры не маглі. Тады на дапамогу прыйшоў Клім, які выцягнуў небарак. У знак удзячнасці цар загадаў пабудаваць цэлы горад і назваць яго ў гонар свайго выратавальніка. Адсюль і назва — Клімавічы.

Даволі падобны аповед і пра паходжанне назвы вёскі Мілаславічы. Быццам калісьці праз тутэйшыя мясціны ехала нейкая паненка (кажуць, нават сама імператрыца Кацярына II). Калі яна прыпынілася ў гэтай вёсачцы, ёй тут вельмі спадабалася, і яна сказала: «Ах, як тут міла і слаўна!» Так і з'явілася назва — Мілаславічы. Тым не менш, паселішча з такой назвай сустракаецца на картах ужо ў XVI стагоддзі, а назва яго паходзіць, хутчэй за ўсё, таксама ад уласнага імені — Міласлаў.

Назвы вёсак Стары і Новы Дзедзін, паводле легенд, паходзяць ад таго, што першым жыхаром гэтай мясціны быў дзед, які пражыў больш за 100 гадоў. Аднак навукоўцы лічаць, што такая назва, хутчэй за ўсё, утварылася ад слова «дзедзіна», што ўжывалася ў сярэднявеччы і азначала тып феадальнага землекарыстання, паводле якога зямля пераходзіла ад дзеда да ўнука, ад прадзеда да праўнука. Першапачаткова была проста вёска Дзедзін. Але потым непадалёк з'явілася яшчэ аднайменнае паселішча, і, каб не блытаць, для зручнасці іх пачалі вызначаць як Стары і Новы. Гэтыя назвы захаваліся і сёння.

Некаторыя легенды больш рамантычныя. Вось, напрыклад, аповед пра паходжанне назвы вёскі Гусарка. Калісьці, як кажуць старажылы, на гэтых землях праходзіла вялікая вайна, ды такая, што рэкі былі поўныя крыві (ці не жахлівыя падзеі Паўночнай вайны пачатку XVIII стагоддзя або 1812 года так адлюстраваліся ў памяці народнай?). Падчас ваенных дзеянняў, ратуючы свой атрад ад непрыяцеля, загінуў малады прыгожы гусар. Аднак мясцовыя жыхары на пахаванні заўважылі, што гэта была дзяўчына. Таму ў яе гонар так і назвалі суседнюю вёску — Гусарка. Ці была дзяўчына ў рэальнасці — сказаць цяжка, аднак назва вёскі, відавочна, сапраўды пайшла ад таго, што ў гэтых мясцінах некалі знаходзіўся гусарскі полк.

Шэраг паданняў адлюстроўвае нянавісць сялян, у асяроддзі якіх і нараджаліся гэтыя аповеды, да сваіх паноў. Таму легенды часам набывалі гумарыстычна-здзеклівы характар. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца паданні пра паходжанне

назваў вёсак Гразівец і Нядзведзь. У першай вёсцы нібыта калісьці жылі паны Грабоўскі і Шпакоўскі. Два моцныя грубіяны і забіякі. Пастаянна прыставалі да ўсіх і здзекаваліся. Цярпелі ад іх і простыя сяляне, і суседнія памешчыкі. Але аднойчы знайшоўся чалавек, які так адлупцаваў іх, што яны ўжо самі і рухацца не маглі. Пасля кінуў іх у павозку, запрог каня і накіраваў у вялізную лужыну, з якой жывёла сама выбрацца не магла. Не маглі спачатку самастойна выйсці і паны, але ім ніхто не прыйшоў на дапамогу. Давялося ім плёскацца ў гразі на вачах усіх жыхароў вёскі. З таго часу і пайшла прыказка: «Тут мясцовыя князі вылазілі з гразі», — а назва вёскі стала Гразівец.

Паводле легенды, на месцы вёскі Нядзведзь калісьці таксама жыў задзірысты пан. Аднойчы ён паехаў да свайго сябра, і яны добра правялі час за размовамі і гарэлкай. А калі вяртаўся разам з лёкаем ноччу дадому, патрапіўся ім на шляху, напэўна, мядзведзь. Пан так перапужаўся, што кінуўся ўцякаць, а калі яго знайшлі на наступны дзень, то адзінае, што ён мог сказаць, гэта «нядзведзь… нядзведзь…». Як бы там ні было, назва вёскі сапраўды сведчыць пра тое, што ў старадаўнія часы тут у навакольных дрымучых лясах вадзіліся мядзведзі. А літара «н» у назве не выпадковая. Яна, хутчэй за ўсё, сведчыць пра мясцовыя асаблівасці вымаўлення гэтага слова.

Шмат цікавага могуць расказаць разнастайныя мікратапонімы — назвы мясцін, што знаходзяцца толькі ў мясцовым ужытку і вядомыя выключна тутэйшым жыхарам. Так, на беразе ракі Лабжанкі ёсць луг, які носіць назву Каралеўскі. Чаму? Справа ў тым, што ў жніўні-верасні 1708 года, падчас Паўночнай вайны, тут праходзілі рускія і шведскія войскі пад кіраўніцтвам як Пятра I, так і Карла XII, трымаючы курс на поўдзень. Менавіта на гэтым лузе, паводле падання, прыпыніліся войскі на чале са шведскім каралём. Мясцовы настаўнік С. Яраслаўцаў на пачатку XX стагоддзя паведамляў, што каля 1900 года тут сяляне выцягнулі цэлы гарматны лафет. На тэрыторыі суседніх Крычаўскага і Слаўгарадскага раёнаў ёсць і іншыя мікратапонімы, што нагадваюць пра падзеі 1708 года і звязаны з імем Пятра I: Пятрова крыніца, Пятроў луг, Цароў калодзеж.

Некаторыя мікратапонімы адлюстроўваюць яшчэ больш аддаленае гістарычнае мінулае. Так, непадалёк ад вёскі Паўлавічы, на беразе невялікай рачулкі Рэкта знаходзіцца ўзгорак Гарадок. Не кожны зможа патлумачыць паходжанне яго. Дзеці катаюцца тут зімою на лыжах і не здагадваюцца, што ён быў утвораны іх продкамі больш за тысячагоддзе таму. Гэта — рэшткі аднаго з гарадзішчаў, насыпанага яшчэ ў даславянскія часы. Калісьці на такіх узгорках людзі хаваліся ад непрыяцеля. Зараз жа нішто не нагадвае пра тое, якую функцыю выконваў гэты адметны пункт. Адзінае, што засталося ў людской памяці і адлюстроўваецца ў мясцовай мікратапаніміцы, гэта назва Гарадок.

Легенды і паданні нашай зямлі — сапраўдныя духоўныя скарбы. Яны могуць даць каштоўную інфармацыю пра мінулыя эпохі. Аднак памяць таксама мае свае межы. Большасць легенд, паданняў адштурхоўваецца ад падзей, што адбываліся, як правіла, не больш за тры-чатыры стагоддзі таму. Да нашага часу дайшлі туманныя легенды пра нашэсце шведскіх войскаў, пра паходы казакоў, а пра больш старадаўнія падзеі аповедаў мала, і то яны абрастаюць фантастычнымі рысамі. Напрыклад, добра вядомыя легенды пра валатоўкі, якія быццам бы былі насыпаныя сапраўднымі веліканамі. А між тым многія такія курганы створаны «ўсяго толькі» каля тысячы год таму. Гісторыя ж чалавецтва нашмат больш даўняя. Таму даследчыкі вымушаны звяртацца да іншых крыніц.

Мноства каштоўнасцей хавае ў сваіх нетрах Клімавіцкая зямля, цікавую інфармацыю яны могуць даць. Пошукамі такіх скарбаў займаюцца прафесійныя навукоўцы, але часам шанцуе і людзям, далёкім ад навукі. А цікавых знаходак нямала. Паспрабуем жа паглыбіцца ў гісторыю гэтага краю і пабачым, пра што могуць расказаць прыхаваныя ў зямлі сведчанні старажытных эпох.

## З гісторыі краю


*Мілаславічы.*

На тэрыторыі раёна знаходзяцца радовішчы крэйды і мергелю. Значыць, сто мільёнаў гадоў таму тут бушавалі хвалі старажытнага мора, на дне якога вельмі павольна назапашваліся рэшткі яго шматлікіх насельнікаў, што пазней і пераўтварыліся ў гэтыя карысныя выкапні. У такіх радовішчах перыядычна сустракаюцца і сляды аманітаў, белемнітаў і іншых малюскаў. Хто ведае, рэшткі якіх яшчэ дзіўных істот знаходзяцца ў нетрах Клімавіцкай зямлі?

Апошнія вынікі археалагічных раскопак паказваюць, што чалавек, хутчэй за ўсё, пачаў засяляць гэты ўчастак Пасожжа напрыканцы апошняга ледавіковага перыяду, калі тут яшчэ была тундра. На тэрыторыі раёна знойдзены шматлікія рэшткі стаянак розных эпох: фінальнага палеаліту, мезаліту, неаліту. Яны адкрыты ля вёсак Рудня, Стары Дзедзін, Старыя Пранічкі і іншых.

Даследаванні паказваюць, што ў мінулыя часы на тэрыторыі Клімаўшчыны жылі прадстаўнікі розных этнічных груп. Знаходзяцца сляды і фіна-ўгорскай, і балцкай гідраніміі. Прыкладна ў VIII—IX стагоддзях пачалі прыходзіць славяне. Адносіны паміж аўтахтонным насельніцтвам і новымі суседзямі былі рознымі, часам і не мірнымі. Тым не менш, прадстаўнікі розных плямёнаў паступова ўступалі ў больш цесныя кантакты і ў наступным утварылі новы, змешаны тып насельніцтва.

Навукоўцы прыйшлі да высновы, што менавіта тут праходзіла мяжа рассялення паміж плямёнамі крывічаў (смаленскіх) і радзімічаў. Яна была рухомая, аднак прыкладна шлях яе праходжання можна пазначыць уздоўж ракі Асцёр (на поўнач ад яе жылі крывічы, а на поўдзень — радзімічы). Крывічы прыходзілі з поўначы. Што тычыцца радзімічаў, то яны прыйшлі з поўдня і найбольш верагодным падаецца маршрут, якім карысталіся многія тагачасныя плямёны, — перасоўванне ўздоўж рэк і іх прытокаў уверх па цячэнні.

Летапісы сведчаць, што радзімічы перыядычна аказваліся ў залежнасці то ад хазараў, то ад Кіева. Аднак нават калі напрыканцы X стагоддзя іх землі канчаткова ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі, яны ў асноўным засталіся ўбаку ад галоўных палітычных перапетый. Толькі ў XII стагоддзі, калі на Русі наступіў перыяд феадальнай дробнасці, Клімавіцкая зямля апынулася ў сферы ўплыву мацнеючага Смаленскага княства. Вакол яе ўзніклі некалькі фарпостаў: з аднаго боку — Рослаў, а з другога, — шэраг гарадоў уздоўж Сажа і яго прытокаў: Мсціслаў, Крэчут (сённяшні Крычаў), Прупой (сённяшні Слаўгарад). Але наўрад ці гэта неяк істотна паўплывала на паўсядзённы лад і побыт тутэйшых жыхароў. З утварэннем асобнага Мсціслаўскага ўдзелу Клімавіцкая зямля патрапіла ў яго склад. Аднак на пачатку XV стагоддзя, пры Вітаўце, Смаленскае і Мсціслаўскае княствы знікаюць як асобныя дзяржаўныя ўтварэнні пасля далучэння да Вялікага Княства Літоўскага. Першае канчаткова ўвайшло ў склад ВКЛ у 1404 годзе. Што тычыцца Мсціслаўскага, дакладная дата невядомая, аднак, хутчэй за ўсё, гэта адбылося ў той жа перыяд, а разам з ім у склад ВКЛ увайшла і Клімаўшчына.

На жаль, пісьмовыя крыніцы вельмі слаба праліваюць святло на працэсы, што адбываліся на Клімавіцкай зямлі да XVI стагоддзя. Аднак захаваліся іншыя сведчанні старажытных часоў. Яны паказваюць, што гэтая зямля не была зусім адарваная ад гістарычных працэсаў. Такімі крыніцамі з'яўляюцца манетныя скарбы. Менавіта ў гэтым раёне зробленыя ўнікальныя адкрыцці не толькі для Беларусі, але і для ўсёй Усходняй Еўропы.

У 1804 годзе ў Клімавічах быў знойдзены адзін з найбуйнейшых скарбаў антычнага часу. У ім 1815 бронзавых і срэбраных дынарыяў першых рымскіх імператараў (І—ІІ стагоддзі нашай эры). На жаль, лёс гэтага скарба незайздросны. Пра гэтую знаходку адразу стала вядома ў Пецярбургу, куды гэтыя манеты і накіравалі. А там скарб перакідвалі з аднаго месца ў другое: ён пабываў у Эрмітажы, утрымліваўся ў Прыдворным казначэйстве, быў дэталёва апісаны, але знік падчас пастаянных блуканняў па сховішчах. Тым не менш, знаходка манет, несумненна, сведчыць пра тое, што праз Клімаўшчыну праходзіў гандлёвы шлях нават у тыя старажытныя часы, калі ў Рыме толькі-толькі быў узведзены Калізей, а славяне яшчэ не засялілі гэтыя мясціны. Напэўна, неаднойчы рымскія рэчы і манеты траплялі з берагоў Паўднёвай Еўропы і перапраўляліся далей на поўнач, але гэты скарб застаўся. Што здарылася з яго ўладаром — невядома. На той момант на нашых землях паўнацэнны грашовы абарот яшчэ не склаўся, і манеты выконвалі даволі абмежаваную функцыю.

Магчыма, уладальнікаў грошы змянілі неаднаразова, і іх сюды прывёз мясцовы жыхар пасля падарожжа ў паўднёвыя землі. Аднак можна ўявіць і адваротную карціну. Лёс закінуў нейкага адчайнага рымскага купца далёка на поўнач, за тысячы кіламетраў ад сваёй дзяржавы, у край бязмежных лясоў, за нейкай рэдкай, але неабходнай рэччу, якую трэба было выменяць у тутэйшага правадыра племені з дзіўнымі, варварскімі (з пункту погляду рымляніна) звычкамі і норавамі. Хто ведае, магчыма, асобныя гандляры і падарожнікі сапраўды даходзілі да беларускіх земляў, вярталіся назад, і на Апенінах некаторы час хадзілі расповеды пра далёкую краіну лясоў і азёр.

Другі ўнікальны скарб знойдзены ў вёсцы Стары Дзедзін стагоддзем пазней, у 1926 годзе. Селянін Трафім Гудкоў араў свой участак зямлі і ўбачыў гліняны гаршчок з незнаёмымі манетамі. Мясцовыя юнкоры Алесь і Павел Пруднікавы (будучыя паэты), напісалі пра знаходку ў газету «Беларуская вёска». Звесткі перадалі ў Акадэмію навук БССР, манеты даставілі ў Мінск. Пасля дэталёвага аналізу высветлілася, што скарб быў схаваны прыкладна паміж 980 і 985 гадамі. Знайшлі 204 старадаўнія манеты. У іх ліку: 201 куфічны дырхем, 2 дынарыя з Германіі і візантыйскі міліярысій. Выяўленыя ў скарбе дырхемы чаканіліся ў Антыёхіі, Багдадзе, Хамадане, Ісфахане, Балсе, Самаркандзе, Бухары і іншых месцах. Магчыма, скарб належаў нейкаму багатаму гандляру, які вырашыў схаваць манеты ў патаемным месцы. Але самае цікавае тое, што ў гэтым скарбе «сустрэліся» манеты з розных куткоў свету, адчаканеныя ў Сярэдняй Азіі, Візантыі, Заходняй Еўропе. Напэўна, шмат якія краіны наведаў таемны ўладар скарба, з рознымі людзьмі сустрэўся, перш чым прыехаць у гэты куток і неспадзявана прыхаваць яго амаль на тысячагоддзе. У любым выпадку, знаходка сведчыць пра тое, што праз Клімаўшчыну, напэўна, праходзіла адно з адгалінаванняў гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», і гэтая зямля можа хаваць у сабе яшчэ шмат незвычайных таямніц.

Некалькі год скарб знаходзіўся ў Беларускім дзяржаўным музеі. Аднак, на вялікі жаль, Вялікая Айчынная вайна знесла яго ў невядомасць, як і многія іншыя каштоўнасці. У 2010 годзе пры ўездзе ў вёску быў устаноўлены камень-помнік з надпісам аб знакамітай знаходцы 1926 года.

Сёння можна пабачыць толькі трэці па ліку скарб, выяўлены на Клімавіцкай зямлі. Яго знайшла зусім нядаўна, у 2008 годзе, на сваім агародзе жыхарка сяла Мілаславічы Вольга Карасёва. У гаршку ўтрымлівалася больш за 150 манет

XVIII—XIX стагоддзяў. Большасць з іх — пашкоджаныя, апаленыя ў выніку пажару. Але гэты скарб — сведка падзей, ужо добра нам вядомых і апісаных.

Пачынаючы з XVI стагоддзя пісьмовыя крыніцы стала асвятляюць гісторыю Клімаўшчыны. На жаль, у сувязі з тым, што з гэтага часу яна апынулася ў віхуры бесперапынных войнаў. Пасля 1500 года, калі мяжа паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікім Княствам Маскоўскім зрушылася на захад, Клімавіцкая зямля на два наступныя стагоддзі апынулася ў цэнтры буйных палітычных і ваенных перапетый, звязаных з барацьбой за дамінаванне ва Усходняй Еўропе. Але нават пасля заключэння ў 1686 годзе «Вечнага міру» паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай іншыя заваёўнікі неаднаразова ступалі сюды. У 1708 годзе Клімаўшчына стала сведкам новага, шведскага, нашэсця: уздоўж ракі Лабжанкі праходзілі і шведская, і руская арміі. А праз некалькі дзесяцігоддзяў Клімаўшчыну закранула сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы. Сам ён на допыце сцвярджаў, што нарадзіўся ў мясцовай вёсцы Лобжа. Дакументы таксама распавядаюць пра нейкага Данко, які падчас выступленняў канфіскаваў маёмасць арандатара мястэчка Мілаславічы.

Сёлета споўнілася 200 год Айчыннай вайне 1812 года. Закранула яна і лёс Клімаўшчыны. Галоўныя ваенныя падзеі, праўда, прайшлі міма, але вайна ўсё роўна пакінула разбуральны след. Французы, якія асталяваліся ў Магілёве, імкнуліся распаўсюдзіць уладу сваёй адміністрацыі на іншыя паветы губерні. Але Клімавічы, як і Копысь, фармальна ўхіліліся ад гэтага па прычыне «незразумеласці загаду». У жніўні—верасні 1812 года, калі ўжо з'явіліся першыя прыкметы разлажэння *La Grande Armée*, асобныя невялікія атрады французаў пачалі адыходзіць убок і рабаваць суседнія мясціны. Мясцовыя жыхары, пакутуючы ад пастаяннага гвалту, збягалі ў лясы, стваралі атрады самаабароны і перыядычна арганізоўвалі аблавы на акупантаў. Былі разбураны многія вёскі і мястэчкі. Дадатковыя пакуты прынеслі і рускія войскі: у іх пачалася эпідэмія дызентэрыі, якая перакінулася на мясцовае насельніцтва. У 1813 годзе на пасяджэнні гарадской думы паведамлялася, што ў Клімавічах засталося не больш за 100 дарослых мяшчан.

Найбольшую ж шкоду прынеслі трагедыі XX стагоддзя. Першая сусветная, савецка-польская войны хоць і не закранулі Клімавіцкую зямлю непасрэдным чынам, аднак істотна паўплывалі на жыццё мясцовых жыхароў. Падчас Вялікай Айчыннай вайны два гады, са жніўня 1941-га па верасень 1943-га, яна знаходзілася пад акупацыяй. А на зыходзе стагоддзя яе закрануў цень Чарнобыля. Але шматлікія выпрабаванні, якія прыпалі на гэтую зямлю, не скарылі яе жыхароў, якія захавалі любоў да родных мясцін.

## Скарбы прыродныя і духоўныя

Клімавіцкая зямля шчодрая на іх. Мясцовыя краявіды служаць выдатнай крыніцай мастацкага, паэтычнага натхнення. Дастаткова ўспомніць карціну Мікалая Атрыганьева «Від на раку Асцёр у Магілёўскай губерні», напісаную ў 1885 годзе. Нават у наш век няспыннага забруджвання навакольнага асяроддзя, пасля перажытай Чарнобыльскай трагедыі, нетры гэтай зямлі ўтрымліваюць першародную навакольную чысціню. Дакрануцца да яе можна праз мноства крыніц, на якія так багатая Клімаўшчына.

Гэтыя водныя ключы тут маюць розныя назвы. Так, ля вёскі Барысавічы бярэ пачатак ручай Рагатун, таму што крыніца, з якой ён пачынаецца, шуміць так, быццам бы рагоча. Такая ж прычына прывяла і да назвы Грымучай крыніцы, што знаходзіцца непадалёк ад вёскі Зімніцы.

Часам паходжанне таго ці іншага эпітэта тлумачаць мясцовыя легенды і паданні. Калакольная крыніца названа так таму, што нібыта калісьці непадалёк зладзеі спрабавалі скрасці царкоўныя званы. Многія (да прыкладу, Арцёмава,



*Від на рэчку Калініца.*

Вішнеўская, Салагубава) бяруць свае назвы ад імёнаў і прозвішчаў людзей.

Адной з самых вядомых крыніц з'яўляецца Бяздонны калодеж ля вёскі Новы Дзедзін. Паводле легенды, вельмі даўно тут стаяла царква, але яна правалілася пад зямлю. На гэтым месцы ўтварыўся калодзеж, вада ў якім валодае гаючымі ўласцівасцямі. Ён сапраўды падаецца бяздонным. Змераць яго глыбіню канчаткова так і не ўдалося. Як мяркуюць навукоўцы, у гэтым месцы на паверхню выходзіць струмень з вельмі глыбокіх артэзіянскіх пластоў, таму вада нашмат чысцейшая за тую, якую мы прывыклі спажываць.

Раней людзі ўшаноўвалі крыніцы, асвячалі іх, але ў савецкі час гэтую традыцыю імкнуліся выкараніць: знішчаліся крыжы, забараняліся сходы на рэлігійныя святы. Толькі ў апошні час былыя традыцыі вяртаюцца. Зараз штогод на праваслаўнае свята Макавея (14 жніўня) адбываецца хрэсны ход да Бяздоннага калодзежа, дзе бацюшка асвячае ваду.

Мясцовы настаўнік С. Яраслаўцаў на пачатку XX стагоддзя менавіта з якасцю і чысцінёй падземных вод звязваў той факт, што на працягу XIX стагоддзя ўсе эпідэміі халеры і іншых страўнікавых хвароб абышлі Клімавічы. Фіксаваліся адзінкавыя выпадкі, і толькі ў асяроддзі тых, хто прыехаў з іншых мясцін.

Вялікую каштоўнасць Клімаўшчыны ўяўляе яе духоўная спадчына. Жыццё простых людзей, іх узаемаадносіны з прыродай, яе багаццямі немагчыма ўявіць без народных абрадаў. Сувязь паміж часамі, паміж мінулым, сённяшнім і будучым адбываецца праз захаванне спадчыны, праз перадачу нашчадкам здабыткаў мінулых пакаленняў. Народныя традыцыі — гэта якраз і тыя духоўныя скарбы, якія дазваляюць дакрануцца да старажытнасці, апынуцца, адчуць сябе ў адной з мінулых эпох.

Менавіта на Клімаўшчыне захаваўся шэраг вельмі старадаўніх абрадаў, карані якіх яшчэ ў дахрысціянскіх часах. Напрыклад, у вёсцы Стары Дзедзін мясцовыя жыхары дагэтуль паказваюць вельмі незвычайны рытуал выклікання дажджу. Сутнасць яго ў тым, што падчас моцнай засухі жанчыны «аруць» раку Асцёр плугам, спяваючы пры гэтым песні. Як мяркуюць навукоўцы, гэты абрад мае глыбокія паганскія карані. Першапачаткова песні выконвалі ў гонар адпаведных багоў, але пазней яны набылі хрысціянскую сімволіку. Цікава тое, што, як неаднаразова адзначалася, пасля выканання гэтага абраду сапраўды пачынаўся дождж.

Міжволі ўспамінаюцца радкі летапісца, які з дакорам пазначаў, што радзімічы, у адрозненне, напрыклад, ад «прыстойных» палян, *«мелі... звычай: жылі ў лесе.., спажывалі ўсё нячыстае.., ладзілі ігрышчы паміж сёламі і сыходзіліся на гэтыя ігрышчы, на пляскі і на ўсялякія д'ябальскія песні»*. Гэтыя радкі якраз сведчаць пра тое, што жыхары Пасожжа не спяшаліся прымаць хрысціянства, аб чым гавораць і вынікі археалагічных раскопак, якія выяўляюць сведчанні прытрымлівання паганскіх абрадаў і ў XI—XIII стагоддзях. Аднак такі кансерватызм у традыцыях мясцовых насельнікаў дазволіў ім захаваць найстаражытнейшыя абрады, сведчанні пра якія ўжо зніклі навокал. Павольнае і паступовае змешванне

хрысціянскіх і дахрысціянскіх рыс прывяло да ўтварэння новых цікавых традыцый, што з'яўляюцца сапраўднымі скарбамі нашай культуры.

Вёска Стары Дзедзін вядомая і сваім народным фальклорна-этнаграфічным ансамблем «Астранка», які захоўвае мясцовыя песенныя традыцыі. Заснавальніцай яго з'яўляецца Галіна Брыкава. Назва ансамбля паходзіць ад ракі Асцёр, якая працякае побач. Раней сюды некалькі разоў прыязджалі этнографы з Ленінграда, каб запісаць фальклор. Пазней, на аснове сабранага матэрыялу, расійскія спецыялісты выдалі тры зборнікі песень і манаграфію, прысвечаную народным танцам. Дыск з песнямі мясцовых жыхароў нават выйшаў у Заходняй Германіі. За сваю плённую дзейнасць Галіна Васільеўна ўзнагароджана шматлікімі граматамі, у тым ліку і Граматай Міністэрства культуры БССР. Традыцыі гэтага заслужанага калектыву працягвае і маладое пакаленне ў складзе дзіцячага фальклорнага гурта «Астраначка», харэаграфічнага «Жывіца», фальклорнага «Беларусачка».

Прыродныя дарункі і народная культура цесна пераплятаюцца ў традыцыях народнага рамесніцтва. У старадаўнія часы гэтыя мясціны былі пакрытыя дубовымі гаямі, і рэшткі дрэў-волатаў можна напаткаць па сённяшні дзень. Здаралася, што гэтаму садзейнічала сама прырода. На дне рэк часта знаходзілі дубы, якія пасля сканчэння свайго веку зваліліся ў ваду і былі пахаваныя на многія стагоддзі. Яшчэ на пачатку XX стагоддзя вышэйзгаданы С. Яраслаўцаў так апісваў раку Лобжу: *«дно ракі, ачышчанае і пясчанае ў месцах для купання, у іншых месцах значна багатае на розныя карчы і дубовыя ствалы, якія зваліліся ўглыб у старадаўнія часы»*. Тое ж можна сказаць і пра раку Асцёр, на дне якой таксама часта знаходзілі рэшткі ствалоў. Гэтыя прыродныя дарункі дазвалялі мясцовым жыхарам актыўна займацца бондарствам. Акрамя бондарства Клімаўшчына славіцца традыцыямі ганчарнай вытворчасці. Мясцовыя гаршкі шырока вядомыя і за межамі раёна.

Яшчэ адзін занятак, спрадвеку распаўсюджаны не толькі на Клімаўшчыне, а і ў Беларусі ў цэлым, — бортніцтва. Імкненне славян да збірання мёду зафіксавана сярэдневяковымі гісторыкамі. Але Клімаўшчына была ўдастоена асаблівай адзнакі: пчала — сімвал гэтага занятку — адлюстравана на гербе горада, зацверджаным загадам Кацярыны II у 1781 годзе. Ва ўказе прама адзначалася: *«В гербе сего города, утвержденном 16 августа 1781 года, находится золотая пчела в голубом поле, в знак изобилия медом»*.

## Лёсы вядомых людзей

З Клімавіцкім кутком беларускай зямлі звязаны лёс шэрагу вядомых творцаў і грамадскіх дзеячаў, якія пакінулі значны след не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах. Праўда, разглядаючы лёсы такіх людзей, прыходзіш да высновы, што часам неабходна выйсці за фармальныя межы сённяшняй адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, бо на працягу гісторыі межы змяняліся. Тэрыторыя Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні не супадала з сённяшнім Клімавіцкім раёнам. Яна была некалькі шырэй, ахоплівала і шэраг раёнаў сучаснай Смаленскай вобласці Расіі, суседніх раёнаў Беларусі. Ды і духоўная блізкасць насельніцтва сучаснай Клімаўшчыны і суседніх раёнаў не дазваляе правесці нейкія строгія межы.

Зусім побач, ля кропкі, дзе сыходзяцца сённяшнія Магілёўская, Смаленская і Бранская вобласці, у вёсцы Максімкава нарадзіўся знакаміты скульптар Міхаіл Мікешын, адзін з аўтараў манументальнага помніка «Тысячагоддзе Расіі» (1862). Ён неаднаразова прыязджаў у Клімавічы і пакінуў шэраг замалёвак аб паўсядзённым жыцці гараджан. Крыху далей, бліжэй да Рослава, нарадзіўся выдатны скульптар Сяргей Канёнкаў, на творчасць якога, безумоўна, паўплывалі і харaство навакольнай прыроды, і мясцовыя легенды і паданні. Два стагоддзі таму ў

мястэчку Слівін Мсціслаўскага павета з'явіўся на свет Адам Кіркор, які пакінуў каштоўныя нататкі пра Клімаўшчыну.

З Клімавіцкай зямлі паходзяць продкі вядомага рэвалюцыйнага дзеяча, асветніка Мікалая Судзілоўскага, які, падобна да Тадэвуша Касцюшкі, пакінуў адметны след на некалькіх кантынентах. Нарадзіўся ў 1850 годзе ў Магілёве, аднак карані яго паходзілі якраз з аднайменнай вёскі Судзілы на поўдні Клімаўшчыны. Атрымаўшы медыцынскую адукацыю, захапіўся ідэямі народніцтва і прыняў актыўны ўдзел у «хаджэнні ў народ». У другой палове 1870-х гадоў Судзілоўскі апынуўся на Балканах, якія перажывалі на той момант бурныя часіны, і прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы балгарскага паўстання супраць туркаў. У 1880-я гады лёс закінуў няўрымслівага барацьбіта за свабоду ў Злучаныя Штаты. Жыў ён некаторы час у Каліфорніі, але праз пяць гадоў пераехаў на Гавайскія астравы. І там ён упісаў сваё імя ў гісторыю: пасля таго як у 1898 годзе Злучаныя Штаты ліквідавалі Гавайскую рэспубліку і далучылі яе да сябе ў якасці тэрыторыі, наш зямляк актыўна ўключыўся ў палітычную барацьбу супраць амерыканцаў, быў абраны ў Сенат і нават стаў яго прэзідэнтам. Аднак праз два гады вымушаны быў пайсці ў адстаўку і эмігрыраваў на Далёкі Усход, у Японію, Кітай. Падчас Руска-японскай вайны Судзілоўскі арганізаваў камітэт дапамогі расійскім ваеннапалонным, вёў сярод іх рэвалюцыйную агітацыю. Пазней жыў у Шанхаі. Лютаўскую рэвалюцыю ў Расіі прыняў станоўча, але Кастрычніцкую — не. Толькі пад канец жыцця ён вырашыў наведаць Савецкі Саюз, аднак памёр перад самым ад'ездам. Калі б наш зямляк усё ж патрапіў у СССР, даехаў да Масквы, то ажыццявіў бы сапраўднае (хоць вымушанае і расцягнутае ў часе) кругасветнае падарожжа.

Клімавіцкая зямля дала нямала людзей, якія плённа працавалі на літаратурнай ніве. Ураджэнцы гэтага кутка ўнеслі значны ўклад у развіццё не толькі айчыннай літаратуры, але і сусветнай. Так, нямногія ведаюць, што ўсяго ў дваццаці кіламетрах на поўнач ад ракі Асцёр, у вёсцы Пятровічы (стагоддзе таму яна ўваходзіла ў склад Клімавіцкага павета, а зараз гэта Смаленская вобласць Расіі) у 1920 годзе нарадзіўся класік сусветнай фантастыкі Айзек Азімаў, які ў Злучаных Штатах (ды і ва ўсім свеце) заслужана быў прызнаны як актыўны папулярызатар навукі, як чалавек, які ў сваіх творах востра падняў праблему духоўнага яднання чалавецтва ў час імклівага тэхнічнага прагрэсу і нарастаючай пагрозы ўсеагульнага знішчэння.

Клімаўшчына ўзрасціла і нямала творцаў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё ўласна беларускай літаратуры. Станаўленню беларускай паэзіі на Клімаўшчыне садзейнічала работа літаратурнага аб'яднання «Зарніцы», якое існавала пры раённай газеце з 1919 года. Многія ўраджэнцы Клімаўшчыны пачыналі літаратурную дзейнасць менавіта з яго, у прыватнасці Алесь і Павел Пруднікавы, Іван Новікаў, Павел Кавалёў. На старонках «Роднай нівы» друкавалі свае творы Аркадзь Куляшоў, Міхась Чарот, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў літстаронку ў газеце вёў галоўны рэдактар выдання Мікалай Мінчанка, з-пад пяра якога выйшлі тры зборнікі вершаў. Зараз гэтыя традыцыі працягваюць галоўны рэдактар Нікіфар Мінчанка, супрацоўнікі газеты Мікалай Глуздоў, Галіна Цыганкова і іншыя.

Развіццю літаратурнай творчасці на Клімаўшчыне садзейнічала і наведванне раёна ў рамках палітыкі беларусізацыі пісьменнікамі і паэтамі, у тым ліку класікамі беларускай літаратуры. Так, у 1925 годзе ў Калінінскую акругу (а менавіта ў склад яе на той момант уваходзіла Клімаўшчына) для чытання лекцый і правядзення іншай культурнай работы быў накіраваны Якуб Колас. Паводле ўспамінаў былога студэнта педфака БДУ У. Аніхоўскага, падчас наведвання Коласам Клімавічаў сабралася вялікая колькасць жадаючых яго паслухаць. Паэт коратка расказаў пра свой жыццёвы шлях і прачытаў шэраг вершаў, некаторыя з якіх на той момант яшчэ не выйшлі з друку. У той жа перыяд на Клімаўшчыне пабываў і Янка Купала.

Вёска Стары Дзедзін — радзіма Паўла Пруднікава. Яго жыццёвы і творчы шлях ахапіў некалькі эпох. Нарадзіўся ў 1911 годзе, яшчэ ў царскай Расіі, творчую дзейнасць пачаў у міжваенны перыяд, найбольш плённыя гады прыпалі на пасляваенны савецкі час, а прызнанне атрымаў у незалежнай Беларусі: у 1992 годзе яму было прысвоена ганаровае званне Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь. Аднак вельмі нялёгкім аказаўся яго лёс: у 1937 годзе быў арыштаваны і наступныя 8 гадоў правёў у ГУЛАГу. Тым не менш, Павел Іванавіч змог вярнуцца ў літаратуру, каб у сваіх творах данесці да нашчадкаў усю праўду аб перажытым. Ягоныя аповесці «Яжовыя рукавіцы» і «Паўночнае пекла», паэмы «Таймыр» і «Кожны другі» маюць аўтабіяграфічны характар, даносяць тое, што аўтар убачыў на свае вочы. Творы П. Пруднікава ўтрымліваюць філасофскія роздумы, услаўляюць працавітага чалавека, апяваюць прыгажосць Беларусі. З асаблівай цеплынёй і пяшчотай ён успамінаў родныя мясціны. У прыватнасці, можна ўзгадаць наступныя радкі:

Тут знаёма мне кожная сцежка,
Кожны кусцік і кожны ручай.
Друг-Асцёр сустракае з усмешкай
І ад радасці гусі крычаць.
Волат-дуб галавой мне ківае,
Клічуць зноў да сябе курганы.
А дуброва галлём абдымае
На узмежку палёў аржаных.
Тут усім я і родны, і блізкі,
Адарваны ад дрэва лісток.
Яшчэ раз пакланюся я нізка,
Бо яны — мой пачатак, выток.

Адметны след у беларускай літаратуры пакінуў і стрыечны брат Паўла Іванавіча — Алесь Пруднікаў. Росквіт яго творчасці прыйшоўся на 1930-я гады, ён паспеў апублікаваць паэму «Зямныя зоры», пісаў вершы, друкаваўся ў газетах і часопісах. Аднак, на жаль, нядоўгае жыццё было яму наканавана лёсам. У 1941 годзе, калі пачалася вайна, трапіў на фронт, дзе хутка загінуў.

У Клімавічах нарадзіўся і паэт, перакладчык Іван Бурсаў. Вядомы ён сваімі вершамі і казкамі для дзяцей. Істотны ўнёсак ён зрабіў для беларускай літаратуры сваімі перакладамі вершаў беларускіх паэтаў на рускую мову, такім чынам зрабіўшы іх больш даступнымі для рускамоўнага чытача.

Цёплыя, поўныя любові да роднай «зямлі між Лабжанкай і Іпуццю» вершы і ў паэта Івана Пехцерава, ураджэнца вёскі Нядзведзь. У сваіх творах паэт апявае хараство прыроды, успамінае шчымлівыя моманты свайго дзяцінства і юнацтва, а таксама падымае важныя філасофскія пытанні, звязаныя як з асэнсаваннем нашай гісторыі, так і з падзеямі сённяшняга жыцця.

Такая яна, Клімавіцкая зямля, куток на ўсходзе Беларусі, што знаходзіцца паміж Магілёвам, Рослававам, Смаленскам. Мы пазнаёміліся з найбольш адметнымі рысамі народнай культуры гэтага краю, яго прыроднага хараства. Разгледжаная намі частка духоўных і матэрыяльных багаццяў Клімаўшчыны далёка не цалкам ахоплівае ўсю яе скарбніцу, дый гэткая мэта і не ставілася. Самае галоўнае — зразумець, што такія скарбы знаходзяцца ў кожным кутку беларускай зямлі, іх толькі трэба ўбачыць, адшукаць. Беражлівае захаванне народных традыцый, вывучэнне гісторыі паспрыяе памнажэнню нашай спадчыны і захаванню духоўнага стрыжня нашай нацыі. Клімавіцкая зямля яшчэ багатая на многія скарбы, матэрыяльныя і духоўныя, і яны чакаюць новых даследчыкаў, якія змогуць іх адкрыць, захаваць і данесці да наступных пакаленняў.

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2012 ГОД

## ПРОЗА



## ПАЭЗІЯ

## ДРАМАТУРГІЯ



## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## КНІГАРНЯ

## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## ПОСТАЦІ



## СПАДЧЫНА



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

## ПОМНАЕ



## ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ



## НАШ КРАЙ



***Падрыхтавала М. Міхайлава.***